# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ



**7-8**

1938



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА СЁМАЯ і ВОСЬМАЯ*



МЕНСК — 1938

## ЗМЕСТ



---




Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 15/VII—38 г. Падпісана да друку 3/VIII—38 г. Аб'ём 12¼ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94¹/₁₆. Тыраж 4.650+250 экз.
Зак. № 3564. Галоўлітбел № 4803.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

## МАСКВА, КРЭМЛЬ

# ТАВАРЫШУ СТАЛІНУ

Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!

Першая Сесія Вярхоўнага Совета Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі шле Вам, мудраму кіраўніку слаўнай большэвіцкай партыі, вялікаму правадыру і настаўніку працоўных усяго свету, натхніцелю і арганізатару перамог соцыялізма ў СССР, першаму дэпутату беларускага народа, палкае, большэвіцкае прывітанне.

Прыступаючы да выканання сваіх вялікіх і ганаровых абавязкаў, мы, дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, разам з усім беларускім народам, свае першыя мыслі і пачуцці глыбокай любві і беззаветнай адданасці зварачаем да Вас, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, першага любімейшага ўсенароднага дэпутата, да Вас, стваральніка і арганізатара дзяржаўнасці беларускага народа, стваральніка ўсенароднага шчасця.

Беларускі народ, стагоддзямі прыгнятаемы польскімі і літоўскімі князямі і памешчыкамі, бязлітасна эксплаатуемы самадзяржаўным ладам, толькі ў рэзультаце Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам стварыў сваю дзяржаўнасць, адстаяў сваю краіну ад шматлікіх нашэствій нямецкіх і белапольскіх акупантаў і на аснове ажыццяўлення мудрай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі дабіўся грандыёзнейшых поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва: у прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, культуры, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу.

Беларускі народ поўны пачуццяў найвялікшай удзячнасці да Вас, дарагі таварыш Сталін, да вялікай партыі большэвікоў, пад кіраўніцтвам якой Беларусь з краіны слёз і народнага гора ператварылася ў краіну народнага шчасця і радасці.

Вялікая Сталінская Канстытуцыя навекі замацавала свабоду народаў, зафіксавала іх неад'емныя правы самім рашаць свой лёс.

Выбары ў Вярхоўны Совет Беларускай ССР, як і выбары ў Вярхоўны Совет вялікага Совецкага Саюза, Саюзных і Аўтаномных рэспублік, паказалі ўсяму свету бліскучую перамогу сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, непарушнае адзінства і маналітную згуртаванасць свабодных і шчаслівых народаў нашай вялікай соцыялістычнай радзімы вакол партыі Леніна—Сталіна, іх непахіс-

ную волю ажыццяўляць палітыку комуністычнай партыі і савецкага ўрада.

Беларускі народ на аснове сваёй Канстытуцыі, пабудаванай у поўнай адпаведнасці з прынцыпамі Сталінскай Канстытуцыі, з найвялікшым уздымам і энтузіязмам правёў выбары свайго вышэйшага органа дзяржаўнай улады—Вярхоўнага Совета БССР, яшчэ раз прадэманстраваў сваё маральна-палітычнае адзінства, сваю любоў да комуністычнай партыі і да Вас, наш дарагі і любімы Іосіф Вісарыёнавіч.

У дзень вялікага свята і таржаства—26 чэрвеня—беларускі народ нёс у сэрцах з гордасцю Ваша імя, як сцяг перамогі і, ідучы да выбарчых урнаў, аднадушна галасаваў за Вас, першага ўсенароднага дэпутата. Беларускі народ поўны гордасці і радасці, што яго першым дэпутатам у Вярхоўны Совет Беларускай ССР з'яўляецеся Вы, дарагі наш Іосіф Вісарыёнавіч.

Пад Вашым геніяльным кіраўніцтвам наша вялікая соцыялістычная радзіма з кожным днём мацнее і развіваецца, нязмерна павышаецца і расце добрабыт, матэрыяльны і культурны рост народных мас нашай радзімы. Пад Вашым геніяльным кіраўніцтвам вялікі Совецкі Саюз ідзе наперад усё да новых і новых перамог, да поўнага таржаства комунізма.

Заклятыя ворагі краіны соцыялізма—трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя агенты фашызма—па заданню сваіх гаспадароў прабавалі адабраць у нас заваяванае шчасце і ператварыць шчаслівы совецкі народ у рабоў капіталізма. Але подлыя ворагі пралічыліся. Гэта ім не ўдалося і ніколі не ўдасца.

Пад Вашым мудрым кіраўніцтвам совецкі народ разграміў асноўныя змяіныя гнёзды фашысцкіх ахранак, сцёр іх з твару нашай шчаслівай совецкай зямлі.

Мы добра памятаем Ваша, таварыш Сталін, мудрае ўказанне аб капіталістычным акружэнні, мы ведаем аб тым, што капіталістычны свет рыхтуе новую імперыялістычную вайну супроць краіны Советаў. Мы добра ведаем, што капіталістычны свет засылае ў нашу краіну сваіх агентаў, дыверсантаў і шпіёнаў, што яшчэ не ўсе варожыя гнёзды канчаткова выкарчаваны і знішчаны. Вось чаму мы абяцаем Вам, таварыш Сталін, яшчэ вышэй падняць рэволюцыйную пільнасць і мабілізацыйную гатоўнасць для таго, каб у любую мінуту і ў любой абстаноўцы даць рашучы ўдар усякім проіскам ворагаў.

Няхай памятаюць ворагі: совецкі народ ніколі не будзе засцігнут знянацку. Любая варожая сіла разаб'ецца ўшчэнт аб несакрушальную броню маральна-палітычнага адзінства нашага магутнага народа, аб магутны непераможны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных.

Мы запэўняем Вас, Іосіф Вісарыёнавіч, што прыкладзем усю нашу большэвіцкую энергію і запал для таго, каб ператварыць нашу ордэнаносную Беларускую ССР у яшчэ больш непрыступны баявы фарпост соцыялізма на граніцы з капіталістычным светам на Захадзе. Па першаму закліку нашай партыі і ўрада, па першаму Вашаму, таварыш Сталін, закліку,—як адзін чалавек магутны

совецкі народ разам са сваёй доблеснай непераможнай Чырвонай Арміяй, пад вадзіцельствам легендарнага, выпрабаванага палкаводца першага маршала СССР Клімента Ефрэмавіча Варашылава, стане на абарону нашай радзімы і знішчыць ворагаў на той-жа тэрыторыі, адкуль яны пасмеюць напасці.

Родны наш таварыш Сталін!

Сабраўшыся на Першую Сесію, запэўняем Вас, што правядзем усю сваю работу ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі вялікай Сталінскай Канстытуцыі. Мы, дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, ніколі не забудзем Вашых мудрых указанняў аб тым, што дэпутат—слуга народа і што ён, акружаны вялікім народным давер'ем, абавязан няўхільна выконваць волю народа. Мы запэўняем Вас, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, што прыкладзем усе свае сілы і старанні к таму, каб быць дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу.

Выражаючы волю беларускага народа, Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі запэўняе Вас, таварыш Сталін, што ён, няўхільна ажыццяўляючы вялікія прынцыпы Сталінскай Канстытуцыі, будзе аберагаць і далей умацоўваць сталінскую дружбу народаў, цясней згуртуе масы вакол партыі Леніна—Сталіна і пад ленінска-сталінскім сцягам павядзе беларускі народ да новых і новых перамог комунізма.

Жывіце і здраўствуйце, наш родны таварыш Сталін, вядзіце нас наперад—да новых перамог комунізма!

Няхай жыве вялікая сталінская дружба народаў!

Няхай жыве несакрушальны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных!

Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя!

Няхай жыве наша вялікая магутная радзіма—СССР!

Няхай жыве гераічная, непераможная партыя большэвікоў!

Няхай жыве мудры правадыр працоўных усяго свету, натхніцель і арганізатар вялікіх перамог соцыялізма, лепшы друг беларускага народа—наш родны таварыш Сталін!

# ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР

25—28 ліпеня ў Менску ў вялікай зале паседжанняў Дома ўрада адбылася Першая Сесія Вярхоўнага Совета БССР 1-га склікання.

Сесію адкрыў адзін з старэйшых дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР ад Гомельскай-Кіраўскай выбарчай акругі, Гомельскай вобласці прафесар медыцыны тав. **МЕЛКІХ Сяргей Міхеевіч.**

Пасля прамовы тав. Мелкіх С. М. Вярхоўны Совет прыступіў да выбараў старшыні і намеснікаў старшыні Вярхоўнага Совета БССР.

Старшынёй Вярхоўнага Совета БССР аднагалосна выбрана тав. **ГРЭК Надзежда Грыгор'еўна;** намеснікам старшыні выбраны тав. **МАЙОРАЎ Дзімітрый Нікіфаравіч** і тав. **БАРУШКОЎ Грыгорый Мінавіч.**

* * *

27 ліпеня 1938 года Сесія Вярхоўнага Совета БССР выбрала Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР у складзе старшыні Прэзідыума, 2 намеснікаў старшыні, сакратара і 15 членаў Прэзідыума.

Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР выбран дэпутат **Нікіфар Якаўлевіч НАТАЛЕВІЧ**—дэпутат ад Аршанскай гарадской выбарчай акругі, Віцебскай вобласці.

Намеснікі Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР:

**МЕЛЬНІКАЎ Сяргей Пятровіч**—дэпутат ад Лепельскай выбарчай акругі, Віцебскай вобласці.

**МАЛЬЦАЎ Сяргей Іванавіч**—дэпутат ад Гомельскай сельскай выбарчай акругі, Гомельскай вобласці.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР **ПАПКОЎ Лазар Еўдакімавіч**—дэпутат ад Ходасаўскай выбарчай акругі, Магілеўскай вобласці.

Члены прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР:

**ПАНАМАРЭНКА Панцелеймон Кандрацьевіч**—дэпутат ад Віцебскай-Кагановіцкай выбарчай акругі.

**МАРОЗАЎ Сяргей Іванавіч**—дэпутат ад Цімкавіцкай выбарчай акругі, Менскай вобласці.

**КАВАЛЬКОЎ Іван Давідавіч**—дэпутат ад Брагінскай выбарчай акругі, Палескай вобласці.

**МАТВЕЕЎ Александр Паўлавіч**—дэпутат ад Ленінскай выбарчай акругі гор. Менска.

**МАРКІН Дзмітрый Фёдаравіч**—дэпутат ад Калінкавіцкай выбарчай акругі, Палескай вобласці.

**КАЗАЧОНАК Дзмітрый Еўдакімавіч**—дэпутат ад Бешанковіцкай сельскай выбарчай акругі, Віцебскай вобласці.

**КАЗЛОЎ Кірыл Ісідаравіч**—дэпутат ад Высокскай выбарчай акругі, Магілеўскай вобласці.

**ЯГОДКІН Васілій Міхайлавіч**—дэпутат ад Быхаўскай гарадской выбарчай акругі, Магілеўскай вобласці.

**ШАРКО Ольга Канстанцінаўна**—дэпутат ад Самахвалавіцкай выбарчай акругі, Менскай вобласці.

**МЕЛКІХ Сяргей Міхеевіч**—дэпутат ад Гомельскай-Кіраўскай выбарчай акругі.

**ВІНАКУРАВА Надзежда Якаўлеўна**—дэпутат ад Кіраўскай выбарчай акругі, Магілеўскай вобласці.

**НЕМЧАНКА Ольга Афанасьеўна**—дэпутат ад Віцебскай-Кіраўскай выбарчай акругі.

**АКУЛЕНАК Анна Іосіфаўна**—дэпутат ад Магілеўскай-Ленінскай выбарчай акругі.

**КАВАЛЁЎ Міхаіл Пракоф'евіч**—дэпутат ад Каладзішчанскай выбарчай акругі, Менскай вобласці.

**БАРАНАВА Марыя Міхайлаўна**—дэпутат ад Свяцілавіцкай выбарчай акругі, Гомельскай вобласці.

28 ліпеня ў зале пасяджэнняў Дома ўрада адбылося заключнае пасяджэнне Першай Сесіі Вярхоўнага Совета БССР першага склікання.

Старшынствуе старшыня Вярхоўнага Совета БССР дэпутат **Грэк Н. Г.**

Вярхоўны Совет прыступае да разгляду пытання аб фарміраванні Совета Народных Камісараў БССР.

Дэпутат **Кісялёў** Кузьма Венедзіктавіч уносіць на разгляд Вярхоўнага Совета састаў Совета Народных Камісараў БССР.

Тав. **Кісялёў** у сваёй прамове адказвае на заўвагі дэпутатаў, зробленыя на папярэднім пасяджэнні ў спрэчках па пытанню аб утварэнні ўрада БССР.

Персанальным галасаваннем Вярхоўны Совет утварае ўрад БССР—Совет Народных Камісараў БССР у наступным саставе:

**Старшыня Совета Народных Камісараў БССР—**
**Кузьма Венедзіктавіч КІСЯЛЁЎ.**
**Намеснікі старшыні Совета Народных Камісараў БССР—**
**Іван Антонавіч ЗАХАРАЎ**
**і Міхаіл Васільевіч КУЛАГІН.**
**Старшыня Дзяржаўнай планавай камісіі—**
**Ісак Львовіч ЧОРНЫ.**
**Народны Камісар мясцовай прамысловасці—**
**Іван Сямёнавіч КАРОВІН.**
**Народны Камісар лёгкай прамысловасці—**
**Уладзімір Іванавіч ДЗМІТРЫЕЎ.**
**Народны Камісар лясной прамысловасці—**
**Уладзімір Барысавіч ГАЙСІН.**

**Народны Камісар харчовай прамысловасці—**
**Ілья Іванавіч ГОРЫН.**
**Народны Камісар земляробства—**
**Пётр Аляксеевіч КАЛЬЦОЎ.**
**Народны Камісар зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў—**
**Аляксей Іванавіч ДРУЖЫНІН.**
**Народны Камісар гандлю—**
**Уладзімір Грыгор'евіч ВАНЕЕЎ.**
**Народны Камісар унутраных спраў—**
**Аляксей Аляксеевіч НАСЕДКІН.**
**Народны Камісар юстыцыі—**
**Сяргей Цярэнцьевіч ЛОДЫСЕЎ.**
**Народны Камісар аховы здароўя—**
**Іван Антонавіч НОВІКАЎ.**
**Народны Камісар асветы—**
**Еўдакія Ільінічна УРАЛАВА.**
**Народны Камісар комунальнай гаспадаркі—**
**Васілій Сцяпанавіч ЗАБЕЛА.**
**Народны Камісар фінансаў—**
**Іван Захаравіч СЦЯПАНАЎ.**
**Народны Камісар соцыяльнага забеспячэння—**
**Еўдакія Трафімаўна ГУЦЯНКОВА.**
**Начальнік дарожнага ўпраўлення—**
**Васілій Парамонавіч КАПУСЦІН.**
**Начальнік управлення па справах мастацтваў—**
**Абрам Барысавіч ОЗІРСКІ.**

## „АБ ЗМЕНЕ І ДАПАЎНЕННІ АРТ. АРТ. 14, 19, 25, 31, 43, 44, 45, 48, 52, 53, 54, 56, 58, 59, 61, 63, 66, 67, 68, 69, 70, 71, 72, 73, 74, 75, 79, 80, 84, 90, 91, 109, 118, 119 КАНСТЫТУЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1) У адпаведнасці з зацвярджэннем Вярхоўным Советам СССР утварэння ў саставе Беларускай ССР абласцей: Віцебскай, Гомельскай, Менскай, Магілеўскай і Палескай, ізлажыць арт. 14 Канстытуцыі Беларускай ССР наступным чынам:

„Артыкул 14. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Віцебскай, Гомельскай, Менскай, Магілеўскай і Палескай".

2) У адпаведнасці са зменамі і дапаўненнямі арт. арт. 29, 70, 77, 78 і 83 Канстытуцыі СССР, унесці наступныя змены і дапаўненні ў Канстытуцыю Беларускай ССР:

а) Артыкул 19 пп. „б" і „ж" ізлажыць наступным чынам:

„б) устанаўленне граніц і раённага дзялення абласцей, а таксама прадстаўленне на зацвярджэнне Вярхоўнага Совета СССР утварэнне новых абласцей у саставе БССР";

„ж) устанаўленне ў адпаведнасці з заканадаўствам СССР дзяржаўных і мясцовых падаткаў, збораў і непадатковых даходаў, а таксама кіраўніцтва ажыццяўленнем мясцовых бюджэтаў абласцей“;

Артыкул 31 п. „г“ ізлажыць наступным чынам:

„г) адмяняе пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў БССР, а таксама рашэнні і распараджэнні абласных советаў дэпутатаў працоўных у выпадку іх неадпаведнасці законаў“;

Артыкул 43 п. „д“ ізлажыць наступным чынам:

„д) кіруе і правярае работу выканаўчых камітэтаў абласных Советаў дэпутатаў працоўных“;

Артыкул 44 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 44. Совет Народных Камісараў БССР мае права адмяняць рашэнні і распараджэнні выканаўчых камітэтаў абласных Советаў дэпутатаў працоўных, а таксама прыпыняць рашэнні і распараджэнні абласных Советаў дэпутатаў працоўных.

Совет народных Камісараў БССР мае права адмяняць загады і інструкцыі Народных Камісараў БССР“.

У артыкуле 45 словы: „Унутранага гандлю“ замяніць словам: „Гандлю“, словы: „Упаўнаважанага Камітэта Загатовак СССР“— выключыць;

У арт. арт. 48 і 72 словы: „Унутранага гандлю“ замяніць словам: „Гандлю“;

У арт. арт. 52, 53, 54, 56, 58, 61, 63, 68, 75, 79, 80, 84 і 109 словы:„ акругах“, „акруговыя“, „акругі“, „акруговых“, „акругаваму“, „акруг“, „акруговымі“—замяніць словамі: „абласцях“, „абласныя“, „вобласці“, „абласных“, „абласному“, „абласцей“, „абласнымі“;

Артыкул 59 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 59. Сесіі абласных Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі камітэтамі не менш чатырох разоў у год;

Сесіі раённых Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца іх выканаўчымі камітэтамі не менш шасці разоў у год“;

Артыкул 66 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 66. Абласныя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць ніжэйнаступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Зямельны;
Фінансавы;
Гандлю;
Аховы здароўя;
Народнай асветы;
Мясцовай прамысловасці;
Комунальнай гаспадаркі;
Соцыяльнага забеспячэння;
Дарожны;
Агульны;
Па справах мастацтваў;
Планавую камісію;
Сектар кадраў пры старшыні выканкома

і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі гаспадаркі вобласці з зацверджання саюзна-рэспубліканскіх народных каміса-

рыятаў Лёгкай прамысловасці, Харчовай прамысловасці, Лясной прамысловасці, зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў абласныя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы або ўпраўленні:

Лёгкай прамысловасці;

Харчовай прамысловасці;

Лясной прамысловасці;

Зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў";

Артыкул 67 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 67. У адпаведнасці з умовамі вобласці, на аснове законаў СССР і БССР, агульнасаюзныя народныя камісарыяты і Народны камісарыят унутраных спраў утвараюць пры абласных Советах дэпутатаў працоўных свае ўпраўленні";

Артыкул 69 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 69. Раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць ніжэйнаступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Зямельны;

Народнай асветы;

Фінансавы;

Гандлю;

Аховы здароўя;

Соцыяльнага забеспячэння;

Агульны;

Дарожны;

Планавую камісію;

Сектар кадраў пры старшыні выканкома

і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі гаспадаркі раёна, з зацвярджэння абласнога Совета дэпутатаў працоўных раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы: комунальны і мясцовай прамысловасці";

Артыкул 70 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 70. У адпаведнасці з умовамі раёна, на аснове законаў СССР і БССР, з зацвярджэння адпаведнага абласнога Совета дэпутатаў працоўных Народны камісарыят унутраных спраў утварае пры раённых Советах дэпутатаў працоўных свае ўпраўленні";

Артыкул 71 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 71. Аддзелы раённых Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкоўваюцца ў сваёй дзейнасці як раённаму Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных";

Артыкул 73 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 73. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкоўваюцца ў сваёй дзейнасці як гарадскому Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу раённага Совета дэпутатаў працоўных, або непасрэдна адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных";

Артыкул 74 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 74. Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных Бабруйска, Барысава, Віцебска, Гомеля, Менска, Магілева, Мозыра, Оршы, Полацка, Рэчыцы і Слуцка падпарадкоўваюцца

ў сваёй дзейнасці як Советам дэпутатаў працоўных гэтых гарадоў і іх выканаўчым камітэтам, так і адпаведнаму аддзелу абласнога Совета дэпутатаў працоўных непасрэдна“;

Артыкул 90 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 90. Пракурор БССР і абласныя пракуроры назначаюцца пракурорам СССР тэрмінам на 5 гадоў“;

У артыкуле 91 словa: „акруговыя“ выключыць;

У артыкуле 118 п. „а“ ізлажыць наступным чынам:

„а) у абласны Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш чым ад 8.000 і не больш чым ад 10.000 чалавек насельніцтва“.

3) Арт. арт. 25 і 119 ізлажыць наступным чынам:

„Артыкул 25. Законы, прынятыя Вярхоўным Советам БССР, публікуюцца на беларускай і рускай мовах за подпісамі старшыні і сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР“.

„Артыкул 119. Дзяржаўны герб Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі састаіць з ізабражэння ў праменнях узыходзячага сонца сярпа і молата, акружаных вянком, які састаіць злева з жытніх каласоў, пераплеценых канюшынай, і справа—з жытніх каласоў, пераплеценых ільном; унізе паміж абодвума паловамі вянка знаходзіцца частка зямнога шара. Абедзве паловы вянка перавіты чырвонай лентай, на якой змешчаны надпісы на беларускай і рускай мовах: „Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!“ і ніжэй—ініцыялы „БССР“. Уверсе герба знаходзіцца пяцікaнечная зорка“.

# ВЯЛІКІ ДРУГ ЛЕНІНА І СТАЛІНА

Два гады таму назад совецкі народ і ўсё перадавое чалавецтва перажылі вялікую страту. Ад рук гнусных фашысцкіх бандытаў—трацкісцка-бухарынскіх забойцаў загінуў Аляксей Максімавіч Горкі, тытан пролетарскай культуры, беззаветны друг працоўных усяго свету, страсны змагар за справу комунізма, буравеснік пролетарскай рэволюцыі. Агідныя, фашысцкія вырадкі абарвалі прыгожае жыццё чалавека, які ўсе свае сілы, усяго сябе прысвяціў вызваленню чалавецтва ад капіталістычнага рабства, які назаўсёды звязаў свой лёс з рабочым класам, з вялікай партыяй Леніна—Сталіна.

Нястомны вястун большэвіцкай праўды заўсёды наганяў страх на фашысцкіх драпежнікаў. Агністае, знішчальнае слова трыбуна, пісьменніка і барацьбіта прыводзіла ў жах і замяшанне ворагаў народа. Для паўзучых гадаў, народжаных змрокам капіталізма, было нясцерпным асляпляючае ззянне генія Горкага. Яны не маглі даравадь яму яго вернасці рабочаму класу, яго адданасці большэвіцкай партыі, яго дружбы з Ленінам, яго любові да таварыша Сталіна.

Буржуазія ненавідзела Горкага, ненавідзела асабліва злосна і жорстка, падаслаўшы нарэшце да яго сваіх наймітаў—трацкісцка-бухарынскіх забойцаў. Яна патраціла шмат намаганняў на працягу многіх год, каб паспрабаваць адарваць Горкага ад рабочага класа, ад партыі большэвікоў, ад Леніна і Сталіна. Да рэволюцыі вакол Горкага ўвівалася цэлая зграя містыкаў, богашукальнікаў, дэкадэнтаў. Усе яны імкнуліся саштурхнуць Горкага ў багну лібералізма і абывательшчыны, абясшкодзіць яго, вырваць яго з радоў авангарда рабочага класа. І ўсё-ж ні ўсе гэтыя хітрыя двурушніцкія ўлоўкі, ні арышты, ні турмы, нішто не магло запалохаць Горкага, спыніць яго рэволюцыйнай дзейнасці ў масах, заглушыць яго магутны голас. Якое шаленства апаноўвала буржуазію, калі ёй не ўдаваліся ўсе гэтыя намаганні. Колькі бруду вылівалі тады буржуазныя газеты, якую толькі хлусню яны не выдумлялі. У 1909 годзе яны пусцілі пагалоску, нібы-та большэвікі выключылі Горкага з радоў соцыял-дэмакратычнай партыі. Тады-ж Уладзімір Ільіч Ленін, абураючыся гэтай нахабнай хлуснёй, даў у газеце „Пролетарий" рашучае абвяржэнне. У артыкуле пад назвай „Байка буржуазнага друку аб выключэнні Горкага" Ленін пісаў: „Вось ужо некалькі дзён, як буржуазныя газеты Францыі (L'èclair, Le Radical), Германіі (Berliner Tageblat) і Расіі („Утро России", „Речь", „Русское слово", „Новое время") смакуюць самую сенса-

цыйную навіну: выключэнне Горкага з соцыял-дэмакратычнай партыі... Крыніца гэтай плёткі ясная... Мэта пляткарскай кампаніі не менш ясная. Буржуазным партыям хочацца, каб Горкі вышаў з соцыял-дэмакратычнай партыі. Буржуазныя газеты са скуры лезуць, каб распаліць разнагалоссі ўнутры соцыял-дэмакратычнай партыі і паказаць іх ва ўродлівым выглядзе".

Заканчваючы свой артыкул, Владзімір Ільіч падкрэсліў „Дарэмна стараюцца буржуазныя газеты. Таварыш Горкі вельмі моцна звязаў сябе сваімі вялікімі мастацкімі творамі з рабочым рухам Расіі і ўсяго свету, каб адказаць ім інакш, чым пагардай"[1]).

І Аляксей Максімавіч сапраўды адказваў пагардай на ўсякія спробы капіталістаў пасварыць яго з партыяй, з Леніным, якога ён глыбока любіў, з якім яго звязвала выключная, загартаваная ў рэвалюцыйных баях, дружба. Ленін кіраваў Горкім, дапамагаў яму цвёрда стаць на шлях мастака пролетарыята. Горкі назаўсёды збярог да Леніна выключную ўвагу і бязмежную любоў. Не было такой сілы, якая магла-б разарваць вялікую дружбу двух гігантаў чалавечай культуры. Не было такіх сіл, якія маглі-б адарваць Горкага ад большэвікоў. У вялікім правадыры пролетарскай рэволюцыі Горкі знайшоў блізкага друга і настаўніка і ўсю магутнасць свайго генія пісьменнік аддаў барацьбе за справу соцыялізма. За гэта так высока цаніў яго Владзімір Ільіч Ленін, які пісаў: „Няма сумнення, што Горкі—велізарны мастацкі талент, які прынёс і прынясе шмат карысці сусветнаму пролетарскаму руху".

У першыя гады савецкай улады рэшткі разбітых класаў зноў спрабуюць выкарыстаць Горкага, яго мяккае сэрца, яго гуманізм. І тут Ленін вучыў вялікага пісьменніка не паддавацца на правакацыю ворага. Марнымі былі намаганні ворагаў пасеяць адчужэнне паміж пісьменнікам і яго краінай у той час, калі Горкі знаходзіўся на лячэнні, далёка ад сваёй бацькаўшчыны. Аляксей Максімавіч трымае непарыўную сувязь з савецкім народам, жыве яго інтарэсамі. Ён вяртаецца на радзіму, бо яму цяжка жыць у чужым краі, далёка ад новых людзей, што будуюць шчаслівае і радаснае жыццё, ад таварыша Сталіна, без яго сяброўскіх парад, увагі і дапамогі. Горкі зноў знаходзіць сваю радзіму—як блізкі друг і саратнік таварыша Сталіна. Гэтая дружба трох найвялікшых людзей, тытанаў мыслі Леніна, Сталіна, Горкага асвятляе ўсю веліч соцыялістычнай культуры нашай краіны.

Моцная дружба з вялікім прадаўжальнікам справы Леніна—таварышам Сталіным, радаснае жыццё народаў СССР, соцыялістычнае будаўніцтва, росквіт шматнацыянальнай культуры—усё гэта ўлівае ў Горкага невычарпальныя сілы. Ён, не спыняючыся, стварае новыя ўзоры мастацтва, выступае, як нястомны арганізатар савецкай літаратуры, як кіраўнік і настаўнік майстроў мастацкага слова, выхавацель новых кадраў літаратуры. З асаблівай увагай вывучае Аляксей Максімавіч нацыянальную культуру шматлікіх народаў Саюза, народаў, якія толькі пасля Кастрычніка набылі сваю дзяржаўнасць. З бацькоўскай любоўю ён вырошчвае

[1]) Ленін, Збор твораў, том XIV, стар. 211.

новыя кадры літаратараў на Украіне, Беларусі, Грузіі, Казахстане, Азербайджане, Арменіі; з непаслабнай зацікаўленасцю сочыць за творчасцю старых, ужо добра вядомых масам, пісьменнікаў.

Усё больш узмацняецца рэволюцыйны голас Горкага. Ён бязлітасна выкрывае ворагаў народа, выкрывае фашызм. Поўныя гневу і нянавісці словы Горкага аблятаюць увесь свет: „Калі вораг не здаецца,—яго знішчаюць".

Горкі, як сапраўдны пролетарскі мастак высока ўзнімае сцяг соцыялістычнага гуманізма. Вакол яго згуртоўваюцца лепшыя прадстаўнікі сучаснай сусветнай літаратуры, усе творчыя сілы перадавога чалавецтва на барацьбу супроць азвярэлага фашызма, супроць дзікіх варвараў, якія нішчаць культуру, спусташаюць прагрэсіўную мысль.

Вялікі пісьменнік у сваіх творах паказвае звярыную прыроду капіталізма, усё часцей і часцей напамінае аб павышэнні рэволюцыйнай пільнасці. Ён вучыць працоўных бязлітасна выкрываць ворагаў соцыялізма, пазнаваць іх пад любой маскай:

„У нашым асяроддзі, аказваецца, хаваюцца нягоднікі, здольныя здраджваць, прадаваць, забіваць. Існаванне такіх нягоднікаў недапушчальна. Яно было-б немагчыма, калі-б мы ў бягучай штодзённай геранчнай рабоце нашай не забываліся аб тым, што вораг яшчэ жывы, што ён сочыць за намі з усіх куткоў..."

Усёй сваёй істотай ненавідзіць Аляксей Максімавіч фашысцкіх вырадкаў, двурушнікаў, паслугачоў буржуазіі. У сваёй творчасці вялікі пісьменнік стварыў цэлую галярэю класічных партрэтаў рознастайнейшых прадстаўнікоў буржуазіі, якія раскрываюць чытачу агідны твар чалавекападобных адшчапенцаў.

Асабліва глыбока паказаў Горкі працэс буржуазнага азвярэння і выраджэння ў вобразе Кліма Самгіна, гэтага роднага брата сучасных трацкісцка-бухарынскіх бандытаў. Поўная спустошанасць, пустата асобы, гатоўнасць на любое злачынства, двурушніцтва і цынізм—вось сутнасць буржуазнага „героя".

Вось чаму фашысцкая нечысць усё больш і больш шалее. Яна хапаецца за сваю старую спробу, што неаднаразова пацярпела няўдачу—адарваць Горкага ад народа, ад партыі. Міжнародныя контрразведкі, фашысцкія ахранкі пасылаюць да Горкага трацкісцка-бухарынскіх нягоднікаў, самых брудных падонкаў чалавецтва.

Ад рук зладзеяў з трацкісцка-бухарынскай банды загінуў вялікі чалавек, як загінулі палкія барацьбіты за соцыялізм, жалезныя рыцары рэволюцыі Сяргей Міронавіч Кіраў, Куйбышэў, Менжынскі. Дорага абышлося гэта ворагу. Працоўныя Савецкага Саюза ніколі не забудуць і не даруюць ім яго смерці. „Пасля Леніна смерць Горкага—самая цяжкая страта для нашай краіны і для чалавецтва" (В. М. Молатаў).

У адным з сваіх ранніх апавяданняў Аляксей Максімавіч стварыў вобраз легендарнага героя Данко, які выняў з сваіх грудзей палаючае сэрца і высока ўзняў яго над галавой. У вобразе Данко—увесь Горкі. Усё яго жыццё—няспыннае гарэнне, нястомнае змаганне за шчасце чалавецтва.

Нідзе і ніколі ні адзін пісьменнік не карыстаўся такой папулярнасцю, павагай і любоўю ў працоўных мас, як Горкі. Яго творы натхнялі і натхняюць людзей на подвігі. Таму невыказнай была радасць пісьменніка, калі ён уласнымі вачыма прачытаў найвялікшы дакумент перамогі соцыялізма—праект Сталінскай Канстытуцыі, убачыў ажыццяўленне мары, для якой ён аддаў усё сваё жыццё. Ён быў у першых радах будаўнікоў соцыялізма, захапляючыся кожнай новай перамогай працоўных. „Радасна жыць і змагацца,—пісаў Горкі,—у краіне, дзе вялікая мудрасць партыі і жалезная воля яе правадыра Іосіфа Сталіна назаўсёды вызваляе чалавека ад праклятых навыкаў і забабонаў мінулага“.

Гордасць і шчасце напаўнялі яго сэрца, ласкавай цеплынёй гучаў яго голас, калі ён гаварыў пра людзей сталінскай эпохі, пра іх мужнасць і геройства, пра свайго любімага друга—таварыша Сталіна.

Трацкісцка-бухарынскія нягоднікі не далі Аляксею Максімавічу ўбачыць, як народы самай дэмакратычнай у свеце краіны выбіраюць у соцыялістычны парламент сваіх лепшых сыноў; як вялікая Сталінская Канстытуцыя выклікала нябачаны размах творчага энтузіязма мас, натхніла тысячы новых герояў на нечуваныя подвігі.

Наш Горкі будзе жыць вечна. Яго голас, магутная сіла яго мыслі, яго геніяльныя творы не памруць ніколі. Вечна будзе жыць яго вера ў перамогу вялікай партыі большэвікоў, у трыумф справы Леніна і Сталіна, а яго гераічнае жыццё з пакалення ў пакаленне будзе служыць узорам для ўсіх, хто любіць сваю радзіму, ненавідзіць яе ворагаў, змагаецца за шчасце народа.

„Пускай ты умер!.. Но в песне смелых и сильных духом всегда ты будешь живым примером, призывом гордым к свободе, к свету!“

---

Мікола Сямашка

# ПАМЯЦІ АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА ГОРКАГА

У капялюшы, крыху сутулы,
Знаёмы, родны чалавек,
Глядзіць ён добры, мужны, чулы
У наш вялікі, ясны век.

Жывы, здаецца, ён вясновай
Усмешкай цёплаю ізноў
Усіх асветліць, скажа слова
Старонкамі сваіх тамоў.

І Волга загаворыць песняй,
Дзе ён хадзіў з багаццем мар,
Узляціць над морам буравеснік—
Спрадвечны сябра грозных хмар;

Расправіць крыллі горды сокал
Над круцізной нямых вяршынь
І паляціць у свет шырокі,
Ў прастор нязведаных вышынь.

Ён, уладар тварэнняў вечных,
Здаецца зноў жывы стаіць.
Заве глыбока чалавечны,
І ненавідзець, і любіць.

Каля яго бяссмертных рысаў,
Каля жывога
Ў чорны рад
Яны гадзюкамі віліся—
Падносілі смяротны яд.

Слязой Іудава паганай
Мачылі мёртвага чало,
З душы, абрабаванай здрадай,
Плявалі ліцамер'ем слоў.

Ды неўміручага не сцерці,—
Жывым ты будзеш з века ў век,
Ты вечны у сваім бяссмерці,—
Пясняр, баец і чалавек.

У нашых буднях, нашых справах
Прад намі будзе вобраз твой,
Авеяны вялікай славай,
Жыццём, любоўю, барацьбой.

м. Ветрына.



*Пятрусь Броўка*

# КАЦЯРЫНА

Паэма

У пакрыўленай хаціне
На ускраіне сяла
Нарадзілася дзяўчына
У Сымона-бабыля.

Занудзіўся небарака,
Замаркотнела чало,
І не вытрымаў, заплакаў,
Што няшчасце прыплыло.

Гэта-ж новаю бядою
Тут з'явілася яна,
Нават ветры за сцяною
Галасілі да відна.

Да гаркавая лучына
Выпадала з лучніка,
Засынала Кяцярына
Нешчаслівая дачка.

І не ведала, што многа
Ёй пуцінаю прайсці,
Што не ўсцешыла нікога
У пакутлівым жыцці.

І прыветлівага слова
У хаціне не было...
У прытулку бабылёвым
Не гасціла весялосць.

Сэрца матчына сціскала,
Пасабіць не знала чым,
Маці плакала, спявала
Над калыскай уначы:

„Спі, дачушка, небам сінім
Маладзік святло павёз,
Спі, дачушка Кацярына,
На двары стаіць мароз.

Ён не любіць голых, босых,
Хто ў палапленым мяху,
Сам чырвоны, з белым носам,
У вялізным кажуху.

Сам у шапцы многазорнай,
Валасы як шызы дым.
Ходзіць, грукае па бёрнах,
Дзе не палена зусім.

Папалохаў ён багата,
Перайшоўшы хаты ўсе,
Спі, дачушка, прыдзе тата,
Тата хлеба прынясе.

Можа будзе ён з мякінай,
Ці з паловаю гірсы...
Спі, дачушка Кацярына,
Спяць дрымотныя лясы".

Дні міналіся за днямі,
Адплывалі чарадой.
Беглі бурнымі шляхамі
Рэкі ранняю вясной.

Каласілі нівы хлебам,
Засыналі зімнім сном,
Зоры падалі на небе
Загараліся ізноў.

І свяцілі над хацінай,
Што нядоляю жыла.
Падрастала Кацярына
У Сымона-бабыля.

Адзінотай, без падружак,
Гадавалася адна.
І малою, і не дужай
Гора зведала яна.



Не спачыла ад світання
Аж да вечару нідзе.
Бацька парабкам у пана
На рабоце цэлы дзень.

Не згуляла аніколі
Ні зімою, ні ў вясну.
На чужым багатым полі
Маці корчыла спіну.

Кацярыну-ж дома кінуць
Наварыць і даглядзець.
Рана стала Кацярына
Сваё гора разумець.

І было,—пільнуе хаты,
А вясна ўжо на двары,
За сялом пяюць дзяўчаты,
Птушкі граюць у бары.

Па крыніцах аганькамі
Заструменіла вада,
Вішні белымі крыламі
Узляцелі па садах.

Па узгорках, па лагчынах
Краскі дзіўныя гарадь...
Ой, як хочацца дзяўчыне
Днём вясновым пагуляць!

Толькі як пакінеш хату,
Спраў не мала устае,
Розным клопатам заняты
Рукі кволыя яе.

Перамыць анучак многа,
Дроў на паліва знайсці,
Чыста вымесці падлогу,
Столь ад пылу абмясці.

Высыпаць пясочкам сені,
Вокны выцерці траха.
Потым бацькава адзенне
Пералапіць дзе мага.

Пералапіць і паправіць,
Да парадку ўсё прыбраць,
Наварыць на вечар стравы
І бацькоў сваіх спаткаць.

Так і прыдзе захад сіні,
Туманамі задыміць...
Цэлы дзень у Кацярыны
За работай прабяжыць.

За работай, каля хаты,
Нават часу не стае.
За сялом пяюць дзяўчаты,
Кацярына не пяе.

Акрыляла-ж колькі шчасця
Бабылёвую дачку,
Калі стомленая маці
Цалавала у шчаку.

Колькі радасці пазнала,
Як святкамі, вольным днём,
Маці косы заплятала
Новым, крамным касніком

Як часінаю такою
Беглі мары чарадой.
І Сымон-бабыль дачкою
Не нацешыцца сваёй:

„Ах, дачушка Кацярынка,
Вось пайду цяпер на рум.
Заараблю, табе на рынку
Я сукенку набяру“.

Ды жабрачы лёс не змерыць,
Прасвятлення не відно,
Выганяеш гора ў дзверы,
Гора сунецца ў акно.

Паглядзіш, куды не кінеш,
За бядой бяда яшчэ...
Села гора гаспадыняй
У хаціне на куце.

Надышло зімовым шляхам
У пагорбленых санях,
Засланіла шыбы страхам,
Смерцю стала па кутах.

І вячэра позняй ноччу
Прачакала на стале,
Прагледзела маці вочы
З Кацярынаю на лес.

Ён стаяў сцяною грознай,
Чорнай зданню за сялом,
І над полем гул марозны.
А Сымона не было.

Так да поўначы глыбокай
Не заснулі ні на міг,
Думкі лёталі далёка
Паміж сосен векавых.

Ой, ты бор, вячысты бор наш,
Мы пытаемся ў цябе,
Што маўчыш ты, не гаворыш,
Што хаваеш у сябе?

Пакажы ты нам пуціну
Шумным говарам дубоў,
Па якой тваёй мясціне
Бацька вернецца дамоў?

Ды дарма на бор глядзелі,
На суровы дальні шлях,
Дзверы ў хаце зарыпелі,
Сустракайце бабыля.

Ён прышоў зусім шчаслівы,
Вусны ціхімі былі,
Трое парабкаў маўкліва
На руках яго няслі.

Ён ляжаў спакойны, сіні,
Боль застыла у вачах...
Анямела Кацярына,
Маці пала у нагах.

І здалося, нават зоры
Пацямнелі на двары,
Шапкі скінуўшы гавораць
Засмучоныя сябры:

„Абражалі цябе людзі,
Гора многа ты пазнаў,
Прыдушыла твае грудзі
Стогадовая сасна.

І цяпер ляжыш, маўчыш ты,
Досыць, браце, бедаваць.
Больш бяроз, дубоў плячыстых
Нам з табой не пілаваць.

Не пачуеш лесу болей,
Як шумяць яго лісты...
Спі, Сымон-бабыль, нядоля
Мы-ж такія, як і ты“.

І пакінулі у хаце
Пад Міколаю святым...
Тры начы стаяла маці
З Кацярынаю над ім.

На чацверты дзень, уранку,
Бо нікога не прышло,
Павязлі удвох, у санках.
На магільнік за сяло.

Бабыля прытулак новы
Там агледзелі, як след,
Крыж паставілі яловы,
І заплакалі на свет.

Зноў, няшчасная хаціна,
Па-ранейшаму жыла,
Пад вакном яе каліна
Тры разы ўжо адцвіла.

Трэці раз ужо вясною
Узнімалася рака,
Як хадзіла сіратою
Бабылёвая дачка.

Тры разы вясна склікала
Ветры цёплыя свае,
Сіраціна сумнай стала
Маці хворая яе.

Прыдзе з працы, ног не чуе,
Сядзе ціха у кутку,
Толькі моцна пацалуе
Нешчаслівую дачку.



Да грудзей прытуліць тройчы,
Прыхінецца галавой,
І гарэць сухія вочы
Беспраходнаю жальбой.

Толькі момантам заззяюць,
Промнем ясным узыйдуць,
Быццам зоры ападаюць,
На крынічную ваду.



Адышла, з вачэй адпала
Невыносная журба,
Многа сэрцу прыгадала
Берасцяная труба,

Што вісіць пад абразамі,
Як дарунак дарагі,
Што паслала зноўку памяць
На другія берагі.

Песняй дзіўнаю, прапетай,
Берасцянка загула...
Прыгадала маці лета,
Як дзяўчынаю была.

Перад ёю ясным раннем
Вобраз любага устаў,
Як Сымон ёй пра каханне
Над лясамі заіграў.

Як хацелі, хоць памерці,
Але шчасце ўсё-ж прыдбаць,
Як сасватала іх сэрцы
Берасцяная труба,

Што маўкліва і самотна,
Нерухомаю вісіць.
Многа думак у гаротнай
Адзінотай прабяжыць.

Не было ў душы спакою
Аж да самага відна,
Як пражыць удвох з дачкою,
Покуль вырасце яна.

Дні-ж праходзілі няспынна,
Сабіраліся ў гады,
Узнімалася дзяўчына
Паміж гора і бяды.

Даглядала сваю маці,
Паслухмянаю была,
Не адходзіла ад працы
І шчасліваю жыла.

На ґаі, дзе сонца спала,
На вясновы пыльны шлях
Часта песня прылятала
З-пад хаціны бабыля.

Ах вы, песні, думкі, мары,
Як нядоўга ўсё было.
Праляцелі нізка хмары
І ударылі крылом.

Ды нягодаю, як рынуць
Па хаціне на краю,
З болем бачыць Кацярына
Маці сумную сваю.

Што не спіць яна начамі
Ад маркоты і тугі,
Што залеглі пад вачамі
Два смяротныя кругі,

Што між вуснаў след глыбокі
Занімаецца расой,
Што пакрыла фарба шчокі
Падазронаю красой,

Што такой худою стала,
Ледзь ступае ідучы.
Кацярына шанавала,
Не пасобіла нічым.

Цалавала колькі сілы,
Не суняла толькі боль.
І вясной, як лёд крышыла,
Не устала маці больш.

І калі вясна паслала
Белых вішань душны дым,
На астанні прашаптала
Маці вечарам адным:

„Не устану, Кацярынка,
Я па гэтай, па вясне.
Ты не плач, мая дзяўчынка,
Дужа цяжка, горна мне,

Што не ведаю, не знаю,
Што парадзіць і зрабіць,
Што адну цябе кідаю
Я такой няшчаснай жыць,

Што не зведала ты шчасця,
Што ў цябе суровы шлях,
Што усё тваё багацце —
У пакутлівых руках.

Што чужой работай рана
Знойдзеш долю ты сваю,
Што ўсяго табе прыстання—
Гэта хата на краю.

Гэта мне яна згадала
Час далёкі, малады...
Па бярну яе сабралі
Мы праз доўгія гады.

І няхай, што зоры свецяць
Цераз столь, над галавой,
Хай праз шыбы золкі вецер
Прабіраецца зімой,

Хай сабе ліхая замяць
Пралятае па кутках,
Беражы ты гэту памяць
Па бацьках сваіх, дачка.

І слязамі залілася,
І панікла галавой.

. . . . . . . . . . . . . . .

А дзяўчынка засталася
Круглай, горкай сіратой.

Хто-ж суцешыць, хто прытуліць?
Не, спагады не відаць...
Можа толькі ветры чулі
У хаціне горкі плач.

Можа толькі месяц сіні
З ёй адною гаварыў,
Як малілася дзяўчына
Кожнай ноччу да зары.

Як уранні паглядала
На вяршаліны дубоў,
Дзе зязюля кукавала
Над магіламі бацькоў.

Як пыталася нясмела,
Што рабіць ёй, як ёй жыць?
Свет маўчаў. Адно бялелі
Адзінокія крыжы.

Сумавала, сохлі грудзі,
Толькі выйсця не знашла,
І пайшла дзяўчына ў людзі
На падзёншчыну пашла.

Працавала на багатых,
Марна сілы кладучы,
Змардаванаю дахаты
Прыпаўзала уначы.

А святамі ў адпачынак
Да бацькоў сваіх ішла,
На курганішчы магільным
Цэлы дзень яна жыла.

Набягалі слёзмі вочы,
Не магла жальбы суняць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Так сядзіць яна аднойчы.
Над палямі цішыня...

Толькі звонкім дружным роем
Птушкі кружаць угары.
Неба чыстае такое,
Што хоць пі, яго бяры.

Ды стаяць жыты, пшаніцы
Наліванаю сцяной.
І хацелася забыцца
У маўклівасці такой.

З адзіноцтвам развітацца
З горам цяжкім і ліхім,
Ды навечна аб'яднацца
З гэтым месцам дарагім.

І дзяўчыну, што да долу
Пала чыстаю слязой
Абудзіў раптоўны голас:
— Кацярына, што з табой?

Ты загінеш ад дакукі,
Сірацінка ты мая,
Перад ёй, развёўшы рукі,
Багацей Кузьма стаяў.

У вачах яго іграла
Спачувальная вада,
І на грудзі ападала
Чорнай хмарай барада

І здавалася, слупамі
Дзве нагі яго былі,
Быццам ён урос нагамі
Да сярэдзіны зямлі.

Ен стаяў карчом плячыстым
З нерухомай галавой,
Але з вуснаў камяністых
Павявала цеплынёй.

— Што ты, бедная дзяўчына,
Тут павісла на крыжы,
Ты зачахнеш, Кацярына,
Як быліна на мяжы.

Ты бацькоў ужо не вернеш,
Не патрэбна сумаваць,
У раю яны, напэўна,
Між апосталаў сядзяць.

Усяго на небе досыць,
Што папросяць; пададуць
І архангелы падносяць
Ім найлепшую яду.

Кацярына, не журыся
Гаратлівае дзіцё,
Ты пра іх не клапаціся,
Лепш падумай пра жыццё.

Што-ж маўчыш, дзяўчынка, чуеш,
Дык навошта слёзы ліць?
Я цябе адзін шкадую
І жадаю пасабіць.

Дык хадзем, даволі нудзіць,
Досыць плакаць у гаі,
Ты дачкой шчаслівай будзеш
Гадавацца у сям'і.

І назаўтра двор багаты
Кацярыну прытуліў...
На гары стаяла хата
Над палямі спелых ніў,

Сцены жоўтыя глядзелі
Ганарыста на бакі,
І здавалася звінелі
Бёрнаў смольныя сукі.

На штабованых запорах,
На круках, замках цяжкіх
Стайні, свірны і аборы
З тоўстых сосен векавых.

Каб трывогі не будзілі,
Не балела галава—
Гаспадарку абкружылі
Агарожай ў сажні два.

Каб не трапілі бадзягі
У такі багаты дом,
Галасістыя дварнягі
Заліваліся вакол.

І у гэты дом маўкліва
Сірата прышла служыць.
Задуменна, палахліва
Перайшла парог чужы.

Напаткала погляд косы
З-пад вачэй амаль усіх,
Нават рэчы, ёй здалося,
Непрыязныя зусім.

І камод на ножках куцых,
І нязнаныя цвяты—
Трое бельмаў ў брудным куце—
Тры лампады пры святых.

Кубел з вопраткай кляновы,
Два услоны пад вакном,
Шырачэзны стол дубовы
Пад клятчастым абрусом.

І калі дзяўчыны нашай
Нерашучы зрок застыў...
Бараду ў руку сабраўшы,
Гаспадар загаварыў:

„Бог адну яе пакінуў,
Не загінула ўжо ледзь,
Парашыў я сірацінy
У сям'і сваёй прыгрэць.

Хай жыве у лепшай долі,
Каб-жа меў занятак свой,
Пажынае дзе на полі,
Ці паходзіць за касой,

Ці пасобіць каля хаты,
Перамые чыгуны...
І ў адказ на словы таты
Усміхнуліся сыны.

А старая хусткай вочы
Засланіла на віду,
Падарыўшы свой дзявочы
Пераношаны сурдут.

Кофтай крамнай надзяліла,
Лапці новыя дала,
І вячэраць пасадзіла
Пры сабе ў канцы стала.

Калі-ж месяц па-над домам
Зоры вышаў сабіраць—
На кулёгішчы саломы
Палажылі ў сенях спаць.

Ноч праходзіць, золак сіні
Захістаўся на двары,
Не заснула Кацярына
Аж да ранняе зары.

Не прымгнула яна вокам,
Думка сумная плыла
Побліз хаты адзінокай
На ускраіне сяла.

Побліз хаты, дзе учора
Усё пакінула яна,
І здавалася, што з гора
Шыбы плачуць да відна.

А вятры шумяць саломай
Забаўляюцца ў трысці.
І нібы заве дадому
Маці бедную прысці.

Узнялі яе зарання,
Не паспела і паспаць,
Загадалі да снядання
На ахрап‘е назбіраць.

Як вярнулася, тым часам,
Каб не даць ані згуляць,
Накармілі бульбай з квасам
Ды паслалі жыта жаць.

Пад спякотаю стаяла
У кругу дарослых жней,
Цэлы дзень сярпом махала
Да ламоты у спіне.

Захлыналася у поце,
Абатрэцца, жне ізноў...
І прышла зусім упоцем
Да сваіх гаспадароў.

Пагукала ў дзверы тройчы,
Спаў багаты, грозны дом...
Павячэрала ў істопцы
Ды звалілася кулём.

Між усімі парабкамі,
Што заўсёды там жылі...
А назаўтра са слязамі
Разам жаць яны пашлі.

Кожны дзень з тае часіны
Ні яды, як след, ні сну,
Так пазнала Кацярына
Гаспадарскую ману.

Ласку тую зразумела,
Што калісьці абяцаў,
Ды паплача дзе нясмела,
Каб ніхто ані не знаў.

Сцеражыся ўсіх і бойся,
Хто-ж ёй прыдзе спагадаць?
І адно ёй засталося,
Што пакорліва маўчаць.

Толькі ўсе бесперапынна,
Калі хто дзе наглуміў:
— Кацярына, Кацярына!
Каб цябе пярун забіў!

Ці адзежыну хто кіне,
Ці не змые са стала,
— Кацярына, Кацярына!
Каб ты каменем лягла.

Кожны бэсціў, кожны лаяў,
Засыпаў яе смяццём,
Поўна гора і адчаю
Парабчанскае жыццё.

У цяжкім, маўклівым болі
Вочы ў слёзах у малой.
Так праходзіў год і болей,
А палёгкі ніякой.

Камянела ноч глухая,
Хмары чорныя плылі.
Нават добрым светлым раем
Дні ранейшыя былі.

Хто-ж суніме гора служкі,
З кім-жа ёй пагаварыць?..
З роўнай доляю падружкі
Самі плакалі наўзрыд.

Бо усе не зналі ласкі,
Бо гаротны мелі шлях,
Бо ў астрозе гаспадарскім
Высыхалі на вачах.

Так змяняўся год за годам.
І прышоў, нарэшце, той
З невыноснаю пагодай,
З чорнакрылаю вайной.

Што забрала слёз багата
Матак, жонак і сясцёр,
Што прамчалася па хатах,
Як бязлітасны віхор.

Як узняўся вецер хіжы,
Далі плачам занясло.
І злажыла рукі крыжам
Задуменнае сяло.

Дзе стаялі чарадою
Хаты, быццам жабракі.
А на полі за сахою
Часта плакалі жанкі,

Галасілі, звалі бога,
Пасабіць няшчасным жыць,
Невыказную трывогу
Захаваўшы у душы.

Абяцалі век маліцца,
Ды нягодная пара
У адказ гула званіцай,
Услаўляючы цара.

Дарма плакалі жанчыны.
Бог не слухаў горкіх слоў.
І для нашай сіраціны
Найцяжэйшы час прышоў.

Трэба ўстаць да сонца, рана,
Ледзь займецца на зару,
І за парабкаў забраных
Працаваць гаспадару.

І аралі, і касілі
Парабчанкі за усіх,
Так было, што часам сілы
Пакідалі раптам іх.

І было, што гаснуць вочы,
Даль кругамі заімжыць,
Але ў самай цёмнай ночы
Часам зорка узбяжыць.

І паміж пакут няспынных
Промні ясныя ўстаюць.
Так дзяўчына Кацярына
Радасць стрэціла сваю.

Паказаўся свет вясёлым,
Прасвятлела уваччу.
Пакахаў яе Мікола
Белакуры парабчук.

І ягоны погляд палкі
Сэрца дзяўчыны скарыў.
Ён за наймітаа ад малку
Па чужых людзях служыў.

Працаваў, карпеў за трое,
Бо кута не меў свайго,
Быў ён круглым сіратою,
Як і любая яго.

Помніць поле на змярканні,
Помняць шумныя сады,
Як прызналіся ў каханні
Двое сэрцаў маладых.

Як ляцелі мары роем,
Як шчаслівымі былі,
Як з юнацкай цеплынёю
Дружбы рукі падалі.

Хто-ж парушыць гэта шчасце
У жыцці пакутных мог?
Прыдзе вечар. Скончаць працу,
Сабіраюцца удвох.

Пойдуць ціхаю дарогай,
Што хаваецца ў жытах,
Побліз шуму баравога,
Побліз рэчкі на лугах.

Па гаях густых гуляюць,
Па сцяжынках палявых.
Колькі думак узлятае
Адзінотаю у іх.

Часта ноч міне. І золак
На усходзе узбяжыць,
А захоплены Мікола
Шэпча любай у цішы:

— Прыдзе час, мы гора скінем,
Вочы высахнуць ад слёз,
Мы сустрэнем, Кацярына,
У жыцці прыгожы лёс.

Парабчанскі хлеб найгоршы,
Сохні доўгія гады,
Можа, як сабярэм грошы
І пазбавімся бяды.

Досыць шчаўя і мякіны
З багацейскага стала,
Пойдзем разам у хаціну
На ускраіну сяла.

Там жыла ты, падрастала,
Ветры слухала зімой,
Мы усё агледзім дбала
І паселімся у ёй.

Там, пад роднаю страхою
Мы з табою адпачнем,
Хоць падзёншчынай цяжкою,
А як-небудзь пражывем.

Будзем мы шчаслівы нават,
Хай сабе, што бедната...
І ад слоў такіх ласкавых
Расцвітала сірата.

Акрылялася, спявала
У чаканні светлых дзён,
Але сонца уставала
І знікаў надзеі сон.

Зноў абразы і згрызоты,
Жах суровага ярма,
Зноў пякельная работа
Да знямогі, задарма.

Дні праходзілі і годы,
Панавала скрозь імгла,
А над светам непагода
Ад крыві людскай плыла.

І нясла трывог багата
Над пагорбленым сялом,
Як старцы стаялі хаты,
Спахмурнеўшыя чалом.

Там ад вечара да рання,
У цяжкім, балючым сне
Прарываліся рыданні
Па забітых на вайне.

Усяго там вестак свежых,
Прыдуць мыліцы без ног
І пагрукаюць пратэзам
Баязліва у акно.

Дзе сіроты палахліва
Адзінотаю жылі.
А на полі чахлі нівы,
Дзікім пырнікам цвілі.

Варушылі часам трохі,
Анямеўшыя пяскі,
На сябе цягнуўшы сохі
Гаратлівыя жанкі.

на лепшае надзеі
У пакутных не было.
Толькі хутар багацеяў
Жыў шчасліва за сялом.

Там вайна шырокіх ганкаў
Не кранула і нагой.
Маладыя парабчанкі
Працавалі на яго.

Хоць ішла бяда па свету,
Спелі коласам палі,
І па беламу білету
Тры сыны яго жылі.

Час ішоў. Гудзелі рэкі,
Заніmaліся крывёй.
Час ішоў. Брылі калекі
Несканчонай чарадой.

Гналі новых у салдаты,
А вайна бліжэй ішла...
І ўдарылі гарматы
Побліз самага сяла.

Толькі сіла новай стала
Над імперыяй усёй,
Праляцела свежым валам
Над здратованай зямлёй.

Ад сталічных барыкадаў
Да апошняга сяла,
Царскі скінуўшы парадак,
Рэволюцыя ішла.

Над парытымі палямі
Фронт узбуджаны гудзеў,
За высокімі платамі
Нават хутар задрыжэў.

Гаспадар яго слязою
Адазваўся па старым.
А пасля і ён душою
Супакоіўся зусім.

Пахаджае ганарыста
Пасярод свайго двара.
Па-ранейшаму міністры,
Хай без белага цара.

Па-ранейшаму блудзілі
Афіцэры і панкі,
Па-ранейшаму хадзілі
На работу парабкі.

Як раней, у іх мякіна
Не знікала са стала.
І Мікола з Кацярынай
Не убачылі святла.

Ненадзейнае світанне
Ледзь успыхнула на міг.
Не збываліся жаданні
Мар імклівых, агнявых.

Хваляваліся употай
Засмучоныя чалом.
А хаціна адзінотай
Пуставала за сялом.

Дні нязменнымі шляхамі
Сабіраліся ў страі,
Перайшла вясна садамі,
Адспявалі салаўі.

Адзванілі на пакосе,
Адцвілі брусніц кусты.
Жыта ў полі налілося
Воскам жоўтым і густым.

Гаспадарскія адрыны
Хлеб чакаюць да варот,
Парабчанка Кацярына
Жне чужынскае дабро.

Знае, восень прыдзе скора,
Што-ж парадуе яе?
Жне спяваючы, а гора
Песням словы падае.

— Дні мінаюць маладыя.
За мяне вы паспявайце,
За мяне вы пагуляйце,
Птушкі звонкія, лясныя.

Дзе мне беднай прытуліцца,
Ветры буйныя, скажыце,
Мае слёзы забярыце,
Занясіце на крыніцы.

Многа іх для сіраціны,
Для маёй жабрачай долі...
Не уцешыцца ніколі,
У маркоце і загіну.

Хто маю жальбу суніме,
Хто сустрэне на змярканні,
Абагрэй маё каханне,
Сонца, промнямі сваімі.

Мой далёкі, сіні гаю,
Ты да долу нахіліся,
Шумным голлем абзавіся,
Я бацькоў сваіх гукаю.

Хай суцешаць у сумоце,
Цёплай ласкай прывітаюць,
Супакояць і параюць,
Як мне жыць на адзіноце?..

Кацярына бога просіць,
Цішыня на небе сінім.
Нахіліўшыся, калоссі
Толькі слухаюць дзяўчыну.

Вечарыць. Туман дыміцца,
Над зямлёй паслаўшы шаты.
Запрацаваныя жніцы
Адышлі ужо дахаты.

Недзе песня за лагчынай
Паляцела дальняй сцежкай,
Толькі наша Кацярына
Засталася на узмежку.

Бо калі на сэрцы горна
І няма людское ласкі
Спакайней у хаце зорнай,
Чым у куце гаспадарскім.

На дзяўчыну пала змора.
Спіць яна у полі чыстым.
Поўнач. Месяц выплыў з бору,
П'е ваду з вазёр іскрыстых.

І бяроз густыя косы
У шумным ветры загайдалі.
Спіць. Надранішнія росы
Валасы яе прыбралі,

Спіць спакойна і не знае,
Што ад вечару няспынна
Адзінокі кліч гукае:
— Кацярына!.. Кацярына!..

Ён праносіўся бясконца
То узгоркамі, то долам...
І зусім на ўсходзе сонца
Разбудзіў яе Мікола.

Напалоханая ўстала.
Захілілася рукою,
Баязліва запытала:
— Што такое?.. Што са мною?

Я прысніла, кліча маці,
Каб вярнулася да хаты...
— Не хвалюйся, ты на працы
Змардавалася занадта.

Нам усім жыццё такое—
Пот, пакуты, зневажанні,
Пойдзем, сядзем над ракою,
Пагаворым на світанні.

Дай забудземся на гора,
Як-жа нам не захапляцца,
Неба, рэкі, лес, вазёры,—
Бачыш нашыя палацы.

Бачыш, нават кусцік кожны
Нахіліўся чалавеку.
Гэта ўсё, што так прыгожа,
Нам аддадзена ад веку.

Багацеі набрахалі,
Што усё ідзе ад бога,
Да сябе усё забралі,
Не пакінуўшы нічога.

Мы гібеем парабкамі,
Гадам творачы багацце.
Кацярына, хутка самі
Адваюем гэта шчасце.

Мы маўчаць не маем права.
Мы паноў усіх прагонім!
— Я цябе, Мікола, нават
Не магу пазнаць сягоння.

— Знаеш, родная дзяўчына,
Не хачу я болей гнуцца!
Ты паслухай, Кацярына,
Весці новыя нясуцца,

Чуеш ты, імчацца крыкі
Над парытымі шляхамі...
Устае народ вялікі
На апошні бой з панамі.

І тады не будзе вораг
Нам сляпіць слязамі вочы...
Мне сказаў пра гэта ўчора
Наш адзін зямляк, рабочы.

Кажа—ўсюды забастоўкі.
А кругом ты глянь—салдаты,
Не кідаючы вінтоўкі,
Павярталіся дахаты,

І змаўляюцца не жартам
Што зямлю забяруць самі.
На сяле яны упарта
Суд рыхтуюць над панамі.

Я касу таксама ладжу,
Хай па тоўстых шыях звоніць,
Сэрца кажа: быць мне разам,
Да сялян пайду сягоння...

А гадзіны ўсё ляцелі
Без суладдзя з маладымі.
І абодвы пагглядзелі,
Што паўдзён ужо над імі.

Ды пачулі—недзе полем
Песня сумная плыла...
Устрывожана і з болем
Серп дзяўчына падняла.

На жніво ізноў спяшае.
Хай Мікола з ёй ідзе,
Кацярына сэрцам знае,
Быць сягоння у бядзе.

На рабоце у багатых
Трэба дзень і ноч рабіць...
Вось і жыта. Жнуць дзяўчаты.
Гаспадар як здань стаіць.

Твар надзьмуты, злосны, сіні,
Адвярнуўся ў бок сяла.
— Дзе ты ходзіш, Кацярына,
Каб ты свету не знашла!

Вось за добрае падзяка.
Усю ноч хвастом круціць,
Праганю цябе, бадзяку,
Мо' дазнаешся як жыць.

Пойдзеш зноў па свеце голай.
Жні, бярыся, ды глядзі!..
А цябе прашу, Мікола,
Прэч з двара майго ідзі.

Не хачу, каб ты і разу
Мне трапляўся на вачах.
Не стрывау хлапец абразы,
Забалела у грудзях.

— Ты цяпер не хочаш знацца.
Я магу ужо ісці.
Толькі ты за пот, за працу,
Мне сягоння заплаці!

Гаспадар скрывіўся коса,
Аж напяўся у гразьбе:
— Ты ад'еў сваё. І досыць
Гэтай платы для цябе.

— Не заплоціш, гад?!. Мікола
Глыж з іржэўніку узняў.
Гаспадарскі немы голас
Па ўсім полі праімчаў.

— Ой, ратуйце, людзі! Божа!
Біць за ласку... За маю...
Я цябе, бандыт, ў астрозе
Як праклятага згнаю.

Паглядалі жніцы долу,
Бы нічога не было...
І пайшоў адзін Мікола
Цераз поле на сяло.

Жыта шастала няспынна,
І ніхто не знаў, калі
Слёзы беднай Кацярыны
Горкай жальбаю плылі.

Колькі месяцаў мінула,
Надышлі такія дні,
Што зямлю ўсю скаланулі,
У грымотах загулі.

Тая восень вечна будзе
Зоркай яснаю плысці.
Тую восень будуць людзі
Вечна славіць у жыцці.

Тою восенню усталі
Жыхары бяздольных сёл,
Тою восенню пылалі
Гнёзды панскія вакол.

Тою восенню над светам
Сіла грозная прайшла.
І былі усе сагрэты,
Што не ведалі цяпла.

На змаганне сутарэнні
Узнялі большэвікі.
Тою восенню наш Ленін
Вёў з'ядданыя палкі.

Тою восенню рабочы
Па краіне ўсёй паўстаў.
Тою восенню праз ночы
Мудры Сталін працаваў.

Узнімалася краіна.
І праз гром усіх падзей
Чула сэрцам Кацярына,
Што вялікі час ідзе.

Пан уцёк. Агні пажараў
Спапялілі след яго.
І кулак хадзіў, як хмара,
Пагдядаючы кругом.

Непакоіліся раны,
Што ідуць зямлю дзяліць.
Ён крычаў, што апантаны:
— Доўга так не можа быць.

А між тым, наскрозь, начамі
Напалоханы не спаў.
І употайку з сынамі
Што найлепшае хаваў.

Аглядаў запоры дбайна,
Каб надзейна ўсё было.
А на раніцу, звычайна,
Ён прыходзіў на сяло.

Там, пытаючы навіны,
З доўгай скаргай на бяду —
У папа сядзеў гадзіны,
Апусціўшы бараду.

Кляў, як мог усё, заўзята,
Уздыхаўшы па старым...
І варочаўся да хаты,
Разгубіўшыся зусім.

З кожным стрэчным — лістам слаўся,
Супыняўся, размаўляў.
Нават з беднымі вітаўся,
Сам сабе не шкадаваў.

Так змяніўся жорсткі голас,
Толькі песенькі спяваць.
Нават парабак Мікола
Аніяк не мог пазнаць.

І здзівіўся, хто такою
Ласкай сэрца закрануў,
Як аднойчы за сабою
„Добрыдзень“ яго пачуў.

— Нам сварыцца, кажа, годзе,
І не трэба ўспамінаць,
Што-ж ніколі не прыходзіш
Ты заробак свой забраць?

Крыўда грудзі апаліла.
Гнеў Мікола не стрываў:
— Сам вазьму!.. Сваёю сілай!..
Шмат чужога ты набраў.

Гаспадар спусціўшы плечы,
Ціха шэпчучы праклён,
Адышоў. Ад гэткай стрэчы
Калаціўся колькі дзён.

І накленчыўся ня мала
Пад угоднікам святым.
Чуў, сялянская навала
Сабіраецца над ім.

Вусны слёзна бога звалі
Ліха цёмнае скарыць...
Ды па-новаму спявалі
Парабчанкі на двары.

Чула наша сіраціна —
Надышоў канец бядзе,
Разам з імі Кацярына
Весялела кожны дзень.

І маркотнаю ніколі
Не хадзіла ўжо адна.
Часта вечарам з Міколам
Сустракалася яна.

З ім да ночы гаварылі,
Як прыстанішча займець,
У канец сяла хадзілі
На хаціну паглядзець.

Ім хацелася шчасліва
Там жыццё сваё пачаць.
Бабыля куток маўклівы
Заставаўся іх чакаць.

Ды яшчэ не зніклі слёзы
Ад праклятае вайны.
Надышла зіма. Марозы
Шлях праклалі ледзяны.

Зоры сінія высока
Зазванілі угары.
І снягоў абрус шырокі
Разаслалі ўжо вятры.

Буры злосныя гудзелі
Золкай сцюжаю сваей,
Толькі сэрцы гарачэлі
У раскованых людзей.

І калі ішлі ардою
Немцы волю паланіць,
Многа бралася за зброю
Шлях здабыты бараніць.

Доўга помніць Кацярына
Той вядомы, бурны год,
Доўга помніць Кацярына
Тую сцежку на ўсход,

Што зімовым, снежным долам,
След вяла на бальшакі,
Па якой пайшоў Мікола
У чырвоныя палкі.

Снег іскрысты пад нагамі,
Месяц ледзьве мігаціць.
Золка. Вея над палямі.
Скачанеўшы птах крычыць.

На дарозе, пад гарою
Сосны голлямі шумяць...
І яны удвох, да хвоі
Прыхінуўшыся, стаяць.

Занімаецца світанне.
Маладзік зусім пагас,
А Мікола на астанні
Шэпча ёй апошні раз:

— Развітаемся сягоння,
Каб назаўтра разам быць.
Я у Гвардыі Чырвонай
Буду з радасцю служыць.

Я з вінтоўкаю таварыш,
Хай семнаццаць мне гадоў.
Паглядзі, паны, як хмары,
Сабіраюцца ізноў.

Чуеш, клічуць комуністы
Стаць у грозныя рады.
І як будзе ў небе чыста,
Да цябе прыду тады.

Засланіла вочы замець.
Поле. Снег. Зусім адна.
Торбу з хлебам за плячамі
Доўга бачыла яна.

І услед калючы вецер
Бег на вострых палазах.
Шмат дарог на белым свеце
І для кожнага—свой шлях.

Перад ёю шнурам чорным
Зноў сцяжынка усплыла...
Так было на сэрцы горна,
Ледзь да хутару дайшла.

Дні ішлі. Туга і скруха
Не сыходзілі з чала,
Колькі месяцаў ні слуху!
Толькі марамі жыла.

І ад гэтых мараў, можа,
У начны, трывожны час —
Сніўся ён, такі прыгожы,
І па-новаму штораз.

Дзесьці там, шырокім долам,
Даль падковамі звініць...
Скача конь. Яе Мікола
З вострай шабляй на кані.

У яго пад шапкай краскі
Завіваюцца ў вянок.
Ад яго удараў каскі
Адлятаюцца на бок.

Ці яшчэ. І сэрца ўпотай
Сон спакуслівы вядзе —
Вось паважна, перад ротай
Камандзірам ён ідзе.

Рэвальверы і гранаты
Абчапілі усяго.
І усе жанкі, дзяўчаты
Паглядаюць на яго.

Ён прыветліва смяецца
Ён з армейцамі пяе,
І паміж усіх прыкмецціў
Ён адзіную яе.

Усхвалёваны суняўся.
Пакланіўся на віду.
Потым шчыра развітаўся:
„Пачакай мяне, прыду!“

Сон ідзе ўсё далей, болей.
Замяняе радасць—жах...
Быццам ён ляжыць на полі
З чорнай кроўю на грудзях.

І яна гукае, дзе ты?...
Вусны мёртвыя маўчаць.
Ён разуты і раздзеты...
Крумкачы над ім крычаць.

Як устала—сонца промень
Біўся рыбай ля акна.
У слязах, у цяжкай стоме,
Прасыналася яна.

Цэлы дзень адны настроі,
Не выходзіць з думак ён.
Цэлы дзень у непакоі,
Можа быць і праўдзіць сон?

Ці надзея сэрца поўніць,
Можа ён адкуль ідзе?
Углядаецца на поўнач —
Анікога, анідзе.

Прыглядаецца ў дакоры,
То на поўдзень, то на ўсход...
Ужо зіма свае уборы
На другі адклала год.

Толькі месцам неданоскі
Засталіся па лясах.
Поле шумнае за вёскай
У імклівых ручаях.

Дзень вясновы коўдры выткаў,
Зелянінаю заткаў.
Жаўра песеньку як нітку
Аж да сонца заснаваў.

Над садамі маладымі
Шпак прыстанішча знашоў.
Рыбы сем'ямі густымі
Падышлі да берагоў.

Зноў пралескі маладыя
Узняліся у бары...
Кавыляючы, крывыя
Вышлі сохі на шнуры.

І на хутары ад ранку,
Пазгінаўшыся ў крукі,
Ладзяць лехі парабчанкі,
Садзяць бручку, буракі.

Гаспадар заўсёды вокам
Наглядае за усім.
Кацярына ад рыдлёўкі
Прытамілася зусім.

Вусны высахлі без меры:
Хоць-бы ўзяць папіць вады.
Хоча стаць, баіцца—зверам
Ён накінецца тады.

І далей ідзе радамі...
Ногі млеюць, чэзне зрок.
Раптам чуе, пад грудзямі,
Невядомы ёй штуршок.

Углядзелася навокал
Можа хто пазнаў, пачуў?
Заружовіліся шчокі,
Заіскрылася ўваччу.

Добра, злыдзень барадаты
Знік. І болей не глядзіць.
Села. Падышлі дзяўчаты.
Далі з конаўкі папіць.

Абкружылі чарадою,
Нахілiліся над ёй:
— Кацярына, што з табою?
— Кацярына, што з табой?

— Можа, зелля даць якога,
Ёсць купальская трава...
— Пройдзе мусіць... Так, нічога...
Забалела галава.

Не схаваеш сэрца ўпоцем.
Цяжка ў горы быць адным.
Нешта раз, на адзіноце
Расказала праўду ім.

Што даўно ўжо ёй нялоўка,
Што не знае, як зрабіць?..
Разам плакалі сяброўкі,
Разам думалі, як быць?..

Як унікнуць перасудаў,
Як-жа ёй дапамагчы...
І пасля на працы, ўсюды,
Пасаблялі хто у чым.

То суцешаць Кацярыну,
То ёй песню запяюць,
То сажнуць яе часціну,
То ёй судны паднясуць.

Толькі доўга дружнай змовы,
Каб дзяўчыну ратаваць,
Ад вачэй гаспадаровых
Не маглі яны схаваць.

— Я кажу табе не жартам!..
Праляцеў аднойчы крык.
...Не патрэбны мне банкарты,
Гадаваць іх не прывык!

Гэта мусіць той, няйначай...
Дзе, шукай цяпер вятры?..
Каб нагі тваёй не бачыў,
Каб ні следу на двары!

Ды, як погляд злосны кіне,
Што аж сэрца заняло...
Позна ноччу Кацярына
Зноў вярталася ў сяло.

Крыўдна вельмі. Толькі сілы
Паспрачацца не знашла
Сем гадоў яму рабіла,
З чым прышла, з тым і пайшла.

Гаспадыня, тая проста
Перабэсціла, што страх,
Нават доранную кофту
Адабрала пры людзях.

Вось разлік за працу служкі,
Хоць ратунку ты крычы...
Толькі добрыя падружкі
Суцяшалі ідучы:

— Не хвалюйся, Кацярына,
Хіба знойдзеш праўду дзе?..
Мы цябе адну, дзяўчына,
Не пакінем у бядзе.

Так, на край сяла дзяўчаты
Неўзабаве падышлі...
Да вакон старая хата
Прытаілася ў зямлі.

Баязліва вочы жмурыць,
Прыглядзеўшыся на дол,
І страха, нібы ад буры
Раскіданае гняздо,

Вахлакамі, мохам шэрым
Па-над сенямі тырчыць,
Нат пакрыўленыя дзверы
Ледзь патрапілі адкрыць.

Пуста. Хоць скачы па хаце.
Столь ад часу зацвіла...
Невялікае багацце
Сіраціна там знашла.

— Вось і твой прытулак дома,
Абжывайся пакрысе...
І паслаўшы куль саломы,
Развіталіся усе.

Так, на ложку тым лядашным
Моўчкі лёгшы ля акна,
Аб усім жыцці няшчасным
Перадумала яна.

І пакуль вятох зубчасты
Перад сонцам не зачах,
Уздыхала цяжка, часта
Па Міколу, па бацьках.

Лезлі здані і страхоцці.
Розум рознае шаптаў.
Першы час на адзіноце
Невядомасцю пужаў.

Прасвятлела на світанні
Ад сяброўскіх, шчырых слоў.
У той дзень, яшчэ уранні
Надышлі падружкі зноў.

Кожная з асобнай ношкай
Пераходзіла парог;
Хто пілу прынёс, хто дошкі,
Хто абрус, а хто пірог,

Хто цвікі паправіць латы,
Хто са тры якіх лайны...
Па-таварыску, заўзята
Працавалі ўсе яны.

Да дзвярэй прыбілі петлі,
Перамылі вушакі,
Стол наладзілі і зэдлі,
Парасставілі судкі.

Зраўнавалі ямкі ў печы,
Дол прасыпалі пяском,
Нават комінак пад вечар
Запалілі смаляком.

Стол накрылі і прыбралі.
І наўкруг таго стала
Сеўшы дружна, заспявалі,
Як калініца цвіла.

Як у ноч на моры сінім
Вецер ветразі парваў,
Як хлапец кахаў дзяўчыну,
Толькі шчасця бог не даў.

Як адзін слуга харобры
Пана-ката задушыў...
Пяючы, было так добра
Той часінай на душы.

І здавалася, што проста
Шлях пракладзены прайсці...
У жыцці мацней сяброўства
Нам нічога не знайсці.

Вось і восень. Павучынне
Над палеткамі плыве.
Трэці месяц Кацярына
Адзінотаю жыве.

Як не скажаш, вельмі цяжка
Па кавалку зарабляць.
На сяле ўсё немцы ў касках,
А Міколы не чуваць.

Ды прыходзяць думкі тыя—
Можа гора праміне,
Робіць, б'ецца: ці пашые,
Ці памые, ці пажне.

Раз сабралася на поле
Людзям бульбу выбіраць,
Ды кругом такія болі,
Не магла ніяк устаць.

І з трывогаю пазнала:
Не пасобіш тут нічым,
Цэлы дзень яна ляжала,
Не паднялася ўначы.

Добра, з вёскі той парою,
Бабка здумала прыйсці...
А назаўтра раніцою
Гаманілі два жыцці.

Так падружкі і спаткалі
З падарункамі ў руках—
Побліз мацеры гукала
Сінявокая дачка.

У карыце перамылі,
Асцярожна спавілі.
Дзён праз колькі ахрысцілі
І імя навек далі.

Кацярынаю назвалі,
Так хацела маці звацъ,
Лепшай долі пажадала
Ї яе пакут не знаць.

Зноў ліповая калыска,
У якой сама расла,
У прыстанішчы бабыльскім
Радасць мацеры дала.

Пазнікалі ночы суму,
Зноў жаданні расцвілі.
Прасвятлелі вочы. Думы
Узнімаліся, плылі.

Па-над полем, па-над пушчай,
Над бурліваю ракой...
Ї пяе, пяе дачушчы,
Як спявала маці ёй:

— Спі, галубка, Кацярынка,
Ветры злосныя гудуць,
Падрастай, мая дзяўчынка,
Падрастай, шчаслівай будзь.

Спіць ваверка, спіць і ліска,
Спіць малы зайчок-касач,
Спі, малое, немцы блізка,
Ціха ты, не плач, не плач!..

Свет шырокі і багаты,
Будзе й нам вясёлы час.
Спі, дачушка, нейдзе тата
Пэўне думае пра нас.

Можа заўтра, ці сягоння,
Чую, сэрца кажа мне—
Тата ворага прагоніць,
Да грудзей нас прыхіне.

Ї заўсёды будзе з намі,
Будзе лашчыцца з табой...
Спі, дачушка, над барамі,
Над палямі непакой"...

Толькі весткі аніякай
Ад Міколы не было.
Немцы вышлі, ды палякі
Наляцелі на сяло.

Блізка году каталі.
Ноч пажарамі гула.
Руйнавалі, рабавалі,
Вымяталі да-гала.

Дзе не стала чалавека,
Дзе парэзана сям'я,
Не прыпомніць гэткіх здзекаў
Ад пачатку дзён зямля.

У бандытаў сказ кароткі—
Шомпал, шыбеніцы скрозь...
Дзе якія там заробкі,
Хоць ты з хаты не выходзь.

Кацярына галадае,
Хоць у пролубку сама.
Толькі пеўнем пахаджае
Хутарскі кулак Кузьма.

Выгляд д'ябальскі, харобры,
Ну, сапраўдны новы пан,
Акупантам солтыс добры,
Прыгнятальнік для сялян.

Кацярыну, як убачыць,
Задаволена ён кпіць:
— Камісарык неіначай
У зямлі сырой ляжыць.

Накарміў Мікола хлебам?
Дзе ён дзеўся, пазаві!..
Не хацела жыць, як трэба,
Па-сабачаму жыві.

Кацярына пойдзе сціхам,
Хай набэсціцца кулак.
Сэрцам чуе, пройдзе ліха,
Не, не будзе доўга так.

Не, ніякаю цаною
Не закатаваць народ.
Сэрца спраўдзіла. Вясною
Запылаў, устаў Усход.

Стрэлы полем загудзелі,
Зашумеў абшар лясны,
Ї сабрацца не паспелі,
Уцякаючы, паны.

Беглі так з чужое хаты,
Быццам чорт на крыллях нёс.
Дзе пакінулі гарматы,
Дзе тачанкі, дзе абоз.

Душна, душна ягамосці,
Досыць слёз мы палілі.
Вон, няпрошаныя госці,
Ад радзімае зямлі.

Заблішчэлі пяткі шпарка...
І нікога ўжо няма.
Дзе вы, лютыя канаркі,
Дзе ты, солтыс, дзе, Кузьма?..

Прытаіўся палахлівы.
У нары сядзіш звяром.
Што не ходзіш ганарліва
Ты па вуліцы сялом?

Наша свята, наша сёння,
Паглядзі ва ўсе канцы—
Гэта Арміі Чырвонай
Рушаць смелыя байцы.

Прэч, праклятыя падпанкі,
Вось дзе сокалы ідуць.
На руках дзяцей сялянкі
Ім усцешаных нясуць.

Колькі песень па спатканні,
Слоў агністых, маладых...
Баравыя партызаны
Далучаюцца да іх.

Кацярына паглядае—
За палкамі полк ідзе...
Аднаго яна шукае.
Дзе-ж Мікола, родны, дзе?

Можа ты ў другім паходзе...
Можа ты навек заснуў?
Дзень адзін, другі праходзіць,
Смутак сэрца агарнуў.

На дарогу за ракою,
Што бярозамі шуміць,
Выйдзе раніцай з дачкою
Аж да вечару стаіць.

Здасца часам гул імклівы,
То падкоў іскрысты звон...
Раптам бачыць, што за дзіва,
Гэта, мусіць, праўду ён?

На узлессі блізка... блізка...
Паказаўся над гарой,
На кані ляціць навыскач,
Шапкай маша над сабой.

Вось ён любы! Як сустрэцца?
Да яго хутчэй, хутчэй...
Як мага бяжыць, а сэрца
Вырываецца з грудзей.

Захістаўся свет шырокі,
Закружылася вакол...
Не дабегла крокаў колькі,
Апусцілася на дол.

*Канец у наступным нумары.*

*Эдзі Агнядвет*

## У СЛАЎНЫМ СУЗОР'І

У маёй краіне адзінаццаць зор,
А яны высока узышлі.
Адзінаццаць дружных, маладых сясцёр
У маёй краіне узраслі.

Я была ў Тбілісі,
Кіеве,
Маскве,
Па казахскіх стэпах я ішла:
Ўсюды, дзе савецкі чалавек жыве—
Сталінская дружба расцвіла.

У сям'і вялікай, у шчаслівы час
Паднялася горда Беларусь,
Жыта залаціцца на палях у нас,
Нібы сонца ў летнюю пару.

Дзе калісь чарнелі пусткі, пыл і дым,—
Вырас там і зашумеў завод.
Уваходзяць дзеці з песнямі ў сады,
І, як май, праходзіць кожны год.

Нашы землі сокам поўныя жывым,
Нашы хаты поўныя дабра,
Яблыні багаты плодам наліўным,
Льюцца рэкі звонам серабра.

А граніцы нашы на стальным замку,
Баявы магутны наш дазор
Сталін падымае у прывет руку!
Свецяць ярка адзінаццаць зор.

Ліпень 1938 г.

Уры Фінкель

# ШОЛАМ-АЛЕЙХЕМ

## З Перэяслава ў Варонку

Аднойчы, у летні дзень, прыехалі ў Варонку некалькі фурманак. Наперадзе ішла пара паштовых коней, запрэжаных у лёгкі фаэтон з скураным верхам. У фаэтоне сядзела маці Нохіма Рабіновіча—Міндл, пажылая, высокая і хударлявая жанчына, дзеці Нохіма Рабіновіча і жонка яго—Хая-Эстэр, маленькая ростам, белакурая, з малодшым сынам Шоламам на руках.

Гэта было прыблізна ў 1861 годзе. Шоламу было тады каля двух год.

За паштовымі коньмі ехала яшчэ пара фурманак, нагружаных рознымі пярынамі, падушкамі, вузламі і мебляй. Сям'я Нохіма Рабіновіча пераязджала з Перэяслава ў Варонку.

— Маленькае мястэчка гэта Варонка,—расказвае Шолам-Алейхем у сваёй кнізе „З кірмаша",—маленькае мястэчка, але прыгожае... вы можаце прашпацыраваць па ўсяму мястэчку ўдаўжыню і ўшырыню на працягу поўгадзіны... без чыгункі, без мора і без тлума, з двума ўсяго кірмашамі ў год.

Тут, у Варонцы, трымаў Нохім Рабіновіч рандар земскай пошты, пасесію, гандляваў збожжам, ставіў быкі на брагу.

А жонка яго, спрытная, белакурая Хая-Эстэр, трымала лакцёвую краму.

У Варонцы, Палтаўскай губерні, на Украіне, правёў Шолам-Алейхем сваё дзяцінства. „Ні адзін горад у свеце не ўрэзаўся яму так у памяць, як благаславенная „Касрылаўка"—Варонка. І ні адзін горад не падабаўся яму так, што ён ніколі, ніколі не мог на яго забыцца.

Белакуры, жвавы хлопчык Шолам лётаў з сябрамі свайго дзяцінства па вялікаму, шырокаму базарнаму пляцу з яго шматлікімі яўрэйскімі крамамі і крамкамі, сталамі і столікамі, „з свежымі, смачнымі яблыкамі, ігрушамі, дынямі і кавунамі, якімі гэтак любяць ласавацца ў любы час козы і свінні, а базарныя бабы вядуць з імі безупынную вайну.

Старое мястэчка гэтая Варонка на Украіне. Яно мае нешматлікае насельніцтва, але затое поўна розных баек і паданняў, „з якіх можна было-б скласці цэлую кнігу".

Гара, высокая гара аддзяляе мястэчка ад палёў і ад вёсак. Ï ўсе ведаюць, што па той бок гары „ляжыць скарб яшчэ з часоў Хмяльніцкага“.

Шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя будучы Шолам-Алейхем правёў у Варонцы. Гэта былі часы непасрэдна пасля „вызвалення сялян“. Капіталізм у Расіі узмацніўся.

Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, Некрасаў былі кіраўнікамі думак дэмакратычнай інтэлігенцыі. Пачалі ўжо з‘яўляцца і першыя ластаўкі яўрэйскай дэмакратычнай літаратуры.

Вялікі яўрэйскі класік Мендэле Мойхер-Сфорым ужо тады апублікаваў некаторыя з сваіх твораў. Новыя ідэі насіліся ў перадавых колах яўрэйскага насельніцтва. Усё больш павялічвалася колькасць яўрэйскага насельніцтва ў гарадах. Мястэчка пачынае пасылаць свае лепшыя сілы ў горад.

Значная частка яўрэйскай дробнай буржуазіі яшчэ больш збяднела. Сяляне ў вёсцы пасля „вызвалення“ апынуліся ў яшчэ большай галечы, чым раней. Гэта былі часы, калі Мендэле Мойхер-Сфорым, якога Шолам-Алейхем першы назваў „дзядулям яўрэйскай літаратуры“, маляўніча характарызаваў матэрыяльнае становішча яўрэйскага прасталюдзіна адным словам—„торба“.

Нохіма Рабіновіча, бацьку Шолам-Алейхема, лічылі ў Варонцы за вялікага багатыра. Гэткую славу ён атрымаў у спадчыну ад свайго бацькі Вевіка, або Вольфа Рабіновіча.

Але не ўсе багачы дарэформенных часоў здольны былі прыстасавацца да новых умоў капіталістычнага развіцця. Шмат якія з іх збяднелі і засталіся толькі пры старым „іхесе“ [1]).

У Варонцы матэрыяльны дабрабыт Нохіма Рабіновіча зусім пахіснуўся. У Варонцы застаўся ён нарэшце толькі з „іхесам“ былога багацця.

Тут узрос Шолам-Алейхем, тут успрыняў ён свае першыя ўражанні, тут пазнаёміўся ён упершыню з дзіцячым светам Касрылаўкі, тут зрабіўся ён песняром дзіцячай душы, тут спазнаў ён Касрылаўку дарослых.

## На Гіршку напалі „разбойнікі“

Сёння дзеўка Фрума, што служыла на кухні ў Нохіма Рабіновіча, крычала і лаялася як ніколі. Яна не шкадавала штурханцоў для дзяцей і больш чым на ўсіх крычала на жвавага хлопчыка Шолама. Яна заўважыла сёння сваім адзіным вокам, як стаяў ён ззаду і перакрыўліваў яе: выставіўшы наперад ніжнюю губу, ён цёр рукою вока і крычаў голасам, якраз падобным на яе: „Самаволец!“.

— От, самаволец, бацюхна любы. Дай божа, каб гэта была няпраўда, але з яго, мусіць, дабра не будзе. Гэты недаростак сваёй смерцю не памрэ.

Добра адплаціла-б яму Фрума параю штурханцоў у бокі, але не паспела яна азірнуцца, як ён ужо знік з пакою на вуліцу.

[1]) Гонар.

Гэта яе вельмі засмуціла. Чаму гэта ён, сын свайго бацькі, такі свавольнік? Ёй хацелася выказаць перад кім-небудзь сваю крыўду, але ў кухні нікога не было і яна прымушана была звярнуцца сама да сябе:

— Чаму гэта наш гаспадар, хай будзе ён здаровы, хай бог яго не пакарае, не хоча звяртаць увагі на сваіх дзяцей? Хіба ён лічыцца з светам? Гаспадыня, небарака, гаруе цэлы дзень. Накрычыцца за дзень у краме як труба, а яму гэты Гіршка язык паказвае... ці ў шахматы гуляе. Каб яму трасца! Цэлымі днямі не надакучыць яму сядзець і крычаць: „Мой ход... Вам ісці, рэб Нохім“. А! каб яму ўвайшло ў бок!

Раптам яна падбегла да печы, схапіла гаршок з гарачым варам і пляснула ў сабаку, што пракраўся ў кухню. Сірка завішчаў, дзеўка Фрума закрычала яшчэ галасней і пачала стукаць кіем па падлозе і па сцяне так, што паваліласся з паліцы меднае начынне. Шум ад начыння ўзняў на ногі ўсю хату. Дзверы адчыніліся і ў кухню прыбеглі спалоханыя бабка Міндзі, Нохім Рабіновіч, Гіршка, яго хаўруснік, Ніел, малодшы брат Нохіма і Шолам, які спыніўся ззаду ўсіх і закрычаў:

— Сто гэта тут за крык, сто за сум, сто гэта тут здарылася?

Гэта ён крыўляў Гіршку, які не мог вымавіць літары „ш“ і казаў заўсёды „с“.

У другі час, калі-б бабка Міндл пачула як крыўляе Шолам хаўрусніка Рабіновічаў, яна абавязкова паскардзілася-б на яго рэбе ў хейдэры, каб ён ведаў, што трэба паважаць старэйшых, але цяпер ёй было не да гэтага.

Віск Сіркі і крыкі Фрумы толькі перапынілі лаянку, якая ішла ў пакоі для гасцей Нохіма Рабіновіча.

Цэлы месяц прабыў Гіршка, хаўруснік Рабіновіча, у дарозе. Ён павёз у горад збожжа і атрымаў ад Нохіма Рабіновіча даверанасць разлічыцца з цукровым заводам і атрымаць там грошы.

Вярнуўшыся ў Варонку, Гіршка нічога не сказаў пра гэта Рабіновічам і нават не з'явіўся да іх. На другі дзень пасля свайго прыезду ён пайшоў з рахманым выглядам у сінагогу, паплява́ў там на кончыкі пальцаў, круціў больш як заўсёды свае рыжыя пейсы. Потым устаў за бімай [1]), каля кружкі, біў сабе ў грудзі, плакаў і кінуў нарэшце ў кружку некалькі медных манет. Нічога нікому не кажучы, кінуўся ён потым да „орнкойдэша“ [2]), адчыніў яго, пацалаваў тору і, заплакаўшы, закрычаў:

— Божачка мой! сто ты маес да мяне, навоста ты наслаў на мяне злодзеяў у дарозе. Няхай узялі-б яны таксама і маю дусу разам з усім.

Накрычаўшыся, ён сам зачыніў дзверы, павярнуўся да людзей, пакруціў свае рыжыя пейсы і, апусціўшы вочы, пайшоў на сваё звычайнае месца. А людзі казалі між сабой:

— Вы чулі? Злодзеі на яго напалі, на Гіршку. У Нохіма Рабіновіча святло ў кішэні свеціць, а ён сабе дзве хаты пабудаваў.

1) Амвон у сінагозе.
2) Каўчэг завета.

Хіба яму змей грошы прыносіць? Ці скарб ён знайшоў? Вы чулі яго, гэтага Гіршку?

Ужо з добрую гадзіну сядзіць Гіршка ў Нохіма Рабіновіча і дае справаздачу. Пры гэтым прысутнічаюць таксама Міндзі Рабіновіч і Нісл.

— Дзе на цябе напалі? Калі на цябе напалі?

— Я-ж казаў табе ўвесь час, сцеражыся яго, ён—ашуканец,— крычыць Нісл.—Ведаць нічога не хачу, аддавай грошы.

— Сто вы хочаце, злодзеі на мяне напалі. Дзякуй ясцэ, сто жывым пакінулі,—адказвае Гіршка крыху спалохана і як заўсёды пачынае круціць свае рыжыя пейсы.

Якраз у гэты момант пачуліся крыкі Фрумы, бразгат начыння і ўсе, спалохаўшыся, пабеглі на кухню.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На працягу ўсяго лета Шолам, хлопчык Нохіма Рабіновіча, сябруе ўпотай з сіроткай Гершанам, якога маці яго, кухарка Сора-Фейга, называе Гергеле, а вотчым яго, дрывасек, Іосеф-Мейер—Гергеле-злодзеям.

Кожны чацвер Шолам выдзяляе частку свайго снедання, што дае яму з сабой у хедэр Фрума. Ён кладзе гэтую частку ў асобную кішэню і чакае, калі Гергеле прыдзе да яго настаўніка-рэзніка закалоць курыцу.

Цэлы тыдзень чакае Шолам гэты чацвер. Гергеле прыходзіць, расцягвае сваю пасечаную губу і кукарэкае нібы певень. Рэбе крычыць, а дзеці квокчуць, як куры.

Гергеле перастае кукарэкаць. У хейдэры робіцца зноў ціха. Рэбе сядзіць на сваім звычайным месцы. Раптам Гергеле зноў пачынае рабіць свае штукі. Ён пачынае балбатаць як індык.

Дзеці ў хейдэры качаюцца ад смеху. Яны пачынаюць яму дапамагаць і скачуць на сваіх лаўках. Рэбе ганіцца за Гергеле, а той ужо крычыць пад акном:

— Ку-ка-рэ-ку, доўгі нос!
Нібы зайца цябе зловяць,
На фурманку пакладуць
І вяроўкай цябе звяжуць
І як след цябе паб'юць!
Будуць мучыць без канца—
Ты загінеш ад нажа!

Кожны чацвер прыходзіць Гергеле з пеўнем якраз у той час, калі рэбе мяркуе распусціць вучняў па хатах.

Гергеле чакае Шолама на вуліцы, і яны ідуць абодвы. Гергеле ідзе наперадзе з зарэзаным пеўнем, а Шолам за ім следам. Гергеле адносіць пеўня гаспадыні, і пасля гэтага наперадзе ўжо ідзе Шолам, а Гергеле за ім следам. Так падыходзяць яны да хаты Нохіма Рабіновіча. Шолам уваходзіць у хату, а Гергеле чакае, пакуль Шолам не вынесе яму чаго-небудзь. Сёння, таксама як і кожны чацвер, Шолам прышоў разам з Гергеле, які чакае на вуліцы, пакуль Шолам не прынясе яму кавалак калача, ці „а боксерл“ [1].

[1]) Салодкі стручок.

Але сёння Шолам забыўся пра асцярожнасць і Фрума схапіла яго ў той момант, калі ён крыўляў яе. Ён прымушаны быў уцячы на вуліцу і не паспеў захапіць з сабой нічога.

Але гэта глупства. Ён паспрабуе яшчэ раз прабрацца ў хату. Можа бабка Міндзі запытаецца ў яго, ці не хоча ён есці і дасць яму кавалак калача, а можа і яшчэ чаго-небудзь. Тады ў яго будзе што даць Гергеле.

Дзень, які павярнуўся ўжо плячыма да Варонкі, хаваючыся ад ночы, быў гарачы. Нагрэты сонцам пясок пёк босыя ногі. Цяпер стала прахладней. Свежы вясёлы ветрык пачаў гуляць пяском і лётаць па траве, закранаючы сланечнікі ў садзе каля хаты Нохіма Рабіновіча.

Гергеле сядзіць на бярвеннях насупроць хаты Вочы яго ўтаропіліся ў карункавыя фіранкі, што вісяць на вокнах багатага дома. Ён ніколі яшчэ не быў у хаце багатыра Аднойчы толькі стаяў ён на парозе кухні, а больш—не. Вочы яго затуманіліся. Яму захацелася ўвайсці ў хату і паглядзець, як жывуць багатыя, як выглядаюць у іх пакоі.

Ён нават і не заўважыў, як узняўся з бярвенняў. Босыя брудныя ногі яго перайшлі цераз незабрукаваную вуліцу і спыніліся на ганку хаты Нохіма Рабіновіча.

Гергеле адчыніў дзверы і ўвайшоў у пярэдні пакой, у пакой для гасцей.

У пакоі былі сам Нохім Рабіновіч, яго маці Міндзі, яго брат Нісл і Гіршка. Яны спрачаліся і сварыліся.

Ніхто не заўважыў, як адчыніліся дзверы. Гергеле ўвайшоў і спыніўся. Ён убачыў, як насустрач яму вышаў з другога пакою незнаёмы хлопчык, абарваны, апрануты ў лахманы. Гэтага хлопчыка ён ніколі яшчэ не бачыў у Варонцы.

Раптам ён заўважыў у хлапчука пасечаную верхнюю губу. Якраз гэтак выглядае губа ў хлапчукоў, калі яны крыўляюць яго, дражняцца і крычаць: „пасечаная губа.“ Але хлопчык маўчыць, ён стаіць насупраць яго і глядзіць, натапырыўшы пасечаную губу.

— Ён дражніць мяне, сабака!—падумаў Гергеле і хацеў ужо падскочыць да хлапчука, каб даць яму ў вока, але нейкая дзіцячая рука мякка кранула яго за руку. Гэта быў Шолам. Ён міргануў яму сваімі сінімі вачыма і, адвёўшы яго ў куток, даў яму кавалак калача з сырам.

Калі Фрума абліла Сірку гарачай вадой і ўсе, разам з Шоламам пабеглі на кухню, Гергеле выйшаў з свайго кутка і пачаў аглядаць пакоі багатыра.

Ён глядзеў на карціны, што віселі на сценах. Асабліва падабалася яму адна батальная карціна. Кавалерысты несліся там на конях і калолі адзін аднаго доўгімі пікамі, а з боку стаяла маладая жанчына з белай хусткай на галаве і з чырвоным крыжам на рукаве і перавязвала скрываўленую галаву салдата.

Ён павярнуўся, каб паглядзець на другую сцяну і раптам убачыў зноў хлапчука з пасечанай губой. Гергеле паказаў яму ку-

лак. Хлапчук зрабіў тое самае. Гергеле плюнуў. Той плюнуў таксама. Ах вось як! Дык Гергеле пакажа яму, пакуль тут нікога няма. Хай ведае, як дражніцца.

Гергеле схіліў галаву, сціснуў кулакі і падскочыў да хлапчука З усёй сілы ўдарыў ён галавой і кулакамі... у люстра. Люстра брынкнула.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі ўсе вярнуліся з кухні ў пакой для гасцей, Гергеле ляжаў без прытомнасці на падлозе. Рукі яго былі ў крыві.

— А, і ён ужо тут! Гергеле з'явіўся! Яшчэ адзін Сірка на маю галаву! Свавольнік! Гарэза! Іван-папярыла!—крычала дзеўка Фрума на Шолама, які ўжо знік з хаты.

### Сон і ява

Поўдня чакае Шолам Мейера. Амаль палова ўсяго хейдэра сабралася на двары ў Нохіма Рабіновіча. Адзін з хлопчыкаў трымае другога за даўгія канцы „цыцэс“. Гэта яны едуць. Адзін з іх—конь, другі—фурман. Нехта трубіць у кулакі, другі грае на старой, іржавай бляшанцы. Астатнія проста крычаць.

Шолам ходзіць паміж іх задаволены. Але яму шкада ўсё-ж такі, што няма Шмуліка. Няма таксама і Гергеле, яго нельга браць у кампанію.

Мейер прышоў. І ўся хеўра дзяцей згрупавалася вакол яго і Шолама. Усе разам рушылі на базар і спыніліся там каля крамы Хаі-Эстэр.

На базарным пляцы пуста. Стаіць толькі пустая фурманка з худой белай клячай.

Ніжняя губа ў яе абвісла. Яна стаіць і глядзіць сваімі вялікімі, сумнымі вачыма на чырвоны шматок, што вісіць на дзвярах крамы.

На фурманцы сядзіць сляпая, рабая украінка з дзіцем на руках. Каля фурманкі, на бервяне—украінец з кобзай на каленях. Гэта—сямейства жабракоў. Кобзар застаўся тут з апошняга кірмаша і чакае наступнай нядзелі.

Дзеці селі на ганку крамы, а Мейер, які застаўся стаяць, заспяваў:

Вышаў я на Віленскую вуліцу,
Пачуў я там лямант і крык.
Гора мае! Што бачу я?
Ой, гора мае! Сярод белага дня...
Дзіцё ў калысцы плача, не спіць—
Маці на вуліцы забітая ляжыць.
Ой, гора мае сярод белага дня!
На вуліцы забітая ляжыць яна...

Водгулле яго звонкага, чыстага голаса пракацілася па базары і ўляцела ў дзверы крам, перапыніўшы гутаркі крамніц і крамнікаў.

Усе яны павыбеглі на ганкі.

Мейер з Мядзведзеўкі і дзеці нічога не заўважылі.

Цяпер ён заспяваў яшчэ мацней, заламіўшы рукі. Чорныя, біс-

кучыя вочы яго зрабіліся яшчэ больш цёмнымі, твар збялеў. Ён заспяваў і ўсе дзеці падхапілі:

Ой, гора мае! Гора мае!..

— Праспявай яшчэ што-небудзь, Мейерка, праспявай яшчэ!—пачалі прасіць крамніцы. Але Мейер больш не спяваў. Ён сеў на ганак і задумаўся.

Перад яго дзіцячым зрокам усё яшчэ стаяла карціна: маці з дзіцём і жанчыны, што стаяць заламіўшы рукі і плачуць. У яго вушах усё яшчэ гучэў лямант і плач на Віленскай вуліцы. Адзін з хлапчукоў зноў затрубіў, а другі пачаў граць на бляшанцы. Каля Мейера застаўся адзін толькі Шолам. Ён глядзеў яму ў вочы, у яго ўзбуджаны твар і яму хацелася запытацца, аб чым думае цяпер Мейерка.

Старая сядзіха [1]), якая насіла і зімой і ўлетку стары зімовы мужчынскі тыжлік [2]), падыйшла да Мейера.

— На, Мейерка, цукерку. Заспявай нам яшчэ што-небудзь. Заспявай, Мейерка. Асалода слухаць,—звярнулася яна да крамніцы Хаі-Эстэр, што стаяла на ганку і выцірала слёзы з вачэй. Мейер адмовіўся.

— Не, цяпер мы не будзем спяваць. Мы будзем прадстаўляць, І хутка пачалося прадстаўленне.

Шолам зрабіўся яшчэ меншым як быў.

На спіне ў яго вырас вялікі горб з саломы, у руках таўсты. сукаваты кій і торба.

Ён ішоў і дрыжэў ад страху. Вакол яго стаялі дзеці з узнятымі ўгару мётламі. Гэта быў лес, у якім ён заблудзіўся.

Насустрач яму ідзе Мейерка. Штаны яго закасаны вышэй каленяў. Ён падпярэзаны вяроўкай. За вяроўкай тырчыць у яго матчын стары кухонны нож. Мейерка закінуў галаву, вытарапіў вочы і выставіў наперад губу. Наблізіўшыся да Шолама, ён скінуў сваю шапку і закрычаў:

— Сто-о-ой!

Шолам, які прадстаўляў беднага гарбуна, ускінуў рукі ўверх; затросся і пачаў пець тонкім жаласлівым галаском:

Баюся я вельмі,
Аж стукаюць зубы.
Што зрабіў я, божачка,
Што ты хочаш маёй згубы?

Мейерка-злодзей! схапіў яго, кінуў на зямлю і закрычаў:

— Грошы да-а-ва-ай!

Шолам нібыта ледзь узнімаецца з зямлі. Мейерка зноў хапае яго, а Шолам плача і просіць:

— Вазьмі сабе боты, калі маеш ахвоту.
Адпусці мяне толькі дамоў на суботу!

Мейерка размахвае сваім мечам у паветры і точыць яго аб кіёк.

— У ботах тваіх я не маю патрэбы,
Нож свой тачу, каб цябе ім зарэзаць.

[1]) Дробная гандлярка
[2]) Род вопраткі.

А Шолам зноў просіцца:

Вазьмі сабе апошнюю з цела кашулю,
Адпусці мяне толькі да жонкі любай.

У адказ на гэта Мейерка пачынае стучаць нажом па кійку:

У кашулі тваёй я не маю патрэбы,
Нож свой тачу, каб цябе ім зарэзаць.

Пасля гэтых рэплік усе дзеці пачалі пець разам:

— Ой-ой-ой! ой-ой-ой!

Крамніцы заглядзеліся на спектакль, а Мейерка з жудасным выглядам скакаў вакол Шолама, пакуль, нарэшце, не схапіў яго зноў і кінуў на зямлю. Тут закрычала спалоханая Хая-Эстэр:

— Авой. Ён-жа заб'е маё дзіцё!

Але Шолам спрытна ўскочыў на ногі і выкінуў саламяны горб з-пад кашулі. Ён смяецца разам з усімі дзецьмі.

Кобзар, які стаяў з боку, наглядаючы за дзіцячай гульнёй, падышоў да крамніц:

— От, калі-б я меў гэткіх хлапчукоў, дык увесь кірмаш у мяне-б тады і плакаў і смяяўся.

Стары паківаў галавой і пайшоў да сваёй фурманкі. Крамніцы маўчалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У далейшым шляхі абодвух сяброў разышліся далёка. Яны працавалі у зусім супроцьлеглых галінах мастацтва. Мейеркаператварыўся потым у Міхаіла Ефімавіча Мядведзева—славутага артыста імператарскай оперы ў Санкт-Пецербургу, а Шолам зрабіўся вялікім яўрэйскім пісьменнікам-гумарыстам Шолам-Алейхемам.

Абодва яны прысвяцілі сваё жыццё мастацтву, якое прымушала людзей і плакаць і смяяцца.

Мядведзеў прымушаў плакаць царскіх вяльмож у сталічных тэатрах, а Шолам Алейхем выклікаў вясёлы смех у заўсёды засмучаных, запрацаваных і прыгнечаных яўрэйскіх народных мас у царскай Расіі і ў капіталістычных краінах Еўропы і Амерыкі.

## З Варонкі ў Перэяслаў

Сум, смутак запанавалі ў хаце Рабіновіча. Усё больш і больш павялічвалася нездавальненне. Высокі задумлівы Нохім Рабіновіч зрабіўся яшчэ больш задумлівым, чым раней. Маршчыны з'явіліся на яго шырокім ілбу і часта з грудзей яго вырываліся цяжкія ўздыхі.

Хая-Эстэр зрабілася ўжо не такой чуллівай, як раней, і на твары яе з'явіўся выраз заклапочанасці, які надоўга затрымаўся ў зморшчынках каля вуснаў.

У хаце гаспадарыла бабка Міндзі. Яна зрабілася адзінай уладаркаю на кухні. Больш як калісьці звяртала яна цяпер увагу на дзяцей, на сваіх унукаў.

На вуліцы, дзе жывуць Рабіновічы, парушана сёння звычайная цішыня і хмары пылу ўзнімаюцца ў вышыню над дахамі.

Натоўп людзей стаіць ля фурманак, нагружаных рознымі бебехамі і мэбляй. Гавораць аб тым, што паступова ўсе пакідаюць Варонку, што застаецца толькі палова мястэчка, што ў Одэсе валяюцца скарбы на вуліцах і што тройчы шчаслівы той, хто туды едзе.

У хаце Рабіновічаў пуста. Накідана салома, бабы стаяць з кіслымі мінамі, скрыжаваўшы рукі на жываце, і рыхтуюцца да развітання.

Шолам круціцца сёння па хаце, па вуліцы нездаволены. Яму крыўдна, што ён не едзе таксама разам з бацькамі і малодшымі дзецьмі ў вялікі горад з пешаходамі на вуліцах, з вялікімі двухпавярховымі дамамі з чарапічнымі дахамі.

— Вы застанецеся тут на ўсё лета, вучыцца, шкада адрываць вас ад вучобы. А калі бог дасць, на свята сукес прышлюць за вамі фурманку і вы паедзеце.

Так паведаміў дзецям Нохім Рабіновіч.

Пасля развітання з мястэчкам, дзве фурманкі рушылі па вуліцы і вуліца агарнулася яшчэ большымі хмарамі пылу.

Пакуль фурманкі не выехалі за межы мястэчка, Нохім Рабіновіч і тыя, хто праважаў яго, ішлі пехам.

— Народ разыходзіцца... усе патроху ад'язджаюць... Канец свету...—чулася паміж праважаўшых.

За мястэчкам Нохім Рабіновіч сеў на падводу.

Фурманкі ад'ехалі.

Праважаўшыя вярнуліся ў мястэчка.

Ніса Рабіновіч, брат Нохіма, доўга глядзеў на слуп з чорнымі пасамі і надпісам:

ПЯЦЬСОТ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ДУШ МУЖЧЫНСКАГА РОДУ.
СЕМСОТ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ДУШ ЖАНОЧАГА РОДУ.

Туманам агарнуліся вочы Ніса і камяк, што ўвесь час падпіраў яму горла, пачаў ціснуць яго яшчэ мацней. Ён збялеў і на хвіліну затуліў вочы рукой.

## Як паехалі бацькі

Вось ужо некалькі тыдняў, як бацькі Шолама, яго малодшыя браты і сёстры жывуць у Перэяславе. Ужо некалькі тыдняў прайшло з таго часу, як Шолам застаўся з старэйшымі братамі ў Варонцы, без таты і маці. Яны жывуць ужо не ў багатым доме з вялікімі пакоямі і з вялікімі вокнамі. Шолам не ходзіць ужо ў сад перад хатай. Ён не гуляе пад вішнямі, дзе так часта ляжаў ён раней на траве з сябрамі і расказваў розныя гісторыі. Таварышоў таксама няма. Яны выехалі з Варонкі яшчэ задоўга да бацькоў Шолама.

У садзе гуляюць зусім чужыя, незнаёмыя дзеці. Яны ў шапках з какардамі і вучацца ў вялікім горадзе. Яны прыехалі сюды на летнія канікулы. А гаспадар былой хаты Нохіма Рабіновіча—высокі і злы, з даўгімі бакенбардамі і выгаленым падбародкам. Ён мала

гаворыць з яўрэйскім насельніцтвам мястэчка. Двор заўсёды замкнуты, а па той бок брамы прывязаны на ланцугу вялікі, злы сабака.

Часта хочацца Шоламу увайсці ў сад, у хату і паглядзець, які выгляд мае цяпер пакой, дзе яго тата гуляў у шахматы, куды прыходзілі местачкоўцы пагутарыць з ім, і дзе сам Шолам нагляд аў за наведвальнікамі, за іхнымі манерамі і паходкай, а потым крыўляў іх, а дзядзька Нісл і бацька смяяліся.

Вясёлае, бесклапотнае дзіцё Шолам робіцца разгубленым і засмучаным. Адну выгоду меў Шолам з таго, што бацькі яго выехалі з Варонкі: ён мог цяпер не трымацца так паважна, як гэта патрабавалі ад яго тата і маці. Ён быў цяпер вольны і мог сябраваць з кім хацеў. Ён мог хадзіць, куды хацеў.

Гергеле ўжо выздаравеў і дружба яго з Шоламам яшчэ больш узмацнілася. Яны ходзяць абодва вечарам на гару за сінагогай. Часта прабіраюцца яны ў чужы сад, ірвуць там ігрушы і яблыкі. Яны маюць шмат агульнага, гэтыя хлапчукі—заўсёды галодны Гергеле, з пасечанай губой і разумнымі вочкамі, і Шолам. Гергеле крыўляе ўсіх і смяецца з усяго таму, што ён не любіць нікога. А Шолам крыўляе ўсіх таму, што бачыць у кожным чалавеку такія асаблівасці і рысы, якія сведчаць аб яго хібах і недахопах. Смех зблізіае іх. Акрамя таго і Гергеле і Шолам адчуваюць сябе чужымі ў мястэчку.

Шолам марыць аб былой бесклапотнасці. Ён імкнецца перамагчы той цяжар, які лёг на яго сям'ю. Ён сам цяпер адчуў яго. І ён бачыць гэты цяжар на шмат кім з людзей у Варонцы, у тым ліку і на Гергеле. Яму хочацца вызваліць усіх ад турбот, ад нястачы, ад пакут і ад цяжкой працы.

Адзінаццацігадовага хлопчыка Шолама мучыць пытанне: як дамагчыся гэтага? А сродак ёсць: трэба знайсці скарб, які ляжыць у гары, па-за сінагогай, яшчэ з часоў Багдана Хмельніцкага. Ён знойдзе гэты скарб і правядзе цэлую рэформу ў жыцці Варонкі.

Рудая Бася, што пячэ абаранкі, не будзе працаваць так позна ўначы. Гергеле не будзе больш злодзеем і ўсе беднякі ў мястэчку не будуць больш беднякамі. Яго тата зробіцца самым багатым у мястэчку. Бо хто самы лепшы і каму належыць больш, як не яго тату? Тады з высокага ілба таты знікнуць маршчыны, ён ужо не будзе выглядаць такім жоўтым. Зноў стане ён стройным і зграбным, як раней.

Праўда, Шолам не ведае добра, што іменна знаходзіцца ў гары. Але-ж Шмулік яму пра гэта казаў. Ён нават памятае сон, які прысніўся яму пра скарб,—як яны з Шмулікам узняліся на гару і пралезлі ў пячору з крышталёвымі слупамі і ў палац з залатымі сценамі.

Надыйшоў вечар. Сонца ўжо села і неба на захадзе афарбавалася ў палымнеючы колер. У паветры адчуваецца сум па адыходзячаму дню і гэты сум сціскае сэрца.

Яму так захацелася бачыць тату, бабулю, маці. Ён сядзіць ужо доўга на гары, па-за сінагогай і яго сінія вочы глядзяць высока па-над дахамі, у чырвоную вышыню вячэрняга неба. Здалёку бачыць ён дах сваёй хаты і яму хочацца дамоў.

Раптам, нехта хлопнуў яго па плячы:

— Хадзем. Чаго ты тут сядзіш?

Гэта быў Гергеле. Ён цягнуў яго за рукаў і паказваў рукою ў бок хаты Нохіма Рабіновіча.

Шоламу здалося, нібы Гергеле ўвесь час быў тут разам з ім. Ён узняўся на ногі і пайшоў за Гергеле. Яму здалося, што яго клічуць да хаты, а Гергеле захацелася падражніць сабаку на былым двары Шолама. Ён адчуваў падвойную варожасць да яўрэя з бакенбардамі і з выгаленым падбародкам: па-першае, ён нават і Шолама не пускае на двор (Гергеле не разумее, як гэта багатыр ды багатыра не любіць), а па-другое, гэты яўрэй—нейкі дзіўны яўрэй. Ён не гаворыць па-яўрэйску і сябруе толькі з ураднікам і станавым. Хаця-б сабаку яго трэба было-б адпомсціць, кінуўшы пару каменняў.

Вячэрняя чырвань неба перайшла тым часам у чорную ноч. На вуліцах Варонкі стала цёмна і ціха. Толькі ў хаце, дзе жыў раней Нохім Рабіновіч, а цяпер жыве яўрэй з бакенбардамі, светла. Гарыць вялікая лямпа. Вокны адчынены і з хаты чуецца вясёлы смех. Нехта іграе на скрыпцы. Гукі яе мяккія, кволыя.

Вочы Шолама шырока раскрыліся. Ён нібы ўбачыў перад сабой залаты палац, дзе знаходзіцца скарб. Ён бачыў перад сабой зялёную пожню, а пасярод гэтай пожні высокую купу каменняў. На каменнях сядзіць босы пастух і грае на дудцы, а вакол яго львы, леапарды, драконы з адкрытым зевам, птушкі з апушчанымі дзюбамі. А каля пастуха—яго тата, маці і бабка Міндзі, і ўсе яго сёстры і браты і ён сам, і Гергеле, і Шмулік, і Мейерка.

Ён застаўся стаяць. Гергеле пацягнуў яго за руку і яны селі на бервяно, што ляжала насупраць хаты. Сабака па той бок брамы пачуў чужых і забрахаў. Гергеле ўспомніў, што нарыхтаваў для яго каменняў і кінуў адзін з іх у браму. Сабака забрахаў яшчэ мацней. Гергеле пабег да брамы і кінуў яшчэ адзін камень.

Шолам ускочыў з бервяна і глянуў у акно, асветленае вялікай лямпай. Каля гэтага акна сядзеў заўсёды яго тата і гуляў у шахматы ці чытаў кнігу.

Ігра на скрыпцы спынілася. Адчынілася фортка і на вуліцу выскачылі два хлапчукі ў шапках з высокім верхам і з какардамі. Абодва крычалі нешта па-руску.

— Дзікуны. Фанатыкі! Абскуранты!—крычаў адзін з іх, высокі хлапчук з даўгім носам, сын яўрэя з бакенбардамі.

— Трэба ім павыдраць пейсы!—звярнуўся ён да нізкага, прысадзістага гімназіста з шырокім носам, сына станавога, і абодва кінуліся на Гергеле і Шолама.

Пачалася бойка. Хлапчукі з какардамі пачалі клікаць на дапамогу сабаку. Шолам і Гергеле ўцяклі.

На другі дзень раніцою Гергеле знайшоў каля былой хаты Нохіма Рабіновіча дзве шапкі. Ён пабег да хаты Нісла Рабіновіча, ціха адчыніў дзверы і адну з іх—шапку Шолама—укінуў у хату.

## У Пераяслаў да таты і маці

— „Шмат радасці майму дарагому брату Ніслу і маёй братавай набожнай Годл і іх дзеткам, хай будуць яны здаровы і хай жывуць яны доўгія гады.

Першае, што магу я паведаміць ягомасцям, гэта тое, што наша маці, набожная Міндзі і што я сам, ваш брат Нохім, і што мая жонка, ваша братавая Хая-Эстэр і што нашы дарагія дзеткі ўсе, дзякуй богу, здаровы. Няхай дасць бог нягоршае і ад вас пачуць.

Справядлівасць будзе з вамі, калі вы адгорнеце свой твар ад нас за тое, што мы не пасылалі вам вестак аб тым, як ідуць нашыя справы на новым месцы. Але я спадзяюся, што спачатку вялікі бог, а потым і вы, нам даруеце.

Ты-ж ведаеш сам, дарагі брат мой, што кожнае пачынанне заўсёды цяжкае, асабліва калі пачынаць трэба з самага пачатку. А рука наша спрактыкавана зусім у іншых справах. Мы-ж узяліся за такую справу, што ні нашы бацькі, ні дзяды, ні прадзеды гэтым не займаліся.

Мне балюча глядзець на маю далікатную жонку Хаю-Эстэр, хай жыве яна доўга, як павінна яна прыслугоўваць усім чужым людзям, не нашага стану, як павінна яна быць гаспадыняй заезнага дому.

І часта можна бачыць, як стаіць у адным кутку наша дарагая маці, Міндзі, а ў другім кутку мая далікатная жонка Хая-Эстэр і слёзы крыніцамі струменяць з вачэй іх.

Я ведаю, бог узнагародзіць мяне за пакуты і за турботы, што апанавалі ўсе куткі майго сэрца, бо што можа быць вышэй за цноту гасціннасці? Але гэтая цнота абмінае мой дом, які называецца цяпер заезным домам, і цэлыя тыдні праходзяць, а ніводнага гасця няма, а калі хто і заедзе, дык з беднякоў, якога няшчасце гоніць з свайго месца ў горад за дапамогай свайму слабаму здароўю ці здароўю яго дзяцей. Для багатых людзей мой заезны дом занадта бедны, бо ў горадзе шмат значна лепшых дамоў з прыгожымі пакоямі, з фарбаванымі сценамі і падлогамі. А мне застаецца толькі цнота гасціннасці.

Пасля ўсяго гэтага, ты даруеш мне, дарагі брат мой, бо хто мае такое чулліва сэрца, як у цябе, і хто столькі турбаваўся за мяне, як ты? Дык не май крыўды на нас і не лічы гэта за грэх перад богам і людзьмі.

Твой брат, які прагне ведаць пра тваё здароўе і пра здароўе тваёй сям'і і пра твае справы,

*Нохім Рабіновіч.*

Галоўнае забыў. Мейер-Велвел перадасць табе тры пары ботаў для дзяцей, хай жывуць яны доўга. Мы пашылі іх ім на свята, хай не абміне іх нявінная радасць. Дзеці не павінны ведаць, што турбуе сэрцы іх бацькоў. У Мейера-Велвела ляжыць таксама крыху харчоў на дарогу і коўдра, якую прыслала наша дарагая маці, набожная Міндзі, на выпадак, калі, не дай божа,

пойдзе дождж. Хай будуць яны разам з сваім бацькам і маці. Можа тады шчасце хутчэй затрымаецца ў нашай хаце і бог не адгарне ад нас сваёй літасці.

*Вышэй падпісаны*".

Такое пісьмо паслаў Нохім Рабіновіч з Пераяслава ў Варонку свайму брату Ніслу праз балаголу Мейер-Велвела, які павінен быў прывезці дзяцей з Варонкі ў Пераяслаў.

Ніся прачытаў пісьмо, напісанае па-гебрэйску, і растлумачыў яго сваёй жонцы Годл. А яна ўздыхала, ламала рукі і кляла горкімі праклёнамі Гіршку:

— Правільна казала Хая-Эстэр, свет цяпер поўны злодзеяў і злачынцаў, і той, хто не крадзе, той і не жыве.

Пасля гэтага яна пачала глядзець, што прыслана дзецям на дарогу.

— Ой, гора мне!—крыкнула яна,—гэта-ж ім на адзін зуб. Тры рты, няўрокам кажучы!—і пачала рыхтаваць для іх харчы з сваіх уласных запасаў.

Шолам круціўся каля фурманкі з трымя коньмі. Ён быў задаволены тым, што едзе ў вялікі горад да таты і мамы. Радаваўся ён і новым ботам, але яго мучыла пытанне адносна скарба. І ён пайшоў на гару за сінагогай. Як зачараваны стаяў ён там у маўклівасці, і цэлы рой думак праносіўся ў яго галаве.

Толькі адзін чалавек у Варонцы асабліва бядуе з таго, што Шолам ад'язджае. Гэта Гергеле. Ён убачыў фурманку з трыма коньмі каля хаты Нісла Рабіновіч і шукае цяпер Шолама. А той на гары, дзе павінен быць скарб.

Гергеле знаходзіць яго там. Ён стаіць у сваіх новых ботах.

Гергеле пытаецца:

— Новыя?

Шолам саромішца: у яго бліскучыя новыя боты, у той час як Гергеле ходзіць босы.

І ён кажа Гергеле.

— Калі хочаш, пойдзем да дзядзькі Нісла, я табе нешта падарую...

— Нешта падорыш? Чаму не?...

Яны пайшлі да Нісла Рабіновіча. У хаце рыхтаваліся да ад'езду. Туды прышло некалькі жанчын і мужчын развітацца з дзецьмі Нохіма Рабіновіча і перадаць яму прывітанне. Паміж іх была і дзеўка Фрума.

...Фрума ўбачыла Гергеле, паглядзела на яго адным вокам сваім і запытала:

— А чаго трэба тут гэтаму злодзею?..

На гэта Гергеле адказаў таксама запытаннем:

— А чаго трэба тут гэтай сляпой?..

Мог узнікнуць скандал, але Шолам узяў свайго сябра Гергеле за руку і выйшаў з ім на двор...

— Я сказаў табе, што падару нешта. Трымай..

І Шолам, здаволены сваёй філантропіяй, даў Гергеле-злодзею свае старыя боты, якія ён трымаў пад палой. Гергеле, мабыць,

чакаў нейкага іншага падарунка. Акрамя таго, ён быў яшчэ раззлаваны інцыдэнтам з „сляпой“ Фрумай. Схапіўшы боты, ён злосна кінуў іх далёка ад сябе. Моўчкі вышаў ён босы з двара, пабег па вуліцы і хутка знік уводдалі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Недарэчны выпадак, але колькі здароўя каштаваў ён Шоламу. Уцёкі Гергеле атруцілі яму развітанне з мястэчкам. Як ні стараўся ён адагнаць ад сябе вобраз пакрыўджанага сябра, той усёроўна неадчэпна стаяў перад вачыма і грыз яго сэрца: „пакрыўдзіў, дарэмна пакрыўдзіў беднага таварыша!..“

## На новым месцы

Пасля двух дзён язды прыехаў Шолам з сваімі старэйшымі братамі ў Перэяслаў, дзе яго бацька і маці жылі ўжо некалькі месяцаў.

Горад спаў. Чорнае неба раскінулася над ім, і Шоламу здавалася, што ніколі ўжо не прыдзе дзень. Быў канец лета. Дожджык павольна пырскаў на дахі будынкаў. Коні звярнулі з паштовай дарогі на брук, і Шолам ледзь дачакаўся таго моманту, калі колы фурманкі пакаціліся па цёмных вуліцах і спыніліся нарэшце перад домам, дзе жылі цяпер яго бацькі.

У дарозе Шолам уяўляў сабе бацькаўскую хату ў Перэяславе як вельмі прыгожую і добра прыбраную, паводле расказаў свайго таварыша Піні Шымелеса, які быў калісьці ў Перэяславе.

Яны прыехалі, а іх прынялі вельмі халодна, асабліва маці. І новая хата нешта зусім не такая ўжо гасцінная.

Яна вялікая, сумная, падзеленая на маленькія пакойчыкі. У іхняй хаце заезны дом, а маленькія пакойчыкі—для гасцей.

Маці завіхаецца з хатняй гаспадаркай. Яна больш заклапочана, чым у апошнія тыдні ў Варонцы. І яна надзвычайна скупая: дзеліць кожнаму па кавалку хлеба.

Нохім Рабіновіч тут яшчэ больш пахілы, чым у Варонцы. Але на твары яго ўсмешка задавальнення: хлопчыкі прыехалі і хутка ён будзе ў іх пытацца, што яны ведаюць і чаму за гэты час навучыліся.

Варта толькі Нохіму Рабіновічу пераканацца ў тым, што дзеці яго добра ведаюць тое, чаму іх вучаць, як ён ужо задаволены праз меру. Ён робіцца тады даступным і нават радасным.

Дзеці адказваюць на ўсе запытанні і асабліва вылучаецца малы Шолам. Ен ведае напамяць цэлыя раздзелы з біблії. Нохім Рабіновіч упэўнены, што яго Шолам абавязкова будзе пісаць добрыя „меліцэс“[1]).

Ён мае такі прыгожы почырк і так добра ведае мову біблії.

Ён водзіць Шолама да сваіх братоў, да сваякоў і хваліцца ім яго пісаннем і яго веданнем таго, чаму яго вучаць.

---

[1]) Напышчаная рыторыка яўрэйскага псеўдакласічнага стылю.

## У руках злога духа

У Перэяславе пачынаецца для Шолама жыццё абвостраных пакут і перажыванняў. Перэяслаў у параўнанні з Варонкай вялікі горад. Перэяслаў мае новую яўрэйскую буржуазію з новымі звычаямі. Прадстаўнікі гэтай новай буржуазіі апранаюцца паеўрапейску. Дзеці іх граюць на піяніна, вучацца гаварыць па-французску. Яны ўнікаюць дробнабуржуазных і бедных прапластовак яўрэйскага насельніцтва, яны адносяцца да іх зняважліва.

У Варонцы Шолам ніколі не сустракаўся з такімі канфліктамі, як у Перэяславе. Там ён павінен быў трымацца паважна і не сябраваць з Гергеле і з іншымі дзецьмі беднаты. Ён сам належаў да вышэйшых колаў у Варонцы, ён быў сынам „ногіда“—багатыра.

Летні вечар.

На цёмна-сінім Перэяслаўскім небе бліскаюць зоркі. Паветра дыхае лёгкімі хвалямі ветрыка. Здалёку даносяцца гукі духавога аркестра, што грае ў гарадскім садзе... Яму так хочацца туды, адкуль чуюцца гэтыя гукі. Яму так хочацца сесці пад дрымотным дрэвам і глядзець на люстраное возера, што знаходзіцца пасярод сада, глядзець, як катаюцца людзі на лодках і, можа, самому пакатацца.

Шоламу хочацца пайсці ў сад, але ён „сын свайго бацькі“, ён павінен вучыцца, ён не павінен паддавацца „йейцер-хорэ“—злому духу.

„Нельга ісці ў цырк,—гэта ўсёроўна што служыць балванам“—пагражае Шоламу сваім хударлявым пальцам аскетычны „йейцер-тойв“—добры дух.

І ў душы здольнага хлопчыка пачынаецца ўнутраная барацьба.

Хутка знаходзяцца такія, што дапамагаюць Шоламу вызваліцца з-пад улады застарэлых яўрэйскіх аўтарытэтаў. І нават ад аўтарытэта яго бацькі.

У Перэяславе, у хаце свайго бацькі, сустрэў Шолам двух людзей, якіх у Варонцы ён ніколі не меў магчымасці бачыць. Адзін з іх быў калектар,—літвак, „асветнік“, які з вялікай павагай адносіўся да гебрэйскіх паэтаў і пісьменнікаў эпохі асветніцтва. Гэты госць яго бацькі нямала спрыяў таму, што Шолам яшчэ ў дзяцінстве пазнаёміўся з лепшымі літаратурнымі творамі гаскалы¹) на гебрэйскай мове.

Другі, які таксама ўплываў на развіццё малага Шолама, быў Арнольд з Підворкаў. Ад яго даведаўся Шолам, што апавяданні з біблііі, якія ён лічыў раней сапраўднымі падзеямі, з'яўляюцца не больш як міфалагічнымі стварэннямі, прадуктам фантазіі чалавека, слаба ўзброенага тэхнікай і ведамі, не здольнага яшчэ падпарадкаваць сабе навакольную прыроду.

У Перэяславе даведаўся ён, што акрамя хейдэра²) ёсць і свецкія школы для дзяцей і што там можна вучыцца і атрымаць адукацыю. Ён даведаўся, што вучоным лічыцца той, хто атрымаў свецкую адукацыю. Але Шолам усё яшчэ хадзіў у хейдэр, нават і ў

¹) Эпоха асветніцтва.
²) Яўрэйская пачатковая рэлігійная школа для дзяцей.

Перэяславе. Гэта цягнецца да таго часу, пакуль у жыцці Нохіма Рабіновіча і яго сямейства не выбухнула катастрофа.

Памерла маці Шолама, Хая-Эстэр. Яна памерла ад халеры ў часе эпідэміі 1872 года. Шоламу было тады трынаццаць год.

Нястача ў хаце Нохіма Рабіновіча зрабілася яшчэ больш моцнай, і Шолам з сваімі меншымі братамі і сёстрамі едзе на пэўны час у Бослаў да дзеда і бабкі, да бацькоў сваёй маці. У Бославе Шолам упершыню адчуў сябе лішнім і чужым. Не аднойчы даводзілася яму чуць, што ён есць замнога. Тым часам Нохім Рабіновіч ажаніўся ў другі раз. У Шолама з'явілася мачыха.

### Першы гумарыстычны твор

Ярмо, якое мачыха ўскінула на Шолама, было невыносным для яго вясёлага, жывога характара. Мачыха шчодра надзяляла дзяцей свайго мужа лупцоўкамі, галадам і праклёнамі. На праклёны мачыха была вялікім майстрам, мастаком. Яна лаяла іх рытмічна і з рыфмамі. Гэткая „творчасць“ мачыхі яшчэ больш пагарджала і прыгнятала дзіцячае сэрца Шолама, чым лупцоўкі, з якімі яна яго пазнаёміла.

Для будучага геніяльнага яўрэйскага гумарыста праклёны мачыхі былі крыніцай камізма. І вельмі часта Шолам пераймаў, як яна вымаўляе свае праклёны. Ён не меў смеласці перакрыўліваць яе, але хутка знайшоў сродак, як абсмяяць яе праклёны зусім на новы лад.

Шолам пачынае прымітыўным дзіцячым спосабам ужываць да сваёй мачыхі сродкі сваёй будучай, шчаслівай літаратурнай кар'еры.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Была ўжо позняя ноч. У заезным доме ўсе спалі. У залі ходзіць Нохім Рабіновіч, заклаўшы рукі назад, зморшчыўшы свой жоўты лоб і аб нечым думае. Дзеці ўжо даўно паснулі, толькі Шолам сядзіць за сталом, нешта піша і перапісвае.

З пакояў для гасцей чуецца хроп. Часам нават чуюцца горкія ўздыхі і вохканне. Гэта былі хворыя госці, якія прыязджалі з блізкіх да Перэяслава мястэчак да доктара. Глыбокі ўздых і моцны выгук перапынілі думкі Нохіма Рабіновіча. Ён спыніўся. Ён успомніў тыя ўздыхі, што чуліся каля году назад у гэтым самым пакоі, калі памірала яго хворая жонка Хая-Эстэр, і кінуў погляд на Шолама. Хлопчык быў так падобны на маці.

Нохім Рабіновіч быў вельмі задаволены тым, што Шолам не такі, як усе іншыя яго дзеці, што ён гэтак любіць пісаць і мае такі добры почырк. Ён падышоў паглядзець, што піша Шолам, тварык якога гэтак нагадвае яму кожны дзень нябожчыцу жонку Хаю-Эстэр.

І Нохім Рабіновіч убачыў даўгія радкі, а насупроць іх, на той самай паперы, цэлыя слупкі слоў. Гэта складаў Шолам слоўнік праклёнаў сваёй мачыхі. Ён запісваў, як адказвае мачыха праклёнамі ў рыфмах на запытанні яго і іншых дзяцей. Шмат ужо запісаў ён у свой слоўнік, які быў складзены па алфавіту.

І Нохім Рабіновіч прачытаў:

Аднесці—каб цябе аднеслі на могілкі.
Вынесці—каб цябе вынеслі мёртвым.
Есці—каб цябе елі чэрві.
Насіць—каб цябе неслі на руках.
Прынасіць—каб цябе прынеслі хворым.
Пісаць—каб табе пісалі рацэпты.

От такі слоўнік склаў Шолам для кпінаў з сваёй нядобрай мачыхі.

Нохім Рабіновіч узяў першы гумарыстычны твор Шолама і выйшаў.

Усю ноч не спаў Шолам, яму здавалася, што вось кідаецца да яго мачыха, вось адкрываецца яе рот і абсыпае яго новымі праклёнамі, вось выскаляе яна зубы, пагражае кулакамі і гоніцца за ім.

У такой абстаноўцы рос малы Шолам. Заўсёды ў сполаху, заўсёды ў знявазе з боку мачыхі... Але ён ужо ў дзіцячыя гады знайшоў з кім дзяліць сваю адзіноту. Гэта была яго, хаця і дзіцячая, але моцная творчая энергія. Ён знайшоў сродак, як унікаць суму і смутку, які панаваў у збяднелым доме яго бацькі. Гэта быў народны гумар.

Слоўнік праклёнаў мачыхі быў першым яго дзіцячым творам на яўрэйскай мове.

Шолам напісаў таксама ў дзяцінстве лірычную паэму на гебрэйскай мове, у якой ён пераймаў гебрэйскага раманіста XIX стагоддзя Мапу.

## Шолам вучыцца рускай мове

Вечар. За сталом сядзяць два добрыя прыяцелі Нохіма Рабіновіча з Перэяслаўскіх жыхароў.

Днём у іх не было часу пагутарыць адносна артыкула Мойшэ-Лэйба Ліліенблюма, надрукаванага ў дзесятым нумары „Гамейліц“ за 1873 год. Яны выпісваюць „Гамейліц“ у хаўрусе з Нохімам Рабіновічам. „Гамейліц“ прыходзіць па адрасу аднаго з двух. Першыя некалькі дзён яны чытаюць газету самі, а ў суботу прыносяць яе Нохіму Рабіновічу. У яго застаюцца ўсе нумары газеты. Ён збірае іх за ўвесь год і потым пераплятае.

— Вы разумееце! Канец свету! Усе яўрэі, і асабліва літвакі, павінны выехаць кудысьці за мора, шукаць хлеба ў Амерыцы!— гаворыць малады чалавек з круглай, падстрыжанай бародкай, у даўгім альпаговым сюртуце да кален і з падкручанымі назад пейсамі. А што ён яшчэ кажа? Ён кажа, што ёсць нібыта сродак супроць голаду: трэба вучыць дзяцей рамяству. Цяпер я пытаюся ў вас, рэб Нохім, вы-ж чалавек разумны, ну, рамяство дык рамяство. Але-ж ці можна ўсіх яўрэяў зрабіць рамеснікамі, пытаюся я? Вось, напрыклад, ваш хлопчык. Удалы хлопец, ён мае свой шлях і будзе, мусіць, здольным чалавекам. У яго прыгожы почырк і ён добра валодзе мовай...

Ён паказаў на Шолама, які сядзеў за сталом і займаўся вывучэннем рускай мовы. Нохім Рабіновіч і госці зірнулі на Шолама. Той старанна выпісваў рускія літары, цалкам захоплены сваім пісаннем.

Каторы ўжо раз перапісвае Шолам з яўрэйскага падручніка рускай мовы. „Талмуд лешон русія“—узор пісьмовай заявы, у якой купец просіць аб дазволе прыняць удзел у таргах. Цяпер ён пачаў у другі раз перапісваць пісьмо, у якім нехта суцяшае свайго сябра:

— Мілостивый государь!

Мнѣ такъ чувствительна печаль Ваша, что я даже не въ состоянии утъшать Вас... Что касается до моей дружбы, то всегда могу увърить въ ея неизменности. Съ искренним почтениемъ къ Вам есмь ваш...

— Дай паглядзець, што ты там напісаў?—звярнуўся да Шолама малады чалавек з круглай чорнай бародкай. Ён узяў ад Шолама паперу і пачаў чытаць наўслых. Пры гэтым ён стараўся так цвёрда вымаўляць рускае „р“, як вымаўляе пісьманосец, які прыносіць яму „Гамейліц“ у хату і гаворыць дзякуючы за пяць капеек: „благодарю покор-р-р-но“.

— Ах, як прыгожа! Гэта—мова! Ну, ведама, гэта-ж напісаў сам Шмуел-Ізэф Фін. Не хлапчук які-небудзь, а настаўнік Віленскай равінскай школы, выдатны стыліст, рэдактар „Гакармел“!

— Не ведаю я, што мне з ім рабіць?—сказаў, уздыхнуўшы, Нохім Рабіновіч.—Ён ужо разумее не горш, чым Берл-пісар, які навучае па-руску.

Дзверы адчыніліся і ў хату ўвайшоў малады чалавек нізкага росту, па-еўрапейску апрануты. На ім быў кароткі пінжак і манішка з гальштукам. Ён не насіў пейсы і з-пад яго вуснаў тырчэў трохкутнік маленькай, гладка падстрыжанай рыжай бародкі.

— Ша, от ён скажа нам, што рабіць з хлапцом. Хай скажа Арнольд,—гаворыць малады чалавек з круглай чорнай бародкай.

Гэта прышоў да Нохіма Рабіновіча Арнольд з Підваркаў, Перэяслаўскага фарштату.

„Пра Арнольда з Підваркаў кажуць, што ён піша ў газеты, і што ўсе жыхары горада, усёроўна яўрэі ці хрысціяне, баяцца, каб ён не апісаў іх у „Кіеўляніне“.

Арнольд з Підваркаў прачытаў пісьмо ад друга, перапісанае Шоламам з „Талмуд лешон русія“, скрывіў вусны і сказаў: „ерунда“. Маладому чалавеку з круглай чорнай бародкай стала крыўдна, што Арнольд зняважыў аўтарытэт такога выдатнага чалавека, як Шмуел-Іозеф Фін, рэдактар „Гакармел“.

— Хіба гэта кепская мова? Хіба Фін не ведае граматыкі, га? Чаго варты адно толькі „есмь ваш“!

— Няшчасныя ешыботнікі, аўтарыдакты, местачковыя рыторыкі, што вы маеце да хлопца! Ці мала гультаёў, абібокаў маем мы ў „Гамейліц“ і „Гакармел“? Паслухайце мяне, рэб Нохім, у вас добры хлопец, не трэба яго псаваць, аддайце яго лепш у павятовую школу.

„Дзіўны чалавек гэты Арнольд! Ён быў адным з частых гасцей

у Нохіма Рабіновіча, але яго прыход заўсёды адрозніваўся ад прыходу іншых „асветнікаў“. Ён прыходзіў не для адной толькі балбатні..., а заўсёды з кнігай, якую ніхто яшчэ не чытаў, або з газетай „Кіеўлянін“, або з патрабаваннямі да горада і да яго варацілаў. Шолам паважаў яго больш, чым іншых. Ён не адыходзіў ад яго, глядзеў яму проста ў твар і прыслухоўваўся да ўсяго, што гаварыў Арнольд з Підворкаў, бо гэта-ж Арнольд, які піша ў „Кіеўляніне“, ён не хоча сабе пэцкаць рукі. Навошта пэцкаць сабе рукі, калі пішаш у „Кіеўляніне“?.. Ён не адводзіць вочы ад Арнольда... Але-ж і язычок,—востры як брытва! Чорт пабяры! Ён гаворыць супроць бога і яго памазаніка! Смяецца з хасідаў, кпіць з „фанатыкаў“.—„Сумленным трэба быць, навошта нам набожнасць? Мы даруем вам вашу набожнасць, але-ж будзьце сумленнымі!“ Яго востры, атрутны смех гучыць далёкім водгуллем!“

— Я вам кажу! А калі ён пойдзе ў суботу ў павятовую школу?—звяртаецца Арнольд зноў да Нохіма Рабіновіча.

Мачыха, што сядзіць у другім пакоі і прыслухоўваецца да гутаркі гасцей у залі, не можа гэтага вытрымаць. Яна ўбягае ў залу і крычыць, засопшыся:

— Яшчэ чаго! толькі яму і не хапае, як ісці ў павятовую школу ды можа яшчэ класнікам зрабіцца. Хіба мала грошай каштуе папера? Цэлыя пуды паперы пераводзіць ён на сваю пісаніну, каб яму распісалі скуру! Дабро яму робяць! Ён і без таго ходзіць як гліняны балван, заўсёды задумлівы, разгублены, недапека! У яго ўсё наадварот. Калі кажаш яму: ідзі да Лейзер-Довіда за разынкамі, дык ён перапытвае: да Довід-Лейзера? У яго ўсё наадварот! Ідзі ўжо на вуліцу, пасядзі на лаўцы. Можа пастаялец едзе, цэлы дзень няма пастаяльцаў.

Шолам спрытна выбягае на вуліцу.

Госці астаюцца ў пакоі. Яны спрачаюцца з Арнольдам, які моцна абараняе артыкул Ліліенблюма ў „Гамейліц“ і сваю ўласную думку аб тым, што Шолама трэба аддаць у павятовую школу.

## Прынят у павятовую школу

Калектар і Арнольд з Підворкаў уздзейнічалі на Нохіма Рабіновіча, каб ён аддаў свайго сына Шолама ў рускую школу. Шчаслівы дзень прыёма ў Перэяслаўскую павятовую школу нарэшце надышоў.

Аднойчы Нохім Рабіновіч звярнуўся да Шолама і яго братоў:

— Я быў у „смотрителя“ павятовай школы, і ён згодзен прыняць вас у падрыхтоўчы клас.

Праз поўгадзіны Шолам з двума сваімі братамі сядзеў у падрыхтоўчым класе Перэяслаўскай школы. Гэта было ў 1874 годзе.

Спачатку Шолам адчуваў сябе ў школе дрэнна. Гэта была царская школа. Асноўнай задачай яе было русіфікаваць народы Украіны, зневажыць родную мову вучняў, звычаі і нацыянальныя асаблівасці іх народу. Для нехрысціянскіх дзяцей такія школы ставілі задачу не толькі русіфікаваць іх, але і хрысціць. Не ад-

нойчы здаралася так, што некаторыя яўрэйскія дзеці з Перэяслаўскай павятовай школы накіроўваліся адразу ў манастыр і больш ужо ніколі не вярталіся да сваіх бацькоў.

У Перэяслаўскай павятовай школе было вельмі мала яўрэйскіх дзяцей. І не аднойчы кпілі настаўнікі з кепскага рускага вымаўлення Шолама. Але пазней Шолам зрабіўся адным з лепшых вучняў школы і атрымаў нават стыпендыю.

У павятовай школе Шолам меў магчымасць вывучыць рускую мову. Веданне гэтай мовы адчыніла перад ім новы свет, які знаходзіўся па-за межамі абымшэлага, змрочнага свету царскай школы. Імкліва накінуўся ён на рускую літаратуру, якая ў тагачаснай школе нават і не выкладалася. Тры гады вучыўся Шолам у павятовай школе і на працягу гэтых трох год другую палову кожнага дня прысвячаў ён чытанню рускай літаратуры, класічнай і сучаснай. Чытаў ён таксама і гебрэйскую літаратуру, газеты і яўрэйска-рускія часопісы і зборнікі.

## Кніжка пра чыгунку

Калі Шолам чытаў шмат рускай і гебрэйскай літаратуры, дык затое аж да восемнаццаці год не бачыў ён ніводнай мастацкай кнігі на яўрэйскай мове.

У сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя яўрэйская літаратура дасягнула ўжо значнага развіцця. Яна налічвала ўжо шмат пісьменнікаў і паміж іх такіх, як Этынгер, Аксенфельд, Готлобер, Мендэле Мойхер-Сфорым, Гольдфадэн і інш. Але кнігі на яўрэйскай мове не карысталіся ў той час пашанай сярод вышэйшых колаў яўрэйскага грамадства. Асабліва мала былі яны распаўсюджаны ў Перэяславе, горадзе з вельмі нязначным у той час яўрэйскім насельніцтвам.

Яўрэйская кніга магла трапіць у Перэяслаў толькі выпадкова з пачкай рэлігійных кніг, якія друкаваліся ў сотнях тысяч экземпляраў у выдавецтве братоў Ром у Вільні. Гэта выдавецтва пачало ў той час друкаваць, паміж твораў рэлігійнай літаратуры, таксама і асобныя ананімныя гумарыстычныя кніжкі для народу. Большасць з гэтых кніжак мела клерыкальны характар, але паміж іх трапляліся і такія, у якіх высмейваўся клерыкалізм. З ліку гэтых кніжак варта ўспомніць капеечнае выданне „Іозеф Локш“—зборнік фальклорных навел з цэнтральнай камічнай фігурай равіна Іозефа Локша.

Сярод яўрэйскага насельніцтва распаўсюджваліся таксама ананімныя гумарыстычныя кніжкі з апавяданнямі пра чыгунку, тады яшчэ мала вядомую ў Расіі.

З гумарыстычнай літаратурай Шолам пазнаёміўся ўпершыню праз ананімныя кніжкі для народа.

Доўгімі зімовымі вечарамі збіраліся ў заезным доме Нохіма Рабіновіча яго сябры.

Спачатку гулялі ў шахматы, потым гаспадар чытаў звычайна гумарыстычныя фальклорныя кніжкі, а слухачы трымаліся за бакі і качаліся ад рогату. Сваё задавальненне яны выяўлялі тым, што дабрадушна, па-сяброўску лаялі аўтара: „от, гультай! от, байструк! от, гарэза!“

Па гэтых кніжках, што Нохім Рабіновіч чытаў яшчэ ў Варонцы, упершыню пазнаёміўся Шолам з асноўнымі элементамі яўрэйскага народнага гумару, які ён знайшоў потым у „Мегале тэмірын“[1]) Перэля і гэтак па-майстэрску ўзняў у сваім „Тэўе Малочніку“. Гэта гумар макранічнай мовы, з гумарыстычным тлумачэннем тэкстаў біблії ў форме гутаркі двух глухіх.

Адна з ананімных фальклорных кніжак, пры дапамозе якіх Шолам-Алейхем пазнаёміўся ў дзяцінстве з яўрэйскім народным гумарам, мела такую назву:

„Другая чынука з Зорбінічы да Юркачы, напісана Хаімам Іоселес, столярам з Сакілена, першая частка, Жытомір 1874 г.“

Хаім Іоселес, столяр з Сакілена, гэта быў напэўна псеўданім нейкага вясёлага хлапца, асветніка, які напісаў гумарыстычную кніжку і пасароміўся падпісаць на ёй сваё імя.

Геніяльны гумарыст чуў, бясспрэчна, не аднойчы гэткія жарты знаёмых і сяброў свайго бацькі, але кніжка гэта ўпершыню паказала вучню перэяслаўскай павятовай школы, што ўсе гэтыя жарты і прыказкі, ад якіх качаліся ад смеху, могуць быць выкарыстаны не толькі вусна, але і для літаратурнага гумару.

І ў гэтай кніжцы, таксама як і ў другой кніжцы столяра з Сакілена пад назвай „Борух Шэпотрані“, убачыў Шолам-Алейхем, што „героямі“ кнігі могуць быць не толькі біблейскія Амнон і Тамара, але і людзі сучаснасці, маленькія чалавечкі з вузкім кругаглядам, напрыклад Файтл з Зладзіеўкі, Арн-Лемех Гоцэдрояўкер, Шымон-Файтл з Грубіянаўкі, Ошэр-Гімпл Шмаравоз, рэб Зайдл Траск, рэб Шмуел Фляск, рэб Екл Казак, Іцык Пак, Борух Дрэйдл, Арн Вейдл, Берл Нос, Бэндэт Барымалэ, Іцык Фасоль, Борух Бердэле, Іцхок Фердэле, Ёсл Гейер, Берл Дрэйер, Шмая Тайвл, Довід Зайдл, Екл Бекер, Аврэмл Лекер і інш.

### Баечнік

У заезным доме свайго бацькі Шолам-Алейхему даводзілася сустракацца не з адным баечнікам. Ён успрыняў там не мала жартаў, якія расказваліся ад імя вядомых яўрэйскіх народных блазнаў Гершэле Острапoлера і Шайкі Файфера. Яшчэ ў дзяцінстве сваім чуў ён усялякія „майсес“ і „гузмес“, „байкі“ і „небыліцы“ ад „лігнераў“ і „шакронім“, „хлусоў“ і „манюкоў“, што любілі апавядаць пра небывалыя здарэнні, якія нібыта сапраўды адбываліся з імі, апавядальнікамі фантастычных гісторый.

Апавядальнікамі такіх дзівосных гісторый былі амаль заўсёды яўрэі з Беларусі, якія ездзілі па сваіх справах па гарадах і мястэчках Украіны. Украінскія яўрэі называлі іх звычайна „літвакамі“.

У вялікім пакоі, у якім абедалі пастаяльцы і які называўся „залам“, сёння асабліва весела.

Позні вечар, гарыць вялікая лямпа, за сталом сядзяць пастаяльцы. Сядзіць таксама і Нохім Рабіновіч, бацька Шолама. Амаль усе старэйшыя дзеці сабраліся вакол стала. Усе голасна

[1]) Кніга ў эпістолярнай форме, пародыя на стыль хасідскай літаратуры.

смяюцца і нават мачыха Хана. Сёння яна таксама нешта ў лепшым настроі, чым заўсёды. Смяюцца ўсе з „літвака“, які сядзіць тут, гладзіць сваю доўгую бараду і апавядае ўсялякія „байкі“. Але сам ён ніколі не смяецца. Ён змаўкае, дае людзям высмяяцца як след, а сам, задумаўшыся крыху, вымае з сумкі тутун і павольна набівае тым часам люльку.

Калі рогат сунімаецца, „літвак“ ужо трымае ў роце турэцкі цыбук і дыміць, а потым раптоўна гаворыць:

— Гм, людзі, мабыць, думаюць, што гэта хлусня. Але-ж калі-б вы самі паспрабавалі гэтак паездзіць па свету, як я паездзіў, калі-б вы былі і на кані і пад канём, дык ведалі-б тады, якая гэта хлусня. А нарэшце,—дадае „літвак“,—хіба нельга часам і хлусіць? Можа вам гэта перашкодзіць у вашым гешэфце? Ці можа гэта вас зробіць няшчаснымі? От, пасмяяліся сабе крыху. А калі вы хочаце ведаць, дык гэта нават і хлуснёю назваць нельга: так сабе простая здань нейкая, фантазія.

І „літвак“ пачынае ўжо новую байку. Твар яго сур'ёзны і нават здаецца, што ён сам перажыў усе гэтыя „нябыліцы“, якія ён апавядае.

— Еду гэта я аднойчы ўзімку з Почэпа ў Пагар. Снег быў глыбокі, а мароз—пякучы. Каня я тады меў—агонь, д'ябал, маланка, а не конь. Еду гэта я, апрануты ў мядзвежую шубу, а мароз за нос бярэ. Уткнуўся я ў вялікі каўнер і пачаў драмаць. Аж раптам, падкінула мяне ўгару сажняў мусіць на дзесяць з саней у неба, вышэй за хвоі, а потым і зноў апынуўся я ў санях, ды зноў уверх. А конь ляціць—агнём гарыць. Падкідае мяне гэтак з саней уверх некалькі разоў сажняў на дзесяць—пятнаццаць: вышэй за хвоі. Гора-ж мне, што мне рабіць?

Зграя ваўкоў абкружыла сані, а конь, нябарака, круціць шыяй, б'е заднімі нагамі, іржэ, от зараз сканае.

Што мне рабіць з сваёй уласнай душою? Ды зноў такі каня шкада. Скідаю гэта я з сябе мядзвежую шубу, выпрагаю каня, саджуся на ім і тузам у жыта, якое расло паабапал дарогі.

Жыта было высокае, накшталт хвой, сажні на два-тры ў вышыню. Трасца, ваўкі нас убачылі. Кінуліся яны, тым часам, небаракі, на шубу і цягнуць яе па снягу. Ды, мабыць, не здолелі яе падзяліць вось і ўчапіліся адзін аднаму ў горла. А што вы скажаце? Ды згінь, яна гэтая шуба, за мяне і за каня.

Бурны рогат выбухнуў у пакоі.

— Як гэта можа быць, рэб Мордхе-Юда, якім гэта чынам апынулася высокае жыта ў полі зімою?—запытаўся нейкі асвечаны малады чалавек з адвечным катарам у носе.

— Чуеш, Лейзер, гэта я і сам не магу ўцяміць. Можа нам гэта класнікі растлумачаць па ўсіх правілах навукі-граматыкі.

„Літвак“ меў на ўвазе Шолама—класніка, з якім яму часта даводзілася гутарыць наконт планетнай сістэмы.

„Літвак“ даводзіў, што сонца круціцца навакол зямлі, а Шолам—наадварот, што зямля круціцца вакол сонца.

Людзі зноў засмяяліся і „літвак“ захапіўся яшчэ больш. Фан-

тазія яго разгулялася і ён пачаў цяпер апавядаць пра сілу свайго каня.

— Паслухайце,—сказаў „літвак",—што здарылася некалі з маім канём і як ён мяне выратаваў: Ехаў я аднойчы ад аднаго графа, каб скончыць з ім адну справу. Даведаўся я, што калі я не здолею ў той самы дзень прыехаць да графа, дык ён паедзе кудысьці і сам чорт яго тады не знойдзе. А між тым, да графскага двара было добрых сто міляў. Было гэта якраз тады, калі паставілі тэлеграф і слупы стаялі ўздоўж дарогі.

Сотня міляў... А я ведаю, што падвечар яго ўжо не застану ў хаце. Між тым было ужо за поўдня.

Спадзяюся я, зразумела, больш на бога, чым на каня. Але-ж ведаю, што не аднойчы выратоўваў мяне мой конь, дык, мабыць, выручыць ён мяне і ў гэты цяжкі час.

Кажу я тут сам сабе: Мордхе-Юда, досыць табе сядзець, склаўшы рукі, у павозцы. Бярыся як след за лейцы. Я ўзнімаюся, бяруся за пугу і ўзмахваю ёю ў паветры і сцёбаю па тэлеграфных слупах.

Але-ж і панёс тады мой конь,—агонь, маланка, а не конь. Я і раней ведаў, што гэта д'ябал, а не конь, але-ж усё-ж такі ніколі на такую спрытнасць не спадзяваўся.

Дык слухайце далей.

Конь бяжыць, а пуга—кліп-клап, кліп-клап, кліп-клап па слупах, нібы яны стаяць адзін ля аднаго. Дык што-ж вы сабе думаеце. Каля трэцяй гадзіны я ўжо быў у графа. Не забывайце—сто міляў гразкай дарогі. Куды варты пасля гэтага чыгункі з іхным світам у параўнанні з такім канём? І яшчэ адно—дзе знойдзеце вы цяпер такія коні? Хіба сярод пісьменнікаў гебрэйскіх газет, якія кажуць, што свет стаіць ужо хто ведае колькі мільёнаў год і што нібыта першы чалавек Адам і маці наша Ева былі зусім малпамі і што нібыта цыган вадзіў іх па кірмашах.

Гэта было накіравана адначасова і супроць Шолама і супроць Нохіма Рабіновіча і супроць Арнольда, бо яны часта вялі паміж сабой дыскусіі наконт паходжання свету і рода чалавечага, з чаго заўсёды кпіў стары „літвак".

От гэткія жартаўлівыя байкі блукалі ў сямідзесятых гадах па гарадах і мястэчках, выклікаючы смех і весялосць. Гэта былі крыніцы, з якіх чэрпаў Шолам-Алейхем народны гумар на яўрэйскай мове, пакуль ён не пазнаёміўся з яўрэйскай літаратурай.

## Сярод музыкантаў

Аднойчы, у летні дзень спынілася каля заезнага дома Нохіма Рабіновіча пара фурманак, з якіх выскачыла цэлая хэўра хлапцоў і дзяўчат—і хутка па ўсяму гораду распаўсюдзілася навіна, што прыехалі акторы з трупы Гольдфадэна, што яны будуць „іграць яўрэйскі тэатр".

У Перэяславе даўно ўжо чулі пра яўрэйскі тэатр. Цэлае лета гавораць пра яго, з таго часу, як пачалі прыходзіць пісьмы з Ру-

мыніі, дзе знаходзіўся тады галоўны штаб рускіх войск у вайне паміж Расіяй і Турцыяй.

Аднойчы прыехалі ў Перэяслаў купцы, што гандлявалі там на фронце. Яны расказвалі ў доме Нохіма Рабіновіча дзіўныя гісторыі пра спектаклі яўрэйскага тэатра ў румынскім горадзе Ясы. Шолам чуў нават, як адзін з іх вылаяў другога: „Ты-ж сапраўдны кунілема з гольдфадэнскага тэатра“.

Шоламу вельмі хацелася пабываць у гэтым тэатры. Ён ужо ведаў некалькі спеваў, якія пераняў ад перэяслаўцаў, што пабывалі ў Румыніі і ўласнымі вачыма бачылі яўрэйскі тэатр.

Тым большай радасцю з'явіўся для Шолама прыезд трупы актораў. Упершыню меў Шолам магчымасць пазнаёміцца з новай галіной народнай творчасці, да гэтага часу яму яшчэ невядомай.

На другі дзень, пасля таго як акторы прыехалі, у зямляную падлогу адной з вялікіх стадол укапалі цэлыя рады калод і прыбілі да іх дошкі.

Гэта былі лаўкі для гледачоў.

Да задняй сцяны стадолы прыбудавалі памост і павесілі перад ім заслону.

Гэта была сцэна.

Праз дзень пасля гэтага на гэтай сцэне ігралі ўжо п'есу Гольдфадэна „Шмендрык“, у якой высмейваўся адсталы пасесар-яўрэй і фанатычныя хасіды.

Ігралі ўсе акторы і аркестр з мясцовых музыкантаў.

З таго часу Шолам зрабіўся блізкім другам музыкантаў. Асабліва пасябраваў ён з музыкантам, якога звалі Бенца Безбародка. Гэта быў „яўрэй, які насіў кароткую капоту, падагнутыя пад шапку пейсы і выпрасаваны каўнер. Нос меў ён вялікі, нібыта прыклееный, губы таўстыя, зубы чорныя, твар у воспінах і без усякіх прызнакаў барады. Таму яго і празвалі—„Безбародко“. Жонку ён меў велізарную, і празвалі яе—„маці Ева“. Дзяцей яны мелі цэлы тузін з паловай, калі не болей. Абарваныя, напоўголыя і босыя, былі яны ўсе, ад старэйшых да самых малых, музыкантамі. Адзін іграў на скрыпцы, другі на альце, трэці на кантрабасе, чацверты на трубе, астатнія на флейце, на фагоце, на арфе, на цымбалах, на балалайцы, на барабане, на талерках. Былі сярод іх і такія, што маглі высвістваць складанейшыя матывы губамі, маглі іграць на зубах, на шклянках, на гаршчках, на кавалках дроў, нават на шчаках“.

Не праходзіла аніводнага дня, каб Шолам не быў у Безбародка. Ён зрабіўся не толькі яго блізкім другам, але і яго вучнем. Шолам ужо даўно марыў аб тым, каб вучыцца іграць на скрыпцы. Яму здавалася, што калі ён навучыцца іграць на скрыпцы, дык яму будзе значна лягчэй у жыцці. Скрыпка дапаможа яму ствараць тыя мелодыі, якія напаўняюць яго сэрца і якія ён спрабуе спяваць у сябе дома. Яго мелодыі нешта мала падобны, а мое і зусім непадобны на тыя, што чуе ён часта ад духавога аркестра ў гарадскім садзе. Яго мелодыі такія, якія ён любіць,—вясёлыя, але крыху прасякнутыя ціхай і кволай журбой.

Шолам вучыўся не толькі іграць на скрыпцы. Ён вывучаў

адначасова і жыццёвы побыт яўрэйскіх народных музыкантаў. Ад іх ён навучыўся ніколі, нават у самыя цяжкія часы, не траціць надзеі; ад іх навучыўся ён ненавідзець багатыроў; ад іх навучыўся ён любіць мастацтва.

— Без грошай таксама можна жыць! Можна быць добрым, прыстойным чалавекам і быць музыкантам. Што гэта за жыццё ў бедняка? Хто будзе гутарыць са мной з нашых фанабэрыстых гаспадароў, скажы мне? Ніхто... Але я маю з кім пагутарыць: з маёй скрыпкай. Варта толькі паднацісьнуць на струны, і з іх пальюцца ўсялякія, у большасці сумныя мелодыі.

Так казаў Шоламу музыкант Безбародка, чухаючы чырвоную пляму, якая засталася ад скрыпкі, і ніколі не выходзіла з яго шчакі.

Гутаркі з Безбародкам вельмі падабаліся маладому Шоламу Рабіновічу, які пачынаў ужо адчуваць сябе адзінокім у пераяслаўскім грамадстве.

— Трэба толькі мець да скрыпкі добрага музыканта, от хаця-б такога, як Стэмпеню з Бердычэва. Калі той браўся за смык, дык нават каменні слязьмі abліваліся—і Безбародко даваў загад сваім дзецям.

Аркестр пачынаў іграць уласную кампазіцыю Безбародко,— папуры з рознастайных рэчаў: яўрэйскіх, украінскіх, беларускіх і рускіх матываў. Гэта рабіла на Шолама вялікае ўражанне. Здзіўляла яго і мова музыкантаў. Яна складалася таксама з розных перакручаных слоў—яўрэйскіх, рускіх, гебрэйскіх і нават латынскіх.

— Чукальнік, вазьмі ў Шолама смалер і скачы за керай, хай будзе сёння берліяльніца. Не забудзь оржу купіць. Чуеш, нувосрэйхельнік?

Гэта значыць: Барабаншчык, вазьмі ў Шолама рубель і купі гарэлкі, будзе добрая вячэра. Недапека, не забудзь купіць штонебудзь для закускі.

Так крычаў Безбародко, звяртаючыся да малодшага хлапчука, што сядзеў з барабанам. Так было кожны дзень, пасля выканання „кампазіцыі“ Безбародкі.

Пасля гэтага пачыналася вячэра. Шолам, Безбародко і яго сямейства весяліліся, гутарылі на музыканцкім дыялекце і спявалі яўрэйскія народныя песні і песні з тэатра Гольдфадэна.

Шолам не зрабіўся скрыпачом. Але ён шмат успрыняў ад музыкантаў. Яны былі для яго таксама крыніцай народнай творчасці, крыніцай для яго гумару і для яго любові да народа. Ён успрыняў ад іх любоў да інструмента, да яўрэйскай народнай мовы, якая была зняважана яўрэйскай буржуазіяй таксама, як і народны музыкант з яго скрыпкай.

Потым, калі Шолам Рабіновіч зрабіўся славутым Шолэм-Алейхемам, яго заўсёды мучыў лёс блукаючых зорак, якія хоць і згубілі свой бляск у брудзе яўрэйскіх завулкаў, на сметніках яўрэйскага гэто, але усё-ж такі весялілі і ўтончвалі пачуцці яўрэйскай беднаты.

## На ростані

Прамінулі тры гады, і Шолам скончыў сваё навучанне ў павятовай школе. Гэта было ў 1877 годзе. Яму было тады 18 год. Цяпер перад Шоламам паўстала пытанне: што рабіць?

Курс навучання ў павятовай школе быў менш за тры класы гімназіі. З пасведчаннем павятовай школы ў гімназію трапіць нельга. Павятовая школа рыхтуе толькі другарадных чыноўнікаў для дробных канцылярый. Задача гэтай школы заключалася ў культываванні пагарды і знявагі да ўласнай культуры і пашаны да рэакцыйных элементаў культуры пануючай нацыі.

Шолам апынуўся на поўдарозе.

Мары аб сканчэнні гімназіі, аб паступленні ва універсітэт з тым, каб зрабіцца доктарам, хутка рассеяліся. Але ёсць дарога, якая адкрываецца пасля павятовай школы перад бедным яўрэйскім інтэлігентам. Гэта—шлях прыватнага настаўніка, даваць урокі тут, у Перэяславе, або ехаць у мястэчка ці ў вёску на „кандыцыю".

Але ёсць і яшчэ адна дарога: паступіць у настаўніцкі інстытут для яўрэяў, дзе падрыхтоўваюцца настаўнікі для русіфікацыйных казённых яўрэйскіх школ. Гэта была ўстанова, дзе выхоўваліся русіфікатары яўрэйскага насельніцтва ў царскай Расіі.

Пачынаючы з 1873 года ў Расіі існавалі два такіх інстытуты. Адзін у Житоміры, другі ў Вільне. На чале гэтых устаноў стаялі самыя заўзятыя рэакцыянеры.

Шолам пасылае заяву ў Житомірскі настаўніцкі інстытут. Кар'ера настаўніка ў яўрэйскай казённай школе бясконца імпаніравала Нохіму Рабіновічу і яго прыяцелям.

Шоламу таксама вельмі хацелася быць настаўнікам. Ён будзе настаўнікам, ён будзе пашыраць асвету сярод бядняцкіх мас.

Ён не дапусціць, каб дзеці яўрэйскай беднаты хадзілі ў талмудтору, у хейдэр. Ён будзе вучыць іх карысным ведам.

Але хутка атрымлівае ён адказ ад інспектара Житомірскага інстытута. У гэтым адказе паведамлялася, што з прычыны свайго ўзросту ён не можа быць прыняты ў інстытут, для гэтага патрэбна быць маладзейшым.

Такім чынам Шолам апынуўся на ростані. Надзеі яго разбіліся, ён прымушаны стаць прыватным настаўнікам.

Ён ездзіць па розных мястэчках і дае ўрокі, пакуль, нарэшце, яго не запрашаюць у якасці настаўніка да арэндатара графскага маёнтка, Элімелаха Лоева.

## У Сафіеўцы

У Сафіеўцы, маёнтку, які арэндаваў Элімелах Лоеў, пачалося для Шолама новае жыццё, жыццё без турбот. Пасля першых цяжкіх „кандыцый", калі Шоламу не аднойчы даводзілася галадаваць і цярпець зняваγу, ён знайшоў у Сафіеўцы сапраўднае шчасце.

Тут, у Сафіеўцы, быў заключаны адвечны саюз паміж вясёлым настаўнікам-фантазёрам Саламонам Рабіновічам і вучаніцай Ольгай Лоевай, яго будучай жонкай.

На працягу трыццаці год ішла яна разам з ім, рука аб руку, натхняючы яго ў творчасці, дапамагаючы яму ў цяжкія хвіліны, якія даводзілася перажываць яўрэйскаму пісьменніку ў царскай Расіі.

Два гады быў Саламон Рабіновіч настаўнікам у маёнтку Элімелаха Лоева. Гэта быў тыповы прадстаўнік новай яўрэйскай буржуазіі, якая ўзнялася ў сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя. Ён стараўся быць падобным на рускага магната, пераймаў пана, але адначасова заставаўся верным разліковасці і беражлівасці яўрэйскага купца.

Ён ігнараваў яўрэйскі просты люд і яго побыт. Як і ўсе скорабагатнікі ён лічыў простых людзей гультаямі і абібокамі.

Ён быў з тых, пра якіх пісаў яўрэйскі паэт 60-х гадоў Гольдфадэн:

Гаворыць пра Спінозу,
А баіцца нячыстай сілы.

Ён чытаў літаратуру гаскалы на гебрэйскай мове, але ўспрыняў з яе толькі царысцкі патрыятызм.

Да настаўніка Саламона Рабіновіча Лоеў адносіўся з інтарэсам: Саломон Рабіновіч быў у яго, уласна кажучы, не толькі настаўнікам, але і карэспандэнтам у яго справах. Лоеў высока цаніў свайго настаўніка і служачага, які каштаваў яму танна. Ён цікавіўся жыццём Саламона Рабіновіча, ён вызваліў яго ад прызыву у царскую армію. Але, калі Элімелах Лоеў даведаўся, што бедны настаўнік і служачы кахае яго адзіную дачку, ён яго адразу выгнаў з дому, паказаўшы гэтым розніцу паміж багатым і бедным.

Аднойчы, калі Саламон Рабіновіч сядзеў у сваім пакоі і чытаў кнігу, да яго ўвайшоў фурман Лоева. Ён перадаў настаўніку пакет. У пакеце не было нічога, акрамя грошай. Але фурман прапанаваў яму ад імя гаспадара скласці рэчы і выйсці на двор.

На двары стаяла пара коней, запрэжаная ў сані. Гэта значыла, што гаспадар Лоеў выганяў яго з дому.

Залатое сонца асвятляла стэп. Коні шпарка ляцелі па бліскучых, аснежаных прасторах. Кавалкі снегу пырскалі з-пад капыт. У вачах мітусіла. Крыўда ціснула сэрца.

Вецер заходзіўся плачам, і гэты плач гнаў і гнаў далей коней з санямі, у якіх сядзеў пакрыўджаны настаўнік Саламон Рабіновіч.

Коні ляцяць, звіняць бомы, свеціць сонца, а вецер плача нібы адзінокае дзіця, што блукае ў бездарожжы сярод стэпавых прастораў. І ў вушах Шолама гучыць сумная песня геніяльнага украінскага песняра Тараса Шэўчэнка:

Віюць вітры, віюць буйни,
Аж дэрэва гнуцця;
Ой, як боліць сэрца моє,
Аж слёзи ліюцця.

## Казённы равін у Лубнах

Праз некаторы час, пасля вандравання па розных мястэчках, спыніўся Шолам у Кіеве. Тут адчуў ён смак паліцэйскіх аблаў на яўрэяў, якія не карысталіся правам на жыхарства ў Кіеве.

Праблукаўшы пэўны час у дарэмных пошуках пратэкцыі сярод кіеўскіх маскілістаў—яўрэйскіх асветнікаў і пісьменнікаў, Саламон Рабіновіч канчаткова заблытаўся.

Становішча яго было вельмі цяжкім. Выхаваны на лепшых творах рускай літаратуры і на лепшых традыцыях яўрэйскага асветніцтва, ён не знаходзіў цяпер сабе выхада. Прайшоў некаторы час і Шолам-Алейхем прымушаны быў апрануць маску царскага чыноўніка і пасрэдніка паміж богам і людзьмі. Ён прымае пасаду казённага равіна ў горадзе Лубны, Палтаўскай губерні.

Было гэта ў канцы 1880 года.

Яму здавалася спачатку, што гэткім шляхам, пры дапамозе сваёй пасады, здолее ён спрыяць палепшанню становішча яўрэйскіх народных мас. Але ён хутка пераканаўся ў тым, наколькі адмоўнай была яго роля. Ён убачыў, што яго прамовы адносна пакутаў яўрэйскіх народных мас у колах буйнай гарадской буржуазіі ўспрыймаліся без аніякага інтарэса. Яму адказвалі толькі штучнымі ўздыхамі. Якія-б справы не рабіў ён, каб дапамагчы яўрэйскай беднаце, заўсёды яны не ўдаваліся, ды з боку народных мас ён таксама не меў належнага давер'я. Яны не маглі давяраць чыноўніку крывавага царызма.

Нарэшце Шолам-Алейхем пакінуў сваё равінства і адмовіўся ад сваіх спроб быць хадайнікам яўрэйскіх мас перад буржуазіяй і царскай паліцыяй.

### Першыя артыкулы

Да гэтага часу належаць першыя друкаваныя артыкулы Шолам-Алейхема. У 1881 годзе Шолам-Алейхем надрукаваў у пецербургскай гебрэйскай газеце „Гамейліц“ артыкул адносна выхавання дзяцей. Нават і гэты артыкул носіць гэткую самую буржуазна-клерыкальную выпраўку, як і ўсе іншыя артыкулы ў гэтай газеце, напісаныя равінамі.

Але і тут ужо можна пазнаць будучага Шолам-Алейхема з яго любоўю да прыгнечаных, да збяднелых яўрэйскіх народных мас. Ужо тут выяўляецца яго ненавісць да паводзін яўрэйскай буржуазіі, з яе прагнасцю да знадворнага бляску.

У сваім артыкуле Шолам-Алейхем піша пра багатыра, які выдаткаваў шмат грошай на пабудову і аздабленне сінагогі: „Было-б куды лепш, калі-б гэтыя грошы былі выкарыстаны для пабудовы ўзорных школ і кухняў для бедных дзяцей“.

Пад гэтым артыкулам Шолам-Алейхем падпісаўся яшчэ: казённы равін Шолам Рабіновіч.

### Зноў сустрэліся

Два гады падрад пісаў Саламон Рабіновіч пісьмы да сваёй каханай Ольгі Лоевай, а яна нават і не ведала, што Саламон піша ёй пісьмы. Яна не ведала, што служачы бліжэйшай паштовай станцыі перадае гэтыя пісьмы бацьку яе, Элімелаху Лоеву, а той, прачытаўшы, плюецца са злосці, рве іх на кавалкі і выкідае.

Не ведала яна таксама і таго, што служачы пошты часта сам знішчае пісьмы і нават не перадае іх бацьку.

Асабістае жыццё Шолам-Алейхема ў Лубнах было цяжкім. Спачатку, таксама як і Іоселе Салавей, таленавіты герой яго аднайменнага рамана, захапіўся ён сваімі мнімымі поспехамі ў гарадку, дзе ён быў равінам.

Але надышоў 1883 год, Саламон Рабіновіч зноў выпадкова сустрэўся з Ольгай Лоевай. На гэты раз ніхто не здолеў іх разлучыць і яны засталіся разам назаўсёды.

## У ланцугах гандлёвай мітусні

З 1884 года Шолам-Алейхем жыве ў горадзе Белая-Царква, які быў яму даўно знаёмы. Яму давялося там пражыць некаторы час пасля таго, як арэндатар Элімелах Лоеў выгнаў яго з свайго дому. Ён быў тады сакратаром у аднаго прыватнага адваката. У Белай-Царкве ён ужо з таго часу меў шмат знаёмых. Там добра помнілі яго, вясёлага, дабрадушнага Саламона Рабіновіча, бліскучага апавядальніка, які гэтак удала пераймаў розныя сцэнкі і тыпы. Цяпер ён ужо быў супрацоўнікам газеты „Фольксблат“. Цяпер ён ужо надрукаваў некалькі апавяданняў і вершаў. Тагочасныя пісьменнікі ўскладалі на яго вялікія надзеі. Цяпер ён адзін з самых значных людзей у Белай-Царкве.

Але яўрэйская літаратура ў канцы васьмідзесятых гадоў не магла матэрыяльна забяспечыць пісьменніка і ў дадатак да літаратурнай дзейнасці пісьменнік павінен быў мець пабочную прафесію і займацца справамі, якія давалі яму матэрыяльны прыбытак.

Капіталістычная сістэма, бяспраўе яўрэйскіх мас уздзелі на юнака Шолам-Алейхема ланцугі гандля, таксама як і на шмат каго з перадавых яўрэйскіх інтэлігентаў таго часу. Гэта значна перашкаджала літаратурнай дзейнасці Шолам-Алейхема, бо на працягу доўгага часу асноўным заняткам яго заставаўся гандаль.

На шырокім базарным пляцу ў Белай-Царкве, насупраць аптэкі, паміж біржавых маклераў з парасонамі пад пахай, у старых злінялых капелюшах на галаве, круціўся і нізкарослы, жвавы і белакуры Саламон Рабіновіч.

Апрануты быў ён інакш, чым усе астатнія маклеры: пелярына вісела на яго плячах, твар яго не быў заклапочаны, фігура яго не выглядала яшчэ такой паветравай, як фігура яго будучага класічнага вобраза Менахем-Мендэля. Але яго сінія вочы былі крыху затуманены і шукалі чагосьці праз пенснэ.

Ён быў як дзіця, што трапіла ў палон да чужых.

Так праходзіў цэлы дзень у мітусні і ў тлуме гандлю, у паветравых палацах. Надыходзіў вечар, біржавыя гандляры і маклеры пакідалі пляц і як крумкачы разляталіся па сваіх хатах.

Дзве асобы змагаліся тады ў душы Шолам-Алейхема: Саламон Рабіновіч—гандляр, біржавы маклер, і Шолам-Алейхем—мастак, пісьменнік. Саламону Рабіновічу належыў дзень, Шолам-Алейхему—вечар і ноч.

Вечар знаходзіўся цалкам у распараджэнні Шолам-Алейхема. Туман знікаў з яго вачэй. Тады Шолам-Алейхем адчуваў сябе вызваленым ад ланцугоў гандлёвай мітусні. Яго позірк імкнуўся за межы Белай-Царквы, да фарштата „Грузія“.

І ўсе, яны маклеры біржы, сёння самаўпэўненыя, а заўтра прыніжаныя і запрацаваныя, галодныя, раззлаваныя людзі з фарштату „Грузія“ станавілася перад ім у чараду, малыя і вялікія, старыя і маладыя, і крычалі: апішы нас перад светам.

Гэта былі вобразы не толькі Белай-Царквы і „Грузіі“, Перэяслава і „Підворкаў“, Бердычава і „Пяскоў“,—гэта былі вобразы яўрэйскай народнай масы ў былой Расійскай імперыі. Перад яго вачыма луналі вобразы яўрэйскай дробнай буржуазіі і беднаты, прыціснутай капіталізмам, бяспраўем і царскімі рэпрэсіямі.

## Супроць юнага Шолам-Алейхема і супроць гумару

Цяжкія дні пагромаў у васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя спынілі адну з крыніц яўрэйскай народнай творчасці—дасціпны смех, які заўсёды струменіў у яўрэйскіх народных масах. Затое ўзмацніўся струмень народнай лірыкі, прасякнутай плачам і журбой.

Ужо тады з'явіўся ў яўрэйскай народнай творчасці новы струмень--струмень рэволюцыйнай барацьбы. Але ён быў яшчэ малады і не вёў яшчэ за сабою шырокія пласты яўрэйскага народу.

На рагах вуліцы, на базарах, ад яўрэйскіх народных песняроў можна было чуць толькі сумныя спевы пра крывавыя падзеі, пра здзекі з яўрэйскіх народных мас у былой „черте оседлости“ Расійскай імперыі.

У яўрэйскім буржуазным друку панавалі тады сум і нуда.

І раптам з'яўляецца ў друку нейкая вясёлая асоба, што піша фельетоны і падпісваецца дзіўнымі, дагэтуль ніколі не чутнымі псеўданімамі: „Гамліэль бен Педоцур“, „Барон Піпернотэр“. Яго фельетоны, прасякнутыя кпінамі і смехам, апавядалі пра нейкага цікавага персанажа, пра „байструка, свавольніка, гарэзу, валацугу, басяка“.

А носіць гэты „басяк“ таксама нейкае нечуванае імя—„Шолам-Алейхем“.

Ён апавядае, гэты Шолам-Алейхем, надзвычайна вясёлыя байкі пра „той свет“. Ён кажа, што „на тым свеце“ караюць скупых і багатых набожнікаў, што іх пякуць і смажуць на гарачых каменнях у пекле, а людзей не набожных ён абвяшчае сумленнымі і пакідае іх у раі. Ён кпіць і смяецца з жыцця, яно яму не падабаецца і ён мае нахабнасць сцвярджаць, што „яўрэі ніколі яшчэ так сумна не жылі, як зараз“, што „яўрэйскае жыццё ніколі яшчэ не было такім пустым, такім сумным“.

Яўрэйская буржуазная інтэлігенцыя цярпець не магла гэту вясёлую асобу з дзіўнымі псеўданімамі і з яе цікавым Шолам-Алейхемам. Яна не любіла яго за тое, што ён бачыць усё і расказвае пра гэта чытачу, за тое, што ён забаўляе чытача і прымушае яго смяяцца.

Пісьменнікі з буржуазна-клерыкальнай газеты „Дос ідышэ фольксблат“, адзінай газеты на яўрэйскай мове ў васьмідзесятых гадах былой Расійскай імперыі, імкнуліся адцягнуць яўрэйскія народныя масы ад барацьбы. Пакуты яўрэйскага працоўнага люду яны спрабавалі патапіць у моры слёз. Яны стараліся задушыць у яўрэйскіх масах усякае пачуццё ўласнай годнасці, усякае імкненне да смеха, да весялосці. Вось чаму называлі яны маладога народнага гумарыста Шолам-Алейхема „блазнам“, а творы яго—„блазнотамі“.

У 1884 годзе Шолам-Алейхем адчуў, што паміж ім і яго чытачамі спрабуюць узвесці сцяну.

Газета „Дос ідышэ фольксблат“ абвяшчае гумар танным гатункам літаратуры і Шолам-Алейхем выступае з абаронай свайго любімага жанра.

„Як-жа гэта так? Гвалт, у такі час... у такі час, калі супроць яўрэяў арганізуюцца пагромы!.. Няўжо ты ў такі час не можаш пісаць пра сур'ёзныя рэчы?“—пытаецца Шолам-Алейхем, нібы сур'ёзна, у самога сябе. І адказвае: „Яўрэйскі чытач зусім і не думае, што пісаць сатыру і гумар трэба таксама ўмець. Яўрэй і не называе гэта сатырай, для яго гэта не больш як „кпіць“, „абсмейваць“, „блазнаваць““.

Нямала энергіі каштавала маладому Шолам-Алейхему, каб растлумачыць, што гумар не абавязкова павінен быць звязаны з кпінамі, што гумарыст імкнецца да выпраўлення, да палепшання, што смех яго часта прасякнуты слязамі за пакутных людзей, якія з прычыны свайго цяжкага палітычнага і эканамічнага становішча трапляюць часам у камічныя сітуацыі.

І Шолам-Алейхем у гады свайго супрацоўніцтва ў газеце „Дос ідышэ фольксблат“ лічыў неабходным час ад часу заяўляць чытачу, што смех яго непарыўна звязаны з плачам.

## Літаратурныя планы

Вузкім і сумным рабілася для Шолам-Алейхема жыццё ў Белай-Царкве. Тут ён не мог ажыццявіць сваіх літаратурных планаў. Вось ужо некалькі год, як насіцца ён з планам выдаваць літаратурныя зборнікі. Ён ужо нават склаў цэлы спіс пісьменнікаў, якіх ён запросіць для супрацоўніцтва ў сваім будучым выданні. Ён запросіць тых пісьменнікаў, якія былі яму блізкія тады, калі ён сам яшчэ быў толькі чытачом.

Гэта былі тыя пісьменнікі, якія яшчэ ў шасцідзесятых і сямідзесятых гадах не саромеліся пісаць па-яўрэйску, не саромеліся маляваць у сатырычным выглядзе рэлігійных крывадушнікаў, ствараць вобразы занядбаных, прыгнечаных яўрэйскіх мас, падбадзёрваць гэтыя масы і суцяшаць іх у іхных пакутах.

У свой зборнік ён запросіць толькі тых пісьменнікаў, сэрца якіх баліць за бедную „бердычэўскую вуліцу“, за тую вуліцу, дзе ляжыць „смутак на ўсіх дамах. Дамах? Хіба гэта дамы? Хлявы, зямлянкі вільготныя, чорныя, халодныя, пакрытыя зямлёй, з вок-

намі, заткнутымі жоўтымі падушкамі, чырвонымі коўдрамі і чорнымі лахманамі".

Ён, Шолам-Алейхем, не хоча больш выступаць на старонках буржуазна-клерыкальнай газеты „Дос ідышэ фольксблат". Ён вызваліцца таксама ад біржы і ад залатых ланцугоў, уздзетых на яго талент.

Яго асяроддзем не з'яўляюцца белацаркоўскія „прыстойныя гаспадары" і местачковая буржуазная інтэлігенцыя. Яму абрыдла белацаркоўская нуда з адвечнымі плёткамі друг на друга. Ён хоча, каб яго набытак, які выпадкова трапіў яму ў рукі, быў выкарыстаны для літаратурнай дзейнасці. Няхай пойдзе гэты набытак на стварэнне і падтрымку маладой яўрэйскай літаратуры, такой літаратуры, якая-б асвятляла праблемы сучаснага жыцця, і якая-б малявала вобразы „бердычэўскай вуліцы". Пра гэтую вуліцу ён пісаў: „Вось гэта няшчасная, цёмная вуліца... дарагая, блізкая мне, яна адлюстравалася ў маім сэрцы як небарака, як сіротка, як няшчаснае, пакінутае дзіцё... Я люблю яе, бердычэўскую вуліцу, я люблю яе ад усёй душы, без мудрагельства, без кампліментаў, хаця не аднойчы даводзілася мне высмейваць яе і тыя дзікія прымхі і забабоны, што захаваліся толькі ў ёй".

Апрача таго, што ў Белай-Царкве ён не мог ажыццявіць свае літаратурныя планы, яму абрыдаў „Белацаркоўскі мурашнік". І гэты „мурашнік" Шолам-Алейхем рашыў пакінуць назаўсёды.

У той час апанавала ім хвароба, якая мучыла яго на працягу дзесяткаў год аж да самай смерці. У 1886 годзе Шолам-Алейхем паехаў лячыцца ў замежны курорт Карлсбад. Два месяцы прабыў ён за мяжою.

На курорце меў ён магчымасць наглядаць бесклапотнае, самазадаволенае баляванне яўрэйскай буржуазіі. У далейшым ён выкарыстаў гэта ў сваіх творах.

Пасля свайго звароту з-за мяжы Шолам-Алейхем спыняецца ў Кіеве.

## Шолам-Алейхем—крытык і рэдактар

Гады 1887—1888 былі ў творчасці маладога Шолам-Алейхема найбольш плённымі. У гэтыя гады ён спрабуе перацаніць свае літаратурныя каштоўнасці і пачынае глядзець на свае першыя творы, як на стварэнні яшчэ няспелыя і недасканалыя.

У гэтыя гады пачынаецца дзейнасць Шолам-Алейхема як крытыка, які смела ўзнімае ў яўрэйскай літаратуры сцяг рэалізма, таго рэалізма, прадстаўнікамі якога былі Мендэле Мойхер-Сфорым, Лінецкі і іншыя перадавыя пісьменнікі шасцідзесятых і сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя.

У імя рэалізма пачынае Шолам-Алейхем чысціць Аўгіевы стайні яўрэйскай літаратуры. І найбольш буйнай небяспекай для рэалізма ў яўрэйскай літаратуры быў тады Шомер.

Гэта быў, уласна кажучы, пісьменнік, які сваімі творамі ўсыпляў чытача, прыгнечанага матэрыяльнай і духоўнай беднасцю, палітычным і нацыянальным бяспраўем пры царызме. У сваіх творах Шомер прапаведваў неабходнасць прымірыцца з гэтай

беднасцю, схіліцца перад непрыглядчай рэчаіснасцю і заўсёды пасіўна чакаць цуда, калі раптам, нібы ў казцы, які-небудзь бедны кравец ці шавец- зробіцца графам, або якім-небудзь іншым магнатам.

Шолам-Алейхем напісаў крытычную працу пад назвай „Суд над Шомерам“. Твор гэты напісан у драматычнай форме. Шомер і кампанія выступаюць у якасці абвінавачаных перад судом. Шолам-Алейхем абвінавачвае Шомера і яго пераймальнікаў у тым, што яны скажаюць у сваіх творах рэчаіснасць.

„Добра ўсё тое, што праўдзіва, рэальна,—піша Шолам-Алейхем у „Судзе над Шомерам“:—Гэтага патрабуе эстэтыка, паэзія, мастацтва. Толькі так трэба пісаць і апісваць. Кожны белетрыст павінен даваць у сваім рамане толькі тое, што магчыма, што сапраўды здараецца ці можа здарыцца ў жыцці“.

Вось у чым заключаўся асноўны мастацкі прынцып Шолам-Алейхема—апісываць толькі тое, „што магчыма, што сапраўды здараецца ці можа здарыцца ў жыцці“.

Супроць пустых, дзікіх, выдуманых баек, якія ў сапраўднасці ніколі не могуць здарыцца, супроць папоўшчыны ў мастацтве заўсёды змагаўся Шолам-Алейхем як мастак і як крытык.

Ён быў адзіным выдатным крытыкам канца васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Як крытык ён патрабаваў ад пісьменнікаў сапраўднага мастацтва. Ён патрабаваў ад іх рэалізма ў інтарэсах „шавецкай вуліцы“ з яе горам і радасцямі.

„Ага, шавецкая вуліца... Нашы арыстакраты забываюцца на тое, што сапраўдным асветнікам можа быць толькі той, хто блізкі да народу, хто ведае яго патрэбы, яго жыццё, і ўсё, чаго яму не хапае і што яму карысна“.

У імя барацьбы за тое, каб у літаратуры адлюстроўваліся запатрабаванні народу, змагаўся Шолам-Алейхем супроць шомерызма. Дзеля „шавецкай вуліцы“ змагаўся ён за рэалістычны раман у яўрэйскай літаратуры. Свае раманы „Стэмпеню“ і „Іоселе Салавей“ назваў ён „Яўрэйскімі раманамі“.

Можа Шолам-Алейхем хацеў сказаць гэтай прыпіскай, што лепшыя традыцыі сусветнай літаратуры не прыймальны для літаратуры яўрэйскай? Можа геніяльны яўрэйскі пісьменнік хацеў працягнуць у сваіх раманах рэакцыйную легенду пра нібыта выбранасць яўрэйскага народа паміж усімі іншым народамі свету?

Не.

Шолам-Алейхем ніколі пра гэта і не думаў. Наадварот, ён часта выступаў супроць гэтага ў сваёй барацьбе з Шомерам і кампаніяй як крытык і мастак.

„Тое, што яўрэйскае жыццё мае свае асаблівасці,—з гэтым яны (крытыкі Шолам-Алейхема) усе згодны,—піша Шолам-Алейхем у сваім „Пісьме да друга“.—Дык чаму-ж не хочуць яны зразумець, што раман, у якім абмалёўваецца гэтае жыццё, павінен таксама мець свой асаблівы твар? Чаму не хочуць яны зразумець, што кожны раман павінен мець свой уласны выгляд, сваю ўласную фізіяномію для таго, каб мы маглі знайсці ў ім сапраўднае адлю-

страванне народнага жыцця, якое ў ім апісваецца, з яго характарамі, з яго своеадменнымі тыпамі?..“

І не дарма высмейвае Шолам-Алейхем у сваіх „яўрэйскіх раманах“ Шомера і яго кампанію, усіх тых, хто спрабаваў у сваіх брыдкіх творах усыпляць яўрэйскія масы неверагоднымі цудамі звышнатуральных сіл.

„У старых раманах пісьменнікі падбіралі для нас герояў,—піша Шолам-Алейхем,—або праз меру ўзвышаных, амаль ангелаў, або зусім нізкіх, дзікіх, амаль чарцей. Апрача таго гэтыя пісьменнікі дадавалі яшчэ фантазіі, выдумлялі тое, чаго ніколі быць не магло... але ўсё гэта было калісьці. Цяпер усё змянілася на свеце, у тым ліку і літаратура. Раман цяпер ужо не тое, што раней. Ангелы і чэрці ўжо зніклі... Народ патрабуе, каб усё было так, як і ў сапраўднасці.“

Так разумеў Шолам-Алейхем задачы літаратуры. Ён лічыў неабходным выкараняць з літаратуры бессэнсоўныя,—напоўбульварныя, напоўміфалагічныя раманы Шомера, і даваць у мастацкіх творах рэальнае адлюстраванне жыцця.

„Пісьменнік-раманіст у нашыя часы павінен быць сапраўдным мастаком, які малюе нам не толькі вонкавы твар і постаць чалавека, але таксама і ўсе ўнутраныя куточкі, усе рысы чалавечага характара з усімі нашымі поглядамі і звычаямі, з прыемнасцямі і турботамі, радасцямі і горам,—усім, што поўніць наша мітуслівае, заклапочанае жыццё на зямлі: кожны дзень, кожная гадзіна, каторую мы пераўжываем, кожная мудрасць, кожнае глупства, якія мы робім,—усё гэта з'яўляецца для пісьменніка-мастака вялікім скарбам. Ён збірае ўсе дробязі нашага жыцця і стварае з усяго гэтага адно маляўнічае цэлае. Ён стараецца, каб яно мела цела і душу, каб яно мела, як кажуць, жывое слова, не без пэўнай фантазіі, зразумела, але каб усё было праўдзіва, не па-вар'яцку. Так стварае ён сваю пабудову“.

Як рэаліст, Шолам-Алейхем не быў супроць фантазіі ў літаратуры. Ён патрабаваў толькі, каб фантазія была праўдзівай. Прынцыпамі рэалізма прасякнут таксама і вялікі крытычны наслед Шолам-Алейхема—„Беднасць у лепшых творах нашых народных пісьменнікаў“, які быў апублікаваны ў выглядзе серыі артыкулаў у газеце „Фольксблат“ у 1888 годзе. Гэта былі асобныя артыкулы наконт Айзік-Меера Дыка, Мендэле Мойхер-Сфорыма, Лінецкага, Гольдфадэна і іншых.

Змагаючыся за рэалізм, за тое, каб адлюстроўваць „рысы чалавечага характара“, Шолам-Алейхем павінен быў раней распачаць барацьбу за прызнанне той мовы, на якой думаюць і гавораць „добрыя і кепскія людзі“.

„Той, хто думае лагічна,—піша Шолам-Алейхем,—павінен прызнаць, што адраджэнне жаргона з'яўляецца лепшым сродкам для таго, каб усё вышэй і вышэй узнімаўся дух народу. І поспехі, якія дасягне мова, будуць нам сведчыць аб тым, што мы пішам не для невялічкай групкі выбраных, але для ўсяго народу, узятага ў цэлым. Нашы погляды знойдуць сабе шлях да сэрца нашых

братоў, а чаго нам яшчэ трэба? І хто можа ведаць, якія добрыя якасці нясе жаргон нашаму народу?“

І „жаргон“, гэта мянушка, якую дала яўрэйскай мове яўрэйская буржуазія, зрабіўся яго страсцю, яго неадчэпнай ідэяй. Не толькі таму, што ён любіў сваю мову, але і таму, што пры дапамозе гэтай мовы ён мог адлюстроўваць жыццё яўрэйскага працоўнага люду.

Шолам-Алейхем стараўся ўвесці сістэму ў яўрэйскую мову, у яе лексіку і нават у яе правапіс. Ён першы зрушыў наперад справу правапісу яўрэйскай мовы. У сваёй „Яўрэйскай народнай бібліятэцы“ апублікаваў ён арфаграфічныя правілы яўрэйскай мовы пад назвай „Некалькі слоў наконт арфаграфіі жаргона“.

Шолам-Алейхем быў першы, які паставіў праблему стварэння гісторыі яўрэйскай літаратуры. Пры яго садзейнічанні пачаў Эліязар Шульман пісаць гісторыю яўрэйскай мовы і яўрэйскай літаратуры сярэдневякоўя. Але перш чым напісаў Шульман сваю гісторыю сярэдневяковай літаратуры, Шолам-Алейхем палічыў патрэбным змясціць у „Народнай бібліятэцы“ біяграфічныя звесткі аб яўрэйскіх пісьменніках XIX стагоддзя. Для гэтай мэты звярнуўся ён да старога васьмідзесяцігадовага пісьменніка Аўрама-Бера Готлобера, які надрукаваў у „Яўрэйскай народнай бібліятэцы“ свае „Успаміны аб яўрэйскіх пісьменніках“.

## Клопаты Шолам-Алейхема аб яўрэйскіх пісьменніках і мастаках

Шолам-Алейхем узняў не толькі вартасць яўрэйскай літаратуры, але і пачуццё ўласнай годнасці яўрэйскага пісьменніка і мастака. Ён першы даводзіў пісьменнікам, што мінуў той час, калі пісьменнік быў лялькай у руках буржуазна-клерыкальнага выдаўца і рэдактара.

Ён устанавіў высокія ганарары для яўрэйскай мастацкай літаратуры, якраз такія ганарары, якія ў той час плацілі аўтарам салідныя рускія выдавецтвы і рэдакцыі.

Асабліва чуллівым быў Шолам-Алейхем да старых і хворых пісьменнікаў, якія знаходзіліся пры царызме ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы.

У той час, калі ён выдаваў „Народную бібліятэку“, адзін з яго супрацоўнікаў захварэў і памёр. Шолам-Алейхем прыняў актыўны ўдзел у забеспячэнні асірацелай сям'і гэтага супрацоўніка. Ён асабіста прыслаў ёй значную суму грошай, каб яна магла наладзіць сваё жыццё.

У сваёй „Народнай бібліятэцы“ прыцягвае ён увагу да старых, забытых творцаў яўрэйскай літаратуры—Міхл Гордона, Готлабера і інш.

Ён вышуквае і падбадзёрвае маладыя таленты, перапісваецца з імі, цікавіцца не толькі іх літаратурнай творчасцю, але таксама і іхным асабістым жыццём.

Асаблівае замілаванне выяўляе Шолам-Алейхем да такіх талентаў, якіх жыццё яшчэ ў дзяцінстве адштурхнула ад крыніцы творчасці, і да геніяльных носьбітаў народнага мастацтва, якія ніколі

не бачылі шчасця. Ім, няшчасным мастакам з народу, прысвяціў ён свае два раманы „Стэмпеню“ і „Іоселе Салавей“.

„Мае таварышы, пісьменнікі, не маглі зразумець,—піша Шолам-Алейхем,—чаму гэта я так захапіўся Стэмпеню?—„Ай, фэ, музыкант!“—пісалі яны мне зусім сур'ёзна. Тое-ж самае яны мусіць запытаюць і аб Іоселе Салаўі... але-б мне цікава было ведаць, колькі вялікіх людзей, артыстаў, сапраўдных талентаў загінула ў нас і гіне да гэтага часу? Такі талент, як Стэмпеню, быў-бы ў людзей вялікім мастаком, вялікім артыстам, віртуозам. А ў нас хто ён такі? Музыка!.. Такі геній, такі мастак з сапраўднай паэтычнай душой, як Іоселе Салавей, карыстаўся-б у другіх бязмежнай пашанай, пра яго гаварыў-бы ўвесь цэлы свет, на руках-бы яго насілі. Такіх талентаў, як Стэмпеню, як Іоселе Салавей, у нас шмат, але яны хаваюцца недзе па кутках, і не бачаць яснага света“.

Шолам-Алейхем апісаў у гэтых сваіх раманах сапраўдных людзей, якія жылі на Валыні і біяграфіі якіх ён падрабязна вывучаў.

Сваімі першымі раманамі „Стэмпеню“ і „Іоселе Салавей“ Шолам-Алейхем прыцягнуў увагу да цяжкага становішча яўрэйскіх народных мастакоў, якія бліскалі на хвіліну ў яўрэйскім гето і хутка гінулі ў бяздоннях пакуты і прыгнечання. Стагоддзі міналі і ніхто не звяртаў увагі на ўсіх гэтых Іоселе і Стэмпеню. Ніхто іх не апяваў і не аплакваў, ніхто не прымаў іх у сваё кола. Толькі Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя вызваліла і ўзняла на нябачаную вышыню ўнукаў Стэмпеню і Іоселе, навучыла іх, зрабіла з іх Давіда Ойстраха, Бусю Гольдштэйна, Лізу і Эміля Гілельс. Яна паказала ўсяму свету, якія вялікія і магутныя цуды стварае наша соцыялістычная бацькаўшчына, і якім журботным быў гучны смех Шолам-Алейхема.

### Напад з боку буржуазна-нацыяналістычнага друку

З'яўленне „Яўрэйскай народнай бібліятэкі“ выклікала навальніцу на старонках яўрэйскага буржуазна-клерыкальнага друку.

Газеты „Фольксблат“ і „Гамейліц“ кінуліся ў бой супроць „Яўрэйскай народнай бібліятэкі“, супроць яе рэдактара і супроць яўрэйскай літаратуры.

Нацыяналістычны публіцыст Левінскі запрог свайго сіяніцкага коніка і разразіўся цэлай серыяй артыкулаў супроць Шолам-Алейхема.

Левінскі ўбачыў у „Народнай бібліятэцы“ новую сілу, якая пачынае ўплываць на яўрэйскія народныя масы, якая высвятляе ім іх цяжкае становішча, якая імкнецца ўнесці святло ў цемру іх няведання.

Асабліва не мог ён перанесці публіцыстычныя артыкулы Шолам-Алейхема і, у першую чаргу, артыкул адносна рамеснікаў, у якім Шолам-Алейхем пісаў пра „рамесніцкі (падрад“ ці пра тое, што „называецца асоцыяцыяй, а ў нас, у Расіі,—арцель“. У гэтым артыкуле Шолам-Алейхем звяртаўся да яўрэйскіх пісьменнікаў, каб яны вывучалі гэта пытанне і прапагандавалі яго сярод рамеснікаў.

Левінскі ўзняў гвалт: „Знайшоўся выратавальнік жаргона. Пан Шолам-Алейхем... Бог даў яму багацце, маёмасць і чуллівае да жаргона сэрца. Уся яго дзейнасць і ўсе яго жаданні накіраваны толькі на карысць гэтай моўнай мешаніны. Ён імкнецца ўзняць яго прэстыж і зрабіць з яго літаратурную мову. Для гэтай мэты не шкадуе ён грошай, друкуючы кнігі, і прадае іх за танную цану. Ён плоціць пісьменнікам высокія ганарары, такія ганарары, якіх нашы найвялікшыя пісьменнікі нават і ў сне ніколі не бачылі. Шолам-Алейхем звярнуўся з заклікам да ўсіх яўрэйскіх пісьменнікаў, напісаўшы на сваім сцягу наступныя словы: „дзесяць капеек за радок прозы і дваццаць капеек за радок паэзіі“.

Гэта значыць, што Шолам-Алейхем нібыта падкупіў яўрэйскіх пісьменнікаў, каб яны працавалі ў яго „Народнай бібліятэцы“. Гэта былі Мендэле, Лінецкі, Шацкес,—пісьменнікі, якія яшчэ ў шасцідзесятых гадах зразумелі патрэбы народу і ведалі, што карыснымі для яго яны могуць быць толькі на той мове, на якой народ гаворыць.

Левінскі кпіў з іх у стылі бібліі.

„Старыя асілкі, — пісаў ён,—асілкі гебрэйскай мовы, людзі з імёнамі, як ажывіліся яны, калі адчулі пах грошай у носе. Усе яны сталі ў адну каманду, каб пісаць на жаргоне... Яўрэйскім пісьменнікам трэба падзарабіць і яны згодны пісаць на любой мове абы добра плацілі. Яны згодзяцца нават і спяваць на ўсіх мовах, хай будзе гэта жаргон ці татарская мова, толькі плаціце“.

Напад з боку Левінскага быў накіраваны не супроць таго „жаргона“, на якім цэлымі стагоддзямі друкаваліся рэлігійныя кнігі для народу, а супроць „жаргона“, які яўрэйскія пісьменнікі пачаліператвараць у літаратурную мову і на якім пісаліся творы, што неслі асвету ў яўрэйскія масы.

„Калі пан Шолам-Алейхем,—пісаў Левінскі,—гаворыць пра карысць для народу, дык кожны разумее, што гэтай карысці больш у бібліі, чым у сотні літаратурных зборнікаў. Чаму-ж не перакладаюць бібліі?.. Чаму не знойдзецца добры перакладчык, каб перакласці маліцвенік? Гэта, сапраўды патрэбная рэч, але яны гэтага не робяць. Пан Абрамовіч даводзіць у сваёй біяграфіі ў „Сейфергазікоран“ (памятнай кнізе), што яго сэрца імкнулася зрабіць новы „карбан мінха“ (маліцвенік для жанчын) і апрацаваць стары пераклад, але... але... ім апанаваў гнеў Фішкі Кульгавага, і ён адкінуў ад сябе „карбан мінха“.

Вось якой яўрэйскай літаратуры патрабаваў ад Шолам-Алейхема Левінскі. Гэтая літаратура была патрэбна яўрэйскай буржуазіі для таго, каб маладыя краўцы і шаўцы па-ранейшаму гнулі спіну перад ёю ў тры пагібелі, каб дзеці яўрэйскай беднаты не выходзілі з-пад улады буржуазна-ліхвярскага яўрэйства, каб яны аставаліся паслухмянымі рабамі капіталізма.

## У гасцях у „дзядулі“

У летні вечар 1890 года перад будынкам Одэскай талмуд-торы на Базарнай вуліцы, у адным з кварталаў, населеных яўрэйскай беднатой, спыніліся дрожкі рамізніка. З дрожак сыйшлі два мала-

дыя чалавекі. Адзін з іх быў невялікага роста, з светлымі кудрамі пад круглай шапкай. Ён быў добра апрануты, лёгкі і бадзёры быў яго крок. Ён сказаў нешта свайму спадарожніку і той усміхнуўся, пагладзіўшы сваю невялічкую бародку.

Гэта быў Шолам-Алейхем, які толькі што прыехаў з Кіева, каб пабачыцца з „дзедам", і адзін з одэскіх супрацоўнікаў „Яўрэйскай народнай бібліятэкі".

Праз некалькі хвілін абодвы яны, Шолам-Алейхем і яго спадарожнік, сядзелі ў габінеце „дзеда" яўрэйскай літаратуры—Мендэле Мойхер-Сфорым. Упершыню бачыў яго Шолам-Алейхем з вока на вока. Упершыню бачыў перад сабою „дзед" свайго „любага ўнука", якога ён ведаў дагэтуль толькі па фатаграфіях.

У габінеце Мендэле Мойхер-Сфорыма, які быў адначасова і сталовай і пакоем для гасцей, было сёння зусім інакш, чым у кожны вечар.

Сівы, але стройны Шолам Абрамавіч (Мендэле Мойхер-Сфорым) і малады, белакуры Шолам Рабіновіч (Шолам-Алейхем) размаўлялі паміж сабой. Кожны з іх уважліва наглядаў за рухамі другога, і вывучаў твар, шукаючы ў ім рысы, якія-б маглі нагадаць асаблівасці іх літаратурнай творчасці.

Гаварылі пра становішча яўрэйскай літаратуры, пра задачы, што стаяць перад „Народнай бібліятэкай". Выказваўся больш Мендэле, чым Шолам-Алейхем.

Даўно ўжо Мендэле не гаварыў так многа, як у гэты вечар. Нейкая мяккасць, рахманасць асвятляла яго твар, аздоблены сівой барадою.

— Даўно ўжо варта пачысціць гэтыя кучы гною,—казаў Мендэле, узняўшыся з крэсла і ківаючы сівой галавой.—Кучы гною, што нашы каровы пакінулі ў хляве яўрэйскай літаратуры. Кароў хапае і кучы робяцца з кожным днём усё большыя.

Гэтыя словы „дзядулі" вельмі спадабаліся Шолам-Алейхему. Ён зноў пераканаўся ў тым, што „дзед" ухваляе яго дзейнасць у яўрэйскай літаратуры. З захапленнем пачаў ён гаварыць пра Шомера, пра артыкулы ў „Гамейліц" і ў іншых газетах.

Цэлы вечар гаварылі яны пра тыя патрабаванні, якія высоўваюць перад пісьменнікам народныя масы ў 1890 годзе, у сумным годзе „выгнання яўрэяў з Масквы" і іншых рэпрэсій царызма. Шолам-Алейхем кпіў з пісьменнікаў „Гамейліца", „Фолькс-блат'а" з „Выпадковага фельетаніста", руска-яўрэйскага буржуазнага часопісу „Восход", якія ўзнялі кампанію супроць „Народнай бібліятэкі", супроць яе пісьменнікаў і супроць яўрэйскай літаратуры.

— Яны маюць рацыю, яны разумеюць,—казаў Шолам-Алейхем.—Я думаю іменна так, як яны мяне папракаюць, што яўрэйская літаратура павінна быць для „Шавецкай вуліцы".

Была ўжо позняя ноч, калі Шолам-Алейхем і яго спадарожнік развіталіся з „дзедам" і выйшлі.

Даўно ўжо хацелася Шолам-Алейхему паглядзець на мора. Днём ён бачыў яго толькі зводдаль. Цяпер хоча ён паглядзець на яго паблізу і ўночы.

Шырока раскінулася перад ім „гасціннае мора“, вялікае, магутнае і добрае—старадаўні Понт Эўксінскі.

Хвалі набягалі на бераг і з пенай на вуснах, адна за адной, мармыталі аб людзях, што першыя пераплылі цераз яго магутныя прасторы. З Сідона, старадаўняга горада на беразе „Вялікага мора“ прыплылі сюды людзі, пакінулі свае судны і пайшлі кудысьці шукаць нешта ў далячыні.

Праз некаторы час вярнуліся вандроўнікі старадаўняга мора, купцы антычнага Усходу, на бераг, пачалі высякаць скалы, будаваць дамы і склады. Яны нагружалі свае судны рабамі і золатам, срэбрам і мёдам. І плылі гэтыя судны ў „Вялікае мора“, у Егіпет і яшчэ далей. Схіліўшыся ад цяжкай працы гаравалі рабы на берагах Ніла, будуючы пірамiды і палацы для фараона, цара Егіпта.

І яшчэ і яшчэ мармыталі хвалі пра судны з рабамі і пра іх гаспадароў, купцоў Генуі і Венецыі.

Магутны подых мора веяў свежасцю над горадам, над кварталамі беднякоў, што спалі цяпер пасля дня цяжкой працы.

Шолам-Алейхем стаяў і глядзеў з берагу ў далячыню. Ён бачыў перад сабой у думках двух волатаў літаратуры, імёны якіх звязаны з Чорным морам. Ён бачыў Публія Овідыя, як стаіць ён, абпырсканы хвалямі і давярае мору сваю журбу. Ён бачыў і Александра Пушкіна, які таксама стаяў тут калісьці на беразе мора з непакрытай, кудравай, ускудлачанай галавой.

Так думаў Шолам-Алейхем і вецер варушыў яго светлыя кудры.

Свіст парахода з далёкага гарызонту спыніў яго думкі.

— Я зайздрошчу вам,—звярнуўся ён раптам да свайго спадарожніка,—што вы жывецё ў Одэсе, дзе вы можаце часта бываць у „дзядулі“ і глядзець на мора, на сівое мора, якое можа расказаць столькі смутнага, якое ніколі не старэе і плёскаецца заўсёды з вясёлым, адвечна юнацкім задорам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вярнуўшыся назад у Кіеў, Шолам-Алейхем паставіў на сваім пісьмовым стале партрэт „дзядулі“. Ён часта глядзеў на яго за працай і пытаўся сам у сябе, ці падабаецца тое, што ён піша, старому.

### Няма больш біржавога гандляра Саламона Рабіновіча

1890 год быў, як кажуць, пачаткам канца гандлёвай кар'еры Шолам-Алейхема. У гэтым годзе Шолам-Алейхем пачынае вызваляцца ад залатых ланцугоў, уздзетых на яго капіталістычнай сістэмай.

Цяжкія дні перажыў ён у апошнія месяцы 1890 года. У краіне панавала змрочная рэакцыя. Кожны дзень абвяшчалі газеты пра новыя рэпрэсіі, пра нечуваныя абмежаванні для яўрэйскіх народных мас. На вакзалах вялікіх і малых гарадоў яўрэйскай „черты оседлости“, можна было амаль кожны дзень бачыць засмучоныя твары яўрэйскіх рамеснікаў і іх сямей, выгнаных нечакана

з Масквы, Растова і іншых гарадоў, што знаходзіліся па-за межамі яўрэйскай „черты оседлости“.

Гэта былі часы ўздыма рэволюцыйнага руху ў краіне. Чатыры гады мінулі пасля вялікай забастоўкі на фабрыцы Савы Марозава. Царскі ўрад імкнуўся зацямніць свядомасць працоўных мас у горадзе і ў вёсцы, нацкоўваючы адзін народ на другі. Змрочная здань пагромаў узнялася над гарадамі і мястэчкамі яўрэйскай „черты оседлости“.

Шолам-Алейхему здавалася часам, што, згубіўшы свой набытак, ён не зможа ўжо быць і пісьменнікам. Яму здавалася, што яго сябры адмовяцца ад яго, што яны хваляць яго як пісьменніка толькі таму, што ён багаты. Але гэтыя думкі адразу знікалі, калі ён успамінаў пра народныя масы, пра тое, як патрэбны ім іх пісьменнікі і як любяць і шануюць яны сваіх пісьменнікаў. Тады ўзнікала надзея, што будучае банкруцтва Саламона Рабіновіча, біржавога гандляра, з'явіцца вызваленнем для Шолам-Алейхема— пісьменніка.

Дзень, калі паў Саламон Рабіновіч, кіеўскі біржавы гандляр, надышоў у 1890 годзе.

Ён абанкроціўся і яму пагражаў царскі суд і царская турма. Біржавыя гандляры і царскі закон зусім не хацелі лічыцца з Саламонам Рабіновічам, які быў адначасова і Шолам-Алейхемам.

Сям'я Шолам-Алейхема пераязджае ў Одэсу, дзе яна ледзь перабіваецца з дня на дзень у цяжкіх матэрыяльных умовах і ў спалохе перад крэдыторамі.

Сам Шолам-Алейхем уцякае за граніцу. Ён ездзіць пэўны час па Румыніі, Галіцыі, Аўстрыі і Францыі. Там меў ён магчымасць бачыць увачавідку першыя жудасныя вынікі эміграцыі. Тут мог ён прыглядзецца да цяжкога, бяспраўнага жыцця яўрэйскай беднаты ў Румыніі.

У Парыжы Шолам-Алейхем наведваў розныя мастацкія галерыі і таксама кварталы яўрэйскай беднаты, што папаўняліся пераважна за кошт эмігрантаў з Расіі.

Ён прыглядаўся да жыцця як пісьменнік і яму хацелася пісаць аб усім. Ён бачыў шмат, перад ім паўставалі новыя вобразы.

З вялікімі цяжкасцямі дамогся Шолам-Алейхем магчымасці жыць у Расіі легальна і вярнуўся на радзіму. Цяпер ён пасяліўся ў Одэсе. Гэта было ў 1891 годзе.

## У барацьбе за „Яўрэйскую Народную бібліятэку“

Банкруцтва Шолам-Алейхема выклікала пагібель „Яўрэйскай Народнай бібліятэкі“. Гэта з'явілася цяжкай падзеяй не толькі для аднаго Шолам-Алейхема. Гэта адбілася на творчай дзейнасці лепшых пісьменнікаў, якія прымалі ўдзел у „Народнай бібліятэцы“, у тым ліку нават і Мендэле. „Яўрэйская Народная бібліятэка“ была тады адзіным органам, дзе мелі магчымасць друкавацца лепшыя прагрэсіўныя пісьменнікі таго часу.

У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Расіі не існавала яўрэйскага перыядычнага друку. Толькі ў Варшаве выходзіў што-

годнік Спектара „Гаузфрайнт“. Наадварот, на гебрэйскай і на рускай мове існавалі штодзённыя, тыднёвыя і месячныя выданні.

Перад яўрэйскімі пісьменнікамі стаяла вельмі сур'ёзнае пытанне адносна друкавання сваёй літаратурнай прадукцыі. І Шолам-Алейхема не пакідала думка зноў аднавіць выданне сваіх зборнікаў.

У самых цяжкіх матэрыяльных умовах, у часе духоўнага адзіноцтва, хоча Шолам-Алейхем зноў аднавіць сваё літаратурнае гняздо. Ён прадае апошняе дабро, што ў яго засталося, і выпускае праспект да новага выдання „Яўрэйскай Народнай Бібліятэкі“.

Гэты зборнік Шолам-Алейхем запоўніў амаль адзін. Ён хацеў уталіць амаль трохгадовую смагу да апублікавання сваіх твораў на яўрэйскай мове. Ён надрукаваў тут першую серыю пісьмаў Менахем-Мендэля да Шэйне-Шейндл, пад агульнай назвай „Лондан“. Тут апублікаваў Шолам-Алейхем некалькі крытычных артыкулаў і фельетонаў. Тут апублікаваў ён таксама і творы, дзе ён у першыню выяўляў свае адносіны да эміграцыі ў Амерыку. Гэта перш за ўсё—песня „Спі, маё дзіця“, якая зрабілася адной з самых папулярных калыханак. Маці яўрэйскай беднаты калыхала гэтай песняй сваіх галодных дзяцей. Ніхто не ведаў, што гэта народная песня, у якой адлюстроўваюцца мары і пакуты яўрэйскай беднаты, створана Шолам-Алейхемам, пакуль ён сам не звярнуў на гэта ўвагу.

Але яму не ўдалося ажывіць „Яўрэйскую Народную Бібліятэку“. Яму не хапала для гэтага матэрыяльных сродкаў.

Будучы ўжо ў той час вядомым пісьменнікам, Шолам-Алейхем не мог здабываць сабе сродкі для жыцця літаратурнай працай. У Одэсе ён быў прымушаны зноў кідацца ад аднаго занятка да другога, каб чым-небудзь падтрымаць існаванне сваё і свайго сямейства. Зноў накіроўваецца ён на біржу і робіцца маклерам. Але цяпер ён ужо глядзіць на гэта як на часовы занятак.

Ніякія банкруцтвы, ніякія цяжкія матэрыяльныя ўмовы, ніякія праследванні з боку крэдытораў, няздольны былі спыніць магутны струмень літаратурнай творчасці Шолам-Алейхема.

Калі не было магчымасці друкавацца на яўрэйскай мове, Шолам-Алейхем пісаў па-руску, змяшчаючы фельетоны пра біржу ў Одэскай штодзённай рускай газеце „Одесский Листок“.

Тут, у Одэсе, яшчэ больш узмацняецца нянавісць Шолам-Алейхема да біржавых спекуляцый. Тут рашыў Шолам-Алейхем паказаць у літаратуры няшчасныя вынікі націску капіталізма на дробнабуржуазнае мястэчка. У газеце „Одэскі Лісток“ накідвае ён першыя эскізы да свайго будучага класічнага вобраза Менахем-Мендэля.

## Сатыра на біржавых гандляроў

Пасля шматлікіх спроб аднавіць у Одэсе выданне „Народнай бібліятэкі“, Шолам-Алейхем зноў пераязджае ў Кіеў. Гэта было ў 1893 годзе.

У Кіеве ён паступае ў якасці служачага на цукровую фабр

Яшчэ глыбей, яшчэ цяжэй робіцца пачуццё адзіноты ў вял

яўрэйскага пісьменніка. Ён сам выступае ў сваіх творах супроць таго асяроддзя, у якім ён жыве і дзейнічае. Ён сам кпіць і высмейвае біржу з яе „Лонданамі“, „Пуціўлямі“, „Волгамі“. Ён, які хоча, каб яўрэйская літаратура асвятляла шляхі для шаўцоў і краўцоў, для гарапашнікаў, сам павінен круціцца паміж біржавікоў, якіх ён называў „Гамбетамі“, сам павінен быць Менахем-Мендэлем, адарваным і ад свайго народу і ад сваёй літаратуры.

У 1894 годзе друкуе ён у драматызаванай форме сатыру на кіеўскіх біржавых гандляроў і банкіраў пад назвай „Якнегоз“. У гэтай сатыры ён раскрывае іх звычаі і жыццёвы побыт, іх спекуляцыі на кроўныя грошы яўрэйскіх народных мас. Ён высмейвае таксама і местачковага мешчаніна, Менахем-Мендэля, які круціцца вакол іх, якога яны заманьваюць у пастку.

У сатыры „Якнегоз“ выводзяцца два тыпы спекулянтаў—Файнкугель і Грагер. У гэтых персанажах хутка спазналі сябе кіеўскі банкір Файнгольд і біржавы маклер Грэйзер. Кіеўскія купцы ўзнялі супроць Шолам-Алейхема цэлую кампанію, яны падалі скаргу ў кіеўскі цэнзурны камітэт, і п'еса была канфіскавана.

## Радасць і гора

У пачатку XX-га стагоддзя ўсё больш узмацняецца рэволюцыйная барацьба ў Расіі. Адбываюцца забастоўкі і дэманстрацыі. Рабочыя розных нацыянальнасцей усё больш зблізкаюцца паміж сабой. Знікае варожасць, якую пануючыя класы розных нацыянальнасцей імкнуліся распаліць паміж рабочымі. Руская рэволюцыйная інтэлігенцыя пачынае цікавіцца літаратурамі народаў Расіі і ў тым ліку і яўрэйскай літаратурай. Упершыню ў гісторыі яўрэйскай літаратуры, у асобе буравесніка рускай рэволюцыі Максіма Горкага, праяўляюць да яе зацікаўленасць буйнейшыя прадстаўнікі рускай літаратуры. Гэта натхняе Шолам-Алейхема ў яго літаратурнай дзейнасці і ён усё больш пачынае сябе лічыць пісьменнікам абуджаных народных мас.

„Я добра ведаю,—піша Шолам-Алейхем аднаму з сваіх сяброў у 1901 годзе,—што калі яны (арыстакраты) даведаюцца, што прыехаў Шолам-Алейхем... што будуць чытаць байкі... фе, гэта-ж не выпадае белацаркоўскаму багатыру... які мае ўласныя дамы і поўны мех грошай... не выпадае, кажу я, каб ён ішоў разам з усімі беднякамі, меламедамі, простымі яўрэямі і простымі яўрэйкамі без брыліянтаў... Але, з другога боку, трэба ім на зло прыехаць і чытаць, і хай яны сядзяць сабе ў сваіх дамах, чухаюць сваё пуза і прыслухоўваюцца, ці працуе іх страўнік!.. Я добра ведаю гэту сволач, о, я іх ведаю!“ І, сапраўды, хто ведаў яўрэйскую буржуазію больш за Шолам-Алейхема!

З вясёлай, радаснай усмешкай расказвае Шолам-Алейхем пра вялікую падзею ў яўрэйскай літаратуры, пра тое, што рускія пісьменнікі „пачалі цікавіцца намі, прыглядаюцца да нас і прыслухоўваюцца. Адзін з іх, чалавек з надзвычайным пяром, з велізарным талентам і залатым сэрцам—Максім Горкі, адносіцца да нас з вялікай прыхільнасцю. Павінен выйсці ў свет на рускай мове

нямалы зборнік выключна яўрэйскіх твораў, перакладзеных з жаргона на рускую мову... І выдаўцы амаль усе рускія".

З найвялікшай зацікаўленасцю, з вялікай радасцю ўзяўся Шолам-Алейхем за гэтае пачынанне. Ён сам збірае матарыял для зборніка, ён падбірае такі матэрыял, які можа даць уяўленне аб жыцці яўрэйскіх народных мас у царскай Расіі. Ім самім і пад яго рэдакцыяй былі перакладзены некалькі частак „Фішкі Кульгавага", шэсць раздзелаў з „Вандраванняў Вен'яміна III", пяць раздзелаў з „Чароўнага пярсцёнка" Мендэля Мойхер-Сфорыма. Шолам-Алейхем напісаў таксама некалькі крытычных артыкулаў адносна тых пісьменнікаў, творы якіх павінны былі ўвайсці ў зборнік.

І хаця гэты зборнік не быў выдадзены па прычынах, незалежных ні ад рэдактара, ні ад выдаўца, але той факт, што такі зборнік быў складзены на рускай мове пад рэдакцыяй Максіма Горкага, маральна падтрымаў лепшых прадстаўнікоў яўрэйскай народнай літаратуры перад тварам яўрэйскай буржуазіі, якая зневажала іх і іхную творчасць.

Гэты факт яшчэ больш наблізіў Шолам-Алейхема да таго класа, прадстаўніком якога ў рускай літаратуры быў Максім Горкі. Шолам-Алейхем набліжаецца яшчэ больш да ўсіх прыгнечаных і абяздоленых у яўрэйскім народзе. Сябру свайго юнацтва, вядомаму яўрэйскаму пісьменніку Спектару, ён піша тады наступнае:

„Я павінен табе прызнацца, што я нібыта ізноў нарадзіўся. Я адчуваю ў сабе зусім новыя сілы. Я амаль што магу сказаць, што пачынаю пісаць спачатку".

Але горкі лёс яўрэйскай літаратуры ў царскай Расіі, адвечны голад і матэрыянальная нястача яўрэйскага пісьменніка звязваюць яго па руках і нагах. І Шолам-Алейхем амаль крычыць:

„Гора мне, я-ж павінен шукаць рубля! хай згарыць гэтая біржа, хай згараць гэтыя рублі!"

Ён знаходзіцца настолькі ў роспачы, што ў яго пачынаюць з'яўляцца варожыя выказванні адносна яўрэйскай літаратуры і яўрэйскага народу, хаця ён і ведае добра, што працоўны народ ніякім чынам не павінен у сваім лёсе, што сам ён з'яўляецца сынам народных яўрэйскіх мас, і што ён пакутвае таму, што і вялікі рускі народ пакутуе пад уладай царызма, а разам з ім і яўрэйскі народ, і ўсе іншыя народы.

„Няхай згараць яўрэі,—крычыць ён Спектару,—калі яўрэйскі пісьменнік не можа жыць сваёй творчасцю і павінен бегчы шукаць рубля! Тыя, хто мяне ведаюць і бачаць кожны дзень, пытаюцца ў мяне: калі я пішу? Дальбог, я і сам не ведаю калі! От так, пішу я, на хаду, на бягу, седзячы ў каго-небудзь у габінеце, едучы на трамваі, якраз тады, калі мне дураць галаву якім-небудзь лесам, дарагім маёнткам, заводзікам,—якраз тады ўзнікаюць самыя прыгожыя вобразы і самыя лепшыя думкі, а тут нельга ніяк вырвацца хаця-б на адзін момант, на хвіліну, каб усё гэта зафіксаваць на паперы,—няхай згараць гэтыя гешэфты! Няхай згарыць увесь свет!"

## Папулярнасць Шолам-Алейхема расце

Рэвалюцыйны ўздым у краіне захапіў вялікія пласты яўрэйскіх рабочых, а гэта ў сваю чаргу павялічыла попыт на яўрэйскую кнігу наогул і на мастацкую літаратуру ў прыватнасці.

Шолам-Алейхем ездзіць па гарадах і мястэчках былой царскай Расіі. Ён выступае на вечарах, ён чытае свае маналогі і навелы. Яго папулярнасць расце з кожным днём. Ён бачыць гэта па сустрэчах сваіх з чытачамі ў гарадах і мястэчках і піша тады сваёй дачцы, іранізуючы над сабой:

„Іду я ўчора, у суботу (у Крэменчугу), на шпацыр па галоўнаму праспекту і бачу: натоўп спяшыць да вітрыны, нібы да нейкай вядомасці, напрыклад, як Шаляпіна. Для большага эфекта фатограф выставіў таксама і мой псеўданім па-яўрэйску. З усіх бакоў пазбіраліся шпацыруючыя, пачалі вочы пяліць на мяне, паказваць пальцамі і заглядваць мне ў твар,—чорт ведае што такое! Я прымушаны быў уцячы з праспекту і схавацца ў атэлі. Але мяне знайшлі і пачалі запрашаць на вечары, на паседжанні і проста на чай“.

Яўрэйскія народныя масы ўжо тады ўяўлялі сабе Шолам-Алейхема як вясёлага, добрага, сардэчнага героя з нейкай народнай легенды.

Новы моцны струмень творчай энергіі захапіў тады Шолам-Алейхема. Ён успомніў першыя гады сваёй дзейнасці, калі разам з Спектарам, лепшым сябром свайго юнацтва, змагаўся ён з рэдактарамі пецербургскіх буржуазных руска-яўрэйскіх часопісаў за прызнанне „жаргоннай літаратуры“. Цяпер ён у вачавідку пераканаўся ў тым, якое вялікае значэнне набыў „жаргон“ і „жаргонная літаратура“ ў справе ўзняцця культурнай і палітычнай свядомасці яўрэйскіх народных мас. І ён спяшаецца выказаць гэта свайму сябру Спектару:

„Я ўяўляю сабе, якімі будзем мы выглядаць перад нашымі пра-праўнукамі, напрыклад, праз пяцьдзесят ці сто год, тады, калі нашыя косткі даўно ўжо струхнеюць у зямлі! Ах, жаргон, жаргон! Хто ведае, якую ролю адыграе ён яшчэ для нашага народу! Але няхай гісторыя ідзе сваім шляхам, а мы павінны рабіць сваё... Калі-б ты быў у Житоміры і бачыў тую павагу, якой я карыстаўся сярод нашай публікі, дык ты, мусіць, памёр-бы на месцы ад вялікага шчасця. Проста на руках насілі! На другі дзень у газеце „Волынь“ была заметка, што вядомы яўрэйскі пісьменнік-жарганіст Шолам-Алейхем наведаў наш горад“.

Частыя выступленні Шолам-Алейхема ў розных гарадах і мястэчках Украіны зрабілі на яго самога вялікі ўплыў. Ён пачаў гаварыць, што ён перарос свае ранейшыя творы.

„Чытайце, маленькія байкі,—піша ён свайму сябру,—*там толькі пачынаю я пісаць па-сапраўднаму*“,—падкрэслівае гэтыя словы Шолам-Алейхем.

„Мой Менахем-Мендэль, — піша ён далей,—мае рацыю; ён кажа: вы пішаце і пішаце, але ўсё застаецца наперадзе. Я мяркую сам у хуткім часе сесці пісаць някепскія рэчы“.

Што гэта за „някепскія рэчы“, якія Шолам-Алейхем ставіць гэтак высока? Гэта—„Байкі для яўрэйскіх дзяцей“. Ніхто ў яўрэйскай літаратуры не здолеў так маляўніча паказаць надзеі і мары дзяцей яўрэйскай беднаты, як гэта зрабіў Шолам-Алейхем.

## Кішынёўскі пагром

Пасля доўгай сістэматычнай падрыхтоўкі з боку царызма выбухнуў у Бесарабіі, у горадзе Кішынёве пагром. Гэта было шостага красавіка 1903 года. На працягу трох дзён лютавала жудасная разня над бяззбройнай яўрэйскай беднатой. На працягу трох дзён быў пакрыты чалавечай крывёю брук кішынёўскіх вуліц. Цэлыя банды п'яных хуліганаў, узброеных жалезнымі ломамі, сякерамі і нажамі гналіся за сваімі яўрэйскімі суседзямі.

На працягу ўсяго пагрому паліцыя дапамагала разбойнікам і забойцам. Горад Кішынёў ператварыўся ў разбураны горад, нібыта пасля нападу ворага ў часе вайны. Пасля трох дзён разні было знойдзена звыш пяцідзесяці чалавек забітых, каля сотні цяжка раненых і перакалечаных, каля пяці сот проста параненых, тысяча пяцьсот дамоў і крам былі разбураны і разрабаваны.

Больш за ўсіх пацярпелі бяднейшыя пласты яўрэйскага насельніцтва. Багатыя знайшлі сабе сродак: яны падкупілі паліцыю і тая іх ахоўвала.

„Нянавісць змучаных нястачай рабочых і сялян,—пісаў Ленін—памешчыкі і капіталісты стараліся накіраваць на яўрэяў. І ў іншых краінах даводзіцца бачыць нярэдка, што капіталісты распальваюць варожасць да яўрэяў, каб засмеціць вочы рабочаму, каб адцягнуць яго позірк ад сапраўднага ворага працоўных—ад капітала“ (Ленін т. XXIV, ст. 203).

Перадавыя колы рускага грамадства пратэставалі супроць пагромаў. Максім Горкі арганізаваў спецыяльнае выданне, у якім прынялі ўдзел рускія пісьменнікі.

Жудасныя здарэнні выклікалі на старонках яўрэйскага буржуазнага друку шавіністычную мітусню і лаянку па адрасу рускага народу. Буржуазныя публіцысты і пісьменнікі нацкоўвалі адсталыя яўрэйскія масы супроць усяго неяўрэйскага свету, а таксама і супроць яўрэйскіх рэвалюцыянераў, абліваючы іх цэлымі вёдрамі бруду.

Шолам-Алейхем быў адным з нешматлікіх яўрэйскіх пісьменнікаў, якія імкнуліся ў сваіх творах растлумачыць яўрэйскім народным масам, што ў царскай Расіі прыгнечан не толькі яўрэйскі народ, але і ўсе народы Расіі.

Шолам-Алейхем піша ў той час свае „Байкі для яўрэйскіх дзяцей“, апавяданні з нявіннымі загалоўкамі. У адной з іх расказвае ён пра дружбу паміж яўрэямі і неяўрэйскімі беднякамі. У другой ён у алегарычнай форме заклікае яўрэйскае насельніцтва да барацьбы супроць пагромаў.

Шолам-Алейхем вядзе ў той час перапіску з такімі перадавымі рускімі пісьменнікамі, як Максім Горкі, Чэхаў, Леў Талстой, Караленка і інш. Ён бярэцца за арганізацыю зборніка на карысць

пацярпеўшых ад кішэнёўскага пагрому. „Хільф“ (Дапамога) называецца гэты зборнік, таксама, як і зборнік „Помощь“, які выдаў з гэткай самай мэтай на рускай мове Максім Горкі.

Шолам-Алейхем збірае матэрыял для зборніка „Хільф“ сярод рускіх пісьменнікаў. Гэта было неабходна для таго, каб паказаць, што лепшыя прадстаўнікі рускага народа любяць і паважаюць яўрэйскія народныя масы. Матэрыялы рускіх пісьменнікаў Шолам-Алейхем сам перакладае на яўрэйскую мову.

У гэтым зборніку выяўляюцца і хістанні Шолам-Алейхема: побач з артыкуламі, накіраванымі супроць шавінізма, змешчаны ў гэтым зборніку таксама і артыкул Мойшы-Лейб Ліліенблюма, у якім гэты чорны рэакцыянер і нацыяналіст выступае з дзікай лаянкай супроць рэволюцыйных рабочых і моладзі.

У архіве кіеўскага жандарскага ўпраўлення знойдзена „справа“ супроць Шолама-Алейхема ў сувязі з яго перапіскай з Львом Талстым адносна пагромаў і адносна гэтага зборніка. З матэрыялаў гэтай справы мы можам даведацца, што жандармерыя ўстанавіла за Шоламам-Алейхемам сакрэтны нагляд.

## Максім Горкі і Шолам-Алейхем

Набліжаўся 1905 год. У кожным горадзе, у кожным мястэчку выступаюць рабочыя і гарапашнікі супроць царызма. Усюды адбываюцца дэманстрацыі. Царскія войскі страляюць у рабочых. У вёсках усё часцей і часцей паўстаюць сяляне; усё часцей з'яўляюцца у газетах паведамленні аб пагромах у гарадах і мястэчках Расіі.

Шолам-Алейхем друкуе ў той час навелу „Ладкі на Ханука“, у якой адчуваюцца ўплывы рэволюцыйнага ўздыму ў краіне. Шолам-Алейхем паказвае ў гэтай навеле змрочную адсталасць яўрэйскай беднаты. Ён паказвае, як цэлае мястэчка заняволена адным сямействам багатыроў, якое празвалі „дваром“. Надыходзіць свята „Ханука“ і „двор“, які на працягу ўсяго года смокча кроў яўрэйскіх народных мас, запрашае ўсё мястэчка на святочныя аладкі. І мястэчка віншуе гаспадароў:

— Добрай ночы і добрага свята, і добрага шчасця, і бывайце здаровы, і дай божа вам таксама сустрэць свята і ў наступным годзе разам з жонкай і дзеткамі, і каб вы былі яшчэ багацей, і каб вы мелі шмат радасці, і каб усе мы прыходзілі да вас заўсёды святкаваць свята!“

А „двор“ сядзіць і слухае ўсе гэтыя віншаванні і адказвае зусім абыякава аднаму з дзесяці.

— Гам атэм!—Вам таксама! Вам таксама!

А мястэчка цясніцца вакол „двара“, не спыняючы сваіх віншаванняў, усе у адзін голас і з аднолькавым імпэтам і нікому не прыходзіць у галаву змяніць гэтыя віншаванні хаця-б гэткім чынам:

— Добрай ночы і добрага свята, і добрага шчасця, і каб мы былі здаровы, і дай божа нам таксама сустрэць свята ў наступным годзе разам з нашымі жонкамі і дзеткамі, і каб мы былі багацей за вас, і каб мы таксама мелі шмат радасці, і каб вы прышлі да нас на наша свята!..“

Шолам-Алейхем нястомна малюе ў сваіх творах трагічнае становішча яўрэйскіх народных мас. Ён нястомна тлумачыць яўрэйскім народным масам, што ёсць і вялікі рускі народ, якому таксама цяжка жывецца пад ярмом царызма.

Шолам-Алейхем наведвае старэйшы яўрэйскі цэнтр у царскай Расіі—Вільню. „Я працаваў дзень і ноч. Я быў ва ўсіх мышыных норах, як губка набраўся я ўражанняў і сапраўднага яўрэйскага гора, у дзесяць год не ўбачыў-бы я таго, чаго я ўбачыў тут за дзесяць дзён“.

Гэта было ў апошні месяц 1904 года. Пасля Вільны Шолам-Алейхем наведаў Пецербург. Ён паехаў туды для таго, каб атрымаць дазвол ад царскай улады на выданне ў Вільні яўрэйскай газеты. Але ён меў і яшчэ адну мэту: ён хацеў сустрэцца там з тым рускім пісьменнікам, з якім ён перапісваўся на працягу некалькіх год, які так блізка прымаў да сэрца цяжкае становішча яўрэйскіх мас.

Ён хацеў бачыць Максіма Горкага, ён хацеў з ім пагаварыць.

Гэта было 14 лістапада 1904 года. Шолам-Алейхем даведаўся, што Горкі прыехаў у Пецербург. Заўтра, пятнаццатага, ён пойдзе да яго. Аб гэтым ён ужо з ім дамовіўся.

У адзінаццаць гадзін раніцы ён ужо ў Горкага. Ён нават і не заўважыў, як хутка праляцеў час іхняй гутаркі. Уражанне ад гутаркі з Горкім засталося ў Шолам-Алейхема вельмі моцнае. У гэты самы дзень напісаў ён сваім дзецям два пісьма аб візіце да Горкага.

„Сёння напісаў я вам усім пра свой першы візіт Максіму Горкаму, які прыняў мяне надзвычай гасцінна, сапраўды па-сяброўску і зачараваў мяне“.

Радасць Шолам-Алейхема ад спаткання з Горкім была вялікая. Яму, які меў амаль найбольшы слоўны запас сярод іншых яўрэйскіх класікаў, нехапала слоў, каб выказаць свой узняты настрой. І ў абодвых пісьмах ён паўтарае амаль даслоўна, у аднолькавых выразах пра свае ўражанні.

„Любыя дзеці,—піша ён у другім пісьме.—Я пішу вам пад свежым уражаннем ад майго першага візіта ўладару думак Максіму Горкаму. Ён прыняў мяне сапраўды па-сяброўску. У нас была гутарка адносна спраў літаратуры, агульнай і яўрэйскай, і я нават не агледзеўся, як прайшоў час... Ён прасіў мяне заходзіць да яго папросту“.

„Папросту, па-сяброўску!“ Дваццаць год прамінула з таго часу, калі першыя творы Шолам-Алейхема з'явіліся на парозе буржуазных руска-яўрэйскіх рэдакцый. Як сустрэў іх тады, у Пецербургу, рэдактар руска-яўрэйскага часопісу „Восход“ Ландау? Зусім не па-сяброўску сустрэў ён тады Мордуха Спектара, літаратурнага

сябра Шолам-Алейхема. Ён яго не аднойчы „папросту“ выганяў з рэдакцыі.

Дваццаць год прамінула. Рэвалюцыйная навальніца ахапіла шырокія абшары нашай бацькаўшчыны і яўрэйскі народны пісьменнік знайшоў сабе сябра. Не ў рэдакцыі буржуазных яўрэйска-рускіх часопісаў, не сярод яўрэйскай буржуазіі, але сярод рускага рабочага класа.

„Ён сам узяўся пазнаёміць мяне з лепшымі прадстаўнікамі друку... Выгляд яго зусім не такі, як мы сабе ўяўлялі. Ён цікавы... з добрым адкрытым, чыстым тварам і з шырокім носам. Сам ён высокі, здаровы (зусім не хворы), мяккі, хоць крыху вуглаваты, у блузе, зразумела, і ў высокіх ботах“.

Ва ўсёй сваёй далейшай літаратурнай дзейнасці Шолам-Алейхем заўсёды трымаўся дружбы з Горкім. Ніхто ў яўрэйскай літаратуры не любіў так чалавека з народу, чалавека з усімі яго радасцямі, горам і імкненнямі, як Шолам-Алейхем. Іменна гэтая рыса асабліва зблізкала яго з Максімам Горкім.

У сваю чаргу і Горкі таксама высока цаніў Шолам-Алейхема і з вялікай любоўю адносіўся да яго творчасці. У 1910 годзе, калі пачалі выходзіць творы Шолам-Алейхема на рускай мове, Горкі пісаў яму адносна яго „Хлопчыка Моткі“ наступнае:

Капры, 21. IV—1910.

Шчыра паважаны сабрат!

Кнігу вашу атрымаў, прачытаў, смяяўся і плакаў. Цудоўная кніга! Пераклад, здаецца мне, зроблен умела і з любоўю да аўтара, хаця ў асобных месцах адчуваецца, што на рускай мове цяжка перадаць журботы і сардэчны гумар арыгінала. Я кажу—адчуваецца.

Кніга мне моцна падабаецца. Яшчэ раз скажу—надзвычайная кніга! Уся яна зіхаціць такой слаўнай, дабротнай і мудрай любоўю да народу, а гэта пачуццё такое рэдкае ў нашы дні.

Шчыра жадаю Вашай кнізе поспеху, не сумняваюся ў ім.

Моцна цісну руку.

*М. Горкі.*

## 9 студзеня

Натоўпы беспрацоўных цясніліся каля заводскіх брам і чакалі работы. Амаль кожны дзень з'яўлялася паліцыя і разганяла галодных і раззлаваных людзей, што блукалі па вуліцах у падраных, старых лахманах. Няўдачы ў вайне з Японіяй, пры дапамозе якой цар спадзяваўся суцішыць рэвалюцыйны рух, рабіліся ўсё большымі. Галодная смерць узнялася над горадам і вёскай. Рабочыя бастуюць. Поп-правакатар Гапон падгаварвае рабочых, каб яны пайшлі да цара з петыцыяй.

І вось 9 студзеня 1905 года, вялікі натоўп у сто сорак тысяч чалавек рабочых з жонкамі і дзецьмі пайшоў да Зімовага Палаца.

Яны ішлі без зброі, а іх сустрэлі кулямі. Вуліцы Пецербурга былі заліты крывёю.

Крывавы ўрок атрымалі тады рабочыя. Зрабілася ясна, што нельга верыць цару і яго слугам. Вечарам 9 студзеня рабочыя пачалі ўжо будаваць на ўскраінах барыкады і на гэтых барыкадах развяваліся чырвоныя сцягі.

Цяжкае ўражанне пакінулі гэтыя падзеі на Шолам-Алейхема. Ім прысвяціў ён раздзел пад назвай „Крывавая нядзеля“ ў сваім рамане „Патоп“. У гэтым адзіным у той час рамане пра рускую рэволюцыю Шолам-Алейхем спрабуе адлюстраваць перад намі імкненні народных мас да лепшага жыцця, як яўрэйскіх Катэнты, так і рускіх Сярожаў, несвядомых яшчэ рабочых і гарапашнікаў.

Ён паказвае нам жудасную постаць правакатара Яшкі Ворана. Але, на жаль, Шолам-Алейхем заблытаўся ў гэтым рамане ў сецях сіянізма.

Хутка пасля 9 студзеня Шолам-Алейхем піша сатырычную песеньку—„Спі, Алекса!“, накіраваную супроць цара і яго ўрада. Гэта песенька з вялікай хуткасцю распаўсюдзілася сярод яўрэйскіх рабочых. На дэманстрацыях, у рабочых кватэрах, на сходах гэта песня гучала нараўне з „Марсельезай“ і „Варшавянкай“.

Сучаснікі ўспамінаюць, што гэтую песню, надрукаваную на асобых лістоўках, расклейвалі ў часе кастрычніцкіх забастовак 1905 года на вуліцах Гомеля з выгукамі: „Капейкі варты Нікалай апошні!“

У гэты год Шолам-Алейхем напісаў шмат алегарычных навел: „Нованароджанае“, дзе ён кпіць з царскай канстытуцыі, „Дзядзька Піня і цётка Рэйза“, дзе ён высмейвае культурную і тэхнічную адсталасць царскай Расіі і міжнародную буржуазную дыпламатыю.

### Тэатральны поспех

Цяпер абудзіўся і „Іойхен шавец“, стары знаёмы Шолам-Алейхема, пра якога так злосна пісалі буржуазна-нацыяналістычныя фельетаністы з „Гаймеліц“ і „Фольксблат“. Цяпер гэты „Іойхен шавец“ мае не меншую, чым раней, патрэбу ў дапамозе Шолам-Алейхема, бо „Жаргон“ і яго літаратуру прызналі лепшыя прадстаўнікі рускай літаратуры.

Падзеі 1905 года падштурхнулі Шолам-Алейхема на пошукі сродкаў і магчымасцей для непасрэднага, не толькі праз газеты і кнігі, уздзейвічання на масы. І Шолам-Алейхем знаходзіць гэты сродак, у дзейснасці якога ён даўно ўжо пераканаўся. Гэта—непасрэдная сустрэча з чытачом, тварам у твар.

Ён бярэцца цяпер за адзін з тых жанраў, якімі ён часта карыстаўся ў пачатку сваёй бліскучай літаратурнай дзейнасці. Гэта—драматычны жанр. Калі ён пісаў свае першыя драматычныя творы, ён ніколі не думаў пра тэатр. Цяпер ён пераробіць некаторыя з сваіх ранейшых драматычных твораў. Ён ведае, што яны патрабуюць сацыяльнага завастрэння. Ён робіць так, каб у іх больш адчуваўся подых часу. Ён робіць іх мацнейшымі і больш даступнымі для тэатра.

„Тэатр з'яўляецца адным з наймацнейшых сродкаў асветы“— думаў Шолам-Алейхем. Ён пераклаў сваю п'есу „Цэзейт ун цэшпрэйт“ на польскую мову і яна была пастаўлена на Варшаўскай сцэне ўвесну 1905 года. Спекталь прыцягнуў вялікія масы гледачоў.

Яўрэйскаму буржуазнаму друку п'еса „Цэзейт ун цэшпрэйт“ не падабалася.

„Гэтая рэч зроблена з чужой меркі,—пісала газета „Фрайнт“,— гэта—перакроеная рэч. Яна зроблена па мадэлі „Мяшчан“ Максіма Горкага. Розніца толькі ў тым, што твор Горкага з'яўляецца арыгіналам, а твор Шолам-Алейхема—перайманнем“.

Затое зусім інакш аднесліся да п'есы гледачы з яўрэйскай народнай масы. На другім спектаклі „Цэзейт ун цэшпрэйт“ прысутнічаў сам Шолам-Алейхем. І вось што піша ён пра гэта:

„Гэткага я ніколі не чакаў нават у сваёй пісьменніцкай фантазіі. Пасля першага акта мяне літаральна засыпалі кветкамі. Потым, пасля кожнага акта, мяне па некалькі разоў выклікалі. У чацвертым акце публіка проста звар'яцела. Апладыравалі амаль кожнай фразе, якая мела хоць якія-небудзь адносіны да ідэй, выяўленых у п'есе.

Пад канец паляцелі ўверх капелюшы, нейкая дзікая, першабытная сіла рынулася на мяне, здавалася, каб праглынуць. Я падумаў на хвіліну, што тэатр абрушыцца, я пачынаў баяцца дэманстрацыі“.

Шолам-Алейхем расказвае пра „дзікую, першабытную сілу“, якая „рынулася“ на яго ўнутры тэатра. Яшчэ большая сіла з усіх бакоў ахапіла народнага пісьменніка па-за сценамі тэатра. Тысячы людзей стаялі на вуліцах вакол тэатральнага будынку і з нецярплівасцю чакалі аўтара п'есы, спяваючы з натхненнем яго славутую „Калыханку“ і нядаўна напісаны памфлет супроць цара Нікалая— „Спі, Алекса!“ Але паліцыя не дапусціла дэманстрацыі і натоўп быў разагнаны.

Шолам-Алейхем цалкам пераканаўся цяпер у магутнасці свайго слова. Ён пераканаўся таксама і ў тым, якой бліскучай зброяй з'яўляецца тэатр. І Шолам-Алейхем пачынае разам з перадавымі акторамі будаваць яўрэйскі мастацкі тэатр.

У чэрвені 1905 года Шолам-Алейхем заключае дагавор з дырэкцыяй яўрэйскага тэатра Співакоўскага і Адлера. Ён становіцца літаратурным кіраўніком гэтага тэатра. Ён перарабляе свае п'есы, рэдагуе чужыя, і вельмі здаволены.

—„Такім чынам,—піша ён,—тэатральныя справы ў мяне някепска наладзіліся“.

Але радасць Шолам-Алейхема была нядоўгай. Царызм і яго агенты не пакідалі пісьменніка ў спакоі. Занадта вялікай была яго папулярнасць сярод яўрэйскіх мас. 20 верасня 1905 года яўрэйскі цэнзар у Одэсе піша ў цэнзурны камітэт:

„... Я звяртаю вашу ўвагу на паведамленні ў сёнешнім нумары

газеты „Одесские Новости“. Там сказана, што яўрэйска-нямецкая трупа Співакоўскага збіраецца ставіць п‘есы Шолам-Алейхема, якія няменш тэндэнцыйны, чым яго апавяданне „Дзядзька Піня“. Я бяру на сябе смеласць выказаць сваю думку, што было-б пажадана, каб гэтыя п‘есы былі зняты з рэпертуара і каб не было дазволена абвяшчаць пра іх у афішах і анонсах“.

Планы Шолам-Алейхема аб тым, каб зрабіцца кіраўніком яўрэйскага мастацкага тэатра, былі разбураны.

## Сярод блізкіх

„У нас не знойдзецца амаль што ніводнага пісьменніка, які-б жыў ад свайго пяра. У нас піша кожны, хто хоча, а не хто можа, бо той, хто можа, не мае магчымасці пісаць. Ён заняты якімі-небудзь зусім іншымі справамі, ён шукае сабе кавалак хлеба“.

Так пісаў Шолам-Алейхем яшчэ ў 1900 годзе. У гэтых словах Шолам-Алейхем бліскуча выразіў матэрыяльнае становішча нашых лепшых пісьменнікаў і асабліва нашых класікаў аж да самай Кастрычніцкай Рэволюцыі.

„Яўрэйскі пісьменнік—забяспечаны чалавек.

Калі ў яго ёсць час, дык; ён можа яшчэ быць у дадатак меламедам, крамнікам, маклерам, гандляром ці проста яўрэем-жабраком, які ходзіць па хатах і збірае на сваю кнігу... Як падабаецца вам такі яўрэйскі пісьменнік? Ён забяспечаны хлебам і здароўем, добрымі сябрамі, жонкай і дзецьмі, целам і жыццём...“ пісаў Шолам-Алейхем з другога поваду. Гэтыя гіранічныя радкі таксама амаль зусім не пераўвялічвалі сапраўднага становішча яўрэйскага пісьменніка ў часы царызма.

Шолам-Алейхем быў заўсёды заклапочаны не толькі літаратурнымі справамі. Літаратурная творчасць не забяспечвала яго сродкамі для існавання і ён быў прымушаны лепшыя свае часы аддаваць жыццёвым турботам.

Днём ён ніколі не бываў у сваім габінеце. Ён носіцца па гораду, ходзіць на біржу, каб зарабіць крыху і часта здараецца, што ён вяртаецца ў хату ні з чым.

Дома чакае яго сям‘я. Усюды напазычана і ў хаце ні капейкі грошай.

Сёння восеньскі пахмурны дзень. Пырскае дождж. Цэлы дзень прабыў Шолам-Алейхем на біржы. Ён спазніўся на абед і цяпер абедае адзін. Яго жонка Ольга Рабіновіч сядзіць побач з ім. Ён апавядае ёй нешта адрывістымі сказамі... На біржы нічога не ўдалося зарабіць...

— Нічога, зусім нічога?—пытаецца жонка.

— Нічога!—адказвае Шолам-Алейхем і махае рукой.

У такія хвіліны ён уздыхае, задумваецца і цяжка ўздыхае.

У такія дні ідзе ён на вуліцу шукаць пазыкі. Вось сустракае ён знаёмага. Жартуе. Потым твар яго набывае раптам сур‘ёзны выраз. Ён пытаецца сарамлівай усмешкай:

— Ці не можаце вы пазычыць мне на пару дзён дваццаціпяцірублёўку?

Часам ён атрымлівае, а часам і не. Але сум не доўга трымаецца ў аптымістычнага Шолам-Алейхема. Вось ён ужо зноў з сваімі персанажамі, ізноў становіцца ён вясёлым, радасным. Ён ідзе дахаты і прыносіць нават цацкі для дзяцей.

У такія дні піша ён нешта ў сваім блокноце і пры гэтым моцна жэстыкуліруе, хапае сам сябе за лацканы свайго касцюма, гаворыць сам з сабой, ходзіць па пакою і смяецца.

Дзеці крычаць, бегаюць, танцуюць, гуляюць. Шолам-Алейхем нічога не чуе і нікога не бачыць. Ён прыслухоўваецца толькі да гутаркі сваіх персанажаў, ён бачыць іх міміку, іх рухі. Ён падыходзіць ізноў да свайго высокага пісьмовага стала і піша ў блакноце, на старонках якога ўзнікаюць вобразы і асобы, якія праз некаторы час стануць вядомы мільёнам чытачоў, выклікаючы ў іх то смутак, то гучны смех.

Назаўтра Шолам-Алейхем застаецца дома, у сваёй „уласнай рэспубліцы“, як ён называе звычайна сваю хату. Радасны, святочны дзень. З самай раніцы Шолам-Алейхем ужо ля стала. Ён вымае шклянку з клеям, ножніцы і рэжа свае напісаныя ўчора лісткі. Потым склейвае іх, ізноў перачытвае і зноў клеіць і зноў піша.

Учора Шолам-Алейхем пачаў і сёння ўжо скончыў новы твор. Ён піша лёгка, але не так лёгка выпусціць ён з рук „кавалак працы“. Ён перачытвае яго яшчэ і яшчэ раз, апрацоўвае і зноў чытае наўслых з тымі самымі жэстамі, тым самым голасам і інтанацыяй, якімі гавораць персанажы яго твора.

У яго „ўласнай рэспубліцы“ сёння весела.

— Дзеці, папа сёння будзе чытаць сваё новае апавяданне.

— Папа будзе сёння чытаць—скачуць вакол яго дзеці.

Шолам-Алейхем скончыў свой твор, апрацаваў яго, адшліфаваў. Ён збірае вакол сябе сваю „рэспубліку“. Ён чытае для іх, для сваіх дзяцей, для сваіх першых слухачоў і крытыкаў. А яны качаюцца ад смеху, слухаючы яго чытанне.

„Мы задаволены і мы радуемся, нібыта ўсе мы гэта пісалі. І апавяданняў так многа, і пішацца так лёгка—дзень, два—і гатова!“—успамінае дачка Шолам-Алейхема, Ляля Рабіновіч.

Створаныя ім персанажы рабіліся нібыта сапраўднымі, жывымі сваякамі яго дзяцей. „Тэўе-малочнік“ быў для іх нейкім блізкім, родным дзядзькам з недалёкага мястэчка, „Менахем-Мендэл“—добра знаёмым суседам, частым госцем, а „Хлопчык-Мотка“—дарагім, любым, прыемным стрыечным брацікам.

Радасна і весела было ў той дзень, калі Шолам-Алейхем чытаў свой твор. Усе захапляліся яго гумарам, яго жартам. І часта слухачы пачыналі пераймаць, крыўляць, высмейваць тоўстых буржуазных дам, знаёмых Шолам-Алейхема па Кіеву. Часам сярод хэўры дзяцей чуўся штучна падроблены тонкі галасок:

— Ольга Міхайлаўна, як гэта вы можаце, маючы, не ўрокам кажучы, хату і пяцёра дзяцей і гаспадарку, ісці вучыцца ў зубаўрачэбную школу? Прямо удивительно!

Гэта хто-небудзь з дзяцей прадстаўляў, як знаёмыя дамы гавораць з Ольгай Рабіновіч, якая вучылася на зубнога ўрача, каб палепшыць у далейшым матэрыяльнае становішча сям'і. Шолам-

Алейхем сам любіў іншы раз капіраваць гэтых дам.—„Бацька капіруе іх надзвычайна. Ён не любіць ні гэтых жанчын, ні іх вечароў, як не любіць ён наогул увесь багаты, буржуазны Кіеў“,— успамінае дачка Шолам-Алейхема.

У далейшым, калі дзеці Шолам-Алейхема выраслі і жылі разам з ім на замежным курорце, творы яго ўсёроўна праходзілі спачатку праз чытанне наўслых у сямейным коле. „Пры гэтым праводзілася спецыяльная падрыхтоўка як да сямейнага свята. Ужо раніцою ведалі дзеці, што ўвечары бацька будзе чытаць сваю новую рэч. І Шолам-Алейхем, хвалюючыся рыхтаваўся да чытання, як да афіцыйнай „прэм‘еры“. Абкружаны ўсімі сваімі пісьмовымі прыладамі, ён чытае і выкрэслівае і ўпісвае нешта ў новы манускрыпт, спрытна клеіць новыя лісткі, кусае ногці, і зноў выкрэслівае і зноў піша. Але вось надыходзіць вечар. Сям‘я ўжо сабралася вакол стала ў вялікім чаканні. З цікавасцю глядзяць дзеці праз адчыненыя дзверы ў бацькаў габінет. А Шолам-Алейхем усё яшчэ пагружаны ў працу. Ён майструе нешта ў сваім кутку пяром і чарніламі, нажніцамі і паперай. І твар яго такі сур‘ёзны, такі сканцэнтраваны як у інжынера-вынаходцы, які вымярае ў апошні раз дэталі свайго вынаходніцтва, перш чым прадэманстраваць яго перад публікай.

— Папа, гатова?—нецярпліва пытаецца нехта, каб паказаць, што яго чакаюць з вялікай цікавасцю.

— Гатова!—чуецца юнацкі, бадзёры голас Шолам-Алейхема і хутка з‘яўляецца ён перад сваёй аудыторыяй спрытны, рухавы, з бліскучымі акулярамі, з вясёлай усмешкай, з свежа склееным, „распухлым“ манускрыптам у руцэ.

Калі гэта быў адзін з яго любімых твораў, напрыклад, якая-небудзь гісторыя з цыкла „Тэўе-малочнік“, дык ён нават апранаўся пасвяточнаму для першага хатняга чытання.

## У атэлі „Імперыяль“

Кіеў, 1905 год, 18—21 кастрычніка.

Вось ужо тры дні, як Шолам-Алейхем з усім сваім сямействам не жыве ў сваёй сталай кватэры.

Іх там няма.

Яны збеглі адтуль, каб ратавацца, каб ратаваць сваё жыццё“.

Вось ужо тры дні, як Шолам-Алейхем і яго сямейства хаваюцца ў атэлі „Імперыяль“.

Яны не адны. Разам з імі знаходзяцца там яшчэ сотні сямей.

Спалоханыя, туляцца яны адзін да аднаго.

Яны хаваюцца тут ад смерці, якая тры дні ўжо лютуе над Кіевам—горадам.

Гэтую смерць нясуць цэлыя хэўры хуліганаў, паліцэйскіх, царскіх салдат. Яны бадзяюцца з дзікімі спевамі, п‘яныя выгукі „ура“ нясуцца ўслед за імі. На шмат якіх вуліцах забілі пагромшчыкі не аднаго бацьку, не адну маці, не адно дзіцё, не аднаго рэвалюцыйнага рабочага, работніцу.

Падкуплены швейцар, з абразом у руках, стаіць ля дзвярэй

атэля. Ён запэўняе пагромшчыкаў, што ў атэлі „Імперыяль“ знаходзяцца толькі багабаязныя, набожныя хрысціяне.

Раптоўна думка мільганула ў галаве Шолам-Алейхема. Як гэта можна сядзець тут пад аховай абраза, як гэта можна ратавацца самому, пакінуўшы народ, бедны народ, у руках раз'юшаных забойцаў і разбойнікаў.

Але няшчасныя бежанцы, што знайшлі сабе прытулак у атэлі „Імперыяль“, пад аховай швейцара і яго абраза, не адпусцяць Шолам-Алейхема.

І вось сядзіць ён бледны, узбуджаны. Усё цела яго дрыжыць ад хваляваньня. А за вокнамі „Чуецца д'ябальскі крок, круціцца танец смерці. Змяшаліся ў адно цэлае свіст і грукат, удары і трэск, лямант і смех... і ура! Змяшаліся разам кроў і асколкі, валасы, кавалкі паперы, мозг, парваныя кнігі і пралітае віно, у дзіўную мешаніну рэчаў“.

Ён уцячэ адсюль, дзе гвалтуе гэтае жудаснае пекла, што завецца пагромам. Ён не хоча тут быць. Ён уцячэ—далёка адсюль. Ён паедзе па Еўропе і па Амерыцы. Царызму—„патрэбны грошы... ён увесь у даўгах, нават валасы на ім не яго ўласныя“. Яму няма чым плаціць свае доўгі. Царызм „пускаецца на ўсякія афёры, абы дамагчыся хаця невялікай пазыкі ад Еўропы ці Амерыкі“.

Ён, Шолам-Алейхем, будзе выступаць на вялікіх мітынгах і сходах у Н'ю-Йорку, у Берліне, у Парыжы, у Лондане. Ён будзе ўплываць на банкіраў, каб яны не давалі пазык для цара. Ён абавязкова паедзе. Ён павінен паехаць.

Але Шолам-Алейхем ашукаўся ў Ротшыльдах і ў Мендэльсонах таксама, як і яго героі з Касрылаўкі. Ён думаў, што яны сапраўды зацікаўлены ў кроўных інтарэсах яўрэйскіх народных мас, хаця там ён неаднойчы зусім аб'ектыўна адмаўляў гэта ў сваіх творах.

І як толькі спынілася дзікае „ура“ на кіеўскіх вуліцах, як толькі пер'е, што лётала ў паветры, упала на брук, і зноў стала ціха ў горадзе Кіеве, Шолам-Алейхем пачаў клапаціцца адносна свайго ад'езду з Расіі. Праз месяц пасля пагрому піша ён аднаму з сваіх знаёмых, прафесару, у Н'ю-Йорку—„Калі знойдзецца цяпер які-небудзь яўрэй-міліянер з пазыкай, дык ён зарэжа без нажа шэсць мільёнаў яўрэяў, акрамя сотні мільёнаў не яўрэяў. Іх кроў падзе на яго галаву. Калі вы скажаце гэта праз друк, вы зробіце нам вялікае дабро. Зрабіце-ж гэта!“

Так распачаў Шолам-Алейхем сваю прапаганду ў замежных краінах супроць пазыкі для царызма. Яму хацелася, каб у Амерыцы ўбачылі хаця-б праз тэатр тую гераічную барацьбу, якую вядуць народы ў Расіі за сваё вызваленне. Ён піша для тэатра драму „Апошняя афяра, або крывавыя дні“.

У тыя самыя дні, калі Шолам-Алейхем выступаў супроць пазыкі для царызма, пасылае ён у Амерыку гэты свой драматычны твор. Гэта п'еса павінна была, паводле яго думак, стварыць такую ілюзію, каб кожны з гледачоў у Н'ю-Йорку меў-бы права сказаць: „і я быў у Расіі ў тыя крывавыя дні“.

Ён звярнуўся ізноў да свайго новага твора, які ён толькі што

паслаў у Амерыку і, перагледзеўшы ўсіх дзейных асоб п'есы, спыніўся на вобразе Ейліка Драгвы:—Вельмі ўдзячная роля для добрага трагіка,—думаў ён.—Малады шавец, соцыял-дэмакрат. Дый наогул, здаецца мне, усе акторы забяспечаны ролямі,—сказаў ён сам сабе і крыху саромячыся свайго вялікага таленту, дадаў:

— Гэта не я забяспечыў, само жыццё забяспечыла.

Так, само жыццё спрыяе таму, каб кожны вялікі талент адлюстроўваў тыя ці іншыя часы рэчаіснасці. І з выключнай сілай адлюстроўваў яе вялікі талент Шолам-Алейхема.

## Ён піша эпітафію для сваёй уласнай магілы

Разгул контррэволюцыі ў краіне паверг Шолам-Алейхема ў журбу і песімізм. У гэтыя дні ўбачыў Шолам-Алейхем здань сваёй смерці.

Аднойчы ўвечары, калі змрок паволі згушчаўся і ў пакоі рабілася ўсё цямней і цямней, Шолам-Алейхем вышаў з свайго габінета.

Ён сеў за раяль і пачаў іграць.

Мелодыя была журботнай і сумнай, як большасць песняў яўрэйскага працоўнага народу пры царызме. І словы таксама былі журботныя.

Потым, бледны і разгублены, вярнуўся ён у свой пакой і пачаў пісаць нешта ў блакнот, ціха напяваючы сабе адзін з ранейшых матываў. Вось што запісаў тады Шолам-Алейхем на паперы:

Жыў калісь яўрэў звычайны,
Для народу ён пісаў,—
Для жанчын на простай мове
Байкі розныя складаў.
Ён гумарыстам быў, з жыцця ён
Заўсёды кпіў і жартаваў,
Ды толькі вось бяда,—самога
Чамусьці сум апанаваў!
І калі ўвесь народ смяяўся
І з яго жартаў рагатаў,
Ён плакаў, каб ніхто не бачыў,
Ён плакаў, каб ніхто не знаў...

Гэта была эпітафія для яго ўласнай магілы.

## У вандраванні

На працягу цэлага года, з лістапада 1905 года аж да лістапада 1906 года, Шолам-Алейхем ездзіць з сям'ёй па Еўропе. Ён ездзіць па гарадах і мястэчках Галіцыі і Румыніі. Ён выступае на вечарах, чытае свае творы. Ізноў новы трыумф. Новыя сустрэчы з тымі пластамі яўрэйскіх народных мас, якія да таго часу былі яму яшчэ мала вядомы.

Галіцыя была тады адным з транзітных пунктаў для эміграцыі яўрэйскіх народных мас з Расіі. Ён бачыць іх ізноў, бедных вандроўнікаў, з вачэй якіх не знік яшчэ спалох перад царскім бізуном, перад пагромамі і рэпрэсіямі. Ён бачыць іх пакуты на далё-

кім шляху да краіны, што па той бок акіяна. Ён знаёміцца з заходне-еўрапейскімі яўрэйскімі буржуазнымі добрачынцамі і пераконваецца ў тым „шчасці", што нясуць для яўрэйскіх мас розныя „Альянсы" і іншыя буржуазна-філантрапічныя аб'яднанні.

Вандруючы па ўсіх найбольш значных транзітных пунктах эміграцыі, Шолам-Алейхем спыняецца часова ў Швейцарыі, у Жэневе, дзе знаходзілася тады шмат рускіх рэволюцыйных эмігрантаў.

Разам з сваімі старшымі дзецьмі бегае ён па мітынгах і слухае выступленні рэволюцыянераў.

— Вы яшчэ ўбачыце,—гаворыць Шолам-Алейхем сваім дзецям,— у Расіі будзе яшчэ вялікая рэволюцыя... але як дажыць да гэтага часу?!

У Жэневе застаюцца яго старшыя дзеці. Сам ён з жонкай і малодшым сынам едзе ў Амерыку. Па дарозе ён спыняецца ў адным з буйнейшых еўрапейскіх цэнтраў яўрэйскай эміграцыі з Расіі—у Лондане.

Тут убачыў Шолам-Алейхем ізноў сваю старую Касрылаўку, якая перабралася з сваімі бебехамі на плячах праз увесь еўрапейскі кантынент, узлезла на палубу парахода, пераплыла мора і стварыла тут, у Лондане, у сталіцы Вялікабрытаніі, сваё саламянае гняздо—Уайчэпель. У гэтым Уайчэпелі прадаюць таксама „рыбу і мяса, маліцвеннікі, цыцэс, яблыкі, квас, торты, кавалкі нарэзанага селядца, талесы, воўну, яйкі, шклянкі, гаршкі, калошы, лапшу, мётлы, свісцёлкі, перац, вяроўкі—адным словам усё тое самае, што і ў нас. І смак той самы, што і ў нас, нават яшчэ горшы... Бердычэў! Мы не ў Лондане, мы ў Бердычаве! І тут таксама шмат „простых людзей, беднякоў, небаракаў, жабракоў, галоты".

Геніяльны пісьменнік адразу заўважыў Бердычэў і Касрылаўку ў Лондане, у горадзе еўрапейскай „цывілізацыі". Ён бачыў сваім мастацкім вокам, што буржуазны лад ніколі не вырашыць ні „адвечнага гора", ні адвечнага „яўрэйскага пытання". Але ён не зразумеў, што канчаткова вырашэнне яўрэйскага пытання магчыма толькі тады, калі будзе знішчаны навекі капіталістычны лад. Касрылаўка перастане быць Касрылаўкай толькі тады, калі працоўнае чалавецтва вызваліць ад капіталізма ўсе прыгнечаныя народы, калі заквітнее соцыялізм.

## Прыезд у Амерыку

Вось ужо цэлы год, як яўрэйскія эмігранты ў Н'ю-Йорку чытаюць у газетах паведамленні аб тым, што да іх едзе Шолам-Алейхем. Яўрэйскія народныя масы ў Амерыцы чакалі яго з нецярплівасцю. Так чакаюць толькі блізкіх, родных людзей—бацькоў, братоў і сясцёр з далёкай, старой радзімы. І гэта не дзіўна: народны пісьменнік суцяшаў іх у самыя цяжкія дні жыцця на бацькаўшчыне. Яго вясёлыя, сардэчныя апавяданні былі для іх заўсёды найлепшым вячэрнім адпачынкам пасля цяжкога дня працы. І тут, на новай радзіме, Шолам-Алейхем і яго апавяданні былі неадрыўна звязаны з іх самымі інтымнымі ўспамінамі. З дня на дзень чакалі яны яго, бо ён суцяшаў іх у жыцці, поўным турбот, гора і баязні.

Сёння, 20 верасня 1906 года, велізарныя натоўпы эмігрантаў ідуць у Н'ю-Йоркскую гавань. Яны сустракаюць свайго пісьменніка.

Параход павольна набліжаецца да берагу.

— Шолам-Алейхем!.. Шолам-Алейхем!.. Калі ласка, Шолам-Алейхем!..—гучыць усюды ў гавані.

Шолам-Алейхем на беразе. Яго нясуць на руках. Радасныя выгукі „ура!"

Малодшы сын Шолама-Алейхема, тады яшчэ маленькі хлопчык, крычыць:

— Куды гэта панеслі папу дзядзі і цёці?

Чалавечая хваля ўзняла яго высока, высока. А вакол гучыць безупынна:

— Шолам-Алейхем!.. Калі ласка, Шолам-Алейхем!..

„Хутка пасля гэтага пацягнуліся бясконцыя дэлегацыі, рэпарцёры і—справы, справы, справы".

Шолам-Алейхем думаў тады, што „бліжэйшая будучыня прадвяшчае шмат добрага", што новая эра ўзыходзіць над яго „гарызонтам, поўная поспеху, шчасця і радасці".

Але нядоўгім было „амерыканскае шчасце" Шолам-Алейхема. Тэатр, на які ўскладаў Шолам-Алейхем свае найвялікшыя надзеі, яго ашукаў. Ён не змог ажыццявіць сваю думку аб адлюстраванні на сцэне гераічных дзён першай рускай рэволюцыі. П'есу „Першая афяра" амерыканскія тэатры не паставілі.

Амерыканскі жоўты друк распачаў хутка пасля прыезду Шолам-Алейхема спачатку стрыманую, а потым адкрытую барацьбу супроць яго. Тут, у Амерыцы, сустрэўся Шолам-Алейхем ізноў з тым літаратурным ворагам, з якім ён меў справу ў Расіі, гадоў пятнаццаць назад. Гэта быў шомерызм у сваёй амерыканскай форме.

Усюды, ва ўсіх галінах мастацтва панаваў тут шомерызм: у тэатры, у літаратуры, у перыядычным друку. І Шолам-Алейхем паставіў перад сабой мэту змагацца супроць амерыканскага шомерызма. У той час ён спыніўся на адной галіне літаратурнай творчасці—на драматургіі.

Падобна таму, як у восьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя, у Расіі, ударыў ён па шомерызму сваім раманам „Стэмпеню", так і цяпер узяўся ён ізноў за гэту тэму, каб, перапрацаваўшы „Стэмпеню" для сцэны, нанесці першы ўдар шомерызму ў амерыканскім тэатры. Адначасова ён пачынае працу і над п'есай „Якнегоз". На гэта яго падштурхнулі амерыканскія ўмовы і, ў першую чаргу амерыканскі „олрайтнік". У сваіх п'есах ён узмацняе яшчэ больш адмоўныя рысы рускага „олрайтніка", носьбіта шомерызма.

Але, не гледзячы на вялікі поспех п'ес Шолам-Алейхема на сцэне буйнейшых яўрэйскіх тэатраў Н'ю-Йорка, амерыканскі жоўты друк адштурхнуў Шолам-Алейхема і ад амерыканскага яўрэйскага тэатра.

Тут, у Амерыцы, з'явілася ў Шолам-Алейхема думка аб тым, што „гора і пакуты, уздыхі і слёзы, здзекі і крыўда засталіся тыя самыя і, напэўна, застануцца, пры божай дапамозе, тымі самымі,

пакуль чалавек будзе панаваць над чалавекам, пакуль у людзей будуць яшчэ выяўляцца час ад часу адзнакі звяроў"...

Амерыканскі „олрайтнік" абураў Шолам-Алейхема яшчэ больш, чым яўрэйскія буржуазныя скорабагатнікі ў Расіі. Ён паставіў перад сабой задачу выкараніць „олрайтніка" з літаратуры. Іменна ў гэты час задумаў ён свой раман „Блукаючыя зоркі", у якім ён хацеў паказаць перад светам тое „шчасце", якое прыносіць Амерыка народным масам. Адначасова з гэтым, друкуючы свой раман „Патоп", ён перавозіць у Амерыку і свайго „Менахем-Мендэля". Нарэшце ён стварае ў гэты перыяд адзін з лепшых сваіх твораў— „Хлопчык Мотка".

## Небяспечная хвароба

Менш года прабыў Шолам-Алейхем у „краіне золата". Яго цягнула на радзіму,—туды, дзе народныя масы змагаліся за сваю вялікую будучыню. Шолам-Алейхем едзе назад, у Еўропу.

У Жэневе, дзе знаходзіцца яго сям'я, ён ізноў пачынае дыхаць паветрам, якім дыхае яго радзіма. Ён ходзіць ізноў на мітынгі, на сходы рускіх эмігрантаў-рэвалюцыянераў. Разам з дзецьмі здабывае ён сабе білет на лекцыю Леніна.

У Жэневе знаходзіцца і яго літаратурны „дзед"—Мендэле Мойхер-Сфорым. Ён таксама часова згубіў сваю бацькаўшчыну, ратуючыся ад пагромаў.

Прабыўшы кароткі час у Жэневе, Шолам-Алейхем едзе ў Расію. Тры гады ўжо не быў ён на радзіме. Тры гады як не бачыў сваёй Касрылаўкі. Па дарозе ён спыняецца ў розных гарадах і мястэчках, выступаючы з чытаннем сваіх твораў.

Тры гады вандраванняў па Еўропе і Амерыцы кепска адбіліся на здароўі Шолам-Алейхема. Матар'яльныя ўмовы яго былі досыць цяжкімі. Ён слабее фізічна.

У мястэчку Баранавічы яго апанавала небяспечная хвароба. Спыніўшыся тут, па дарозе з Варшавы ў Менск, для выступлення, ён захварэў на запаленне лёгкіх, прычынай якога быў туберкулёз лёгкіх.

Хвароба народнага пісьменніка выклікала цэлы перапалох у мястэчку Баранавічы. Цэлымі днямі стаяў натоўп людзей перад домам, дзе ён ляжаў. Усе пытаюцца, як адчувае сябе Шолам-Алейхем, вясёлы герой народнай легенды.

Шолам-Алейхем два месяцы ляжыць на пасцелі ў Баранавічах. Падобна касрылаўцам ляжыць ён хворы без усялякіх матэрыяльных сродкаў. Ён нічога і ні ў кога не патрабуе, бо ведае, як бедны народныя масы, як прыгнечаны яны.

Надыходзіла дваццаціпяцігоддзе яго літаратурнай дзейнасці. Гэта быў год яго юбілея, да якога нават і не рыхтаваліся.

Ад жыхароў мястэчка Баранавічы даведаліся пра становішча Шолам-Алейхема ў буйных яўрэйскіх цэнтрах. Шолам-Алейхем становіцца аб'ектам буржуазнай філантропіі. Некалькі буржуазных добрачынцаў збіраюцца, абвяшчаюць сябе камітэтам і пішуць „адозву" да яўрэйскага народу. Ад гэтай адозвы пахне духам рэ-

лігійнай добрачыннасці, яна аздоблева вершамі з бібліі. „Мы хочам спадзявацца,—пішуць камітэтчыкі,—што кожны яўрэй адгукнецца, бо—„эхад гамеамет вэ эхад гамарбэ“. На гэта не трэба глядзець як на міластыню; наадварот, міластыню даваў Шолам-Алейхем нам. Дзесяткамі год ён ахвяраваў нам свае думкі, свае жарты, сваё сэрца і сваю кроў. Мы павінны яму аддаць доўг, і да таго-ж стары. Такім чынам, браты, плаціце хутчэй свой доўг. Гэта будзе адзін адказ на шмат пісьмаў, якія мы атрымліваем кожны дзень з запытаннямі, якім чынам ушанаваць любімага Шолам-Алейхема“.

Народ адгукнуўся. З кожнага горада, з кожнага мястэчка з любоўю пасылалі яўрэйскія працоўныя свае грошы для любімага народнага пісьменніка, не пыталіся нават, хто запрашае збіраць і хто збірае для яго.

### Юбілей святкуюць без яго

Ачуняўшы пасля сваёй цяжкай хваробы, Шолам-Алейхем едзе на курорт Нерві ў Італію. Сям'я яго застаецца ў Расіі.

Ва ўсіх гарадах і мястэчках Расіі пачаліся ў кастрычніку 1908 года ўрачыстыя святкаванні дваццаціпяцігадовага юбілея Шолам-Алейхема. На юбілейных вечарах рабіліся грашовыя зборы на карысць хворага юбіляра.

Недзе ў Італіі, у Нерві, далёка ад радзімы, ад Касрылаўкі, адзінокі і небяспечна хворы Шолам-Алейхем пералічваў вынікі сваёй нястомнай працы. Ён піша апавяданне „Шмуель Шмелькес і яго юбілей“, у якім ён кпіць з свайго ўласнага юбілея.

Яму было крыўдна за сваю Касрылаўку, што яна засталася ў тым самым балоце, як і дваццаць пяць год назад. „От бачым мы цяпер, пасля дваццаці пяці гадоў, прыгожаю раніцай, ізноў нашага героя Шмуеля Шмелькеса. Ён тупае зноў па таму самаму балоту, як і дваццаць пяць год назад, ізноў стараецца ён выбрацца сухім з касрылаўскага балота“.

Пад сонцам Італіі, седзячы ў крэсле, пытаецца ў сябе Шолам-Алейхем, што зрабіў ён для літаратуры?

„Ён ведае, што яго персанаж не апрануты ў шоўк, што яны не належаць да высокага свету, як гэта любіць капіталістычны чытач. Яны, яго любімыя вобразы не з'яўляюцца буйнымі землеўласнікамі, яны не маюць уласных музеяў і карцінных галерэй і жывуць яны не на ўлонні прыроды, сярод пахучых кветак і прыгожых лясоў.

— „Хіба ён не асвятліў—пытаецца Шолам-Алейхем адносна свайго Шмуеля Шмелькеса—сваім невялічкім агеньчыкам невялічкую плямку на зямлі, што называецца Касрылаўкай? Хто быў першы, хто даў усім ведаць, што ёсць недзе Касрылаўка, і што ёсць у Касрылаўцы балота, і што ў гэтым балоце тупаюцца вакол модныя людзі, маленькія чалавечкі, што ціснуць і прыгнятаюць і душаць і ядуць адзін аднаго?

Хто быў першы, хто паказаў, якія перлы валяюцца тут, у гэтым балоце, у гэтай цемры, у гэтай цясноце, у гэтым смуродзе?“

Шолам-Алейхема натхнілі юбілейныя святкаванні, яны ўзнялі яго гордасць, але ён ні на хвіліну не паверыў абяцанням буржуазіі. Ён не верыў усім гэтым „Носенам Койрэх“, з іх „асвечанымі“ сынкамі, якія падсунуліся як кумы да яго юбілея. Ён верыў, што ўсё, што яны гавораць,—не больш як сон.

„Больш трыццаці год,—кажа рэб Носн Койрэх з салодкалакрычнай усмешкай усяму народу,—больш трыццаці год я не выходжу з хаты, але дзеля такога дня, хэ-хэ, я ўжо згадзіўся ўсё-ж такі, як кажуць, чалавек, які піша добрыя рэчы, хэ-хэ, ужо дваццаць пяць год, дык належыць яму, я думаю, вялікае дзякуй з падарункам, хэ-хэ...

І ён паварачваецца тварам назад:

— Іосефіц, што ты скажаш?

Вырастае такі Іосефіц, няведама адкуль, прачышчае нос двума пальцамі і выціраецца крысом.

— Няма чаго казаць!..“

Шолам-Алейхем ведае, што ўсё гэта сон. Не ад Носена Койрэха і не ад яго „асвечанага“ Іосіфеца прыдзе яму дапамога. Не яны аддзякуюць яму, не яны выплацяць пазыку. І Шмуеля Шмелькеса выкідаюць з кватэры: ён не выкупіў свайго закладу. І ён выцірае, Шмуель Шмулькес, як і ўсе касрылаўцы „капотаю буйныя халодныя кроплі поту, што цякуць па яго пакрытаму маршчынамі ілбу“.

Шолам-Алейхем, які з'яўляўся ўвасабленнем народнага гумара ў яўрэйскай літаратуры, які заўсёды заставаўся вясёлым Шолам-Алейхемам у сваіх шматлікіх пісьмах,—„байструк, свавольнік, гарэза, валацуга, басяк,“—як ён сам сябе характарызаваў, піша ў той час свайму сябру Спектару кароткае, сумнае пісьмо:

„Браце Спектар! Ты сам павінен зразумець маё сэрца. У той час, калі там, на любай радзіме, святкуюць яўрэі маё свята, знаходжуся я тут адзін, хворы, пакінуты, адарваны і плачу, лію слёзы“...

## На замежных курортах

Прайшло некалькі месяцаў. Шолам-Алейхем ізноў адчуў сябе працаздольным. Ці многа яму трэба? Ён мае сілы, каб хадзіць і гэтага даволі. Ён бярэцца за пяро, за блакнот і піша. Ён пераглядае зноў свае ранейшыя творы і спыняецца на толькі што створаным вобразе Шмуеля Шмелькеса.

„Я пісаў яго, у часе хваробы,—кажа Шолам-Алейхем,—таму не здзіўляйцеся, калі ён будзе здавацца слабаватым. А можа ён зусім і не такі слабы? Вы-ж ведаеце, я веру ўсім, толькі не самому сабе. У мяне сядзіць нехта ўнутры, накшталт Мефістофеля, і смяецца і кпіць з майго пісання. Заўсёды, калі я пішу, і потым перачытваю з энтузіязмам, як звычайна гэта робіць пісьменнік, ён маўчыць, толькі свішча губамі і ўсміхаецца вачамі. Калі-б я мог яго схапіць, я-б задушыў яго! Іншы раз бывае, што ён слухае мяне зусім сур'ёзна і ківае галавой. Я думаю, што ён задаволены і пасылаю ў друк,—тады ён пачынае рагатаць, гэты мефістофель, каб ён згарэў!“

Шолам-Алейхем ізноў ужо жартуе ў сваіх пісьмах. Ён значна паправіўся за некалькі месяцаў прабывання свайго на курорце і цяпер ён жартуе над сабой вельмі задаволены:

„Я набыў амаль чатыры кіло, гэта значыць дзесяць фунтаў. Дзесяць фунтаў мяса... Калі гэтак пойдзе далей, дык мае справы значна палепшацца... Разлік ясны, як на далоні: дзесяць—пятнаццаць фунтаў у месяц—дык вы маеце сто восемдзесят фунтаў у год. Фунтаў сто пяцьдзесят важыў я раней, дык гэта мы маем, значыцца, усяго трыста трыццаць фунтаў або восем пудоў і дзесяць фунтаў. З такой вагай я змагу кінуць сваё пісанне, забыць свае байкі і проста паказваць сябе публіцы. Гэта значна лягчэй, чым пісаць або чытаць для народу. І для публікі таксама цікавей бачыць *вялікага* пісьменніка, чым слухаць, калі ён чытае. А што датычыцца Амерыкі, дык там можна будзе грабсці золата. У мяне ўжо нават падрыхтаваны анонс:

! Сусветнае дзіва!

! Ідзіце! Глядзіце! Масамі! Дзівіцеся!

! НАЙВЯЛІКШЫ ГУМАРЫСТ У СВЕЦЕ!

! ВАЖЫЦЬ ТРЫСТА ТРЫЦЦАЦЬ ФУНТАЎ!

— ШОЛАМ - АЛЕЙХЕМ —

Уваход 1 долар.

Не прапусціце выпадку! Раскажыце сваім сябрам!

Здароўе Шолам-Алейхема палепшылася, але ён быў прымушаны застацца за мяжой у мясцовасці з такім кліматам, які перашкаджаў далейшаму развіццю яго хваробы. Месцам жыхарства застаюцца для Шолам-Алейхема курорты Італіі і Швейцарыі.

Матэрыяльнае становішча яго таксама палепшылася. Юбілейны камітэт, у які ўвайшлі ў далейшым і яўрэйскія пісьменнікі, дамогся, нарэшце, таго, што творы Шолам-Алейхема былі выкуплены ў выдаўцоў, якія мелі на іх права адвечнай уласнасці. Творы Шолам-Алейхема ізноў перайшлі ва ўласнасць аўтара.

У 1909 годзе творы Шолам-Алейхема пры дапамозе Максіма Горкага, вышлі на рускай мове. Гэта таксама значна спрыяла палепшанню матэрыяльнага становішча Шолам-Алейхема і падтрымала яго маральна.

Творчая энергія яго ўзнялася. Шолам-Алейхем піша малыя і вялікія рэчы, якія публікуе да 1914 года, і паміж імі раманы „Блукаючыя зоркі“ і „Крывавы жарт“.

У пачатку 1913 года Шолам-Алейхем прыступае да працы над сваёй мастацкай аўтабіяграфіяй „З кірмаша“. Гэта павінна была быць, паводле думак Шолам-Алейхема, не толькі яго аўтабіяграфія, але таксама і раман пра жыццё маладога чалавека другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзя. Тут павінны былі быць апісаны сустрэчы Шолам-Алейхема з рознымі пісьменнікамі, яго выказванні і ўспаміны адносна развіцця яўрэйскай літаратуры.

З вялікім цярпеннем пачаў Шолам-Алейхем працаваць над гэтай кнігай. Напісаўшы першую частку, у якой ахоплены перыяд

яго дзяцінства і юнацтва, Шолам-Алейхем пачаў шукаць для кнігі выдаўца. Але выдаўца знайсці было цяжка Яўрэйскія буржуазныя газеты ў Расіі і ў Амерыцы лічылі за лепшае даваць кожны дзень у працягах непамерна вялізныя, „надзвычайна цікавыя“, авантурныя раманы, чым друкаваць аўтабіяграфію Шолам-Алейхема.

Тым часам, Шолам-Алейхем ізноў захварэў і хвароба прамучыла яго на працягу некалькі год аж да самай смерці.

## Апошнія два гады

Летам 1914 года Шолам-Алейхем ездзіць ізноў па розных гарадах і мястэчках Украіны, Беларусі і Польшчы. Па дарозе ў Швейцарыю Шолам-Алейхем спыняецца часова ў Германіі. Там захапіла яго імперыялістычная вайна.

Як рускага падданага яго высылаюць з Германіі і з гэтага часу пачынаюцца яго новыя вандраванні. Ён не спрабуе вярнуцца ў Расію, дзе зноў аднавіліся рэпрэсіі супроць яўрэйскага насельніцтва і дзе было забаронена друкаванае слова на яўрэйскай мове.

Не гледзячы на складаныя і небяспечныя ўмовы, Шолам-Алейхем едзе ў Амерыку. Гэта было тады адзінае месца, дзе мог існаваць яўрэйскі пісьменнік. І вось зноў апынуўся ён у краіне золата, у яўрэйскіх „олрайтнікаў“. Цяжка было ў яго на сэрцы. Выраз смутку не зыходзіў з яго твара. Ён адчуваў сябе адзінокім у вялікім, шматмільённым Н‘ю-Йорку. Але тым не менш ён бярэцца і тут за сваю аўтабіяграфію.

Суседзі часта бачаць, як блукае ён па вуліцах, недалёка ад свайго дома, задумлівы, пагружаны ў успаміны аб юнацтве.

„Гледзячы на яго, цяжка паверыць, што гэта былы Шолам-Алейхем: смутак у вачах, смутак ва ўсім выразе яго рухавага, артыстычна-прывабнага твара!“ Такое ўражанне засталося ў дзяцей Шолам-Алейхема ад апошніх паўтара года яго жыцця.

Не мала засмучалі яго апошнія дні рэдактары н‘ю-йоркскіх буржуазных газет, у якіх друкавалася яго „З кірмаша“. Яны патрабавалі ад Шолам-Алейхема, каб ён пісаў замест аўтабіяграфіі „хвалюючыя“ прыгодніцкія раманы.

У часе свайго другога прыезду ў Амерыку Шолам-Алейхем цярпеў яшчэ больш ад „олрайтніка“. Яму прысвячае Шолам-Алейхем некалькі напісаных ім тады сатырычных твораў.

У канцы лета 1915 года ў сям‘і Шолам-Алейхема адбылася катастрофа: памёр яго дваццаці пасцігадовы сын. Гэта яшчэ больш засмуціла жыццё Шолам-Алейхема. Гэта яшчэ больш падарвала яго здароўе. Увесну 1916 года ён захварэў ізноў, цяпер ужо ў апошні раз.

Далёка ад радзімы, далёка ад сваіх літаратурных персанажаў і ад Касрылаўкі, ляжаў хворы Шолам-Алейхем у ложку.

Мільёны яўрэйскіх народных мас цягнуліся тады пад бізуном паліцыі па дарогах, залітых крывёю радзімы. Наймаладзейшыя, наймацнейшыя сыны народаў гінулі на крывавых палях сусветнай вайны, абараняючы чужыя інтарэсы, інтарэсы буржуазіі і царызма.

У тыя крывавыя дні, 13-га мая 1916 года, памёр у Н'ю-Йорку Шолам-Алейхем.

Сотні тысяч яўрэйскіх рабочых і працоўных Н'ю-Йорка ішлі па вуліцах горада, каб развітацца з сваім народным пісьменнікам. Сотні тысяч рабочых не працавалі ў дзень пахавання Шолам-Алейхема. Яны сумавалі па таму, хто асвятляў іх цяжкае жыццё на старой радзіме, хто суцяшаў іх на працягу трыццаці пяці год сваім гучным, вясёлым, сяброўскім смехам. Яны ішлі і думалі пра апошні, самы інтымны твор Шолам-Алейхема, пра пункт „а“ яго завяшчання:

„Дзе-б я не памёр, хай мяне хаваюць не паміж арыстакратаў, паважных людзей ці багатыроў, а паміж простых рабочых яўрэяў, сярод сапраўднага народу, каб помнік, які паставяць потым на маёй магіле, асвятляў-бы простыя магілы вакол мяне, і каб простыя магілы ўпрыгожвалі мой помнік так, як просты, сумленны народ асвятляў жыццё свайго народнага пісьменніка“.

*Пераклаў з яўрэйскай мовы*

*ВІТ. ВОЛЬСКІ.*

*Анатоль Вялюгін*

# МАТЧЫНА ПЕСНЯ

Спі, мой галубочак сінявокі,
дрэмле ночка ціхая над хатай.
У асоках завадзей глыбокіх
жоўтыя паснулі качаняты.

За сялом пшаніца ў ярым соку;
пад срэбрыстым месячным разлівам
дрэмлюць пушчы ў тысячу валокаў,
салаўіныя сады ў налівах.

Мы, сынок, з табою ўсім багаты,
за твой лёс няма ў мяне трывогі.
Далямі бяжыць ад нашай хаты
да Крэмля шырокая дарога.

Там не спіць за працаю задумны
бацька наш у каменнай святліцы:
яго вочы—зорныя,
а думы,
як вада прысветлая крыніцы.

Чуе ён над краем шэлест зораў,
і ў туманы золкія лагчынаў
ён паслаў армейцаў у дазоры
берагчы твой ціхі сон, хлапчына,

Як дубок зялёны сярод пожань,
як вясною краска лугавая,
вырастай на радасць, мой прыгожы,
у пяшчотах сонечнага края.

Ой, засні, засні, мой сінявокі,
дрэмле ночка ціхая над хатай.
У асоках завадзей глыбокіх
жоўтыя паснулі качаняты.

1937 г. Менск

*М. Паслядовіч*

# ГАРАЧАЕ СЭРЦА

**П'еса ў адной дзеі**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

АРСЕНЬ БАБІЦКІ—трактарыст, дапрызыўнік.
СЦЕПАНІДА АНДРЭЕЎНА—маці Арсеня.
МІШКА—трактарыст.
ДЗЕД ВІКТАР—дзед Арсеня.
ЛЁНЯ—калгасны лістаносец.
КАРПУШКА—рахункавод.
МІКОЛА ГАЎРЫЛАВІЧ—старшыня калгаса.
Калгасная моладзь.

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Калгасная хата. Пасярэдзіне стол. На ім букет з палявымі кветкамі. Лаўка каля акна. Венскія крэслы. У куце стаіць дробнакаліберная вінтоўка. На сценах партрэты правадыроў. Веласіпед каля сцяны.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*падмятаючы*). І адкуль толькі гэты пясок бярэцца. (*Бярэ са стала кубак з вадою, пырскае на падлогу*).

**Дзед Віктар** (*уваходзіць з кошыкам. У кошыку дубовыя чуркі ды грабельныя зубы. Пад пахай у дзеда некалькі грабільнаў*). Зноў падмятаеш.

**Сцепаніда Андрэеўна.** Ішла на ферму, было чыста, прыходжу—зноў пясок.

**Дзед Віктар** (*стаўляе грабільны, кошык каля лаўкі*). А ты ў мяне папытай, адкуль пясок...

**Сцепаніда Андрэеўна.** Адкуль?

**Дзед Віктар** (*паказвае на веласіпед*). Во гэта кабыла яго пананосіла.

**Сцепаніда Андрэеўна.** Хіба толькі.

**Дзед Віктар.** Ясная справа. Ці-ж не можна ў сенцах паставіць!

**Сцепаніда Андрэеўна.** Там могуць украсці.

**Дзед Віктар.** Некаму-ж ён патрэбен! Гэтае дабро цяпер, бадай што ў кожнай калгаснай хаце ёсць. Цьфу... (*Плюе*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*пырскае вадою на букет кветак*). І Арсеню час прыйсці.

**Дзед Віктар** (*скоса пагладаючы на веласіпед, падыходзіць да яго*). У грудзях мне гэты лісапет тырчыць!.. (*Асцярожна і няёмка бярэцца за веласіпед*). Толькі папусціся, дык ён і трактар у хату прыцягне. Цэлую вазоўню зробіць... (*Выкоч-

*вае, баючыся павярнуцца, веласіпед. Пярэдняе калясо віхлявіць то ў адзін, то ў другі бок).*

**Сцепаніда Андрэеўна.** Яшчэ на хвіліну збегаю на ферму і тады на спачын. (*Выходзіць*).

**Дзед Віктар** (*уваходзіць цяжка дыхаючы*). От бо, немач. Усероўна, як дзень з плугам пахадзіў. (*Выцірае пот з ілба*). Конь і то не такі наравісты. (*Садзіцца і выстругвае зубы на граблі*).

**Арсень, Мішка.** Яны ў камбінезонах трактарыстаў, відаць толькі што скончылі працу.

**Арсень** (*падыходзіць і бярэ дробнакаліберку*). А ты ўсім загадаў?

**Мішка.** Усім на сёняшні дзень. Толькі Лёні няма.

**Арсень.** Яна яшчэ на пошце.

**Мішка.** Вось падскочыць ад радасці, калі даведаецца пра твой рэкорд.

**Арсень** (*выціраючы анучкай ствол вінтоўкі*). Падумаеш, навіна.

**Мішка** (*здзіўлена*). Не навіна? Выканаць за дзень тры нормы і пабіць рэкорд Васілёнка?! Першага трактарыста?

**Арсень.** Ну, што там такое. Учора—Васілёнак, сёння—я, заўтра—ты.

**Дзед Віктар** (*які да гэтага часу моўчкі паглядаў на іх і слухаў*). Пра што вы, жэўжыкі?

**Мішка** (*як-бы толькі цяпер заўважыў*). А-а, дзядуля. (*Узрушана і ўрачыста*). Во гэты хлапчына пабіў рэкорд Васілёнка! Цяпер пра Арсеня і наш калгас загаворыць.

**Дзед Віктар** (*недаверліва*). Брашы, брашы.

**Мішка.** Чэснае комсамольскае. Тры нормы за змену. Усебеларускі рэкорд.

**Дзед Віктар.** Кашалі пляцеш, жэўжык. (*Узрушана*). Ды каб ён пабіў Васілёнкаў рэкорд, то яму крукам і носа не дастаў бы! Стаў-бы ён з табою размаўляць. Ведаю я яго!

**Мішка** (*усхваляваны вельмі*). Яшчэ раз чэснае слова комсамольца. Цяпер ваша справа вызначыць якасць. Вас прасіў старшыня.

**Арсень.** Праўда, дзядуля. Ідзіце.

**Дзед Віктар.** Нешта не верыцца. Вельмі-ж ты нейкі ціхі.

**Арсень.** А што я павінен цяпер рабіць, па-вашаму. (*Дастае з куфэрка патроны, кладзе ў кішэню*).

**Дзед Віктар.** Ведаю я цябе. Ці даўно ты ў Дземідовічаў галубоў краў?

**Арсень.** Гэта было шэсць год таму назад.

**Дзед Віктар.** А хто цяпер праз тваю тую работу свеціць вочкамі? Я, дзед твой.

**Арсень.** Усе мы ў дзяцінстве рабілі дрэнныя справы.

**Дзед Віктар** (*абурана*). І я рабіў, па-тваему?

**Арсень.** А хто, калі вам было пятнаццаць год, прывязаў аброцямі заснуўшых начлежнікаў да карчоў, а пасля крычаў, што ваўкі жарабят душаць?

**Дзед Віктар** (*ажыўлена*). А-а, было гэта, было!

**Мішка** (*сур'ёзна*). Віктар Сцепанавіч. Кідайце граблі ды ідзіце

хутчэй вызначаць якасць рэкорда. Старшыня думае пасылаць тэлеграму ў Наркамзем.

**Дзед Віктар** (*устае, буркліва*). Ну і будзе вам, калі зманілі. Напішу Давіду—ён дасць вам чосу. Давід—не вы ён, сур'ёзны... (*Выходзіць*).

**Мішка**. Ну, цяпер загавораць пра наш калгас! Цяпер цябе і да прызыву могуць прыняць добраахвотнікам у танкавую часць. Паглядзіш.

**Арсень**. А цябе ў артылерыйскую школу.

**Мішка**. А як узрадуецца Давід! Раскажа ўсёй заставе, што брат паставіў усебеларускі рэкорд.

**Арсен**. Не мялі лішняга. (*Шукае*). Дзе гэта яшчэ адзін пачак патронаў.

**Мішка** (*азірнуўшыся*). А дзе твой веласіпед?

**Арсень** Дзед выкаціў, не любіць яго.

**Мішка**. Чаму?

**Арсень**. Бок свой пабіў.

**Мішка**. Як?

**Арсень**. Хацеў навучыцца без мяне ездзіць. Цяпер глядзець на яго не можа. Ну, пайшлі.

Выходзяць і стыкаюцца на парозе з Сцепанідай Андрэеўнай.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*уваходзіць. Голас яе вельмі ласкавы і пяшчотны*). Арсенька. Куды?

**Арсень**. Я зараз. Пастраляем толькі.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*горача*). Арсенька. Не пушчу! Ты стаміўся. Гэтулькі за змену ўзараць!

**Арсень**. Я на поўгадзіны, мама. У нас сёння рашучы дзень: калі пяць чалавек не падкачаюць, дык у нашым калгасе будзе дзвесце варашылаўскіх стралкоў!

**Мішка**. І Давіду не сорамна будзе пахваліцца на заставе, як трапна страляюць яго землякі. Няхай толькі паспрабуюць фашысцкія сволачы напасці на нас!. Дзвесце снайпераў „Чырвонага мая" добра спустошаць іх зграю.

**Арсень**. Разагітыраваўся. Пайшлі. (*Выходзяць*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*крычыць наўздагон*). Арсенька! Вазьмі хоць хлеба з маслам. (*Шпарка падбягае да стала, адкідае сарвэтку, якою накрыты хлеб, масленіца. Адразае шпарка лусту, намазвае маслам*). Тры нормы зрабіць. Хто-б гэта падумаў?. Васілёнак як пачуе, не вельмі ўзрадуецца. Хаця каб там дзед якасці не знізіў. Вельмі ён за веласіпед пакрыўдзіўся.

Стук у дзверы.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*павярнуўшыся*). Заходзьце.

**Карпушка** (*уваходзіць з папкай паперы пад пахай, у плашчы. У руках здаровы бярозавы кіёк*). Прашу прабачэння, Сцепаніда Андрэеўна. Я на хвілінку. (*Павольна здымае шапку, вешае на цвік*). Вельмі няма часу. (*Павольна здымае і вешае плашч*).

**Сцепаніда Андрэеўна**. Сядайце, Карпушка.

**Карпушка**. Дзякую, вельмі спяшаюся. (*Садзіцца*). Ад сёнешняга дня, Сцепаніда Андрэеўна, пра наш калгас загаворацъ яшчэ больш.

**Сцепаніда Андрэеўна**. А што?

**Карпушка**. Арсень некаторы баланс падвёў.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Гэта не Арсень, а бяда мая.

**Карпушка**. А чаму?

**Сцепаніда Андрэеўна**. Да яды не прызвацъ.

**Карпушка**. У актыве маладыя гады, адсюль і пасіў да яды. (*Ажыўлена*). Ну, ці адрамантавалі радыёпрыёмнік?

**Сцепаніда Андрэеўна** (*здзіўлена*). Ды ў нас яго і не было.

**Карпушка**. Прашу прабачэння. (*Разгортвае папку*). Давід ваш прасіў, каб напісалі які наш баланс.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Ага. А я і забылася. Хоць прыблізна прасіў напісацъ.

**Карпушка**. Дык я вам скажу дакладна: мільён сто дзесяцъ тысяч чатыраста сорак чатыры рублі і чатыры капейкі ў актыве.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Хоць каб не забыцца: што мільён, то я ведаю...

**Карпушка**. Я для вас запісаў (*кладзе на стол паперку*).

**Лёня з сумкай лістаносца, з газетамі пад пахай, убягае.**

**Лёня**. Ура, Арсень... (*Аглядаецца здзіўленая, гаворыць цішэй*). Тэлеграма... (*Пачынае шукацъ у сумцы*).

**Карпушка** (*устае*). Я вельмі спяшаюся, прашу прабачэння. (*Павольна зноў адзяецца і выходзіць*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*да Лёні*). Давід прыслаў.

**Лёня** (*не адказваючы, шукае ў сумцы*). Дзе-ж яна дзелася.

**Сцепаніда Андрэеўна**. А ты ў жакеце паглядзі, дзевачка. У правай кішэні. Ты заўсёды запіхаеш туды нашы пісьмы.

**Лёня** (*ледзь не плача*). Няма там. Дзе-ж яна? (*Шпарка перабірае пісьмы ў сумцы, у гэты час з-пад пахі ў яе вылятаюцъ на падлогу газеты і журналы. Лёня скідае з плеч сумку, садзіцца сярод пакою на падлогу і заўзята перабірае пісьмы ў сумцы*). Паклала во сюды.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*нахіліўшыся да яе*). А можа ты каму другому аддала?

**Лёня**. Божа мой, цётка Стэфа. Кажу, што паклала вот сюды. Няўжо вы не верыце. (*Выкладвае з сумкі пісьмы*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*выпростваецца*). Усёроўна, як непрытомная. (*Лагодна*). Ну, глядзі, глядзі. (*Выходзіць з хаты*).

**Лёня** (*кідае шукацъ, утаропіўшы вочы ў далячынь*). Можа, я ў клубе пакінула?... Можа ў дзесяцігодцы? А можа ў радзільным доме? (*Пацiскае збянтэжана плячыма*). Вот і пахвалілася. (*Перабірае па пальцах*): Заходзіла к Сеньку: грашовы перавод на семдзесят сем рублёў і газета „Правда“... Да Баравічыхі—журнал і раённая газета. Сулімчыку, аграному, пасылка з Мічурынска... Мамоньку павестка ў суд. Абазваў свінарак дурнымі бабамі і лаяўся усяк, хуліган. Прыпаяюцъ за

зневагу. Канавальчыку—пісьмо ад Міцькі-лётчыка... (*Зноў укладае пісьмы ў сумку*).

Уваходзіць **Арсень**. Заўважыўшы Лёню, ён націху ставіць вінтоўку у кут. Падыходзіць да Лёні ззаду. Закрывае ёй вочы рукамі.

**Лёня** (*стараецца вызваліцца*). Цётка Стэфа! Што за жарты? І рукі мазутам смярдзяць...
**Арсень** (*тоненька*). Чаго тут сядзіш, мая дзевачка.
**Лёня**. А-а... Гэта ты. (*Капрызна*). Зараз-жа адстань. Я пры выкананні службовых абавязкаў.
**Арсень** (*прымае рукі*). Паштовае аддзяленне на падлозе. (*Садзіцца побач з ёю на падлозе, утаропліваe вочы ў далячынь, перабірае па пальцах, перадражнівае басам*). Мішку-трактарысту павестка ў артылерыйскую часць... Арсеню—у танкісты...
**Лёня** (*б'е яго па руках*). Не ў танкісты.
**Арсень**. А куды, дзевачка?
**Лёня** (*хутка запіхваючы лісты ў сумку*). На галубоў, што выявіліся ў Дземідовіча пад страхою.
**Арсень** (*ласкава*). Сама ты добрая галубка. (*Абнімае яе*).
**Лёня**. Не дакранайся. (*Крычыць строгім голасам*). У мяне перавод на сорак чатыры рублі і сорак чатыры капейкі.
**Арсень**. Ну, давай (*прытуляе яе бліжэй*) пераводзіць. (*Цалуе яе*).
**Лёня**. Чэпіцца, не памыўшы рук, да паштальёна...
**Арсень**. Да паштальёншы. (*Зноў прытуляе яе да сябе*).
**Лёня** (*капрызна*). Хто гэта мог падумаць.
**Арсень**. Што?
**Лёня**. Што такі несур'ёзны хлопец пабіў рэкорд Васілёнка. (*Туліцца да яго*).

Уваходзіць дзед **Віктар**. У яго дзве бутэлькі з вінам.

**Дзед Віктар** (*збянтэжана*). А-а, браткі мае... (*Грозна*). Што гэта за якасць?

Лёня і Арсень хутка ўсхватваюцца. Яны вельмі пасаромленыя.

**Дзед Віктар** (*сурова*). Што гэта за якасць?
**Арсень**. Рассыпаліся пісьмы...
**Дзед Віктар** (*стаўляе віно на стол*). У вас заўсёды рассыпаецца, калі няма ў хаце сур'ёзнага чалавека. Шалахвосты!
**Лёня** (*ускрыквае*). Ёсць. Знайшла. (*Дастае з правай кішэні жакета і падае Арсеню тэлеграму, выбягае*).
**Дзед Віктар** (*наўздагон*). Лёнька? Куды ты ўцякаеш? (*Павярнуўшыся да Арсеня, строга*). Ну, то вот што я табе скажу, унучак.
**Арсень** (*чытаючы тэлеграму*). Кажыце.
**Дзед Віктар**. Дзяўчына яна вышэйшай якасці!
**Арсень**. А я гэтага не ведаў.
**Дзед Віктар**. Што ты, блазнюк, разумееш у дзяўчатах. Ты ў мяне запытай. Толькі ты...

**Арсень** (*вельмі заняты тэлеграмай, здзіўлена*). Нічога не разумею.

**Дзед Віктар.** Вот, вот. А з бабаю трэба абыходзіцца строга. Хоць і з найлепшай. Вот, скажам, Давід. Той бы ніколі так не блазнаваў. Строгі хлопец. Не здарма яго на ўсходняй граніцы паставілі. Можа, ад яго пісьмо? Можа зноў падзяку далі.

**Арсень.** Ад Наркамзема. Вітаюць з рэкордам. Прэмія ў пяцьсот рублёў.

**Дзед Віктар** (*недаверліва*). Дурыся!.. Калі яны паспелі.

**Арсень.** Наш старшыня, мусіць, уведаміў.

**Дзед Віктар.** Пакажы!

**Арсень** (*падае тэлеграму*). Наце. (*Пачынае чысціць вінтоўку*).

**Дзед Віктар** (*прачытаўшы тэлеграму*). Ну, братка ты мой. Сплахаваў я.

**Арсень.** Што?

**Дзед Віктар.** Гэтакая справа, а я толькі дзве бутэлькі ўзяў. Зноў пайду ў кааперацыю (*выходзіць*).

**Мішка** (*улятае. Ён вельмі ўсхваляваны*). Ура, ура!

**Арсень.** Што такое?

**Мішка** (*гаворыць шпарка*). Апошнія паведамленні па радыё. Рэспубліканцы разграмілі каля Мадрыда дывізію фашысцкай сволачы і прарвалі фронт. Захоплена дваццаць танкаў, сорак гармат.

**Арсень** (*усхвалявана*). Мішка, чорт! Руку за слаўную навіну.

**Мішка** (*паціскаючы руку Арсеню*). Рэспубліканцы шпарка пасоўваюцца наперад.

**Арсень.** Ведаеш што, Мішук? За апошні час я баяўся глядзець на карту. Сэрца сціскалася ад болю і нянавісці, калі фашысцкі фронт пасоўваўся на рэспубліканскую Іспанію. Мне яшчэ хочацца, каб японскім панам у Кітаі далі добра пад зад.

**Лёня** (*убягае*). Тэлеграма. (*Падае Мішку і выбягае*).

**Мішка** (*узрадавана*). Дзякую. (*Да Арсеня*). Слаўная дзяўчына. Ці не даволі табе скакаць каля яе? Жаніся ды ўсё!

**Арсень.** Не мялі глупства.

**Мішка.** А то пойдзеш у Чырвоную Армію, дык другі перахваціць.

**Арсень.** У нас дагаворана цвёрда.

**Мішка** (*прачытаўшы тэлеграму, зрушана*). Піша Васілёнак.

**Арсень.** Ну?

**Мішка.** Вітае з рэкордам. Запрашае ў госці.

**Арсень.** Пакажы. (*Чытае*).

**Мішка.** Вось узрадуецца Давід.

Уваходзіць дзед **Віктар**.

**Дзед Віктар.** Ну, здаецца, усё. Запрасіў старшыню, Мікалая Гаўрылавіча, рахункавода. Стэфа баб запрашае. (*Садзіцца рабіць граблі*).

**Мішка** (*да дзеда*). Васілёнак вітае з рэкордам.

**Дзед Віктар.** Брашы, брашы.

**Мішка**. Чэснае комсамольскае.
**Дзед Віктар**. Васілёнак цяпер, каб трапілася, усе ногі перабіў-бы Арсеню. (*Горача*). Цэлы год трымаў рэкорд, а тут на табе! Другая якасць верх узяла. Думаеш, яму гэта спадабалася?
**Мішка**. Не верыце—пачытайце (*падае яму тэлеграму*).
**Дзед Віктар**. А ну, пакажы. (*Бярэ ў Арсеня тэлеграму, чытае*).
**Мішка** (*паказваючы на стол, Арсеню*). Ну, і вып'ем.
**Арсень**. Ты-ж не п'еш.
**Мішка**. А тут паспрабую.
**Дзед Віктар**. Ну, і свет настаў. Ты яго абнеславіў, а ён табе ручку паціскае! У госці кліча!
**Мішка**. Калгасны лад: ніхто нікому папярок дарогі не станавіцца сумленнай працай.
**Дзед Віктар**. Ну, браткі мае, цяпер ужо калі пайду, то запрашу. Каб народу, як на вяселле прышло. Каб усё па вышэйшай якасці было. Шкада, што няма тут Давіда (*Выходзіць*).
**Мішка**. Я пабягу па гармонік. (*Выходзіць*).

Уваходзіць **Сцепаніда Андрэеўна**. У руках закручаная ў паперу луста хлеба.

**Сцепаніда Андрэеўна**. А я цябе па ўсім калгасе шукала. На стральбоўню вашу хадзіла. Няма. Ў праўленне—няма. Адзін старшыня каля тэлефона барабаніць.
**Арсень**. Што я малы, ці што.
**Сцепаніда Андрэеўна**. Хоць бы ты перакусіў чаго. (*Разгортвае паперу, падае лусту хлеба з маслам*). Хоць гэта з'еш пакуль народ збярэцца. (*Парадкуе на стале*). Усё няма табе часу.
**Арсень** (*бярэ лусту, адкусвае, ідзе да дзвярэй*). Гляну на веласіпед.
**Сцепаніда Андрэеўна**. Гадавала,—гаравала і выгадавала—зноў клопат: хоць каб усё добра было, каб людзей паважалі, каб з дарогі не збіваліся, каб сябе глядзелі. А ён як малое дзіця!

Уваходзіць **Мікалай Гаўрылавіч**.

**Мікалай Гаўрылавіч**. Партызанскае ў хату.
**Сцепаніда Андрэеўна**. Заходзьце, старшыня, заходзьце.
**Мікалай Гаўрылавіч**. Дзянёк сёння, Сцепаніда Андрэеўна, на славу. (*Здымае і вешае шапку*).
**Сцепаніда Андрэеўна**. А зранку на дождж выдавала.
**Мікалай Гаўрылавіч** (*выцірае хустачкай лоб*). Чыста змарыўся каля тэлефона. Паўтары гадзіны адбарабаніў. Цяпер Лёня дзяжурыць.
**Сцепаніда Андрэеўна**. А нашага старога не бачылі, Мікалай Гаўрылавіч?
**Мікалай Гаўрылавіч**. Людзей запрашае.
**Сцепаніда Андрэеўна**. З глузду збіўся стары ад радасці. Вельмі-ж ён любіць, калі ўнукі зробяць што-небудзь добрае.
**Мікалай Гаўрылавіч**. Усе мы любім вашых сыноў. А дзеткі ў вас, Сцепаніда Андрэеўна, дай бог кожнаму.

**Сцепаніда Андрэеўна.** Хто іх ведае...

**Мікалай Гаўрылавіч.** Народ іх ведае, Сцепаніда Андрэеўна. Ванька—старэйшы—архітэктар, палацы для народу будуе, Давід—чырвонаармеец-пагранічнік, вартуе далёка-ўсходнюю граніцу. Арсень сёння праявіў сябе таксама, як герой.

**Сцепаніда Андрэеўна.** Вы так хваліце, што мне аж страшна робіцца. Хацця каб усё было і на далей добра!

**Мікалай Гаўрылавіч.** А чаго вам баяцца з такімі арламі. Яны не папусцяць у крыўду ні сябе, ні ўсёй сваёй вялікай радзімы! Народ у нас агонь. Гарачае сэрца мае! Ясны розум і вострае вока. (*Чуваць гукі гармоніка. Іграюць „Па далінах, па ўзгор'ях". Гукі нарастаюць і набліжаюцца*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*схамянулася*). Што-ж я загаманілася. Людзі папрыходзяць, а ў мяне не гатова. Я зараз. (*Выходзіць*).

**Мішка з гармонікам. Ён прыбраны па-святочнаму. У зубах папяроска. Іграе.**

**Мікалай Гаўрылавіч** (*ажыўлена*). Партызанскую.

**Мішка** (*спыніўся іграць, бо не пачуў*). Што, Мікалай Гаўрылавіч.

**Мікалай Гаўрылавіч.** Іграй, іграй. Было такое калісьці. (*Задумаўся*). І мы хадзілі.

**Мішка** (*ажыўлена*). Супроць польскай шляхты, Мікалай Гаўрылавіч.

**Мікалай Гаўрылавіч.** З берданкамі, з пістаноўкамі. Білі ўсім, што ў каго было.

**Мішка.** Ну, гэта саматужніцтва! Адзін Максім на цэлы партызанскі атрад.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*абурана*). Ты не смейся! Тады было не да пераборлівасці, калі ўся совецкая Расія аж задыхалася ад варожага націску.

**Мішка.** Партызанскія метады. (*Іграе „Кахоўку" усё мацней і мацней*).

**Лёня** (*Убягае. Твар яе страшны. Крычыць*). Тэлеграма...

Музыка абрываецца.

**Мішка.** Чаго ты такая?

**Лёня** (*азірнулася*). Страшная навіна... (*Выцірае слёзы*).

**Мікалай Гаўрылавіч** (*усхватваецца і падыходзіць да яе*). Што такое? Не плач.

**Лёня** (*плачучы*). Добра, не плач, калі я сама павінна прынесці такую навіну... Не буду больш лістаносцам...

**Мішка** (*кладзе гармонік, падыходзіць да яе*). Як малая.

**Лёня** (*азірнуўшыся падае тэлеграму Мікалаю Гаўрылавічу*). Чытайце... Не буду больш лістаносцам... (*Плача*).

**Мікалай Гаўрылавіч** (*чытае*). Калгас „Чырвоны май", Сцепанідзе Андрэеўне Бабіцкай. У часе спробы налёту дыверсійнай япона-манчжурскай банды на нашу тэрыторыю геройскай смерцю загінуў ваш сын Давід Бабіцкі...

**Мішка.** Давіда забілі!? Сволачы!

**Лёня.** Хопіць. Не буду паштальёнам.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*падскочыўшы да дзвярэй, азіраецца, шэптам*). Ціха. Калі сказаць адразу мацеры—можа памерці... Не супакоіць яе ў гэты час і тое, што Давід адзін забіў восем бандытаў, што ўся банда была знішчана...

**Мішка** (*у роспачы*). Што-ж рабіць? Як Арсеню сказаць? Сэрца ў яго таксама гарачае.

**Мікалай Гаўрылавіч**. Ідзіце адсюль. Зараз-жа. А то гледзячы на вас і я заплачу. А мне, былому партызану, плакаць не дазволена. (*Выцірае слязу*). Ідзіце.

**Лёня** (*выходзячы*). Не буду лістаносцам...

**Мішка** і **Лёня** панура выходзяць.

**Мікалай Гаўрылавіч.** Сволачы. Страляюць каля Японіі, а стрэл і тут б'е па сэрцу. Усё нашы граніцы прабуюць... Наша шчасце—што нож ім у грудзі. Хочуць, каб у гэтай хаце зноў запанавала гора і галеча...

**Сцепаніда Андрэеўна** (*уносіць талеркі, яна ў вясёлым настроі*). Ну, крыху ўправілася. Не сорам будзе людзей частаваць. Збярэмся адною сям'ёю. Толькі Ванькі няма, Давіда няма.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*сумна*). Няма, Сцепаніда Андрэеўна.

**Сцепаніда Андрэеўна** (*вдзіўлена*). Чаго вы такі хмурны? (*Азіраецца*). А дзе-ж Мішка? І Лёня, здаецца, заходзіла.

**Мікалай Гаўрылавіч**. Чаго ім тут сядзець са мною, старым чалавекам. Пайшлі...

**Сцепаніда Андрэеўна**. Які вы стары. Сорак пяць год—і стары. Ды вы, калі трэба будзе, зноў возьмецеся за партызанскую вінтоўку. (*Парадкуе на стале*).

**Мікалай Гаўрылавіч** (*з нейкай надзеяй*). А-а. Вазьмуся! Няхай мяне застрэляць, а не адступлю перад ворагам! Не пабягу ў кусты!

**Сцепаніда Андрэеўна**. Няхай таму ногі паломіць, хто ад нядобрага чалавека ў кусты ўцякае. Я сама пракляла-б свайго сына, каб ён, не дай божа, адступіў перад ворагам.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*ажыўлена*). Вот, вот. Правільна, Сцепаніда Андрэеўна! А яшчэ больш-бы ненавідзеў яго народ, які даручыў яму адказную варту. Ён пракляў-бы і маці, якая нарадзіла і ўзгадавала подлага баязліўца.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Няхай яны лепш не раджаюцца.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*устае ўсхваляваны, ходзіць па хаце*). А што каб вам прышла тэлеграма, што Давід ваш не баец, а трус? Што калі нападалі япона-манчжурскія бандыты, ён кінуў даручаную яму варту і збег за дзесяць кілометраў?

**Сцепаніда Андрэеўна** (*ціха, але цвёрда*). Дык вы не ведаеце Давіда.

**Мікалай Гаўрылавіч**. А ўсё-такі?

**Сцепаніда Андрэеўна**. Ён гэтага не зробіць. Мне страшна нават падумаць...

Арсень убягае.

**Арсень** (*твар яго ў страшным узрушэнні, але, заўважыўшы маці, цішэе ў неймаверным напружанні сілы*). Мама...

**Сцепаніда Андрэеўна** (*азірнуўшыся*). Чаго, сынок. Э-э... Чаму ты такі... Ці не плакаў?!

**Мікалай Гаўрылавіч.** Хіба мужчыны плачуць? Яны павінны ўмець захоўваць самы страшны боль. (*Ківае галавою Арсеню, каб маўчаў, але гэта заўважае Сцепаніда Андрэеўна*).

**Сцепаніда Андрэеўна** (*разгублена*). А што вы ад мяне хаваеце? (*Паварочваецца да Арсеня*). Арсенька, што? (*Паварочваецца да Мікалая Гаўрылавіча*). Мікалай Гаўрылавіч! Не палохайце мяне.

**Арсень** (*дрыглівым голасам*). Давід.. Давід паранены ў баю...

**Сцепаніда Андрэеўна.** Ах, божа мой... (*Асядае каля стала на крэсла. Хапаецца за галаву рукамі*). Давідка... Можа ты родненькі, памёр ужо... (*Плача*).

**Арсень.** Ён забіў восем бандытаў...

**Сцепаніда Андрэеўна** (*плача*). А мы тут гарэлкі настаўлялі, цябе спаміналі... Давідка...

**Мікалай Гаўрылавіч** (*падыходзіць да яе, кладзе руку на плячо*). Сцепаніда Андрэеўна... Вядома, цяжка, але чалавек жыве не вечна...

**Сцепаніда Андрэеўна** (*не слухаючы*). Ён забіты... Ён памёр... Давідка, сынок... У нашай хаце ціхата, радасць была... Не ведалі мы, што да цябе лезлі злыя людзі...

**Арсень.** Не людзі, а шалёныя сабакі!.. (*З ненавісцю*). Рана цяжкая... Стралялі разрыўнаю куляю, змеі. (*Голас пачынае звінець*). Паўзлі па зямлі, як гадзіны, каб ткнуць джалам у самае сэрца... Забілі...

**Сцепаніда Андрэеўна.** Давідка... А мы пісьмо збіраліся пісаць... Карпушка лічбы для цябе прынёс...

**Арсень** (*ходзіць па пакоі. Твар яго ўжо сухі. Вочы паблісківаюць жорстка*). Не плачце, мама...

**Міхалай Гаўрылавіч** (*камечыць кулакі*). Вырвалі аднаго з нашых радоў.

Уваходзіць **Дзед Віктар.** Не гледзячы ні на каго, ён ідзе да заслона, каля якога паставіў раней грабільны і кошык. Зняможаны садзіцца. Ад таго, што здрыгануўся заслон, грабільны з грукатам ляцяць на падлогу.

**Дзед Віктар** (*нервова ўскакваючы, плюе злосна*). Цьфу. Каб ты згарэла. Не навіну, а навінку сказала Лёня... А я ўжо думаў, што няшчасце па сухім лесе бадзяецца...

**Арсень** (*рашуча*). Я ведаю, што зрабіць! (*Дастае паперу, аловак, садзіцца каля стала, піша*).

**Мікалай Гаўрылавіч.** Ты што пішаш?

**Арсень** (*дапісаўшы*). Наркому ўнутраных спраў таварышу Ежову. Прашу прыняць мяне ў рады Чырвонай Арміі і залічыць на тую заставу, дзе змагаўся і загінуў у барацьбе з японскімі агрэсарамі мой брат Давід Бабіцкі"...

**Дзед Віктар** (*здзіўлена*). Гарачае ў цябе, унучак, сэрца. Ты раней падумай добра.

**Арсень**. Я падумаў.

**Мішка**. Уваходзіць на цыпках.

**Мішка** (*шэптам*). Мікола Гаўрылавіч.

**Мікалай Гаўрылавіч**. Чаго.

**Мішка**. Ці добра будзе гэтакае прашэнне. (*Падае спісаны ліст, тлумачыць*). Усе хочуць распісацца, каб было прозвішча, імя і па бацьку. А я кажу, што хопіць і гэтага.

**Мікалай Гаўрылавіч** (*чытае*). „Масква. Наркому абароны маршалу Совецкага Саюза таварышу Варашылаву. Японa манчжурскія бандыты па-здрадніцку забілі нашага земляка, гераічнага пагранічніка Давіда Бабіцкага. Просім, калі патрэбна, прыняць нас у рады Чырвонай Арміі. У Сталінскай Канстытуцыі, артыкул 132, запісана, што ўсеагульны вайсковы абавязак з'яўляецца законам. Вайсковая служба ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе ганаровы абавязак грамадзян СССР. Усе мы ўмеем добра валодаць вінтоўкай і кулямётам. Многія з нас білі нямецкіх акупантаў, білі польскую шляхту і цяпер усе ведаюць і ўмеюць абараняць заваёвы вялікай Сталінскай Канстытуцыі. Дзвесце варашылаўскіх стралкоў калгаса „Чырвоны май". (*Аддае ліст Мішку*). Добра, хопіць.

**Мішка**. І ўсе калгаснікі хацелі распісацца.

**Дзед Віктар**. А як-жа іначай? Усякія бандыты будуць лезці на тваю зямлю, біць цябе, а ты будзеш маўчаць? Добранькая справа! Куды варта такая якасць?

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Тая-ж хата. Каля стала запакаваны чамадан. У другі, які ляжыць на стале, **Сцепаніда Андрэеўна** складае нешта, загорнутае ў паперу.

**Дзед Віктар** (*корпаецца каля грабель*). Ну і народ! Чула, ты такое?

**Сцепаніда Андрэеўна**. Не.

**Дзед Віктар**. У нас-жа ўвесь калгас радня! Усіх трыста пяцьдзесят двароў.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Як гэта?

**Дзед Віктар** (*абурана*). Яна не разумее! (*Дапытліва*). Прыслаў нарком таварыш Ежоў тэлеграму, што Арсеня залічае, як мы прасілі, на месца Давіда.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Прыслаў.

**Дзед Віктар**. Ну дык вот. А Мішка ўзяў ды паслаў наркому тэлеграму, што і ён наш сваяк, Давідаў сваяк.

**Сцепаніда Андрэеўна**. Які-ж ён сваяк? У яго нават прозвішча другое.

**Дзед Віктар**. Дык і я яму казаў, што яго дзед і мой дзед на адным сонцы анучы сушылі. Не хоча і слухаць!

**Сцепаніда Андрэеўна**. Гэта ён выдумляе!
**Дзед Віктар**. Ясная справа. Кажа, тысячу год таму назад у нашай вёсцы быў толькі адзін двор, адна сям'я. І з тае аднае сям'і пайшлі чырвонаармейцы, усе цяперашнія трыста пяцьдзесят гаспадарак. Значыць, і ён наш сваяк і ён хоча пайсці стаць на месца Давіда.
**Сцепаніда Андрэеўна**. Хіба ты Мішкі не ведаеш?
**Дзед Віктар**. Каб жа адзін Мішка. А то ўсе такімі сваякамі аб'явіліся. Карпушка, бежанец з-пад Смаргоні, і гэты кажа, што мае актыўнае права на вінтоўку Давіда. Чула ты?

Уваходзіць **Мікола Гаўрылавіч**.

**Мікола Гаўрылавіч** (*да дзеда Віктара*). Калі вы кінеце з гэтым граблямі важдацца?
**Дзед Віктар**. Лішняя пара не пашкодзіць.
**Мікола Гаўрылавіч**. На тры гады запасу нарабілі! Зараз-жа кідайце.
**Дзед Віктар**. Так я цябе і паслухаў.
**Мікола Гаўрылавіч**. Хіба вам не стае хлеба за інспектарства? Яшчэ сорак пудоў у кааперацыю прадалі! (*Вырывае ў дзеда кошык і граблі*).
**Дзед Віктар** (*не дае*). Што ты робіш?! А можа я заўтра памру! Хочаш, каб калгас без грабель астаўся?
**Мікола Гаўрылавіч** (*адабраўшы кошык і граблі*). Жывіце доўга. Адпачывайце пад старасць. Ніхто вас не прыганяе.
**Дзед Віктар**. Хацеў-бы я ведаць, хто гэта мяне будзе ганяць? Хіба я Сталінскай Канстытуцыі не ведаю, ці што?
**Мікола Гаўрылавіч** (*выносячы ўсё ў другі пакой*). Ды зараз і поезд хутка. Арсеня трэба праводзіць. (*Выходзіць*).
**Арсень** (*ён у форме пагранічніка*). Ну, развітаўся з усім калгасам. (*Падыходзіць да люстэрка, аглядае выпраўку*).
**Дзед Віктар**. А ў Лёнькі быў?
**Арсень**. Быў.
**Дзед Віктар**. Трохі сумна ёй будзе без цябе.
**Сцепаніда Андрэеўна**. Можа перакусіш?
**Арсень**. Толькі ад абеду, ды зноў за яду.

Чуваць гармонік. Іграюць марш.

**Дзед Віктар** (*глянуўшы ў акно*). А браткі мае!
**Сцепаніда Андрэеўна**. Што? (*Падыходзіць да акна*).
**Дзед Віктар**. Уся наша радня сюды валіць.
**Арсень** (*глядзіць на гадзіннік*). Час на поезд.

**Мішка** з гармонікам, хлопцы, дзяўчаты. У дзяўчат букеты кветак.

**Мішка**. Спяшайся, Арсень.
**Арсень**. Я гатовы.
**1-я дзяўчына** (*падае Арсеню кветкі*). Гэта табе ад дзяўчат ільнаводнай брыгады.
**Арсень**. Дзякую.

**Дзед Віктар** (*здзіўлена*). Усяго толькі.
**Арсень.** А што яшчэ?
**Дзед Віктар.** Цалуйся, кажу! Такая дзяўчына!

Дзяўчына сарамліва адступае.

**2-я дзяўчына** (*падае Арсеню букет*). Ад дзяўчат-даярак.
**Арсень.** Дзякую. Я кожную хвіліну буду памятаць пра вас.
**Дзед Віктар** (*грозна на Арсеня*). Ну? Чаго ты стаіш? Цалуйся, а то і гэта ўцячэ. Такая якасць!
**3-я дзяўчына** (*падае вялізны букет*). Ад усіх дзяўчат калгаса. Ад настаўніц, заатэхнікаў, піянерважатых, трактарыстак, камбайнераў.
**Мішка** (*дадае*). І хлапцоў.
**Мікола Гаўрылавіч** (*уваходзіць, праціскаючыся праз натоўп*). Ад усёй калгаснай сям'і. Каб памятаў пра нас. Не давай спуску самураям, калі паспрабуюць пазарыцца на нашу зямлю.
**Дзед Віктар** (*сурова*). Ага. Не давай ходу подлым задзіраям!..
**Мішка** (*папраўляе*). Подлым самураям, дзядуля.
**Дзед Віктар** (*да Мішкі*). Ты мяне павучы! (*Да Арсеня сурова*). Не перапускай праз граніцу!
**Мішка.** А мы тваіх тэмпаў не знізім.

**Лёнька.** Яна з чамаданам.

**Лёнька.** Хутчэй. Арсень! Спознімся на поезд.
**Дзед Віктар** (*здзіўлена*). Ці не едзеш і ты?
**Лёнька** (*рашуча*). Еду.
**Дзед Віктар.** На заставу?
**Лёнька.** На Далёкі Усход. Лістаносцам у горад Комсамольск.
**Дзед Віктар.** Ну, браткі мае! Гэтакую якасць ужо і не мне мераць. Інакшае цяпер у людзей сэрца. Гарачае, як агонь.
**Арсень** (*падыходзіць да маткі*). Развітаемся, мама.
**Сцепаніда Андрэеўна** (*кідаецца да яго*). Арсенька, любы! (*Пауза*). Беражы сябе... Нас беражы... Як Давід...
**Арсень.** Я пагавару, дзе трэба. Можа і вы пераедзеце бліжэй да мяне.
**Дзед Віктар** (*ажыўлена*). Пагавары, унучак, пагавары. Цяпер, па ўсім Совецкім Саюзе роўнае жыццё пайшло. Усюды і ўсім стае ў нас і работы і хлеба. І там ёсць калгасы.
**Арсень.** Ну, мама, час ісці.
**Сцепаніда Андрэеўна** (*адрываючыся праз сілу*). Ідзі, Арсенька! (*Голас яе ўсхваляваны*). Займі месца Давіда. Вазьмі яго вінтоўку, вазьмі яго працівагаз. Глядзі пільна. Не спі на варце. А палезуць, а папаўзуць на нашу зямлю—бі ў самае іх змяінае сэрца! Без промаху бі! Добра спамяні ім Давіда!
**Мішка** (*да хлапцоў і дзяўчат*). На вуліцу! Стройся па чатыры ў рад! (*Іграе марш*).

ЗАСЛОНА.

*Тодар Курбацкі*

## РАДАСЦЬ

Грымнуў гром і дождждык ціха
Зямлю вымыў, параю імжыць.
— Во яна, як маці—парадзіха,
Ціхая спакойная ляжыць.

Тлустая, шырокая раўніна,
Жытам важкім к сонцу устае.
Чорным торфам, каліем няспынна
Сагравалі грудзі мы яе.

Ад зары да ночы сіняй
Выганялі рупна быльнягі,
Каб яна заможнай гаспадыняй
Нам на стол давала пірагі.

Паглядзі, як поўна ды зярніста
Наліліся ў полі ячмяні,
Як пшаніцай стройнай каласістай
Даспяваюць нашы працадні.

І яе, шырокую без краю,
У зяляніне, ў жоўтых каласах
На сяле гармонікі ўслаўляюць
На ўсіх званчэйшых галасах!

Хойнікі, 1938 г.

*Антон Алешка*

# ТРОЕ

### Апавяданне

Іх таропкія крокі змяніліся на ціхае шкробанне па шурпатых плітах панелі набережнай. А крыху пазней, так праз гові, яны спыніліся зусім. Адзін у чорным гарнітуры, танклявы і высокі прытуліўся бокам да тоўстай гранітнай сценкі, другі—нізкі, спыніўся насупроць і аб нечым заўзята апавядаў, памагаючы жэстамі правай рукі. Яны не зважалі на тое, што рабілася навакол. Па тарцовай вуліцы нячутна несліся аўто, па тротуары спяшаліся пешаходы. Нізкі ўзмахнуў рукою і чуць не зачапіў якраз падаспеўшую грамадзянку. Высокі барджэй адцягнуў яго да сябе і кіўнуў у бок праходзіўшай.

— Ясь, ты з ног саб'еш! . .

— Прабачайце,—азірнуўшыся, вінавата сказаў Ясь і стаў упоруч каля Валодзі.

— Дык я не скончыў,—і ён гаварыў далей.—Асвятліў гэта я яшчэ раз карчом нос лодкі, ну і зразу пляснуў пракляты хвастом аб борт. Я траха не выкуліўся. Кінуў корч і сцішыўся на дне лодкі. Чакаў што будзе далей. З цемры крычаў дзед, клікаў мяне на дапамогу. Я даехаў паволі, мы знялі перамот і болей з сомам не сустракаўся . . .

Ясь апавядае Валодзю як ён, будучы ў адпачынку, ездзіў з дзедам лавіць рыбу. Валодзя рыбак і перад ім, мусіць, ужо плёскалі шчупакі, плоткі, бо ён налёг локцем на граніт і пільна глядзеў на шырокія хвалі ракі. Яго рэдкія бровы натапырыліся і праз хвіліну ён крута павярнуўся да Яся, палажыў руку на плячо і весела сказаў:

— У наступным годзе адпачынак возьмем разам і паедзем да твайго дзеда. Тады трымайся рыбная гаспадарка! . . .

— Добра,—згаджаўся Ясь.—Толькі ты вуды кінеш. Гэта тут імі можна забаўляцца . . . Мы крыгаю, альбо перамотам лавіць будзем. Дзед прынадзіць яе падпараным аўсом у затоку, потым хоць рукамі бяры. Поўна там рыбы.

Ясь—шырокаплечы, з кароткай шыяй і круглым тварам, старанна ўціснуты ў шэры пінжак. З-пад барады выглядае чорны гальштук—матылёк прыладжаны на беласнежнай рубашцы. Твар выбрыты і пад куртатым носам ценькай палоскай ляглі чарнявыя вусікі. Вочы шырока адкрыты і нібы чаго здзіўлены.

Валодзя шчуплаваты, з рабаціннем на твары выглядаў задумёным. Ён паскрэбваў кіпцем бялявы пушок на верхняй губе і прыжмурана ўзіраўся ў даль ракі.

Валодзя з Ясям—сябры. Працуюць на заводзе тут на Выбаргскім баку, толькі ў розных цэхах. Валодзя ў слясарным, Ясь—у ліцейным. Валодзя заўзяты фізкультурнік, Ясь пасля работы наведвае вячэрні інстытут. Займаецца ўжо трэці год. Думае быць горным інжынерам.

У сакавіку гэтага года яны першыя адклікнуліся на заклік комсамола даць краіне 150 тысяч лётчыкаў без адрыву ад вытворчасці і пачалі наведваць аэраклуб. Іх зацікавіла парашутная справа. Праз тры месяцы заняткаў у клубе пачаліся практычныя вылеты з парашутыстамі і першыя прыжкі. Ім хутка прыдзецца трымаць іспыты на інструктара парашутнай справы. Часта прыдзе з інстытута Ясь, а на квартэры ўжо Валодзя чакае. Ён паказвае чарцяжы і вытлумачвае што да чаго. Валодзя пазірае на вялікія аркушы александрыйкі і глуха гаворыць:

— Ты інжынер без пяці хвілін, што і казаць. Хутка для цябе адкрыюцца горныя прасторы, ты будзеш капацца ў багаццях, выназодзіць розныя руды, а Владзімір Калядка будзе гнуць знойдзенае табою жалеза на розныя там дэталі. Так яно.

— Не сумуй, Валодзька. Ты яшчэ . . .

— Ды што ты кажаш,—з запалам перабівае Валодзя,—ты разумееш, што я таксама хаваю ў сабе не малыя планы на далейшае. Я вось ляжаў у цябе на кушэтцы і марыў . . . аб многім я марыў. Мне ўвосень, ды што . . . і месяца няма як трэба на прызыў ісці. І што ты думаеш? Мне здавалася ў лятуценнях, што я камандую паветраным дэсантам, што я камандзір новага роду войск—паветранай пяхоты, што я грамлю тылы фашыстаў, вось што . . . Ты не думай, што я магу толькі перавыконваць план каля кавадла. Я марыць магу. Што на гэта скажаш? . .

— Валодзька, я даўно ведаў, што ты пойдзеш далёка,—пазіраў Ясь на пачырванелы твар Валодзі.

— Як далёка, а дамоў прыдзецца ісці,—нечакана пажартаваў Валодзя.

Сёння дзень адпачынку і хлопцы накіроўваюцца на аэрадром. Вялі размову аб рыбнай лоўлі, цяпер гутарка перайшла на тэму пра ўчарашнія гулянні на астравах. Валодзя апавядае Ясю аб фейерверку і тым людскім моры, якое нахлынула ўчора на астравы тут-жа за горадам. Ясь падменьваў Ціхона, які быў на гарадской канферэнцыі, а таму сам на астравах не быў. Ясь хацеў запытаць у Валодзі ці бачыў ён на гуляннях Люсю, але ўстрымаўся. А прычына тут простая. Паўтары гады назад Люся з'явілася на заводзе і стала працаваць у фармовачным цэху. На першым-жа сходзе яна яму спадабалася. Ён шукаў выпадку каб сустрэцца, пагутарыць. Комсамольская работа зблізіла іх. Пасябравалі. Валодзя лічыў, што лепшага і чакаць не трэба. Быў вясёлы на рабоце і гаваркі з кожным сустрэчным. Ясю нават абрыдзеў сваімі доўгімі размовамі. Аднойчы яны былі на вечары ў падшэфным калгасе. Клуб ледзь умяшчаў жадаючых прысутнічаць. Было горача. Па чарзе давалі

нумары. Люся выканала некалькі песень і ні то ад духаты, ці то так ад чаго ўся расчырванелая сядзела за кулісамі. Валодзя стаяў паблізу ўвесь час і ў гэты момант падышоў да яе, заўважыў:

— Ты пяяла, як ніколі.

— Гм . . . у мяне хрыпата ў горле, а ты . . .

— Як ніколі,—сцвярджаў Валодзя.

— Ну досыць, табе абы пагутарыць . . .

Дамоў вярталіся пазнавата. Валодзя ішоў з Люсяй, калі астатнія крыху іх апярэдзілі, ён набраўся адвагі і неяк няскладна пачаў шаптаць на вуха.

— Даўно хацеў сказаць. Але сама ведаеш . . . зрабіць гэта мне не так лёгка.

Люся так змарылася, што ледзь не драмала ідучы. Пачуўшы глыбокія ўздыхі і прарывісты шопат, ачнулася і падштурхнула яго.

— Завёў, нібы шарманку. Карацей кажы, у чым справа?

— Коратка то неяк і не скажаш. Але калі . . . то я . . . Я кахаю цябе, Люська.

— Хто? . . . Ты?!.

Люся спынілася. У змроку твару яе не было відаць. Чуваць быў звонкі голас.

— Калі ты жартуеш—добра. Я люблю жарты. Калі-ж ты гаворыш не нарокам . . .

— Ды дзе там . . .

— Я проста скажу: калі хочаш быць сябрам, не кажы мне нічога такога. Калі пачую што-небудзь падобнае, так і ведай, сустракацца не буду.

Валодзю нібы вадою абнясло ад патыліцы да пятак. Ён пахаладзеў і не ведаў што рабіць. Добра яшчэ цемра выручала, а так-бы з сораму хоць скрозь зямлю праваліся. Нейкі час цягнулася непрыемная маўчанка, потым загаварыла Люся ды і то зусім пра другое. Рад быў Валодзя, што хоць гэтак абышлося і стараўся забыць, нібы нічога і не было.

Валодзя ведаў, што Ясь ходзіць да Люсі і што яна адносіцца да яго не так, як гэта здарылася з ім у той памятны выхад на вёску. Валодзя адчуваў непрыемнасць і яму было ўнутрана нялоўка перад Ясям. Ён спачатку нагаварваў Ясю пра Люсю. Падмячаў што-небудзь дробнае і пачынаў распісваць на ўсе лады, абы толькі зрабіць уражанне і адштурхнуць ад яе Яся. Але Ясь не зважаў. Тады Валодзя пра Люсю кінуў гаварыць, а калі на гэта выклікалі яго, ён хутчэй стараўся змяніць тэму. Не ведаў ён, што і Ясь у апошнія дні папаў амаль у такое-ж становішча, як і ён колісь. Ясь то невялікі ўжо ахвотнік апавядаць пра сябе.

Калі ён прыехаў з адпачынку, то зайшоў да Люсі. Яна вельмі і вельмі была рада. Апавядала пра навіны, частавала яго, пасля сядзела каля адчыненага вакна і спявала. Ясь пазіраў праз вакно ўніз на шумеўшы праспект. Пад дугою праходзіўшых трамваяў асляпляюча ўспыхвалі блакітныя іскры, лязгалі колы . . . Ясю прыпомніўся той вечар, калі ён першы раз прыехаў сюды і як адразу аглушыў яго горад. Як, здаецца, даўно было гэта. У такіх думках прастаяў ён хвіліну, потым прайшоўся па пакоі. Люся дастала з

століка маленькі альбомчык і паказала яму здымкі. Ясь разглядаў і хваліў, што ўсё вельмі добра. Крыху здзівіўся, што за месяц так многа стала ў яе здымкаў. Люся села насупроць і пазірала шырока адкрытымі вачыма, нібы бачыць яго ўпершыню. Ёй вунь як прыемна было, што каля яе сядзіць Ясь. Колькі разоў здаралася так, што яна вернецца дамоў і доўга думае аб ім. Ёй куды лепш падабаецца Ясь. Ён дзелавы, удумлівы, толькі ціхі і нідзе асабліва сябе не праявіў. З Ясям ёй весела і яна сядзела-б хоць цэлы вечар. Гэта не тое, што Валодзя. Той нагаворыць, нахваліцца, затым надзьмецца і пазірае акунёвым вокам, не міргаючы. Не магла спакойна глядзець на яго Люся і толькі таму, што разам працавалі і вучыліся, яна не казала яму пра ўсё тое, што адчувала. Да Яся яе цягнула і яна ледзь дачакалася, пакуль ён прыедзе з адпачынку. Учора, вяртаючыся з гульняў, парашыла яна, што, калі толькі закончацца заняткі, падбярэ больш падыходзячы час і скажа яму аб усім, таму што сам ён бадай не адважыцца, не здагадаецца і не зразумее, што робіцца на сэрцы ў дзяўчыны. А цяпер можна нават і віду не паказваць. Тымчасам Ясь падсунуўся бліжэй да яе і знячэўку зусім нясмела прыцягнуў да сябе і гэтак-жа нязграбна хацеў пацалаваць. Яна вырвалася, абцягнула блузку і, прайшоўшыся, села насупроць збянтэжанага Яся.

— Які ты порсткі,—з хітрынкаю сказала яна.

— Ды я...—сіліўся нешта сказаць Ясь, ды так і не сказаў.

Каб пра гэты выпадак ведаў Валодзя, ён бы, напэўна, як і раней зноў-бы нагаварыў на Люсю. Ясь і Валодзя размаўлялі, ідучы па панэлі да аўтабуснай астаноўкі. Ішлі паўз летні сад. Валодзя паціху сказаў:

— Глянь, ідзе . . .

Ясь аглянуўся назад. На другім баку вуліцы ішла Люся. Яна іх заўважыла і праз вуліцу накіравалася да іх.

— Добры дзень!—прывіталася яна, мякка пераступаючы з нагі на нагу. На твары яе расплывалася хітраватая ўсмешка.

— Якраз і сустрэліся. Вы ўжо едзеце?—дапытвалася яна.

— Ды трэба,—адказаў Ясь.

Яе гібкі стан абцягвала блакітнае плацце і вецер на плячуках перабіраў складкі буфаў. Люся ў кампаніі заражала астатніх весялосцю і ніколі не сумавала. Па яе ініцыятыве на заводзе арганізаваны гурток па вывучэнню замежнай мовы. Яна нядаўна сказала Ясю:

— Хутка буду з табою толькі па-французску гаварыць.

— Гэта-ж чаму? . .

— Каб гаварыць хутчэй навучыўся.

— А-а . . . Гэта не дрэнна . . .

— Табе не дрэнна было-б і танцаваць навучыцца,—смяялася яна.

— Усё добра. Танцаў-жа проста не люблю. Ну, бывае так.

Люся затое першая танцорка на заводзе. Калі яна танцуе, Ясь стаіць воддаль і сочыць з захапленнем за рознымі там „па“. Яму прыемна, што ён яе блізкі сябра, а не хто другі.

Сёння маленькі носік яе чамусьці асабліва задзіраецца ўгару, а бровы навіслі крылцамі ластаўкі. Яна заве хлапцоў.

— Дык пойдзем на аўтобус.

Бярэ хлапцоў пад рукі і гаворыць далей:

— Калі выйдзе сёння заліковы, тады мы хутка закончым вучобу.

— А чаму не выйдзе?—пазірау на курчавую прычоску Ясь. Яны сустрэліся поглядамі і ў глыбіні сініх вачэй заўважыў ён нешта такое прыцягваючае, чаго да гэтага не прыкмячаў. Яна лёгка падштурхнула локцем Яся і сказала:

— Хутчэй крышку можна?

— Можна . . .

Яны апынуліся на скрыжаванні вуліц і калі звярнулі налева, якраз у гэты момант каля панелі спыніўся сінябокі 23 нумар аўтобуса. Ужо на хаду падчапіўся Ясь на падножку і слухаў незмаўкаючую Люсю.

— Не быў ты ўчора на астравах . . . Шкада . . . вунь як весела было.

— Як каму.

— Чаму так? Мне спачатку было весела, а пасля . . . я з паловы гуляння ўадтуль паехала.

— Чаму так?

— А вось таму.

У аўтобусе цесна. Валодзя ўзяўся за падчэплены рамень і пазірае ў вакно. Ясь прытуліўся у вугал, а каля яго Люся. Ён адчувае цяплыню яе цела і пазірае на маленькае беленькае вушка, якое відаць з-пад курчавых палоек прычоскі. Яна туліцца да яго ад націску пасажыраў і некалькі разоў заглядае ў твар. Ясь адмоўчваецца, не хоча гаварыць пры людзях.

Аўтобус глуха пырхае на астаноўках і ўжо звярнуў на апошні загарадны праспект. Мільгаюць за вакном рознакаляровыя шыльды, галовы пешаходаў. Чым далей за горад ідзе аўто, тым меней застаецца пасажыраў. Ужо Валодзя прысеў уперадзе і азірнуўшыся ківае Люсі. Яна махнула яму і звярнулася да Яся:

— Куды вечарам пойдзеш?

— У чарцёжку думаю. А ты?

— Не ведаю.

За вакном радзей замільгалі будынкі, а праз колькі часу направа паказалася роўная сенажаць. Люся ўселася на вольнае месца да вакна і ўсю дарогу маўчала, пільна ўзіраючыся ўдалеч. Вось аўтобус звярнуў і паўз прысады пасёлка панёсся на гару. А там і аэрадром. На апошняй астаноўцы яны вышлі і накіраваліся пад зялёную арку брамы. Праз некалькі хвілін апынуліся ў дзяжурцы аэрадрома. Тут было людна, шумна. Моладзь таўпілася і голасна абгаварвала апошнія палёты. Інструктар парашутнай справы слухаў падгалістага хлапца з нахлабучанай на патыліцу кепкай і гаварыў раздзельна.

— Вам праз пяць секунд трэба было раскрыць парашут, а вы? . .

— Я налічыў да васьмі.

У інструктара на чырвоным кончыку носа дробнай расою вы-

ступіў пот. Ясь праціснуўся ў гушчу і выцягнуўшы шыю пастаяў крыху, потым кіўнуў Люсі і выйшаў у прасторную залу тут-жа па суседству. Каля шафкі ўжо стаяў Валодзя і надзяваў скураную пілотку. Люся выйшла ў бакавы пакой—раздзявалку для жанчын. Ясь пасядзеў каля вакна і ўбачыўшы, што Валодзя ўжо надзеў камбінезон, устаў і адчыніў вуглавую шафку. Выняў акуратна складзены камбінезон і стаў адзявацца. Потым узяў пілотку і запытаў у Валодзі.

— Яшчэ не позна?

— Дваццаць хвілін засталося.

— Трэ' спяшацца.

Ясь пастукаў у дзверы.

— Люся, хутчэй! . . .

Зялёнае поле аэрадрома прыціхла. Першая змена скончыла палёты, другая толькі збіралася. Каля агарожы злева чубок лесу. Тут прытаіўся прысадзісты ангар. Далей на горцы грузна апусціўшы крыллі стаялі два самалёты. Каля іх былі людзі. Валодзя спяшаўся туды. Навакол самалёта сядзелі лётчыкі, вучлёты і парашутысты. Ясь прывітаўся і прысеў на траву. Ён пазіраў на востры край прапелера левага матора і на белыя камякі хмарак, плыўшыя па далёкім небе. Унутрана ён быў спакойны і, мусіць, не думаў, што хутка прыдзецца прыгаць. Да яго звярнулася Люся.

— Падцягні мне папругу.

Ён устаў і зашпіліў на плячах папружку, пахлопаў далонню па сумцы парашута на спіне, агледзеў Люсю кругом.

— Усё як мае быць.

Потым лёг на спіну і пазіраў у высокую сіняву неба. Было прыемна ляжаць і адчуваць свежыя подыхі цёплага ветрыку з хвойнага ляска. Не хацелася ні аб чым думаць. Парушыла спакой галасістая каманда.

— Звяно ста-анавісь! ! .

Старшы інструктар парашутнай справы зрабіў пераклічку звяна і па чарзе праглядаў надзетыя парашуты. Дайшла чарга да Люсі. Ён пацягнуў за папругі, агледзеў парашутныя сумкі і буркнуў сабе пад нос.

— Не падкачай сёння.

Не закончыўся яшчэ інструктаж, як з'явіўся доктар і нічога не кажучы стаў нашчупваць пульс.

Рэзка загудзелі маторы і самалёты адзін за другім сталі на стартавую пляцоўку. Звяно раздзялілася на дзве групы і накіравалася да самалётаў. Паволі ступала Люся па гумавых лесачках і зайшла ў кабіну самалёта. Тут былі Ясь, Валодзя і двое з механічнага завода. З кабіны ў тэлефон крычаў інструктар:

— Гатова! .

Маторы дружна раўнулі. Люся бачыла праз вакно як стартавы ўзмахнуў сцяжкамі і адбег у бок. Паволі паплылі прысады і яна адчула лёгкія штуршкі. Потым насустрач за вакном хутка панесліся прысады, што за агарожай. На развароце Люся заўважыла перакошаны небасхіл і далёка ў сіняве мільгануў зубчаты край леса.

Валодзя сядзеў каля вакна і сачыў за стрэлкай альтыметра. Белы кончык яе, дрыжучы, паварочваўся, паказваў: чатырыста, пяцьсот...

Калі вышыня была дзевяцьсот пяцьдзесят, інструктар сказаў цішэй як усе разы:

— Падрыхтавацца!..

Каля дзверац спыніўся токар механічнага завода. Ён азірнуўся на поруч стаяўшага сябра і нешта яму сказаў.

— Пашо-оў!—камандаваў інструктар.

Дзверцы адчыніліся. Уварваўся струмень ветру і злюча рваў камбінезон на токару. Ён з поўхвіліны пастаяў каля парога і рынуўся ўніз. Інструктар наглядаў.

За токарам рынуўся яго сябра і ўжо на чарзе стаяў Валодзя. Услед за ім, прыблізна на секунду пазней пакінуў самалёт Ясь. Паветраны акіян шыбануў з такім свістам, што аж дыханне заняло. Аграмаднае чудзішча зямлі кружылася з страшэннай сілай і неслася насустрач. У гэтым лёце разабраць што-небудзь цяжка—усё зліплося ў неразборны зялёны круг. Ясь адлічыў пяць і тузануў за кольца. Зразу-ж адчуў штуршок пад пахі і не паспеў агледзець як след распушчаны купал парашута, як адчуў, што з сілай у парашут хтосьці ўрэзаўся і прарваў яго. Яшчэ мацней куляючыся паляцеў ён уніз. Ясь тузануў кольца запаснога парашута. Агледзеўся і ўбачыў, што запасны распусціўся ўдала. Каля яго ўгары шалёна трэпле вецер прарваны і заблытаны з Люсіным другі парашут. Поруч апускалася Люся.

— За стропу хапайся!—зваў Ясь і чапляўся рукою за парашутную сумку на плячах, прыцягваў яе да сябе. Не паспеў ён апамятацца, як побач злева затрапяталі белыя брыжы чужога парашута. Вось і стропы. Іх ветрам шуганула бліжэй і стропы зблыталіся. Ясь убачыў Валодзю, збялеўшага нібы папера. Ён махаў рукою і нешта крычаў. Цяпер яны прызямліліся ўтраіх. Хуткасць зніжэння зменшылася. Вецер гойдаў іх, кідаючы ў бакі.

Люся шмарганула за кольца запаснога, але ён не раскрыўся, бо сумка была заблытана стропамі раней распушчанага. Яна парашыла адрэзаць стропы не дзейнічаючых парашутаў і гэтым даць магчымасць распусціцца запасному. Выняла нож і толькі намерылася рэзнуць, як Ясь, убачыўшы гэта, крыкнуў:

— Схавай нож!..

Ясь баяўся, што з гарачкі Люся адрэжа не толькі стропы заблытанага, але і распушчанага. Тады каменем паляціш уніз...

У Валодзі на плячах была зачынена сумка запаснога. Ясь шуганула да Валодзі і ён сказаў яму, нацягваючы стропы заблытаных парашутаў:

— Распусці запасны!

Валодзя вышмаргнуў кольца запаснога і ўгары ўжо былі распушчаны тры парашуты. Ясь аберуч, да болю сціснуў стропы парашутаў і, падцягваючыся, руляваў, каб стаць тварам к напрамку ветру.

Пачуўшы крык Яся і ўбачыўшы як старанна ён працуе над тым, каб удала прызямліцца, Люся з хваляваннем пазірала на яго

рукі, моцна трымаючы парашутныя стропы. Яна была рада за Яся, за яго такую упэўненасць і спакой. З радасці глянула ўніз.

Далёка віднелася серабрыстая паласа затокі і шырока раскінуты дымны горад. Зямля набліжалася. Валодзя падцягваўся на стропах і паварочваўся тварам да Яся. Ясь камандваў.

— Падрыхтавацца к прызямленню!

Лявей віднеліся кусцікі, а пад імі расцілалася жоўтая пожня. Управа за кілометр радочкам стаялі слупкі агарожы аэрадрома.

Вось, вось зямля.

Ясь быў задаволены і адпусціўшы правую руку, паправіў папружку на плячы. Тым часам Валодзя на стропах пацягнуўся яшчэ і стаўшы на вугал хацеў нешта сказаць Ясю. Здрантвелыя пальцы левай рукі Яся не ўтрымалі ўсіх стропаў. Ён пацягнуўся схапіць правай, але было позна. Левая рука страціла сілу і упусціла стропы. Валодзя той час аддзяліўся на двух парашутах, кружыў і махаў ім, хутчэй ішоўшым да зямлі, рукою.

У скронях Яся паспешна забілася кроў. „Што я зрабіў?“—падумаў ён.—„Добра што невысока...“

Ясь і Люся на адным парашуце. Хутка апускаліся. Ен падхапіў яе за папружку і крыкнуў голасна:

— Падабраць ногі і зразу на правы бок!..

Ясь падтрымаў яе на руках і зваліўся на бок, моцна грукнуўшыся аб зямлю. Пакінуў Люсю, усхапіўся і хутчэй тузануў за стропы, патушыў парашут, каб ветрам не цягала па зямлі. На жытнішчы далёка працягнуліся стропы і мякка лепятаў краямі парашутны купал.

— Ну, вось і ўсё добра,—сказала Люся.

— А то як-жа...

Яна адчапіла парашут і падышла да Яся.

— За смеласць,—і моцна пацалавала яго. Ён збянтэжыўся і не мог нічога сказаць.

— Чаго-ж ты маўчыш, чудненькі.

Пачырванеў Ясь нібы бурак і нечакана для сябе сказаў:

— Пойдзем сёння куды хочаш...

— Мой дарагі, добра...—і слёзы радасці заіскрыліся на твары ў Люсі.

— Даволі там, хіба так можна!—крычаў ім Валодзя, патушыўшы свае парашуты.

Па пожнях шастаў вецер. Здалёк чуцен быў шум аўтобуса, які накіроўваўся да іх.

Менск—1938 г.

*Артур Гардзіевіч*

# ВАРА

Яны сустрэліся ў галантарэйным аддзеле раймага. Коля Шышкін зайшоў купіць наскі і ўбачыў каля прылаўка маладую, прыгожанькую дзяўчынку. Яна была апранута ў сіні бездакорны гарнітур і такога-ж колеру берэт. З-пад берэта выбіваўся непаслухмяны завіток ільняных валасоў.

Маленькая чарнявая прадаўшчыца, загарнуўшы яе пакупкі, падлічвала на шчотах іх кштоўнасць. Коля тым часам разглядаў прывабную незнаёмку. Румянец на шчоках сведчыў аб здароўі дзяўчыны. Уздзёрнуты ў гару носік і рухавыя блакітныя вочкі нагадвалі нешта вельмі блізкае, знаёмае.

— Вам што?—звярнулася да яго прадаўшчыца.

— Мне?!..—Коля захапіўся і забыў пра наскі. Ён стаяў збянтэжаны і не ведаў дакладна, што-ж яму трэба.—Мне гальштук,—зларіў першую, што падвярнулася назву.

— Выбірайце.

— Вось гэты,—не выбіраючы паказаў пальцам.

— Калі ласка. З вас дванаццаць рублёў трыццаць пяць капеек.

Гальштук Колю быў зусім не патрэбен. К таму-ж такі дарагі. Але разважаць было позна. Ён механічна адлічыў грошы і агляруўся, каб працягваць свае назіранні. За вакном у натоўпе праплыў знаёмы сіні берэт.

Другі раз Коля сустрэў яе ў гарадской чытальні. Яна, нахіліўшыся над томам Малай Савецкай Энцыклапедыі, нешта старанна перапісвала ў блок-нот. Заглянуўшы, нібы незнарок, Коля заўважыў і запамятаў—старонка 345—346, літара „П“. Як толькі яна выйшла, ён папрасіў гэты-ж том, пачаў з цікаўнасцю перагортваць. З старонак дыхнула празаічным холадам: „Пассивный баланс... Пассия... Пастбища зимние... Пастбищная система хозяйства... Пастель... Пастер...“ Не тое жадаў знайсці. Расчаравана звярнуў кнігу і выйшаў на вуліцу.

— Што яна знайшла ў гэтым цікавага. Пасбішчы, балансы... Не разумею!—разважаў ён, накіроўваючыся дамоў.

Пасля першай сустрэчы і гэтай недарэчнай гісторыі з гальштукам, вобраз таямнічай незнаёмкі не пакідаў яго ні на мінуту. Каб развеяць думкі, Коля паскорыў шаг, пачаў насвістваць. Разам з матывам усталі ў памяці хвалюючыя словы песні:

Как много девушек хороших...

— Усе яны на адзін капыл шыты,—пасправабаваў ён супакоіцца, але думкі, абуджаныя песняй, выцягваліся ў цянейшы шнурочак, рабіліся ўсё прасцей і выразней:

Любовь нечаянно нагрянет...

Настойліва левлі ў галаву словы.

— Так, мусіць, і награнула. „Когда ее совсем не ждешь". У раённым універсальным магазіне. А ці не пара! Гэта-ж дваццаць—дваццаць тры гадкі стукнула. Пара, брат Нікалай Александравіч!

Коля ставіўся да жыцця з вялікімі запатрабаваннямі. Пытанне—кім быць, якое так хвалюе юнакоў, калі яны выходзяць на шырокі прастор жыцця, было яшчэ не вырашана... Многія таварышы па школе, яшчэ на парце намецілі вехі свайго жыццёвага шляху і дабіліся пастаўленай мэты. Вася Аддзянаў скончыў педінстытут—выкладчык; Косця Курачкін бараздзіць паветраны акіян; Дуся Сініцына рыхтуецца да дзяржаўнага экзамена па гінекалогіі... Адзін толькі Коля яшчэ не выпырхнуў з роднага гняздзечка.

Не, Коля не такі лёгкадумны, каб кінуцца ў абдымкі шматлікіх прафесій. Новенькі атэстат і некаторыя веды, прадастаўлялі шырокі выбар. Хочаш—інжынерам, артыстам, механікам, лётчыкам, камбайнерам і іншае і іншае. Такі выбар існуе толькі для шчаслівай моладзі, насяляючай адну шостую частку зямнога шара.

Бацька, раённы землеўпарадкавацель, раіў вучыцца на каморніка. Гэта прапанова была рашуча адвергнута. Не цягнула к дакладным вылічэнням. Коля хацеў быць кампазітарам, пісаць прыгожыя, хвалюючыя вершы, адкрываць новыя землі—рабіць усё тое, што дасягаецца ўпартай вучобай, работай волі і розума чалавецкага. Адно толькі не хацеў—вучыцца, крапатліва работаць над павышэннем сваіх ведаў.

— Галоўнае не ў зуброжцы. Галоўнае—жаданне пасягнуць сакрэт справы, душу яе, злавіць, як кажуць, квінтэсенцыю. А тады слава сама прыйдзе і жыццё разгорне свае шчадроты.

І Коля ўпэўнена чакаў славы. Квінт,эсенцыя, мусіць, заблыталася ў сваіх справах, не спяшалася. А пакуль жыццё не раскідвалася шчадротамі, Коля акуратна адседжваў законныя шэсць гадзін у раённай ашчадкасе за вакенцам з выразным надпісам: „Кантралёр". Сядзеў, механічна пастукваў касцяшкамі шчотаў, чакаў і сумаваў.

Апошнія дні супрацоўнікі пачалі падмячаць рэзкія змены ў паводзінах свайго кантралёра. Ён начапіў дарагі гальштук, на работу пачаў з'яўляцца чыста выбрытым, прыносячы з сабой войстры пах цырульні. Пад дапытлівым позіркам машыністкі Фані яго шчокі пачыналі пунцавець. Часта, задумаўшыся над рахункамі, ён, ні з таго ні з сяго, пачынаў насвістваць лірычны матыў з кінофільма „Вясёлыя рэбяты". Касірша Поля тады падміргвала Фані і яны блыталіся ў смутных здагадках, не ведаючы хто-б мог парушыць сардэчны спакой іх меланхалічнага кантралёра.

Аднаго разу Коля позна затрымаўся на рабоце. Усе супрацоўнікі пайшлі дамоў, толькі тэхнічка Анісімаўна з вядром і венікам чакала каб пачаць уборку.

Коля нарэшце падняўся з-за стала, паправіў гальштук і, перад тым як выйсці на вуліцу, доўга ўладжваў на галаве кепку, заглядаючы ў вялікае насценнае люстра.

— Хутка, значыць, вып'ем?—хітра падміргваючы, спыталася Анісімаўна.

— Чаму гэта!—не зразумеў Коля.

— Чула, вяселле ваша гуляць будзем скора. Не хавайцеся, не хавайцеся!—не дала супярэчыць Анісімаўна,—шыла ў мяшку не ўтоіш. Усе ўжо ведаюць. Хто-ж яна, можна даведацца?

Коля буркнуў у адказ нешта незразумелае і заспяшаўся да выхаду.

— А сапраўды, хто-ж яна Дульцынея сэрца майго?—дакорліва дапытваўся сам сябе Коля.—І як гэта я яшчэ не даведаўся?!

Час ішоў, а таямнічая незнаёмка ўсё больш і больш палоніла згубіўшага галаву кантралёра. Ён, седзячы на рабоце думаў аб ёй, рваўся хутчэй на вуліцу, каб сустрэць і хоць здалёку палюбавацца. Сустрэчы адбываліся ўсё часцей і часцей. Ён сустракаў яе ў бібліятэцы, у кіно, на вуліцы. Ведаў дзе яна жыве. Не раз бачыў праз вакно яе кватэры, як схіліўшыся над сталом, яна чытала або пісала. Настаўніца, рашыў Коля. Потым убачыў, як яна выносіла з сельснаба прыстасаванні для хаты-лабараторыі. Аграном—змяніў тады сваю першую здагадку.

Кожны раз Коля бачыў яе чымсьці заклапочаную і ў той-жа час вясёлую, жыццерадасную. І заўсёды пасля такіх сустрэч, ён адчуваў, што сэрца пачынае мацней біцца і прымаў цвёрдае рашэнне: неадкладна пры першым выпадку загаварыць, разблытаць нябачаны клубок.

Выпадкаў прадастаўлялася многа. Асабліва падыходзячым месцам для знаёмства Коля аблюбаваў сталовую. Яна заўсёды роўна а пятай гадзіне заходзіла абедаць і садзілася ў аддаленным кутку пад штучнай пальмай. Коля зірнуў на гадзіннік—без сямі пяць.

— Пайду займу месца,—рашыў ён,—і сёння ўжо...

Думкі адразу абарваліся... Перад вачыма замітусіліся нейкія жоўтыя плямы. Кругом усё снавала, гаварыла. Усё гэта зліваласяя ў адзіны густы і непрыемны гук. Адно толькі выразна бачыў Коля—стройную постаць лётчыка, які, свабодна падтрымліваючы яе пад локаць, пераступіў парог сталовай. І пачуў пякучыя, як удар словы, што сказала яна:

— Вось мама абрадуецца!..

— Канец!—прашаптаў Коля. І зноў вуліца, будынкі, людзі, аўтамашыны закруціліся перад вачыма, як у кіно, і ваабражэнне малявала вялікія тлустыя літары: КАНЕЦ.

На другі дзень Коля позна засядзеўся над лічбамі. Балела галава. Здавалася, што нават падлога здрадніцкі пашатваецца пад нагамі.

Фаня і Поля зноў путаліся ў дагадках, заўважыўшы новае і незразумелае ў паводзінах кантралёра. К канцу дня Коля адчуў, што пад лыжачкай пачынае смактаць, успомніў, што з учарашняга дня нічога не трымаў у роце, не раздумваючы доўга склаў паперы і накіраваўся ў сталовую.

Быў базарны дзень. У сталовай тоўпілася многа народу. Панура схіліўшы галаву, ён прайшоў у кут пад пальму і, толькі цяпер убачыў на звычайным месцы сваю таямнічую незнаёмку.

— Добры дзень!—прывітаўся, здзіўляючыся сваімі паводзінамі: гэта-ж раней ён ніколі не вітаўся і баяўся пачаць гутарку.

— Выдатны,—адказала яна, як старому знаёмаму.—Але боршч і сёння не дасолены. Вазьміце сальнічку з таго століка!

Коля падаў сальнічку. Сеў. Памаўчаў. Хацелася працягваць так удала пачатую гутарку, але як на зло не мог падшукаць трапных слоў. Перамагаючы нарастаючае хваляванне і цікаўнасць, ён, нарэшце, набраўся смеласці, загаварыў.

— Прабачце, дзе я вас мог бачыць не ў гэтым горадзе?

Яна адарвала ад талеркі вочы, паглядзела ва ўпор.

— Не ведаю. І падумаўшы крыху, спытала,— у калгасе „Прамень“ не даводзілася бываць?

— Не, здаецца. А што, вы там рабілі?

— Кароў даіла, цялят гадавала.

— Вас туды на практыку пасылалі?

— Не, я там радзілася, вырасла і работала да апошніх дзён.

Коля ўтаропіўся нічога не разумеючымі вачыма і не верыў пачутаму. „Ці не памыліўся?—снавала думка.—Не, той-жа носік з задорынкай, той-жа непаслухмяны ільняны локан. Не, не памыліўся“.

— Прабачце,—зноў пачаў, набраўшыся духу Коля і адчуў, як пацяплелі яго ныя шчокі.—Тады скажыце, як вы трапілі сюды і што вы тут робіце?

Яна кароценька расказала сваю аўтабіяграфію, як яе бацьку ў 1929 годзе забілі кулакі, як яна кінула вучыцца ў сямігодцы і пайшла работаць на ферму ў новаарганізаваны калгас, як яна дабілася трохтысячнага ўдою ад кожнай каровы.

— Работала і вучылася сама па сабе, а зараз праўленне адпусціла вучыцца ў ветінстытут. Вось і рыхтуюся да іспытаў у аднаго з настаўнікаў.

Успаміны схілілі да лятуценняў. Яна падняла галаву, кінула позіркам некуды далёка, далёка.

— Эх вучыцца, вучыцца, пасягаць невядомае—вось цікава, вось да чаго накіраваны мае імкненні. Але чаму вы так дапытваецеся? Вы не з рэдакцыі, часам?

— Не, я кантралер райашчадкасы, Коля Шышкін. Я... Я ведаеце так проста зацікавіўся, што вы за чалавек.

— Знайшлі цікавае—звычайная калгасная даярка Вара Сініцына.—Залілася яна звонкім смехам.

— А я думаў...

Вара абдала яго такім халодным позіркам, што ён збянтэжыўся, забыў, што думаў.

Ён адчуў сябе пакрыўджаным, расчараваным. Але нейкая яшчэ не сфармуляваная думка гаварыла зусім адваротнае: „Вось яна простая вясковая дзяўчына, едзе вучыцца і таму так рада. Яна гаспадар жыцця, гаспадар майго сэрца, бо яна ведае, куды і за чым ідзе. Работаць, каб вучыцца, вучыцца, каб работаць.

— Я думаў, таксама, вучыцца,—упэўнена заявіў Коля і адразу адчуў нібы гара з плеч зляцела.

Вара кончыла есці, выцерла хустачкай губы, устала з-за стала, усміхнулася.

— Ну бывайце, новы знаёмы.

— Прабачце, яшчэ адно да вас пытанне!—з мальбой на вачах залепятаў Коля.—Скажыце, хто той лётчык...—Ён не мог дагаварыць. Шчокі яго палалі, на скронях выступілі буйныя кроплі поту.

— Брат мой у адпачынак прыехаў, а мне з ім і пабачыцца мала давялося.—І павольна пайшла да дзвярэй.

— Вучыцца. Сёння-ж пішу заяву. Сёння-ж!—рашыў Коля і не дакрануўшыся да паспеўшай астыць катлеты, бадзёра выбег на вуліцу.

---

*Б. Гузарэвіч*

# КАНСІЛІУМ

**Вадэвіль у адной дзеі**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

ГЛАГОЛЕЎ—архітэктар, 50 год.
ГЛАГОЛЕВА—поўная, манерная дама, 45 год
ЖОРА—сын Глаголевых, 10 год.
ВЯСНУШКІН—раённы урач, 35 год
КІСЯЛЁЎ—кансультант, 40 год
ГОРАЎ—прафесар, 50 год.

Дзея адбываецца ў кватэры Глаголевых у дзіцячым пакоі. Пакой запоўнены мэбляй, цацкамі, бяздзеліцамі. У пасцелі, пад цёплай коўдрай, ляжыць Жора і дрыгае нагамі.

**Жора** (*крычыць*): Мама-а-а, мама-а-а! Куды гэта ўсе пахаваліся?

(Уваходзіць Глаголева).

**Глаголева** *(пяшчотна)*. Што з Жоранькай? У майго коціка галоўка баліць?

**Жора**. У ката без хваста ўсё баліць. Бакі баляць, спіна баліць, пяткі свярбяць. Нудна-а-а! (*Голасна крычыць*). Нудна-а-а! Я ад нуды аслом стану і брыкацца пачну.

(Брыкае нагамі).

**Глаголева**. Што я, коцік, чую, што бачу!

**Жора**. І не тое яшчэ будзе! Цэлыя дні толькі і чую: коцік, коцік, коцік! Я хутка мяўкаць пачну (*мяўкае*): мяў, мяў, мяў...

**Глаголева** (*абдымае Жору*). Супакойся, Жоранька, супакойся, сыночак мой, золатка маё.

**Жора** (*капрызна*). Ляжу, ляжу, як мядзведзь у бярлоз і канца гэтаму не відаць. Мядзведзь хоць лапу смокча, а яшто?

**Глаголева** (*ласкава*). Пачытай, дзетка, пamaлюй, вершыкі вывучы...

**Жора** (*капрызна*). Вершыкі вывучы! Надакучыла мне ўсё. Я на каньках хачу катацца, да таварышоў хачу. Ці доўга я яшчэ буду валяцца ў пасцелі?

**Глаголева**. Жоранька, я-ж клапачуся аб тваім здароўі. Здароўе— гэта ўсё. У здаровым целе здаровы дух. Ты хварэеш грыпам, а грып можа выклікаць усякае ўскладненне. Мікробы...

**Жора**. І пра ўскладненне сто разоў чуў і пра мікробаў тысячу разоў чуў, надакучыла! У мяне сёмы дзень нармальная тэмпература.

**Глаголева.** І добра што нармальная. Арганізм у цябе аслаблены, мікробы могуць пранікнуць у печань, селязёнку, почкі і (*са слязмі ў голасе*) і... у мазгі. Ты ў мяне адзін (*плача*)... шакаладку хочаш?

**Жора.** Я хачу ў школу, хачу на вуліцу (*крычыць*). Нудна-а-а! (*Да маці*). Калі я ўстану з пасцелі?

**Глаголева.** Усё, коцік, залежыць ад доктара. Паслухаем, што ён сёння скажа. Ты так змяніўся, збляднеў, што (*са слязмі ў голасе*) у мяне сэрца калоціцца.

**Жора.** Доктар ніколі нічога не гаворыць. Ён не мычыць і не целіцца.

**Глаголева** (*жахліва*). Адкуль у цябе такія словы?

**Жора.** Татка гаварыў.

**Глаголева** (*збянтэжана*). Ты многа не гавары, табе многа гаварыць шкодна.

**Жора.** Прыехалі! Ужо і гаварыць шкодна!

**Глаголева.** Не хвалюйся, коцік.

**Жора.** Уцяку з дому. Лепш беспрытульным быць, чым у гэтай клетцы сядзець.

**Глаголева** (*хапаючыся рукамі за галаву*). Не здзекуйся над сваёй мамкай. Пашкадуй мяне. Ад тваіх слоў у мяне печань разбалелася. (*Садзіцца на крэсла*). Ох, ох, мне дрэнна!

**Жора.** А мне, думаеш, добра валяцца ў пасцелі?

**Глаголева.** Жоранька сваёй мамкі не любіць, Жоранька сваю мамку не шкадуе (*плача*).

**Жора** (*іранічна*). Шкадую! Я цябе вось як шкадую! (*Шпурляе на падлогу падушкі, коўдру. У гэты час чуецца стук у дзверы, уваходзіць Вяснушкін*).

**Вяснушкін.** Добры дзень. (*Здзіўлена азіраецца*).

**Глаголева** (*плачучым голасам*). Дзень добры. Як я вам рада, як вы дарэчы. Уявіце сабе (*жахліва*): Жорык хоча ўстаць з пасцелі.

**Вяснушкін.** А-а-а, гм, гм, гм...

**Глаголева** (*Жору*). Лажыся зараз-жа ў пасцель!

**Жора.** Лягу, не крычы. (*Лажыцца і паказвае Вяснушкіну язык*).

**Глаголева** (*Жору*). Гэта што за навіны?

**Жора.** Гэта я доктару.

**Глаголева.** Доктару.

**Жора** (*хітравата*). Доктар заўсёды просіць паказаць яму язык, ну, я і паказваю.

**Глаголева** (*Вяснушкіну*). Вы на яго, калі ласка, доктар, не крыўдуйце, ён у мяне свавольнік. (*З усмешкай*). Шустры хлапчына, увесь у мяне. Сядайце, доктар. У мяне сёння крышку лягчэй на душы. Жоранька з'еў курыную катлетку і талерку малочнага кіселю. Гэта харошы сімптом, ці-ж няпраўда? Я хоць і не маю медыцынскай асветы, але з медыцынай знаёма. З'яўленне апетыта гаворыць аб перамозе арганізма над мікробамі. Ах, гэтыя мікробы! За хвосцік іх не зловіш. Адзін момант—і яны ў мазгах. Ах, як гэта жудасна! У вас, доктар,

дзеці ёсць?—Ёсць. Значыцца, вы разумееце бацькоўскае сэрца.

**Вяснушкін.** Вы дарэмна хвалюецеся. Хвароба працякала нармальна, без усякіх ускладненняў.

**Глаголева.** Ах, не гаварыце, доктар. У мае суседкі Розінай (муж яе дырэктар банка) захварэла дзіця. Хварэе дзень, другі, трэці і... не папраўляецца Ну, вядома, дактары, кансультанты, прафесары, кансіліум за кансіліумам, а дзіцяці ўсё горш. Хварэў, хварэў і... у выніку аглох на адно вуха.

**Вяснушкін.** Усё бывае, але...

**Глаголева** (*перабіваючы*). Я рада, што вы са мной згаджаецеся. Я стаю на пункце погляду прафілактыкі: лепш хваробу папярэдзіць, чым яе лячыць.

**Вяснушкін.** Так, прафілактыка, канешне...

**Глаголева** (*перабіваючы*). Ускладненні часта наступаюць толькі таму, што мы не ўмеем іх папярэдзіць. Я так баюся туберкулёза! Палачка Коха мяне на смерць палохае. А тут яшчэ кашаль Жорыка. Ён жудасна кашляе.

**Вяснушкін.** Ускладненняў я не знайшоў. Хвароба працякала лёгка. Паслухаю яшчэ. (*Жору*). Здымеце кашулю.

**Жора.** Сёння пачынаем не з языка, а з кашулі?

**Глаголева.** Жора!

**Жора.** Дзесяць год ведаю, што мяне завуць Жорай. (*Здымае кашулю*). Слухайце.

**Вяснушкін** (*выслухоўваючы*). Дыхайце, дыхайце глыбей. Яшчэ, яшчэ. Пакашляйце. Так, так, так. Дыхайце. Не шкадуйце лёгкіх.

**Жора** (*Вяснушкіну*). Вы на каньках катаецеся?

**Вяснушкін** (*здзіўлена*). Катаюся.

**Жора** (*жвава*). І фігуры ўмееце рабіць?

**Вяснушкін.** Умею.

**Жора.** А ў мяне васьмёрка дрэнна выходзіць. Перад хваробай я выводзіў васьмёрку—і як грымнуся, ну, думаю: амба і хвост угору.

**Глаголева.** Жоранька, што гэта за словы: „Амба і хвост угору“? Ад каго ты гэта чуў.

**Жора.** Ад таткі.

**Вяснушкін.** Пра канькі мы пагаворым пасля, а цяпер дыхайце.

**Жора.** Ведаю я ваша „пасля“! Вы думаеце толькі пра тое, як-бы хутчэй абскок зрабіць.

**Вяснушкін** (*здзіўлена*). Што-о-о?!

**Глаголева.** Жора!

**Жора.** Мама кажа, што вы хворых не лечыце, а абскокваеце.

**Глаголева** (*Вяснушкіну*). Вы яго не слухайце. (*Жору*). Ты глупства не гавары.

**Жора.** Сама казала, а цяпер—глупства.

**Вяснушкін.** Гм, гм, гм, ага... Дыхайце. (*Выслухоўвае*).

**Жора.** Доктар, дайце мне вашу трубачку. Я хачу маму паслухаць.

**Вяснушкін.** Што?!

**Глаголева** (*у захапленні*). Ах, які свавольнік! (*Вяснушкіну*). Калі вы, доктар, не спяшаецеся, зрабіце Жорыку такую ласку.

**Вяснушкін.** Я ўласна...

**Жора** (*капрызна*). Давайце, давайце. (*Вырывае з рук Вяснушкіна трубку*). Мама, садзіся! (*Глаголева садзіцца на ложак і пачынае моцна дыхаць. Жора яе выслухоўвае. Вяснушкін нервова ходзіць па пакої*).

**Жора** (*аддаючы Вяснушкіну трубку*). Вазьміце. Нічога не чутна.

**Вяснушкін** (*хавае трубку ў кішэню*). Ніякіх ускладненняў я не знаходжу. Ваш сын зусім здаровы.

**Глаголева** (*пявучым голасам*). Здаровы! Вы вяртаеце мне жыццё. Вашы словы гучаць цудоўнейшай сімфоніяй, але... Галубочак, я вас прашу, толькі вы не крыўдуйце на мяне, неразумную: папрасіце кансультанта. У Жорыка кансультант яшчэ ні разу не быў. Усе суседзі нада мной смяюцца.

**Вяснушкін** (*здзіўлена*). Прасіць кансультанта?!

**Глаголева** (*пявучым голасам*). Я вамі вельмі задаволена, я аб вас самай лепшай думкі, але... я так баюся ўскладненняў. Ах, гэтыя мікробы!

**Вяснушкін.** Ваш сын абсалютна здаровы. Я ў яго не знаходжу ніякіх ускладненняў.

**Глаголева** (*вельмі суха*). Мой муж, вядома, зможа запрасіць кансультанта і без вашай дапамогі. Што-ж, я не буду настойваць, даруйце за просьбу. Не буду вас затрымліваць. Вы, напэўна, спяшаецеся да другіх хворых.

**Вяснушкін** (*збянтэжана*). Гм, гм, гм... калі вы так настойваеце...

**Глаголева** (*вельмі ласкава*). Я не настойваю, я толькі прашу. Муж вам таксама будзе ўдзячны.

**Вяснушкін.** Гм, гм... У вас тэлефон ёсць?

**Глаголева.** У габінеце мужа.

(Выходзіць. Чуцен голас Вяснушкіна).

**Голас Вяснушкіна.** Гэта цэнтральная паліклініка? Гаворыць Вяснушкін. Запішыце Кісялёву спешны візіт. Што? У Кісялёва шмат візітаў? Гэты візіт надзвычай спешны. Адрас? Савецкая, 24, другі паверх, кватэра архітэктара Глаголева. Хутка выедзе? Дзякую.

**Голас Глаголевай.** Дзякую, дзякую вам. Вы такі душка.

**Глаголева** (*уваходзячы, Жору*). Зараз прыедзе кансультант, як ён скажа, так і зробім.

**Жора.** Яшчэ кансультантаў не хапала!

**Глаголева.** Жоранька!

**Жора.** Вось, пабачыш, уцяку. Уцяку на Паўночны полюс. Я там буду на белых мядзведзяў паляваць. (*Уяўляючы мядзведзя, поўзае па ложку, потым падхопліваецца і, быццам паляўнічы, нацэльваецца і крычыць*): паф!

**Глаголева.** Ты звар'яцеў! Ад такіх рухаў у цябе можа печань з месца сыйсці. (*Ласкава*). Калі мой коцік паправіцца, я яму куплю веласіпед.

**Жора** (*жвава*). Не ашукаеш?
**Глаголева** (*дакорліва*). Хіба я цябе калі ашуквала?
**Жора**. Здаралася.
**Глаголева**. Не любіш ты сваёй мамачкі.
**Жора**. А на што ты мяне пад шкляным каўпаком трымаеш?
**Глаголева** (*здзіўлена*). Хто гэта табе казаў?
**Жора**. Татка.
**Глаголева**. Татка!
**Жора**. Ага. Татка яшчэ казаў, што калі ён быў такім, як я, дык заўсёды хадзіў з разбітым носам.
**Глаголева** (*раздражнёна*). Твой татка акрамя паседжанняў, сходаў, нарад, планаў і будаўніцтваў нічога не ведае і ведаць не хоча.
**Жора**. Няпраўда! Татка нам, піонерам, будуе палац і вельмі заняты, а калі пабудуе, тады ён са мною паедзе на Каўказ. Мы з ім узбяромся на Эльбрус. Вось цікава будзе.
**Глаголева**. Толькі Эльбруса не ставала!
**Жора**. А калі ты мне веласіпед купіш?
**Глаголева**. Я-ж табе казала—калі папраўішся.
**Жора**. Я на веласіпедзе вось як буду катацца. (*Садзіцца на падушку і гарцуе па ложку. Раздаецца стук у дзверы і ўваходзіць Кісялёў*).
**Кісялёў** (*са здзіўленнем аглядае пакой, глядзіць у сваю запісную кніжку*). Гэта кватэра Глаголевых?
**Глаголева** (*ласкава*). Так, так.
**Кісялёў**. Хворы тут?
**Глаголева** (*яшчэ ласкавей*). Так, так.
**Жора** (*ветліва*). Заходзьце. Вы—кансультант? Вы дазволіце мне катацца на каньках. Замучылі ў пасцелі.
**Глаголева**. Жоранька! (*Кісялёву*). Сядайце, калі ласка. Наш раённы ўрач надзвычайны чалавек, выключны чалавек, але...але я спадзяюся, што вы зразумееце мяне. Сэрца матчына заўсёды б'ецца падстрэленай птушкай. Жорык у мяне адзін. Хварэе ён другі тыдзень. Раённы ўрач прызнаў грып. Можа быць і грып, а можа туберкулёз? Ці-ж доўга палачцы Коха забрацца ў лёгкія. Я заўсёды стаяла і стаю на пункце погляду прафілактыкі: лепш хваробу папярэдзіць, чым лячыць.
**Кісялёў**. Усё гэта так, але я не разумею навошта мяне выклікалі.
**Глаголева**. Уся справа ва ўскладненнях. Я так баюся ўскладненняў. Мой муж, думаю, вы чулі пра архітэктара Глаголева, таксама вельмі непакоіцца.
**Кісялёў**. Чуў, чуў. Глаголеў—наша гордасць. (*Ласкава да Жоры*). Здыміце, малады чалавек, кашулю.
**Жора** (*капрызна*). Не хачу. Надакучыла мне здымаць кашулю і язык паказваць.
**Глаголева** (*Кісялёву*). Жудасна кашляе. Я яго і шкіпідарам націрала, і малінай паіла, і банькі ставіла—нішто не дапамагае. Проста туберкулёзны кашаль. (*Жору*). Пакашляй, Жоранька.
**Жора** (*капрызна*). Не хачу.
**Кісялёў**. Якая тэмпература?

**Глаголева** (*падаючы лісток*). Вось яго тэмпературная крывая.
**Кісялёў** (*прагладаючы лісток*). Гм, гм... Сёмы дзень нармальная тэмпература. (*Да Жоры*). Ну-с, малады чалавек, кашулю здыміце.
**Глаголева**. Здымі, Жоранька. (*Сама здымае з Жоры кашулю*).
**Кісялёў** (*выслухоўвае, выстуквае і, звяртаючыся да Глаголевай*). Вашы страхі зусім дарэмны. Ніякіх ускладненняў я не знаходжу.
**Глаголева**. Як я рада. Вы мяне ўваскрасілі. Але чаго-ж ён так жудасна кашляе?
**Кісялёў**. У лёгкіх нічога не знаходжу. Лёгкія чыстыя.
**Глаголева**. Ён стаў шкілетам.
**Кісялёў**. Я гэтага не знаходжу.
**Глаголева**. Ён жоўты, як лімон.
**Кісялёў**. Не дзіўна. Ён больш двух тыдняў пазбаўлены свежага паветра.
**Глаголева** (*пявучым голасам*). Вы на мяне не крыўдуйце, памятайце, што я маці. Я хачу вас прасіць выклікаць прафесара. Зрабіце кансіліум.
**Кісялёў** (*здзіўлена*). Кансіліум?
**Глаголева** (*вельмі ласкава*). Мой муж, як заслужаны спецыяліст, вядома, мог-бы іншым шляхам запрасіць прафесара, але ён вельмі заняты.
**Кісялёў**. Выклікаць прафесара, адарваць яго без усякай патрэбы ад работы—гэта будзе здзекам над прафесарам і яго часам.
**Глаголева** (*суха*). Муж і я, мы вельмі просім вас зрабіць кансіліум, але калі вам нязручна непакоіць прафесара, калі вы не хочаце зрабіць нам гэтую ласку, я, вядома, не буду настойваць.
**Кісялёў** (*хусцінкай выцірае твар*). У вас вельмі горача. (*Ходзіць па пакоі*). Добра, я выклічу прафесара, але гэта я раблю не дзеля хворага, а выключна дзеля вас і з-за павагі да вашага мужа. У вас тэлефон ёсць?
**Глаголева** (*пявучым голасам*). Ёсць, ёсць. Прайдзіце, калі ласка, у габінет мужа.

(Выходзяць).

**Жора** (*уздыхаючы*). Вось нудота! Хоць-бы ката за хвост пацягаць.
**Голас Кісялёва**. Гэта вы, Іван Цімафеевіч? Гаворыць Кісялёў з кватэры Глаголева. Так, архітэктара. Неабходна ваша кансультацыя. Што? Усё растлумачу на месцы. Савецкая, 24, другі паверх. Выязджаеце? Дзякую.

(Кісялёў і Глаголева вяртаюцца ў пакой Жоры).

**Жора**. Яшчэ адзін будзе слухаць?
**Глаголева** (*саладжава*). Зараз, Жоранька, прыедзе прафесар.
**Жора**. З барадой?
**Кісялёў**. Без барады.
**Жора** (*капрызна*). А я хачу, каб з барадой як у Шмідта.
**Глаголева** (*Кісялёву*). Я вам вельмі ўдзячна, вельмі. Вы на мяне

крыўдзіцца не павінны. На маці крыўдзіцца не можна. Мы—пакутніцы. Мы, жанчыны, пакутуем у час родаў, пакутуем, калі выхоўваем. І ведаеце, чым больш за дзіцем глядзіш, хварэеш за яго душой, тым часцей яно хварэе. На нашым двары дзеці бяруць снег голымі рукамі, катаюцца на лыжах, (*жахліва*) барахтаюцца ў снезе—і нічога! А я Жораньку берагу, як вока ў ілбе, і ён увесь час хварэе.

**Кісялёў**. Дзяцей трэба загартоўваць, трэба даваць ім больш свабоды, развіваць іх мускулы і волю.

**Глаголева**. Мой Жоранька выключнае дзіця. Ён такі кволы, слабенькі. У яго такая кволая арганізацыя. Ён не падобны на іншых дзяцей. Ён—неўротык!

**Кісялёў**. Усе дзеці аднолькавыя, усё залежыць ад выхавання.

**Глаголева**. Не гаварыце. Дарвін ясна абгрунтаваў законы спадчыннасці, а Жорык увесь у мяне. Ён—астэнік, і я ў дзявочыя гады была астэнічкай. Гэта цяпер я крыху расплылася, а ў першыя гады майго замужжа я была феяй. Вядомы мастак Барскі намаляваў з мяне карціну „Воблачка". Я была эфірнай, паветранай, душа ў мяне была, як арфа, а нервы, як струны. Жорык увесь у мяне.

**Кісялёў**. Цікава.

**Глаголева**. Гады не ўпрыгожваюць, пры тым грамадзянская вайна... Я—дачка пракурора, а мой муж—сын паштальёна! Гэта была з майго боку афяра. Калі мы жаніліся, у мужа акрамя таленту нічога не было. Я пайшла на геройскі ўчынак: я ўцякла з дому. Увесь горад грымеў—я была гераіняй. Ах, колькі я перацярпела, колькі ў жыцці было пакут! Я так люблю ўсё вялікае і прыгожае, а ў жыцці столькі прозы... Жоранька выключна даравітая натура. Ён спявае, іграе, малюе, дэкламуе. Я вам зараз пакажу яго эскізы. (*Выходзіць і хутка вяртаецца з альбомам*).

**Кісялёў** (*разглядае альбом*). Ага... Гэты кракадзіл атрымаўся даволі ўдала.

**Глаголева**. Гм... гм...

**Жора**. Які-ж гэта кракадзіл. Гэта абцякаемы паравоз.

**Глаголева**. Жоранька, прадэкламуй што-небудзь.

**Жора** (*ахвотна*). Зараз. (*Становіцца ў позу і дэкламуе*).

Жыў быў цар Гарох,
Наганяў на ўсіх спалох,
А вайной пайшоў на блох
І на полі бітвы здох.

**Глаголева** (*здаволена*). Ён ненавідзіць царызм. У палітычных адносінах ён увесь у татку пайшоў.

**Кісялёў**. Талент, талент. (*Глядзіць на гадзіннік*).

**Жора** (*Кісялёву*). Вы таксама робіце абскокі?

**Кісялёў**. Што? Што раблю?

**Глаголева**. Жора!

**Жора** (*яхідна*). Абскокі. Гэта калі хворых не лечуць, а абскокваюць. Вы ўсе на гадзіннічкі пазіраеце. (*Раздаецца стук у дзверы і ўваходзіць Гораў*).

**Гораў**. Добры дзень. (*Аглядае пакой*).
**Кісялёў**. Я прашу, Фёдар Паўлавіч, мяне прабачыць, што я...
**Гораў** (*дабрадушна*). Якія могуць быць прабачэнні. Калі трэба, дык трэба.
**Глаголева** (*мітусіцца*). Сядайце, прафесар. Мой Жоранька хворы.
**Гораў** (*перабіваючы*). Аб хваробе вашага сына мне даложыць Канстанцін Паўлавіч. Вас-жа я папрашу зараз-жа вынесці з пакою ўвесь гэты хлам. (*Паказвае рукой на раскіданыя рэчы*). У пакоі хворага не павінна быць ні аднаго лішняга прадмета.
**Глаголева** (*здзіўлена, раскрыўшы рот, глядзіць на прафесара*). Добра, прафесар, зараз прыбяру. (*Выносіць рэчы ў суседні пакой*).
**Гораў** (*Кісялёву*). Расказвайце.
**Кісялёў** (*збянтэжана*). Па сутнасці расказваць няма чаго. У хворага быў грып. Цяпер ён зусім здаровы. Шэсць дзён нармальная тэмпература.
**Гораў** (*здзіўлена*). Нашто-ж вы мяне выклікалі?
**Кісялёў** (*збянтэжана*). Выклікаючы вас, я меў на мэце не хворага, а яго маці. Яна брэдзіць палачкай Коха і дурыць.
**Гораў** (*грозна*). Дык вы мяне запрасілі як супакойваючае лякарства. Так я вас зразумеў?
**Кісялёў**. Ад такой шкадлівай бабы, Фёдар Паўлавіч, вы ўсё адно не схаваліся-б. Такая баба вас са дна морскага дастала-б.
**Глаголева** (*адсопваючыся*). Здаецца ўсё.
**Гораў** (*сярдзіта Глаголевай*). Забярыце гэтыя куфары і карзіны. (*Паказвае на вялікія куфары і карзіны*).
**Глаголева** (*нездаволена*). Зараз?
**Гораў**. Неадкладна.
**Глаголева** (*жаласліва*). Добра. (*Выцягвае куфары і карзіны*).
**Гораў** (*Кісялёву*). З такімі бабамі трэба змагацца, а ты даеш ім патачку.
**Кісялёў**. Гэта не жанчына, а дэман.
**Глаголева** (*адсопваючыся*). Здаецца ўсё.
**Гораў** (*Жору*). Здымай кашулю. (*Жора здымае*). Дыхай. Яшчэ, яшчэ. Так, маладзец. Пакашляй. Дыхай яшчэ, не дыхай (*слухае сэрца*). Пакажы язык. Язычок доўгі (*хмурыцца*). Та-а-ак...
**Глаголева** (*спалохана*). У Жоры туберкулёз!
**Гораў** (*Глаголевай*). Адчыніце фортку.
**Глаголева**. Вы жартуеце, прафесар. Жоранька так лёгка прастужваецца.
**Гораў** (*сярдзіта*). Зараз-жа адчыніце фортку. Тут і здароваму чалавеку няма чым дыхаць.
**Глаголева** (*пакорліва*). Зараз адчыню. (*Адчыняе*).
**Гораў** (*Жору*). На коньках катаешся?
**Жора**. Ого! Яшчэ як!
**Гораў**. А на лыжах?
**Жора** (*сумна*). На лыжах мама не дазваляе.
**Гораў**. Не дазваляе! Я табе зараз напішу рэцэпт на лыжы. (*Піша*).

**Жора** (*весела*). Вось гэта дык здорава. Хоць і без барады, а адразу відаць, што прафесар.

**Гораў** (*Жору*). На.

**Жора** (*павольна, па складах чытае*). Самыя лепшыя лыжы. Катацца ўранку і ўвечары па трыццаць мінут. (*Радасна*). Цяпер жывём! Чуеш, мама?

**Глаголева** (*сумна*). Чую. (*Да прафесара*). Акрамя лыж вы другой парады не дадзіце?

**Гораў**. Дам. Нарадзіце яшчэ дзесятак дзяцей.

(Уваходзіць Глаголеў).

**Глаголеў** (*здзіўлена глядзіць на прысутных*). Добры дзень. З сынам што-небудзь здарылася?

**Гораў** (*сур'ёзна*). З вашым сынам справа абстаіць дрэнна.

**Глаголеў** (*спалохана*). Што-ж з ім?

**Гораў**. Па-першае, вы свайму сыну не дазваляеце катацца на лыжах, па-другое, вы яго дарэмна марынуеце ў пасцелі, па-трэцяе, прымушаеце дыхаць удушным паветрам, а па-чацвертае... па чацвертае, вы са свайго сына робіце трапку.

**Глаголеў**. Я нічога не разумею.

**Гораў**. Тут і разумець няма чаго. У сучасны момант ваш сын зусім здаровы, але за далейшы яго лёс я не ручаюся.

**Глаголеў**. Я ўсё-ж нічога не разумею. Калі Жорык здаровы, дык чаму-ж ля яго пасцелі кансіліум?

**Гораў**. Цяпер я нічога не разумею. Вы-ж самі настойвалі на кансіліуме.

**Глаголеў**. Я!?

**Глаголева** (*збянтэжана*). Яўгені! Я так баялася за Жорыка, што настаяла на кансіліуме. Я настойвала ад твайго і свайго імя.

**Глаголеў** (*жонцы*). Эх, маці мая, не кідай за вядром вяроўку (*да прафесара і Кісялёва*). Вы мяне прабачце за гэты візіт. Мая жонка памяшалася на мікробах. Спіць і бачыць іх у сне.

**Глаголева**. Яўгені!

**Жора**. Татка! Ты толькі прачытай рэцэпт прафесара. Не рэцэпт, а маліна. Ты такіх рэцэптаў яшчэ не чытаў. (*Дае Глаголеву рэцэпт*).

**Глаголеў** (*чытае*). Самыя лепшыя лыжы. Катацца ўранку і ўвечары па трыццаць мінут... Так, рэцэпт надзвычайны. Сягоння-ж куплю табе лыжы.

**Жора**. Ур-р-р-а-а-а!

*ЗАСЛОНА.*

*Б. Гузарэвіч*

# „НЕ СПЯШАЙСЯ, ДОКТАР,—СПАТКНЕШСЯ“

**Вадэвіль у двух дзеях**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ.

ПРЫГУНОЎ—неўрапатолаг, 32 год
ТОПАЛЕЎ—хірург, 33 год
АЎДОЦЦЕЎ—хворы, 52 год
КОЗЫРАВА—рэгістратарша, 20 год
ШЧУКІНА—хворая, 45 год
ТОКАРАЎ—рабочы, 60 год
ТОКАРАВА—яго жонка, 55 год
КОСЦЯ, 20 год
НАТАША, 23 год
НІНА, 9 год
МІЛІЦЫЯНЕР

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца ў паліклініцы. Сцэна перагародкай падзелена на габінет урача і рэгістратуру, якія між сабой злучаны дзвярыма. Пры ўзняцці заслоны ў габінеце ўрача Прыгуноў гаворыць з Аўдоццевым, Козырава ў рэгістратуры чытае кнігу. Ля Козыравай на стале тэлефон.

**Прыгуноў** (*Аўдоццеву*). Прозвішча, імя і імя па бацьку?
**Аўдоццеў**. Гэта, значыцца, майго прозвішча пытаецеся?
**Прыгуноў**. Вашага, вашага.
**Аўдоццеў**. Аўдоццеў, Мікалай, а па бацьку Фёдаравіч.
**Прыгуноў**. Колькі год?
**Аўдоццеў**. З паўсотні набярэцца. (*Падумаўшы*). А можа паўсотня з хвосцікам. Нарадзіўся я...
**Прыгуноў** (*перабіваючы*). Мужчына, ці жанчына?
**Аўдоццеў** (*здзіўлена*). Гэта вы наконт майго полу цікавіцеся?
**Прыгуноў** (*спахапіўшыся*). Чым займаецеся?
**Аўдоццеў**. Пасада мая не настолькі значная, наколькі цікавая. Архіварыус я. Трыццаць год у архіве працую.
**Прыгуноў**. З работай спраўляецеся?
**Аўдоццеў**. Магу шчыра сказаць, што другога такога службіста ўдзень з агнём не знойдзеце. Любую даведку аб уступленні ў шлюб, альбо, скажам, аб смерці ў момант выдам. У мяне ўсё па нумарочках, скрыначках, ні аднае непадшытай папе-

рачкі не знойдзеце. Дакуменцікі ў мяне ўсе па папачках, а папачкі...

**Прыгуноў** (*перабіваючы*). На што скардзіцеся?

**Аўдоццеў** (*нечага шукае ў кішэнях*). Зараз знайду. У мяне на паперцы ўсе паводзіны майго арганізма адзначаны.

**Прыгуноў** (*глядзіць на гадзіннік*). Расказвайце так, без паперкі.

**Аўдоццеў**. Адну хвілінку. Ї куды яна, акаянная, падзелася. Учора перапісаў начыста і паклаў, паклаў... Эх, мусіць памяць мая на хвасце ў зайца ляжыць. (*Радасна*). Знайшоў! Вось яна. (*Чытае*). Першая ненармальнасць майго арганізма—бяссоніца. Лягу спаць, а думкі, як блохі, скачуць і сон праганяюць...

**Прыгуноў** (*перабіваючы*). Калі ласка, карацей.

**Аўдоццеў**. Я коратка. Наступная ненармальнасць майго арганізма хуткая стома. На працу я прагны, а пачну працаваць—і ўвесь тут. Сэрца закалоціцца, пот вочы залівае і дыху не хапае.

**Прыгуноў**. Карацей, карацей. Не размазвайце.

**Аўдоццеў**. Я ўсё па парадку. Паспяшыш—людзей насмяшыш. Хутка толькі кошка мышэй ловіць... Далей—сэрца. Раптам як задрыжыць, закалоціцца, дык хоць рукой яго спыняй. А то бывае зойдзецца і рух крыві адсутнічае... Наступнае расстройства майго арганізма—галаўны боль. Паверыце, іншы раз галава так разбаліцца, што як дурны хаджу, месца сабе не знаходжу.

**Прыгуноў**. Гэтыя з'явы пастулова ўзрасталі, ці з'явіліся адразу? У вас не было якога-небудзь патрасення, няшчасця, якой-небудзь катастрофы?

**Аўдоццеў**. Катастрофа ў маім жыцці сапраўды нядаўна адбылася. Мяне жонка кінула, да другога пайшла.

**Прыгуноў**. Разумею, разумею... Раздзявайцеся да пояса. Значыцца, жонка кінула? Так, так... (*Выходзіць у рэгістратуру і гаворыць з Козыравай*). Чароўная Ірына Сямёнаўна, дайце зірнуць на маю пуцёўку.

**Козырава**. Калі ласка. (*Дае пуцёўку*).

**Прыгуноў**. Пяць візітаў? Вы мяне загубіце!

**Козырава**. Згодна загаду галоўурача ваша норма дзесяць візітаў.

**Прыгуноў**. Якая норма? Ї так на часткі разрываюся (*здымае тэлефонную трубку*). Гэта ЦРП? Хто гаворыць? А! Верачка! Добры дзень. Гаворыць Прыгуноў. Перадайце, мілая, Мар'і Сцяпанаўне, што на прыём сёння спазнюся. У мяне ў другой паліклініцы не пуцёўка, а цэлы метр. Так, так. (*Вешае трубку*).

**Козырава**. На што вы набралі столькі нагрузкі! Што вы з грашыма робіце? Не хацела-б я быць на вашым месцы.

**Прыгуноў**. Эх, мілая дзяўчынка, сумяшчэнні як балота, засмоктваюць. Засмокчуць і не выпускаюць. К таму-ж нас, неўрапатолагаў, мала, ірвуць на часткі.

(Прыгуноў вяртаецца да сябе ў габінет).

**Прыгуноў** (*Аўдоццеву*). Дык гаворыце жонка кінула? Раздзявайцеся.

**Аўдоццеў** (*раздзяваючыся*). Кінула. Галоўнае крыўдна—на каго

перамяняла! Быў-бы чалавек годны, культурны—не шкада. А то-ж не чалавек, а непаразуменне, даведка нескончаная, запасных штаноў не мае, толькі і ўсяго што рыжы. А колькі абедаў у мяне пераеў!

**Прыгуноў**. Бывае. Усё ў жыцці бывае. Пастаўце пяткі шчыльна, выпрастайце рукі, растапырце пальцы, выскальце зубы. Так, так, так. Высуньце язык, заплюсніце вочы (*Аўдоццеў усё гэта робіць*). Так, так, так... Прысядзьце. (*Выбягае ў рэгістратуру і гаворыць па тэлефону*). Чыгуначная амбулаторыя? Гаворыць Прыгуноў. Перадайце, калі ласка, Бондараву, што на прыём я спазнюся. Што? Ага, ага. Так мусіць, гадзінкі на дзве. Не, я здаровы, але мяне тэрмінова выклікаюць у ваенкамат. (*Вешае трубку. Да Козыравай*). Больш візітаў не прыбавілася?

**Козырава**. Прыбавілася яшчэ два.

**Прыгуноў**. Чароўная Ірына Сямёнаўна, я вас умаляю, больш візітаў не прымайце. У мяне сёння шалёны дзень.

**Козырава**. Не абяцаю. Я абавязана прымаць візіты да 12-ці гадзін. Ну, як я магу адмовіць хвораму?

**Прыгуноў**. Вы, разумніца, нахлусіце абы што.

**Козырава**. Вы мяне падбухторваеце на злачынства.

**Прыгуноў**. Падбухторыш вас! У вас душа ад благога на ўсе гузікі зашпілена.

**Козырава**. Да кампліментаў справа дайшла. Ідзіце лепш прымайце хворых.

**Прыгуноў** (*вяртаецца ў габінет, дастае з бакавой кішэні пінжака малаточак і праводзіць па грудзях Аўдоццева некалькі лініяў*). Так, так, так... Зрабіце некалькі прысяданняў. Вось так. (*Паказвае*). Пачынайце. (*Аўдоццеў пачынае прысядаць. У гэты час у габінет заходзіць Козырава*).

**Козырава**. Іван Пятровіч, вас просяць да тэлефона.

**Прыгуноў**. Іду. (*Аўдоццеву*). Накіньце пінжак і пасядзіце. Я зараз вярнуся. (*Выходзіць з Козыравай*).

**Прыгуноў** (*узяўшы трубку*). Трэцяя паліклініка? Гэта вы, Надзея Васільеўна? Галубка, на прыём я крышачку спазнюся. Так гадзінкі... на тры. Мяне тэрмінова выклікаюць у Наркамздраў. Што? Нічога не магу зрабіць. Усяго найлепшага. (*Вяртаецца у габінет, Аўдоццеву*). Так, так, так. Закладзеце нагу за нагу, правай рукой пацягніце левую. Вось так. (*Паказвае*). Глядзіце на столь. (*Аўдоццеў усё гэта робіць. Уваходзіць Козырава*).

**Козырава**. Іван Пятровіч! Вас зноў просяць да тэлефона.

**Прыгуноў**. Іду, іду. (*Аўдоццеву*). Прабачце, галубок, ірвуць на часткі. (*Выходзіць з Козыравай*).

**Прыгуноў** (*гаворыць па тэлефону*). Слухаю! Лідачка, гэта ты? З абедам, мілая, не чакай. Так, так. Спазнюся гадзінкі на чатыры. Што? Вечна адна. Што? Кінеш? Пагаворым дома. (*Вешае трубку і чухае патыліцу*). Толькі гэтага не ставала. (*Вяртаецца ў габінет і малаточкам правярае каленныя рэфлексы*). Можаце адзецца.

**Аўдоццеў**. Што са мною?

**Прыгуноў**. Жыццю нішто не пагражае, нервы развінціліся.
**Аўдоццеў**. Што-ж вы мне параіце?
**Прыгуноў**. Перш за ўсё трэба забыцца пра жонку, а затым рабіце (*хутка гаворыць*): ванны, душы, абмыванні халоднай вадой, расціранне, масаж. Прызначу вам франклінізацыю, фарадызацыю і д'Арсанваль. Раю заняцца: садоўніцтвам, агародніцтвам, сельскімі работамі, сталярскім, пераплётным і іншымі рамёствамі. Страляйце: зайцаў, дамашніх качак, займайцеся лоўляй: акунёў, яршоў, язёў і карасёў. Вось і ўсё. Ага, яшчэ будзеце прымаць мікстуру. (*Дае рэцэпт*). Будзеце прымаць унутр па пяць сталовых лыжак на дзень, праз дзве гадзіны па лыжцы. Па сталовай лыжцы кожныя дзве гадзіны, пяць разоў на дзень. Бывайце.
**Аўдоццеў** (*хутка запісвае*). Калі да вас яшчэ зайсці?
**Прыгуноў**. Пакажыцеся праз тыднік. Усяго найлепшага. (*Крычыць*). Наступны! (*Аўдоццеў выходзіць, у габінет уваходзіць Шчукіна*).
**Шчукіна**. Добры дзень, доктар. Што гэта ў вас за парадкі! Хутчэй на могілкі трапіш, чым да вас на прыём.
**Прыгуноў**. Я тут абсалютна ні прычым. Парадак абслугоўвання ўстаноўлены галоўурачом.
**Шчукіна**. Я і галоўурачу скажу, не пасаромяюся.
**Прыгуноў**. Сядайце. Як ваша прозвішча, імя і імя па бацьку?
**Шчукіна**. Няўжо мяне не ведаеш? Мяне ўсе дактары ведаюць. Як толькі на вуліцы ўбачаць, адразу на другі бок пераходзяць.
**Прыгуноў**. Не ведаю, родная. Я ў гэтай паліклініцы новы чалавек.
**Шчукіна**. То-та-ж я гляджу, незнаёмая асоба.
**Прыгуноў**. Дык як-жа ваша прозвішча?
**Шчукіна**. Шчукіна, Сінклета Перапонтаўна, 45 год, дзяўчына.
**Прыгуноў**. Дзяўчына?!!
**Шчукіна**. Незамужняя. Крыў бог ад вашага брата.
**Прыгуноў**. На што скардзіцеся?
**Шчукіна**. Спытайце лепш на што не скарджуся.
**Прыгуноў** (*глядзіць на гадзіннік*). Я вас слухаю.
**Шчукіна**. Усё ў мяне баліць. І больш за ўсё не даюць спакою сны. Такая дрэнь сніцца, што і сказаць нельга. Мінулай начы ўсё дактароў бачыла ў сне. Чаго яны, ірады, толькі не датваралі са мной. Адзін, з рыжымі вусамі, стаў мяне вадою напампоўваць. Я крычу не сваім голасам, а ён пампуе, толькі рыжыя вусы як у таракана ходзяць. Жывот у мяне гарой надзьмуўся, вось, вось, трэсне, ад крыку заходжуся, а ён усё пампуе, ды пампуе... ледзь праснулася.
**Прыгуноў** (*глядзіць на гадзіннік*). Бліжэй да справы.
**Шчукіна**. Я справу і кажу. А то яшчэ бачыла ў сне, як доктар мне жывот рэзаў і кішкі перабіраў.
**Прыгуноў** (*нервова*). Што вас непакоіць?
**Шчукіна** (*спакойна*). А ты не гані. Слухай, што расказваю. Уначы ў сне крычу, так крычу, так крычу, што ўсіх суседзяў палохаю. І яшчэ нервовая я вельмі. Калі мне хто скажа слова наперакор—

я адразу біцца. Паверыце, іду па вуліцы, а рукі так і свярбяць.

**Прыгуноў**. Гм, гм. Гэта цікава, цікава. Да другіх спецыялістаў, галубка, не звярталіся?

**Шчукіна**. Як не звярталася! Да ўсіх звярталася. Уся медыцына ў мяне дома перабыла. Прафесары кожны тыдзень да мяне ездзяць. Вось заключэнні ўсіх дактароў аб маіх хваробах. (*Дастае тоўсты пачак дакументаў і падае Прыгунову*).

**Прыгуноў** (*хапаючыся за галаву*). Гэта ўсё ўрачэбныя даведкі?!.

**Шчукіна**. У мяне ўжо такі звычай: я ад кожнага ўрача бяру заключэнне аб маёй хваробе.

(Уваходзіць Козырава).

**Козырава**. Іван Пятровіч, вас спешна просяць да тэлефона.

**Прыгуноў**. Што там за спешнасць? (*Выходзіць з Козыравай*).

**Прыгуноў** (*гаворыць па тэлефону*). Што? Мяне чакаюць хворыя? Нервуюцца? Я хутка прыеду. Хвілін праз пяць, дзесяць. Так, так.

**Козырава** (*паціху, азіраючыся*). Іван Пятровіч, будзьце асцярожней з гэтай Шчукінай, сусветная скандалістка.

**Прыгуноў**. Хто яна такая? Чым займаецца?

**Козырава**. Калісьці на базары салам гандлявала. Увесь базар яе баяўся. Цяпер у нейкай установе працуе.

**Прыгуноў**. Дзякую вам, што папярэдзілі. (*Вяртаецца ў габінет і праглядае даведкі Шчукінай*). Па гэтых даведках у вас нічога страшнага няма.

**Шчукіна**. Мала табе гэтых, магу яшчэ даць. (*Дастае другі тоўсты пачак дакументаў, перавязаны аборкай, якую доўга развязвае*).

**Прыгуноў**. Не развязвайце. Я вам веру без даведак.

**Шчукіна**. А ты пачытай, што людзі пішуць.

**Прыгуноў** (*праглядаючы дакументы*). Так, так, так. Усё зразумела. Што вас яшчэ непакоіць?

**Шчукіна**. У руках і нагах дрыжыкі. Сэрца, як авечы хвосцік, трымціць. Кожную ноч хуткую дапамогу выклікаю.

**Прыгуноў** (*забыўшыся*). Ну, ну, далей...

**Шчукіна** (*грозна*). А ты не нукай. Я табе не конь, а ты не рамізнік.

**Прыгуноў** (*спахапіўшыся*). Выбачайце, гэта ў мяне знянацку вырвалася.

**Шчукіна** (*перадражніваючы*). Выбачайце, выбачайце. За крыжом чэрці вядуцца. Я цябе ва ўсіх газетках прапішу, тады занукаеш.

**Прыгуноў** (*ласкава*). Не хвалюйцеся, не хвалюйцеся... (*Пяшчотна*). Пастаўце ножкі шчыльна, заплюсніце вочкі, выпрастайце ручкі, растапырце пальчыкі, высуньце язычок. Так, так, так...

**Шчукіна**. Не магу працаваць. З усімі саслужыўцамі перабілася. Хачу інваліднасць атрымаць.

**Прыгуноў**. Інваліднасць? Дык навошта-ж вы да мяне звярнуліся?

**Шчукіна**. Як навошта? Я ўжо ва ўсіх дактароў была, ты толькі адзін і астаўся.

**Прыгуноў**. Вам, галубка, трэба звярнуцца з усімі гэтымі даведкамі да галоўнага ўрача, ён вам усё растлумачыць наконт інваліднасці, а я па гэтым пытанні не ў курсе спраў.

**Шчукіна**. А я і не ведала, вось дурніца! Калі галоўны прымае?

**Прыгуноў**. Ён хутка пачне прыём. Вы хутчэй займіце да яго чаргу, а то спозніцеся.

**Шчукіна** (*зрываецца з месца*). Дзякуй, што растлумачыў мне дурной. (*Выбягае з габінета*).

**Прыгуноў**. Хутчэй трэба ісці, а то калі гэтая дзяўчынка вернецца, да непрытомнасці давядзе.

(Уваходзіць у халаце Топалеў).

**Топалеў**. Неўрапатолагу гонар і павага. Ты мне патрэбен.

**Прыгуноў**. Хірургу прывітанне. Чым магу служыць?

**Топалеў**. Я хачу цябе прасіць аб адной паслузе...

**Прыгуноў**. Пазычыць грошай? Калі ласка. Колькі?

**Топалеў**. Справа не ў грашах. Сам магу табе пазычыць.

**Прыгуноў** (*здзіўлена*). Дык у чым-жа?

**Топалеў**. Наведай са мной аднаго хворага. Заблытаны выпадак. Для мяне не ясна дыягностыка, мне-б хацелася ведаць меркаванне неўрапатолага.

**Прыгуноў** (*абурана*). Паслухай, Фёдар Паўлавіч, гэта—свінства. Калі мы будзем нагружаць адзін аднаго візітамі—прыдзецца кінуць работу. І без твайго візіта мая пуцёўка—метр.

**Топалеў**. Хвораму няма справы да нашых пуцёвак, ён пакутуе, і просіць, каб мы палегчылі яго пакуты.

**Прыгуноў**. Без жаласлівых слоў! Гэта з твайго боку не па-сяброўску. Ты ведаеш маю нагрузку. Я ўвіхаюся як злодзей на кірмашы. Жонка мяне хоча кінуць. У гэтай палікліпіцы працую—раз, у ЦРП—два, на Арлянцы—тры, у чыгуначнай амбулаторыі—чатыры, на Пятроўцы—пяць і ў дадатак да ўсяго гэтага яшчэ кансультую на заводзе. Трэба-ж усюды паспець, а ў сутках толькі 24 гадзіны. Прабач мяне, але тваю просьбу не магу выканаць. Заўтра—я к тваім паслугам, а сёння перагружаны вось дагэтуль (*паказвае на горла*).

**Топалеў**. Твае сумяшчэнні мяне не цікавяць. Мне неабходна пракансультаваць хворага.

**Прыгуноў**. Павер, мне вельмі непрыемна і іншае, але... няма ні адной лішняй хвіліны.

**Топалеў**. Ты толькі зразумей...

**Прыгуноў** (*перабіваючы*). Не мучай мяне, яшчэ раз прабач, даруй, бягу.

**Топалеў** (*абурана*). Гэта-ж подласць!

**Прыгуноў**. Подласць? Не! Гэта—абставіны. (*Дэкламуе*).

А ранены алень ляжыць,
А лань здаровая смяецца.
Адзін заснуў, другі не спіць—
І так на свеце ўсё вядзецца...

Гэта словы Гамлета. Трэба бегчы пакуль ногі носяць. Заўтра паедзем куды хочаш. (*Выходзіць*).

**Топалеў** (*сам сабе*). А які чалавек быў! Добраахвотнікам на эпідэміі ездзіў. Які актывіст быў! Як гэтыя праклятыя сумяшчэнні псуюць людзей. Быў прыстойным чалавекам, а стаў сумяшчальнікам. Пачакай, дружа! Я з цябе сумяшчальніцкі дух выб'ю. Я з цябе зноў чалавека зраблю. (*Задумваецца, весела ўсміхаецца і заходзіць у рэгістратуру*). Добры дзень, дзетка.

**Козырава** (*радасна*). Добры дзень, Фёдар Паўлавіч.

**Топалеў**. Як матуля пажывае?

**Козырава**. Дзякую. Не ведае як вас аддзякаваць. Вы яе ад смерці выратавалі.

**Топалеў**. Вы перавялічваеце мае заслугі.

**Козырава** (*пачуццёва*). Вы столькі праявілі чуласці, увагі, клопатаў...

**Топалеў**. Чулыя і ўважлівыя адносіны да хворых гэта не заслуга, а абавязак кожнага сумленнага ўрача... У мяне да вас маленькая просьба.

**Козырава**. Папярэдне абяцаю яе выканаць.

**Топалеў**. Запішыце Прыгунову візіт.

**Козырава**. Адрас?

**Топалеў**. Іванаўская, 6, кватэра 3. Токараў, Захар Осіпавіч. Папярэдзьце Прыгунова, што хворы вар'ят, небяспечны для акружаючых, што ён учора крэслам праламаў галаву раённаму ўрачу. Без заключэння неўрапатолага хуткая дапамога не адвязе яго ў вар'яцкі дом. Толькі, калі ласка, не кажыце Прыгунову, што гэты візіт удружыў яму я—лаяцца будзе.

**Козырава** (*усміхаючыся*). Не скажу. А лаяцца ён страшэнна будзе.

**Топалеў**. Дзякую. Прывітанне матулі. (*Выходзіць*).

**Козырава**. Цудоўнейшы чалавек, а спецыяліст які! Вось бы мне такога мужа!

(Уваходзіць Прыгуноў).

**Козырава**. Вы па пуцёўку? У вас прыбавіўся яшчэ адзін візіт і вельмі спешны.

**Прыгуноў** (*спалохана*). Восьмы!

**Козырава**. Восьмы. Нічога не магла зрабіць. Буйнае вар'яцтва. Родныя хворага прасілі вас папярэдзіць, што ў яго светлыя хвіліны чаргуюцца з буйнымі. Хворы ўчора крэслам разбіў галаву раённаму ўрачу.

**Прыгуноў**. Для чаго-ж выклікаюць мяне? Для таго, каб ён і мне разламаў галаву?

**Козырава** Без вашага заключэння хворага не адправяць у вар'яцкі дом. (*У захапленні*). Смелы народ урачы! Героі! Я ад страху памерла-б. Заходзіш у дом, а тут на цябе страшыдла з крэслам.

**Прыгуноў**. На ўсё прывычка. Чулі? Надоечы доктара Краўцова сабака ледзь не з'еў. Заходзіць ён да хворага і толькі прыклаў трубку, каб паслухаць сэрца, аж раптам з-пад ложка, як

выскачыць велізарнейшы пёс, як зарычыць... і да горла. Касцюм, разумеецца, на шматкі, на жываце і нагах раны. І цяпер у больніцы ляжыць.

**Козырава.** І вы не баіцеся?

**Прыгуноў.** Бывае, што баюся, але-ж гэта мой абавязак. (*Ідзе да выхаду, размахваючы над галовай пуцёўкай.*) Іду без страху і дакораў!

*ЗАСЛОНА*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Сталовая ў кватэры Токарава. На стале шуміць самавар. На сценах карціны, на вокнах фіранкі, шмат кветак. За сталом сядзіць уся сям'я Токарава, акрамя Ніны.

**Токараў** (*падаючы жонцы шклянку*). Налей-тка, маці, восьмую... Дык вось, клікаюць мяне ў заўком і пытаюцца:—Скажы Захар Осіпавіч, як сам працуеш, як твая брыгада план выконвае?—Нічога,—адказваю,—брыгада мая стаханаўская. Супроць плана даём дзвесці процантаў. (*П'е са сподачка*).—Колькі часу на вытворчасці працуеш?—Ды так,—кажу,—гадкоў сорак з хвосцікам. Тут старшыня заўкома і кажа: мы, кажа, на паседжанні заўкома аб табе, Захар Осіпавіч, меркаванне мелі і парашылі (*адкусвае драбок цукру*), парашылі прэміраваць цябе пуцёўкай у Крым. Вось, кажа, пуцёўка, праз два тыдні паедзеш. Паглядзеў я на пуцёўку (*п'е са спадачка*) і кажу: чаго я ў Крыму не бачыў? У 1920 годзе, калі барона Врангеля ліквідавалі, увесь Крым абышоў. Я лепш свой працоўны адпачынак на беразе рэчкі правяду, акунёў палаўлю (*п'е са сподачка*). А старшыня прычапіўся, як смала. Уваж, кажа, заўком і едзь, для нас тваё здароўе, кажа, вельмі дорага. Падумаў я і пытаюся: а ці нельга гэтую пуцёўку на маю бабу перапісаць? Мая баба, кажу, актывістка і за сваё працоўнае жыццё далей пячных гаршкоў нідзе не была. Падумаў старшыня і кажа: можна. Трэба, кажа, Захар Осіпавіч, табе павагу аказаць і тваю бабульку ўважыць. Дык вось, Аграфена Іванаўна, атрымоўвай пуцёўку і збірайся ў дарогу (*дастае з кішэні пуцёўку і дае жонцы*).

**Токарава** (*успляснуўшы рукамі*). Глядзіце на яго, дзеткі, пад старасць дурнем стаў! Куды-ж я паеду? На каго вас пакіну, на каго дом даверу?

**Токараў.** Трэба, Аграфена Іванаўна, заўком уважыць, а то людзі могуць пакрыўдзіцца.

**Токарава.** Вось насланне! І праз каго—праз мужа. У гэтым Крыму я без работы на другі-ж дзень у мора кінуся.

**Токараў** (*жартаўліва*). Глядзі, каб там каму на шыю не кінулася.

**Наташа.** Едзь, мамачка. Я летась у Крыму правяла час, як у казцы. Якое сонца! Якое мора!

**Токарава.** Чаго вы да мяне прычапіліся з гэтым Крымам! Надакучыла я вам, пазбавіцца ад мяне хочаце!

**Косця**. Вы, мама, не ведаеце, што такое Крым. Крым—гэта кузня здароўя. У Крыму старыя ў маладых ператвараюцца.

**Токараў** (*смяецца*). Прыедзеш з Крыма мне яшчэ дзесятак народзіш.

**Токарава** (*Косцю*). І ты маці гоніш? Дачакалася, што з дому гоняць (*плача*).

**Токараў**. Чаго вільгаць разводзіш? Не хочаш—не трэба. На тваё месца шмат ахвотнікаў знойдзецца.

**Токарава**. Няхай той едзе, каму лячыцца трэба, а мне здароўя не пазычаць.

**Токараў**. Ладна. Давай пуцёўку. (*Хавае пуцёўку ў кішэню*). Заўтра ў заўкоме скажу: прабачце, не хоча мая баба ў Крым ехаць.

**Токарава**. Так і скажы. Скажы, што я ад грамадскай работы не адмаўляюся, але толькі хай дадуць нагрузку тут, на месцы.

**Наташа** (*смяючыся*). Смешная ты, мама. Паездка ў Крым—гэта прэміроўка, а не нагрузка. Пуцёўка тысячу рублёў каштуе.

**Токарава**. Тысячу рублёў! (*Усплясквае рукамі*). Тысячу рублёў! Я лепш грашыма вазьму.

**Косця**. Нашто табе, мама, грошы? Што ты з імі будзеш рабіць?

**Токарава**. Вось глупства якое! Ці мала што з грашыма можна зрабіць. Купіла-б (*акідае вачыма пакой.*) Купіла-б...

**Наташа** (*весела*). Усё ўжо куплена.

**Токарава**. Купіла-б... паклала-б на кніжку. (*Усе смяюцца. У гэты час у сталовую з крыкам убягае Ніна*).

**Ніна** (*скачучы*). Вы сядзіце, чай п'яце, і нічога не ведаеце, а я нешта ведаю, а я нешта ведаю!!!

**Токарава**. Ты дзе прападала? Чаму спазнілася на чай?

**Ніна** (*захліпаючыся*). Я спазнілася, а толькі я не спазнілася. Я ішла дадому, як раптам на Садовай народу, народу, народу—процьма. Я вядома к народу. Падбягаю і... нічога не бачу. Усе збіліся ў кучу, шумяць, крычаць і нічога не разбярэш. Я пацягнула за штаны высокага дзядзьку і пытаюся: дзядзечка, а дзядзечка, а чаго народ хвалюецца? А ён гаворыць: за штаны мяне не церабі я злокату баюся. І яшчэ гаворыць: у вар'яцкі дом везлі вар'ята, а ён дарогай уцёк, ды вось яго і ловяць. Я гляджу: народ пабег. Бягуць і крычаць, а я таксама бягу і крычу, а толькі вар'ята не злавілі.

**Токарава**. Не злавілі!

**Ніна**. Не злавілі. Я покуль дадому дабегла—страху набралася. На каго не зірну—думаю, вар'ят.

**Косця** (*Токараву*). Татуля, матацыкл наладзіў?

**Токараў**. Наладзіў. Можаш ехаць.

**Косця**. Дзякую. (*Спявае*).

> Ад Масквы і да граніц усходніх,
> З поўдня цёплага да поўначы сівой.
> Чалавек, як гаспадар, праходзіць
> Сонечнай радзімаю сваёй.
>
> І жыццё прывольна і шырока
> Нібы Волга поўная бяжыць.

Маладым усюды ў нас дарога,
Радасна і весела ў нас жыць.

Дзе яшчэ краіна ёсць такая,
Шмат у якой лясоў, палёў і рэк,
Дзе бяды ужо ніхто не знае,
Дзе так вольна дыша чалавек.

**Ніна.** І я паеду з Косцяй. Цыкаў, цыкаў матацыкал...

(Выбягае).

**Наташа** (*глядзіць на ручны гадзіннік*). Пара і мне. Паседжанне ў мяне, і, мабыць, забаўлюся, з вячэрай не чакайце.

(З плачам прыбягае Ніна).

**Ніна.** Гы-ы-ы... Я ха-це-ла па-е-хаць з Ко-о-сцяй, а ён мне ска-а-заў: не ва-а-ляй ду-у-рня, а я ск-а-а-зала: я ця-а-бе не ча-а-паю, а ён тузануў мяне за вуха. Гы-ы-ы...
**Токараў.** Моцна тузануў?
**Ніна.** Не-е-е, а то-ль-кі крыўдна. Я пі-о-нерка, а ён за ву-ха-а.
**Токараў.** Якая-ж ты піонерка, калі плачаш?
**Ніна** (*хутка выцірае вочы*). Я не плачу, гэта я так гавару. Штаны я прасаваць яму больш не буду.
**Токараў.** Правільна, не прасуй.
**Ніна** (*падумаўшы*). Не, мусіць, прыдзецца прасаваць. Ён мне за кожныя выпрасаваныя штаны дае плітку шакалада.

(Усе смяюцца. У гэты час раздаецца стук у дзверы і хутка ўваходзіць Прыгуноў.)

**Прыгуноў** (*здымае капялюш і хусцінкай выцірае з твару пот*). Добры дзень. Токараў тут жыве?
**Токарава** (*ветліва*). Тут, тут. Заходзьце.
**Прыгуноў.** Вы жонка Токарава?
**Токарава.** Жонка.
**Прыгуноў.** Скажыце, браты, сёстры вашага мужа нармальныя?
**Токарава.** Усякія былі.
**Прыгуноў.** А бацькі?
**Токарава.** Бацька, значыцца, майго мужа, быў стары грунтоўны, правільны, а маці, калі праўду сказаць, з адной хібачкай была. На рэлігійным дурмане была пamешана, ні аднае службы ў царкве не прапускала.
**Прыгуноў.** Так, так, так... Значыцца, спадчыннасць. Як ён зараз сябе адчувае, дзе вы яго трымаеце?
**Токарава** (*здзіўлена*). Каго?
**Прыгуноў.** Як каго? Мужа, вядома.
**Токарава.** Мужа! Вось, ён, Токараў.

(Паказвае на Токарава).

**Прыгуноў** (*глядзіць на Токарава*). Прыемна, прыемна пазнаёміцца. (*Токаравай*). Скажыце, ён у вас бываў у гэтых доміках... ну вы самі мяне разумееце...

**Токарава**. Бываў. Яшчэ колькі разоў бываў. Кожны год бывае.

**Прыгуноў**. І доўга яго трымаюць там?

**Токарава**. Каб доўга—не. Пажыве, адпачне, паправіцца і дадому. Цяпер вось заўком яго хоча ў Крым паслаць, тысячу рублёў дае, дык ён не хоча. Хоча, каб (*з усмешкай*) замест яго я ехала, быццам я ненармальная, дзівак!

**Прыгуноў** (*Токараву, вельмі ласкава*). Дык вы у Крым не хочаце ехаць?

**Токараў**. А чаго я там не бачыў? Я лепш акунёў палаўлю.

**Прыгуноў**. Акунёў?!!

**Токараў** (*дабрадушна*). І ад лешчыка не адмоўлюся.

**Прыгуноў**. І ад лешчыка? Так, так, так. Лешчыка, значыцца, на Крым не перамяняеце?

**Токараў** (*горача*). Харошага ляшча на тысячу Крымаў не перамяняю!

**Прыгуноў**. Так, так, так. Хто вас у Крым хоча пасылаць?

**Токараў** (*дабрадушна*). Заўком. Мусіць, думаюць, што на старасці год з глузду з'ехаў. Хіба-ж улетку нармальны чалавек паедзе ў Крым, асабліва калі ў яго ёсць магчымасць павудзіць рыбкі.

**Прыгуноў**. Вядома. Так, так, так... Вы сябе лічыце нармальным чалавекам?

**Токараў** (*сярдзіта*). Вы хочаце жартаваць?

**Прыгуноў**. Не хвалюйцеся, не хвалюйцеся. У вас ворагаў шмат?

**Токараў** (*здзіўлена*). Ворагаў?

**Прыгуноў**. Я магу ўсіх вашых ворагаў знішчыць як мух.

**Токараў** (*падазрона*). Вы, уласна кажучы, хто такі?

**Прыгуноў**. Я—знішчальнік мух.

**Токараў** (*разгублена*). Знішчальнік мух?

**Ніна**. Знішчальнік мух! ой, мамачка, гэта, мабыць, той вар'ят, што ўцёк.

**Токарава**. Маўчы, дурная!

**Прыгуноў**. Як душна. У вас у пакоі недастатковая вентыляцыя.

**Токараў** (*сярдзіта*). У вас у мазгах вентыляцыя дастатковая?

**Прыгуноў**. У мяне замест мазгоў вінегрэт.

**Токараў**. Яно і відаць.

**Токарава** (*Наташы*). Нічога, Наташачка, не разумею. Старая стала, дурная стала.

**Наташа** (*паціху*). І разумець няма чаго—вар'ят.

**Токараў** (*адыходзіць на край сцэны і падзывае Наташу, якой паціху гаворыць*). Вар'ят. Вядомая рэч. Ты бяжы па міліцыянера, а я буду рабіць усё, што ён захоча. Чорт яго ведае, можа буйны, перакалечыць яшчэ.

**Наташа**. Бягу. (*Выбягае*).

**Прыгуноў** (*ласкава Токараву*). Здымайце пінжак.

**Токараў** (*пакорліва*). Добра, здыму. (*Здымае і насцярожана глядзіць на Прыгунова*).

**Прыгуноў**. Цяпер зіма ці лета? (*На бок*). Ну і здаравенны, забіць можа і без крэсла.

**Токараў** (*асцярожна*). Вам чаго хацелася-б?

**Прыгуноў**. Зімы. (*У бок*). Трэба бліжэй да дзвярэй трымацца.

**Токараў** (*паціху да жонкі*). Зараз кусацца пачне. (*Прыгунову*). Цяпер, вядома, зіма. Вось хлапчукі на каньках катаюцца.
**Ніна**. Татачка, ты з ім не гавары, ён-жа зусім дурны.
**Токараў** (*Ніне*). Маўчы!!
**Прыгуноў** (*здаволена*). Ве-е-е-льмі добра. Ве-е-е-льмі добра. Скажыце, вам не прапанавалі месца караля?
**Токараў** (*успыхнуўшы*). Што, я пугала якое, каб быць каралём! (*Спахапіўшыся*). Прапанавалі, але я адмовіўся. Непакойная пасада. (*У бок*). Вось наслала нячыстая на маю галаву.
**Прыгуноў** (*вельмі ласкава*). Скажыце, вам не хочацца ўкусіць, альбо, скажам, стукнуць мяне па галаве крэслам?
**Токараў** (*шчыра*). Вельмі хочацца.
**Токарава** (*мужу*). Захар Осіпавіч, Захар Осіпавіч! На хвалюйся! (*Прыгунову*). А вы, малады чалавек, лепш ідзіце сваёй дарогай, вы лепш да каго другога прычапецеся. Мой Захар Осіпавіч чалавек нервовы, характар мае сур'ёзны, ён можа вас і па галаве стукнуць.
**Прыгуноў** (*уздыхаючы*). Клопат. Я прывык да ўсяго, не турбуйцеся. Ён у вас часта ўпадае ў буйства?
**Токарава**. Часта. А як разыдзецца, разбушуецца—бяда. Можа пакалечыць чалавека. Вы лепш ідзіце сваёй дарогай.
**Прыгуноў**. Так, так, так. Цікавая форма вар'яцтва. (*Токараву*). Здымеце кашулю.
**Токараў**. Што рабіць? Баюся.
**Прыгуноў** (*у бок*). Хуткая змена ўражанняў. (*Токараву*). Здыміце, галубочак, я вас не ўкушу.
**Токараў** (*у бок*). Так я табе і паверыў! Трэба зняць. Дзе-ж гэта міліцыянер? (*Цяжка ўздыхае і здымае кашулю*).
**Прыгуноў**. Пастаўце пяты шчыльна, выпрастайце рукі, растапырце пальцы... (*Токараў усё гэта робіць*), выскальце зубы.
**Токараў** (*забыўшыся, грозна*). Што-о-о?
**Прыгуноў** (*адыходзячы ў бок*). Выскальце зубы. Вось гэтак. (*Выскаляе зубы*).
**Токараў**. Куды Наташа падзелася? (*Ніне*). Бяжы хутчэй па міліцыянера. (*Ніна выбягае*). Прапаў. Цяпер кусацца пачне. (*Выскаляе зубы і паводзіць вачыма*).
**Прыгуноў** (*у бок*). Ой, ё-ёй! (*Токараву ласкава*). Заплюсніце вочкі.
**Токараў** (*хвалюючыся*). Гэта ўжо дудкі! Рабіце са мной што хочаце, але вачэй не заплюшчу.
**Токарава** (*умольна*). Захар Осіпавіч, уваж гэтага сатану, заплюсні вочы.
**Токараў** (*жонцы*). Укусіць. Адразу ў горла ўчэпіцца.
**Токарава**. Не бойся. Заплюшчы вочы. Калі ён ледзь што, я закрычу.
**Токараў** (*жонцы*). Глядзі-ж добра. (*Заплюшчвае вочы*).
**Прыгуноў**. Высуньце язык...
**Токараў** (*жонцы*). Што ён насміхаецца нада мной? Можа гэта не вар'ят, а жулік.

**Токарава** (*паціху, мужу*). Высунь, Захарка. Хутка міліцыя з'явіцца.
(*Токараў высоўвае язык і стаіць з заплюшчанымі вачыма*).
**Прыгуноў**. Так, так, так. (*Дастае з бакавой кішэні малаточак і хоча правесці некалькі лініяў на грудзях Токарава*).
**Токарава** (*прарэзліва крычыць*). Захарка-а-а-а!
**Токараў** (*рукамі хапаецца за горла*). Хацеў укусіць?
**Токарава** (*пераводзячы дых*). Ага. (*Садзіцца*). Млосна мне.
**Прыгуноў** (*публіцы*). Усё зразумела. Ясная парафрэнія. Яго неабходна заразжа адправіць у вар'яцкі дом. Толькі вось... як быць з яго жонкай? Яна безумоўна таксама не зусім пры сваім розуме. (*Токаравай*). Я зараз напішу накіраванне ў вар'яцкі дом. (*Садзіцца і піша, баязліва паглядаючы на Токарава і яго жонку. У гэты час уваходзіць Наташа, а за ёй міліцыянер.*)
**Міліцыянер** (*Наташы*). Каторы?
**Наташа** (*паказваючы на Прыгунова*). Вось той, што за самаварам хаваецца.
**Міліцыянер** (*грозна*). Ну, браток, вылазь!
**Прыгуноў** (*радасна міліцыянеру*). Вы міліцыянер? Як вы дарэчы! Як я вам рад, якое шчасце! Бярыце яго. (*Паказвае на Токарава*). Бярыце і цягніце адразу-ж у вар'яцкі дом. Вось накіраванне. Што датычыцца яго жонкі (*паказвае на Токараву*), то пакуль устрымаемся. За ёю трэба панаглядаць.
**Токараў** (*абурана*). Вось жулік! З хворай галавы ды на здаровую.
**Міліцыянер** (*Прыгунову*). Хто такі?
**Прыгуноў**. Я ўрач па нервовых хваробах.
**Токараў** (*смяючыся*). Ха-ха-ха! Хо-хо-хо! Ну, і доктар! Ад такога доктара ў лес уцячэш.
**Міліцыянер** (*Прыгунову*). Пакажыце пашпарт.
**Прыгуноў**. Я пры сабе пашпарта не нашу.
**Міліцыянер** (*Прыгунову*). Пойдзем.
**Прыгуноў**. Куды?
**Міліцыянер**. Вядомая рэч—у міліцыю.
**Токараў**. Шчыльна ногі, выскальце зубы! Ах, ты каналля! І трэба-ж прыдумаць такое...
**Прыгуноў**. Я нічога не разумею. Я—урач-неўрапатолаг. Мяне запрасілі ў гэты дом, каб устанавіць вар'яцтва гэтага грамадзяніна. (*Паказвае на Токарава*). Вар'яцтва тут бясспрэчнае. Яго (*паказвае на Токарава*) неабходна зараз-жа адправіць у вар'яцкі дом. Ён небяспечны для акружаючых.
**Токараў**. Відаць, браток, ты не вар'ят, а жулік—складна брэшаш.
**Токарава**. Таварыш міліцыянер, вы ў яго спытайце (*паказвае на Прыгунова*), у доктара гэтага, ад каго ён ратаваўся, калі ўварваўся да нас. Прыбег да нас, мокры, як мыш.
**Прыгуноў** (*збянтэжана*). Я спяшаўся. У мяне шмат візітаў, я...
**Токарава**. Спяшаўся! Сапраўдны доктар саліднасць мае, а не бегае, як заяц. Яшчэ, таварыш міліцыянер, запішыце, што ён хацеў мужа за горла укусіць.
**Міліцыянер** (*Прыгунову*). Пойдзем.
**Прыгуноў**. Я буду скардзіцца.

**Міліцыянер**. Гэта ваша права. Прашу. (*У дзвярах міліцыянер і Прыгуноў сутыкаюцца з Топалевым*).

**Топалеў** (*здзіўлена*). Што тут такое? (*У бок*). Здаецца, я спазніўся.

**Токараў**. Жуліка ці вар'ята злавілі.

**Топалеў**. Жуліка?

**Токараў**. Самага што ні на ёсць. Вось! (*Паказвае на Прыгунова*).

**Топалеў**. Жулік, вар'ят! Гэта-ж, урач, неўрапатолаг. Мы працуем з ім у адной паліклініцы.

**Прыгуноў** (*міліцыянеру*). Я-ж вам казаў. Тут уся сям'я вар'яцкая.

**Міліцыянер** (*казыраючы*). Прашу прабачэння. Памылачка, значыцца, вышла. Бывае. (*Збіраецца выходзіць*).

**Прыгуноў** (*стрымліваючы міліцыянера*). Куды вы? Забярыце вар'ята. (*Паказвае на Токарава*).

**Топалеў**. Вар'ята?

**Прыгуноў**. Ясная парафрэнія.

**Топалеў** (*са штучным здзіўленнем*). Мой дзядзька—парафрэнік? (*Прыгунову*). Ты што—пры сваім розуме? Тут нейкае непаразуменне. (*Міліцыянеру*). Прабачце, таварыш, што вас дарэмна патурбавалі.

**Міліцыянер**. Клопат! Здараецца... (*Казырае і выходзіць*).

**Прыгуноў**. Я нібы ў сне. Што ўсё гэта азначае? Я нічога не разумею!

**Топалеў** (*спакойна*). І разумець няма чаго. (*Звяртаючыся да ўсіх*). Сядайце. Дзве хвіліны ўвагі. Ва ўсім вінаваты—я.

**Усе**. Ты?

**Топалеў**. Так, я. (*Прыгунову*). Ты, галубок, мяне прабач, што з-за мяне трапіў у вар'яты. Гэта я выклікаў цябе да дзядзькі...

**Прыгуноў** (*ярасна*). Значыцца, гэта твая выдумка.

**Топалеў**. Так, мая. Я рашыў адвучыць цябе ад залішніх сумяшчэнняў і спешкі.

**Токараў**. Ха-ха-ха. От дык пляменнічак! Смех ды годзі! Ха-ха-ха! Хо-хо-хо! (*Прыгунову*). Значыць, я вас прыняў за вар'ята, а вы мяне? Ха-ха-ха...

**Прыгуноў** (*абурана*). Я праз цябе траха ў міліцыю не трапіў.

**Топалеў**. Гэта не ўваходзіла ў праграму маіх дзеянняў. (*Сур'ёзна*). Ты трапіў у няёмкае становішча—гэта горш. Я спадзяюся, што пасля гэтага ўрока ты скароціш свае сумяшчэнні і будзеш як раней—добрым чуткім урачом.

**Прыгуноў**. Ты мяне абняславіў на ўвесь свет.

**Топалеў**. Перамелецца—мука будзе. Запамятай на ўсё жыццё: хто без патрэбы спяшаецца, той заўсёды спатыкаецца.

*ЗАСЛОНА*.

Менск, 1938 г.

*М. Дзядзюля*

## СТРЭЛ

Злосны вецер лазнякі
Нізка гне к зямлі,
Ў хвалі бурнае ракі
Восень сыпле ліст.
Ўецца змейкаю рака,
Роніць рокат хваль.
Я, з вінтоўкай у руках,
Зрокам рэжу даль.
Навакол глыбокі сон
Толькі стогне гай.
Гаем крадзецца шпіён
У мой родны край.
Падпаўзае хцівы гад,
Туліцца ў кустах.
У руках яго наган,
Злосць гарыць ў вачах.
Моцна цісну ў руках
Трохлінейку я,
Сталь халодную курка
Грэе кроў мая.
„Стой!..“
І злы фашысцкі гад
Ломячы кусты,
Зверам кінуўся назад
Ў гушчу цемнаты.
Прамільгнуў і знік шпіён
Між кустоў і дрэў.
І бандыту наўздагон
Грымнуў грозны стрэл.
Абляцеў шумлівы бор
Пошчак, і заціх,
І заставу і дазор
Ён апавясціў.

Пагранічны наш атрад
Пільна ўсюды стаў.
Быў узяты дыверсант
У густых кустах.
А мяжу зноў абняла
Глуш начная ў цьме.
Густа падала імгла,
Глуха лес шумеў.

---

В. Рагуцкі

## ПАШТАЛЬЁН

Вокны насцеж—
Сонца залатое!
Азіраю пышны далягляд:
Хтось ідзе цяністай стараною,—
Зачарован зеленню прысад,
Харавтвом
блакітнага світання,
Прывітальным посвістам сініц...
Сам асыпан пылам красавання
Белакудрых грэчак і пшаніц.

Пазнаю я
русую чупрыну
І яго вясёлую хаду.
На спатканне—
стройная дзяўчына,
Несучы крынічную ваду.
Вось яны
вітаюцца шчасліва,
І знімае ён,
бы незнарок,
Сумку з плеч,
напханую рупліва,
І спыняе дзеўчына свой крок.

Славіць сонца радасць маладую.
Цвет губляе топаль ля акон,
І пісьмо ад мілага—мяркую—
Падае дзяўчыне паштальён.

І пісьмо—здаецца мне—здалёку,
Ці не з мора сіняга—ужо?
Мо' з Одэсы, мо' з Владзівастока,
з Комсамольска-горада няўжо?

Адно бачу:
лёгкая трывога,

Пунсавеюць шчокі, як зара.
І вада плюскоча на дарогу
Ручаямі срэбнымі з вядра.

І стаіць разгублена дзяўчына...
Як у вершы гэта расказаць?
. . . . . . . . . . . . .
Паштальён хаваецца за тынам,
І прыгожа вішні шалясцяць!

Вёска Старое Пашкава,

1937-38 г.

*Алесь Стаховіч*

# ГРЫШКА-КУРАВОД

У Грышы была шэрая, чубастая, з зубчатым грэбнем курка. Але мела яна нядобры нораў, ад якога хлапчуку было не мала клопатаў.

Колькі ні намагаўся Грышка, каб прывучыць курку-сакатуху несціся ў кошыку, які ён прымайстраваў ля курасадні, але ў яго нічога не выходзіла. Сакатуха заўсёды ўхітралася несціся ў такіх патаемных мясцінах, што было надзвычай цяжка яе адшукаць. Заўсёды моўчкі знясецца дзе-небудзь, ціхенька злезе з гнязда, дзюбкай паварушыць яйкі і як бы ні ў чым ні бывала зноў пашла жыраваць. Такім парадкам яна не раз ужо падводзіла хлапчука. Аднойчы яна зусім нечакана для Грышы вывела з крапівы больш дзесяці зусім кволенькіх, ледзь ціўкаючых ад холаду куранят.

Затое, што без пары і без толку ўсё гэта рабілася, маці часта папракала хлапчука:

— Вось ты і куравод у мяне, заатэхнікам хочаш стаць у калгасе, а ніяк не ўгледзіш за сакатухай...

Грышы было надзвычайна няёмка, і ён ні раз чырванеў ад гэтага.

А ў гэту восень адвадзіўшы вывадак, сакатуха зноў дзесьці пачала несціся. Цяпер ужо наўкол двара было ўсё зжата і пакошана, нават шчаўлюк, які распускаўся ля плоту, і той скасілі на сілас, і яна была прымушана аблюбаваць сабе мясціну ў будынку. Але ў якім, і дзе тое месца, хлапчук не ўяўляў сабе, бо зноў усё гэта рабілася з надзвычайнай асцярогай.

Кудахтала яна толькі тады, калі ўжо дужа знянацку перапалохаецца ці то ад тхора, які тырканецца адкуль з-падцішка ці то ад каршуна, раптоўна наляцеўшага з лесу. Тады яна, растапырыўшы крыллі бяжыць, ляціць да будынку і на ўсё горла крычыць:

— Куд-ку-дах-ку-дах!.. Куд-ку-дах-ку-дах!..

Голас у яе быў гучны, нібы ў таго пеўня, і хлапчук адразу ўяўляў сабе трывогу на двары.

Раніцай Грыша збіраўся ў школу. Ён склаў у сваю сумачку кніжкі, пераказаў у голас за вечар вывучаны вершык, і, зусім не думаючы пра курку, сеў за стол і пачаў есці яешню. Але не паспеў ён з'есці і скварку, як дзесьці пачуўся ўстрывожаны голас сакатухі.

Хлапчук насцеражыўся.

Курыца кудахтала. Грыша апусціў скварку на скавараду і выскачыў на двор. Яе ўстрывожаны перапалоханы голас чуўся ў пуні. Хлапчук адразу паспяшаўся туды.

Рыпнуўшы варотамі, ён пачаў азірацца, прыслухоўвацца наўкол. Але цяпер ужо было ціха. Грыша падставіў лесвічку і асцярожна пачаў узнімацца ўгору. Калі ён узабраўся на сена, якое было накладзена аж пад самую страху, сакатуха зноў крыкнула, і растапырыўшы крыллі, паляцела ўніз.

— Ага!—прамовіў хлопчык.—Мусіць, тхор напалохаў... Цяпер я ўжо даведаюся, дзе ты нясешся... І ён папоўз па сухім пахучым сене пад вільчык.

У трысцене было цёмна ўсёроўна, як уночы. Толькі праз дзве вузенькіх шчылінкі знадворку прабівалася невялічкая палоска святла, па якой можна было толькі здагадацца, што сценка яшчэ не так блізка.

Хлапчук поўз па сене і вобмацкам павяраў перад сабой, каб не ўсперціся на сакатухіна гняздо і не расціснуць яйкі.

Падпоўзшы да вільчыка, Грыша адчуў пад сабою нешта цвёрдае.

„Ці не палена якое з сенам успёрлі сюды!“—падумаў ён і пачаў капашыцца. А калі засунуў руку глыбей,—адразу намацаў нейкі бот.

Што за ліха!—дзівіўся ён, ніяк не ўяўляючы сабе, у чым справа: чаму гэта тут валяюцца боты і хто іх закінуў сюды?!. Ён шпарчэй пачаў раскапваць сена. Сухі мурог, яшчэ не паспеўшы добра злежацца, лёгка расхінаўся пад рукамі ў Грышы.

„Пайшоў па яйкі, а тут і бот знайшоў...“—падумаў хлапчук. Але вось на вялікае дзіва, гэты бот пачаў выпаўзаць з-пад хлапчука ў бок, і сена пад ім пачало варушыцца.

Хлапчук спалохаўся.

— Хто тут?!

У адказ ён нічога не пачуў, апрача шамацення сена, і ад гэтага яшчэ больш страшна стала Грышы. Ён шавырхнуўся назад, і гучна закрычаў:

— Та-а-та! Та-а-та!..

У гэты час нехта гоцнуў па сене і схапіў Грышу за сарочку.

— Сціхні ты!—пачуўся суровы голас мужчыны, і ён тузануў Грышу назад.

— Та-а-та!

— Сціхні, а то прыдушу!—зноў прыгразіў хлапчуку невядомы і пачаў цягнуць яго да сябе. Але Грыша моцным рыўком вырваўся з рук у мужчыны і па сене хутка скаціўся ўніз.

Выскачыўшы за вароты, хлапчук пусціўся было бегчы дахаты, але, асмялеўшы на двары, ён вярнуўся назад і, ляпнуўшы варотамі, зашчапіў іх на засоўку.

Мужчына бухнуўся ў вароты, але яны не расчыніліся, і ён зноў зашамацеў па сене.

— Сюды! Сюды хутчэй!..—крычаў ля пуні хлапчук, а ў самога займала ў горле і дужа білася сэрца.

Цяпер ужо разумеў хлапчук, што гэта нейкі злачынец прытуліўся тут, каб не натрапіць на людзей, каб перачакаць да новага змяркання і тады рушыць далей.

— Сюды! Сюды!..—крычаў Грыша.

Яму вельмі хацелася хутчэй злавіць гэтага злачынца. Але на двары, як на тое ліха,—нікога не было. Тады хлапчук падпёр вароты калком і кінуўся дахаты.

Калі ўжо Грыша быў ля сяней і аглянуўся назад, на пуню, ён заўважыў, як у самым вільчыку невядомы прадзіраў абросшую мохам салому. Хлапчук схапіў каменні, што ляжалі ля сенцаў і, падбегшы да пуні, пачаў шпурляць у злачынца.

Наверсе страхі з пуні паказалася галава невядомага. Грыша з усёй сілы шпурнуў камнем і трапіў яму якраз у лоб. Злачынец тырканууўся назад, а праз момант зноў пачаў ціснуцца ў дзірку, выбірацца на страху.

Мабыць хлапчук яшчэ і далей затрымліваў бы злачынца, перашкаджаў яму выбірацца з пуні, каб пад рукамі былі ў яго каменні. Але шпурляць не было чым.

З хаты выбег бацька. У гэты час злачынец шухнуўся са страхі і, падхапіўшыся, кінуўся на ўцёкі.

Грыша з бацькам пусціліся наўздагон. Хлапчук-жа ўвесь час забягаў бацьку ўперад і крычаў:

— Стой! Страляць будзем!..

А ў самога дык хоць-бы пугач які быў, ужо на аборку ён падхапіў нейкі кіёчак і з ім нёсся па полі.

Аглядаючыся назад, злачынец спяшаўся да лесу. Але яго наганялі і ён ні то знарок, ні то ад таго, што спатыкнуўся, упаў у канаву і нібы ў бяздонні нейкім кануў.

Грыша з бацькам прадаўжалі бегчы. Раптам з канавы пачуўся стрэл. Ля самага вуха ў Грышы дзынкнула куля.

Бацька крыкнуў:

— Кладзіся!—І сам сунуўся на іржэўнік.

Наўкол заціхла. Толькі дзесьці недалёка па асеннему ціўкала маленькая птушка і вецер шамацеў іржышчам.

З калгасу збягаліся людзі. Хтосьці, трымаючы паляўнічую стрэльбу перад сабою, нібы на аблаву ваўка,—спяшаўся на дапамогу.

Уцекач зірнуў з канавы, і бачучы, што далей ляжаць ужо нельга, бо хутка зловяць, ён падхапіўся і кінуўся да кустоў.

— Стой! Стой, падла!..—крычалі калгаснікі.

Злачынец суняўся на момант і зноў стрэліў у калгаснікаў. Толькі цяпер ён ужо не клаўся на зямлю, а колькі сілы было ўцякаў, бо адзіная надзея ў яго была на лес.

Але да лесу ён не дабег. Нагнаў яго грышкаў бацька і ламачынай асадзіў на зямлю.

— Шпіён!—праз момант пачуўся голас бацькі, калі ён заўважыў, як уцекач, курчачыся на раллі, тырkануў пад дзёран пакет.

Грышка схапіў адкінуты ў бок рэвальвер, падскочыў да шпіёна, нацэліўся на яго і, пакуль бацька абшукваў, хлапчук пільнаваў, прыгаварваючы:

— Не варушыся! Не варушыся, шпік! Застрэлю! Прыкончу!..

Шпіён ляжаў нерухома, лыпаючы сваімі пачырванелымі вачыма; ён касавурыўся на хлапчука, бялеў і моршчыўся ад злосці.

А калі шпіёна павялі хлопчык засмяяўся:

— Гэта-ж усё праз курку, праз сакатуху выйшла...

---

*Алесь Стаховіч*

# АНДРУШКА

Калі Андрушка быў маленькім хлапчуком і часам не слухаўся сваёй старэйшай сястры, яна не раз палохала яго:

— Чакай, Андрушка, вось як скажу Кузьму, будзе табе...

Хлапчук адразу ўяўляў сабе гэтага чалавека і ледзь не заміраў ад страху.

Тады Кузьма Бачынскі сапраўды здаваўся чалавекам страшэнным. Ён служыў дзякам у залужанскай царкве, і яго баяліся не толькі малыя.

— Я пракляну вас на клірасе!—пагражаў ён тым, хто пачынаў пярэчыць яму.

Нават Андрушкін бацька і той моўчкі выслухоўваў дакоры Кузьмы і толькі пасля ўжо гаварыў:

— Падлюга акаянная!

Але гэта было даўно.

Цяпер Кузьма Бачынскі ніякага падабенства да царкоўніка не меў. Ён быў звычайным вартаўніком скотнага двара. Заўсёды хадзіў у зашмальцаванай вопратцы з кароткай рыжай, як іржавы дрот, барадой і доўгімі, абвіслымі вусамі. Выгляд у яго быў суровы, пануры, злы. З людзьмі ён стараўся не сустракацца, і калі ў хаце бачыў Міцькіных таварышоў, прыплюшчваў вочы і бурчэў на сына:

— Зноў зборышча!.. А ну!..

Вусы ў яго адтапырваліся, твар надзьмуваўся ўсёроўна, як тая варопаўка, і дзеці адзін за другім пакідалі хату, гаворачы з крыўдай у голасе:

— Ну і злюка-ж!

— Заўсёды бурчыць.

— Усё не ўлад яму.

— Вядома, дзяк.

Тады ў хаце заставаўся толькі Андрушка. Ён разам з Міцькам вучыўся ў школе, сядзеў на адной лаўцы і таму лічыў сябе найбольш блізкім таварышам, хоць на яго таксама касавурыўся Кузьма, але Андрушка не зважаў на гэта і заставаўся з Міцькам.

І калі Кузьма адыходзіў на дзяжурства ў абору, тады з Міцькавых плячэй быццам звальваўся вялікі цяжар, які заўсёды душыў хлапчука.

— Ну бацька-ж у цябе.
— Адно гора з ім, бурчыць, злуецца.
— І чаго гэта ён?
— А ліха яго ведае.

Міцька даўно хацеў нешта расказаць Андрушку пра свайго бацьку, але ўсё не адважваўся. Аднаго разу ён ледзь не пачаў апавядаць, але самому неяк жахліва стала і ён хутка перавёў гаворку на другое.

Мабыць, Андрушка ніколі і не даведаўся-б аб тым, каб выходзячы з хаты выпадкова не пачуў гаворку Кузьмы з сваёю жонкай у сенцах.

Ён вышаў на двор у незвычайным задуменні: „пайсці да старшыні, расказаць яму, а мо' мне здалося ўсё гэта...—хвалюючыся думаў Андрушка,—не, трэба перш самому даведацца добра, а тады ўжо...“—вырашыў хлапчук.

Пад вечар ён паведаміў маці:

— Я сёння ў пуні спаць буду, вельмі горача ў хаце.
— Адзін?
— Не, з Віцькам.
— Ты-ж не застудзіся толькі.
— Цёпла будзе. Мы на сене з ім.

А як толькі пачало змяркацца, Андрушка непрыкметна накіраваўся ў абору.

Ля варот стаяў мясісты галандскі бык. Ён бразгануў кароткім ланцугом, пакасіўся на хлапчука і, шаргаючы доўгімі загнутымі, як палазы, капытамі па шурпатай падлозе, па-львінаму зарычэў.

— От яшчэ,—сам сабе прамармытаў Андрушка, прыглядаючыся, ці няма каго ў аборы.

Ён хуценька ўзлез на кармушку і, узяўшыся за перакладзіну, падаўся на бэльку.

Прытуліўшыся, хлапчук увесь час глядзеў у вароты.

У аборы было ціха. Толькі чутна было, як каровы сапучы, пераціралі сваю бясконцую жвачку.

Пакашліваючы паволі ішоў Кузьма. Ён доўгі час стаяў ля варот, дыміў цыгаркай, потым запаліў ліхтар, падвесіў яго на жэрдку, а сам вышаў у тамбур.

Ля сцяны, падсунуўшы ногі пад кармушку, пачала стагнаць і грукаць карова.

— Чаго цябе, здыхата!—абазваўся Кузьма і, нібы гусок, маруднымі, пераваністымі крокамі закавыляў па калідоры.

— Гы-ы-ы, падла...—зноў гыркнуў Кузьма на карову,—разлеглася, нячыстая...—і ботам ударыў яе ў жывот.

Хлапчук здрыгануўся. „Ну і вартаўнік-жа ў нас...“ думаў Андрушка.—„І як гэта даручылі яму...“

А ноч цягнулася доўга. Здавалася, ёй не будзе канца. У Андрушкі ныла ў каленях, было мулка локцям, у бок упіраўся ражон, і яго нельга было адсунуць.

Нарэшце Кузьма ўзяў вядро і падышоў да жывёліны. Карова адразу ўзнялася з падлогі. Кузьма прыгнуўся ля яе, умацаваў у

каленях вядро і пачаў даіць. Цёплыя струменчыкі сырадою зацюрчэлі ў дайніцу.

Хлапчук ціхенька ляжаў на бэльцы. Цяпер яму хацелася раптам скінуцца дадолу, зняпацку ўсесці Кузьме на каршэнь, уцяўпіць яго галавой у напоўненае малаком вядро і хай-бы булькаў у ім... Але што думаць аб гэтым, калі не хопіць сілы, не здужае Андрушка Кузьму.

А Кузьма пераходзіў з вядром ад адной да другой каровы і раз-по раз пазіраў на даўгі калідор.

Вось ён прыкрыў крысом вядро, дзьмухнуў на ліхтар і падаўся за вароты.

Андрушка саскочыў з бэлькі, ціхенька вышаў на двор і, калі Кузьма знік за будынкам, ён хутка панёсся да старшыні.

— Сцяпан Міхайлавіч! Сцяпан Міхайлавіч!—барабанячы ў шыбу, клікаў Андрушка.—Вось толькі што... спяшаўся паведаміць хлапчук.

— Што ты кажаш, Андрушка!—здзівіўся старшыня і хутка пачаў апранацца.

А праз некалькі хвілін яны засталі Кузьму ў свінарніку. Ен стаяў ля дзвярэй з пустымі бляшанымі вёдрамі, а яго рослыя выпаеныя малаком кабаны ў карыце смакталі калгасны сырадой.

---

*Н. Зеленоў*

# М. ГОРКІ

Мінула два гады, як працоўныя нашай гераічнай радзімы з глыбокім жалем сустрэлі сумную вестку аб смерці вялікага пролетарскага пісьменніка, друга ўсяго чалавецтва, вернага сына нашай радзімы—Аляксея Максімавіча Горкага.

Горкі быў пісьменнікам велізарнай магутнасці. Багацце думак, эмоцый, карцін, вобразаў і фарбаў рабіла Горкага тытанам мастаком.

Горкі выступіў на літаратурную арэну як зачынальнік-родапачынальнік пролетарскай літаратуры, як родапачынальнік соцыялістычнага рэалізма і рэволюцыйнай рамантыкі.

Горкі быў не толькі пісьменнікам-мастаком. Ён быў і пісьменнікам-публіцыстам і літаратурным крытыкам, вартым пераймальнікам лепшых традыцый рэволюцыйна-дэмакратычнай крытыкі Белінскага, Чэрнышэўскага і Дабралюбава. Горкі за свае 43-44 гады літаратурнай дзейнасці напісаў звыш 1000 твораў, уключаючы сюды як мастацкія, так і публіцыстычныя і крытычныя творы.

Як мастак, Горкі карыстаўся самымі featuresнастайнымі літаратурнымі жанрамі.

Горкі быў і паэтам, і навелістам, і раманістам, і фельетаністам, і драматургам. Побач з гэтым ён стварыў серыю мемуараў, сярод якіх успаміны аб В. І. Леніне і Л. Н. Талстым асабліва вылучаюцца сваёй мастацкай поўнацэннасцю.

Вытокі горкаўскай творчасці бралі свой пачатак з жыцця самаго народа. Горкаму не трэба было парываць з сваім класам, каб ісці да народа, як гэта было з лепшымі прадстаўнікамі рускай літаратуры XIX стагоддзя (Пушкіным, Лермантавым, Гогалем, Л. Талстым, Некрасавым і інш). Горкі сам выйшаў з народных нізоў, сваім жыццём выпрабаваўшы цяжкасці жыцця народа ва ўмовах капіталістычнага грамадства.

Цяжкі жыццёвы шлях прайшоў Горкі, пачынаючы з дзіцячых гадоў і канчаючы тым момантам, калі ён зрабіўся выдатным прызнаным сусветным пісьменнікам.

Аб усім гэтым ён расказаў у сваёй аўтабіяграфічнай трылогіі: „Дзяцінства“, „У людзях“ і „Мае універсітэты“. На самастойны жыццёвы шлях Горкі выступіў яшчэ з дзіцячых гадоў, пайшоўшы служыць „у людзі“. У якасці каго толькі не працаваў Горкі! Ён быў і анучнікам, і хлопчыкам у абутковым магазіне, і вучнем у чарцёжніка, і пекарам, дворнікам, статыстам у кірмашным

тэатры, грузчыкам, вартаўніком, харыстам і г. д. Ён выхадзіў пеша ўдоўж і ўпоперак старую Расію. Жыццё навучыла яго ненавідзець капіталістычнае рабства. Яно вывела яго на рэволюцыйны шлях.

Моцна звязаўшы свой асабісты лёс з жыццём адзіна да канца рэволюцыйнага класа—пролетарыятам,—Горкі, як грамадскі дзеяч актыўна ўдзельнічаў у рэволюцыйнай барацьбе, сам не раз быў пад арыштам, сядзеў у турмах і знаходзіўся ў ссылцы. Валодаючы вялікім жыццёвым вопытам, Горкі і ператварыў яго ў мастацкія вобразы.

Жыццё народа знайшло сабе ў творчасці Горкага ўсебаковае адлюстраванне. Творы Горкага гэта энцыклапедыя народнага жыцця.

Горкі бачыў, як народ задаўлен ціскамі капіталістычных адносін і ўладай уласніцтва. Ён бачыў, як усё гэта рабіла з чалавека нявольніка, ён бачыў, як гінулі цудоўныя здольнасці людзей. Такія творы, як „Канавалаў“ (1896), „На дне“ (1902) і іншыя з'яўляюцца цудоўным адлюстраваннем таго, як загінулі благародныя задаткі чалавека. Горкі намаляваў у вобразах басякоў цэлую галерэю своеасаблівых „лішніх людзей“, якія аказаліся непатрэбнымі жыццю, выкінутымі на соцыяльнае дно капіталістычнай рэчаіснасці. У сваіх творах, дзе Горкі маляваў вобразы басякоў, ён паказаў жудасныя карціны соцыяльнага дна. Прыгадаем хоць бы п'есу „На дне“.

Горкі паказаў і патрасаючую эксплаатацыю чалавека чалавекам. Ён малюе ў апавяданні „Дваццаць шэсць і адна“, „Канавалаў“ змрочныя ямы сутарэнняў, у якіх змяшчаліся хлебапякарні і дзе людзі асуджаны былі на катаржную працу:

„Нас было дваццаць шэсць чалавек—дваццаць шэсць жывых машын, зачыненых у жывым сутарэнні, дзе мы з раніцы да вечару мясілі цеста, робячы крэндзелі і сушкі. Вокны нашага сутарэння ўпіраліся ў яму, якая была вырыта перад намі і выкладзена цэглай, зялёнай ад вільгаці; рамы былі загароджаны знадворку густой жалезнай сеткай, і святло сонца не магло прабіцца да нас скрозь шкло, пакрытае мучным пылам. Наш гаспадар забіў вокны жалезам для таго, каб мы не маглі даць кавалак яго хлеба жабракам і тым з нашых таварышоў, якія, жывучы без работы, галадалі,—наш гаспадар называў нас жулікамі і даваў нам на абед замест мяса тухлаватую трыбушыну“.

Горкі выступіў бязлітасным выкрывальнікам катаргі мінулага. Шматлікія творы Горкага, як дакастрычніцкага, так і паслякастрычніцкага перыяда прысвечаны выкрыццю света мяшчанства і ўласніцтва.

Да гэтых дакастрычніцкіх твораў можна аднесці п'есы „Ворагі“, „Мяшчане“ (1901 г.), „На дне“, раманы і аповесці: „Фама Гардзееў“ (1899 г.), „Дзяцінства“ (1913 г.), „У людзях“ (1916 г.), „Маці“ і рад іншых.

Ва ўсіх гэтых творах Горкі выступіў супроць волчай маралі ўласніцтва, супроць усіх тых, для каго пятак з'яўляецца богам. У сваіх творах Горкі стварае шматлікую галерэю мяшчан-уласнікаў, набывальнікаў, драпежнікаў першапачатковага накаплення:

вобраз Касталева і яго жонкі ў п'есе „На дне", вобразы шматлікіх купцоў-драпежнікаў у рамане „Фама Гардзеяў" (Шчураў, Конанаў, Ігнат Гардзеяў і інш.).

У рамане „Фама Гардзеяў" Горкі дае знішчальную крытыку таму жыццю, будаўніком якога была руская буржуазія. „Вы не жыццё будавалі—кідаў Фама Гардзеяў гнеўныя словы расійскаму купецтву,—вы памойную яму зрабілі, бруд і духату развялі вы справамі сваімі... чужой сілай жывеце... чужымі рукамі працуеце..."

Ва ўсіх гэтых творах і вобразах Горкі выразіў і нянавісць народных мас да рабскага жабрачага лёса і ў той жа час імкненні і мары да лепшага шчаслівага жыцця.

У ненавісці Горкага да буржуазіі, да мяшчанства, сказаўся велізарны гуманізм Горкага, яго глыбокая любоў да чалавека, да народа, прыгнечанага ўладай уласніцтва.

Горкі быў вялікім гуманістам.

У апавяданні „Старуха Ізергіль" Горкі супроцьпаставіў вобразу індывідуаліста-адшчапенца легендарнага Ларры, вобраз смелага і самаадданага, любячага людзей юнака Данко.

Адзінокае жыццё індывідуаліста Ларры не было сагрэта любоўю да людзей, і ён быў жорстка пакараны за свой індывідуалізм і адшчапенства. Яго жыццё стала яму самому ў цяжар. Ён пажадаў памерці, але ён быў пакараны няўміручасцю адзінотства. „Яму няма жыцця, і смерць не ўсміхаецца яму. І няма яму месца сярод людзей".

У процілегласць Ларры ўсе сімпатыі Горкага на баку юнака Данко. Ён не аддаліўся ад людзей, як Ларра. Не, ён жыве з людзьмі ў змроку сырога, цёмнага, балотнага непрахадзімага леса, падзяляючы разам з народам усе нягоды жыцця. Але любячы людзей, ён павёў сваіх сабрацця з сырых, непрахадзімых гушчароў на сонечны прастор. Выратоўваючы свой народ, ён разарваў сабе грудзі і вырваў з сваіх грудзей сэрца. Палаючым у цемры сэрцам, як факелам, Данко асвятляў людзям дарогу да шчасця. Сэрца Данко „палала так ярка, як сонца, і ярчэй за сонца, і ўвесь лес замаўчаў, асветлены гэтым факелам вялікай любові да людзей".

Творчасць Горкага прасякнута гэтай данкоўскай любоўю да людзей. Недарма ўсе яго любімыя героі і перш за ўсё бальшэвікі-рэвалюцыянеры з'яўляюцца вялікімі чалавекалюбцамі, што самаахвярна аддаюць, падобна Данко, усе свае сілы, сваё сэрца, сваё жыццё за справу народа.

Горкі глыбока верыў у вялікае прызначэнне чалавека, у яго творчыя стваральныя магчымасці, у яго вялікую будучыню.

Першыя рамантычныя творы Горкага „Макар Чудра", „Старуха Ізергіль", „Валашская песня" і шмат іншых на фоне рускай рэчаіснасці 90-х—900-х гадоў прагучалі ўрачыстым гімнам чалавеку. Словы, сказаныя Сацінам у п'есе „На дне"—„чалавек—гэта гучыць горда", былі лейтматывам на працягу ўсёй творчасці Горкага. Гэта Горкаму належаць словы: „Цудоўная пасада быць на зямлі чалавекам".

У гэтым гімну чалавеку чуўся заклік да рэвалюцыі, вера ў перамогу рэвалюцыі.

Нездарма, калі 30 сакавіка 1928 года група чырвонаармейцаў Н-скай часці гор. Курска пасля прагляду п'есы „На дне" пасылала А. М. Горкаму пісьмо, дзе чырвонаармейцы пыталі вялікага пісьменніка—чаму яны ў гэтай п'есе не заўважаюць сігнала да паўстання,—А. М. Горкі на гэтае пытанне адказаў: „... Вы пытаецеся: „Чаму ў п'есе „На дне" няма сігнала да паўстання". Сігнал гэты можна пачуць у словах Саціна, у яго ацэнцы чалавека".

Паказваючы цяжкае жыццё народа, Горкі клікаў сваімі творамі народныя масы з ям і сутарэнняў, з цвілі і цемры на сонечны простор, асвятляючы гэты шлях да сонечнага простора палаючым факелам сваёй творчасці.

Шлях да чалавечага шчасця Горкі бачыў не ў ілюзорнай мары безумца, які-б навеяў чалавецтву „сон залаты". Горкі бачыў, што гэты „сон залаты" ўводзіў чалавецтва ад рэальнай праўды, ад барацьбы чалавека за лепшае жыццё, у свет ілюзорных мараў. У творах „Дваццаць шэсць і адна", „Болесь" (1899), „На дне" і ў радзе іншых, Горкі безагаворачна выкрыў гэту ўпрыгожваючую жыццё мару.

У асобе вандроўніка Лукі ў п'есе „На дне" Горкі выкрыў і „спасительный обман", які суцяшае чалавека.

Вуснамі Саціна Горкі пратэстуе супроць усёй гэтай ілжывасці, „утешительного обмана"; ён заклікае людзей бачыць праўду.

„Чалавек—вось праўда!"—гаворыць Горкі вуснамі Саціна ў п'есе „На дне"—хто слабы душою і жыве чужымі сокамі, таму змана патрэбна... А хто сам сабе гаспадар, хто незалежны і не жарэ чужога, навошта таму змана. Змана—рэлігія рабоў і гаспадароў".

Адвергнуўшы шлях „нас возвышающего обмана" і „утешительной лжи", Горкі ў той жа час шлях да шчасця бачыў і не ў ідэале мяшчанскага ўласніцтва і набывальніцтва.

У аповесці „Тры" (1900—1901) Горкі на вобразе Ільі Лунева паказаў антычалавечную сутнасць уласніцтва і набывальніцтва. Ілья Луне ў не знайшоў сабе шчасця на шляху ўласніцтва і трагічна загінуў на ім.

У асобе Якава Філімонава ў той-жа аповесці „Тры", Горкі асудзіў і шлях талстоўскага непрацiўленцтва, містыкі і папоўшчыны. Зneўважаны сваім бацькам, Якаў Філімонаў уцяшэнне знаходзіць у рэлігіі, і сам не здольны на пратэст, гіне пад кулакамі свайго бацькі, афярай свайго непраціўленцтва. Памылковым шляхам Якава Філімонава і Ільі Лунева Горкі супроцьстаўляе адзіна верны шлях іх таварыша, рабочага Паўла Грачова, шлях праз фабрыку да рэвалюцыйнай барацьбы.

Горкі выступіў з сваімі першымі творамі ў той час, калі на арэну класавай барацьбы выступіў пролетарыят, адзіны да канца рэволюцыйны клас, які „ўпершыню ўзняў да адкрытай, рэволюцыйнай барацьбы мільёны сялян" (Ленін, „Памяці Герцэна", Зб. тв., т. XV, выдан. 3, стар. 469).

Першыя творы Горкага, што з'явіліся ў 90—900-х гадах, прагучалі бадзёрым і магутным заклікам да рэволюцыйнай барацьбы за вызваленне прыгнечанага чалавека. Горкі быў буравеснікам вялікай пролетарскай соцыялістычнай рэволюцыі.

У вобразах смелага Сокала і гордага Буравесніка, а таксама ў шмат другіх творах ранняга перыяда творчасці Горкага адлюстравалася нарастанне рэвалюцыйных падзей 1905 года, аб якіх В. І. Ленін у артыкуле „Памяці Герцэна“ пісаў: „Бура гэта—рух саміх мас“... І далей: „Першы націск буры быў у 1905 годзе. Наступны пачынае расці на нашых вачах“. (Ленін „Памяці Герцэна“, т. XV, стар. 469). Адлюстраваўшы ў сваёй ранняй творчасці першы націск буры 1905 года, Горкі ў далейшых творах адлюстраваў усю гісторыю рэвалюцыйнай барацьбы пролетарыята, пачынаючы з 90-х гадоў XIX стагоддзя і канчаючы нашай соцыялістычнай эпохай. Усе яго творы на працягу ўсёй творчасці былі насычаны ненавісцю да рабскага мінулага і рэвалюцыйнай героікай рабочага класа.

У адказ на выступленне Плеханава, які пасля падаўлення паўстання 1905 года кінуў словы: „Не трэба было брацца за зброю“— Горкі напісаў творы: „Ворагі“ (1906 год) і „Маці“ (1907 год), у якіх ён паказаў несупыняючуюся барацьбу народных мас.

У п'есе „Ворагі“, упершыню ў рускай драматургіі Горкім былі рэзка супроцьпастаўлены два змагаючыяся лагеры: лагер—фабрыкантаў-памешчыкаў у асобе Скробатава і ліберала Бардзіна і лагер рабочых у асобе Леўшына, Грэкава, Ягодзіна, Акімава, Сінцова і іншых. Ва ўмовах змрочнай рэакцыі, пасля рэволюцыі 1905 года гэта п'еса прагучэла магутным заклікам да далейшай барацьбы. У ёй сказалася глыбокая вера Горкага ў перамогу рабочага класа. Рабочых у гэтай п'есе Горкі ахарактарызаваў такімі знамянальнымі прароцкімі словамі: „Гэтыя людзі перамогуць!“

У рамане „Маці“ Горкі паказаў гісторыю росту класавай самасвядомасці рабочага класа. Гэты рост паказан перш за ўсё на вобразе самаго Паўла Власава і на вобразе яго маці Нілаўны, у якой увасобіў тыповыя рысы гераічнай жанчыны — маці-пролетаркі.

Тут асабліва знамянальна канцоўка рамана, дзе апісваецца сцэна арышта маці на вакзале і як яна збіваемая, мужна крычала аб праўдзе, якую не задушаць каты.

Паказваючы ў канцы рамана, як маці раскідвала ў натоўпе лістоўкі з прамовай свайго сына, сказанай ім на судзе,—Горкі як-бы падкрэсліваў думку, што барацьба пасля 1905 года не скончана, скончан толькі адзін этап барацьбы, але затое пачынаецца новы. Гэты заклік да рэволюцыйнай барацьбы ў рамане „Маці“ Горкі і кінуў насустрач цёмнай ночы наступаўшай рэакцыі.

Высока ацаніў гэты твор В. І. Ленін. У сваёй кнізе аб Леніне М. Горкі прыводзіць ацэнку В. І. Леніна: „Кніга патрэбная. Многа рабочых удзельнічала ў рэволюцыйным руху не свядома, стыхійна, і цяпер яны прачытаюць „Маці“ з вялікай карысцю для сябе“.

Горкі быў першым пісьменнікам, які паказаў вобразы рабочых большэвікоў такімі, якімі яны былі ў сапраўднасці—мужнымі, чэснымі, смелымі, праўдзівымі, рашучымі і непахіснымі. Горкі стварыў шматлікую галерэю рабочых—вобразы наборшчыкаў у рамане

„Фама Гардзееў“, вобраз Паўла Грачова ў аповесці „Тры“, вобраз машыніста Ніла ў п‘есе „Мяшчане“, вобразы рабочых у п‘есе „Ворагі“, вобразы Паўла Власава, Андрэя Находкі і іншых яго таварышоў у рамане „Маці“, нарэшце, вобраз самой маці. Ва ўсіх гэтых вобразах Горкі падкрэсліў думку, што рабочы клас з‘яўляецца авангардам у рэвалюцыйнай барацьбе народных мас.

Вуснамі машыніста Ніла Горкі выразіў сваю думку, што „правы не даюць, правы бяруць“.

У сваіх паслякастрычніцкіх творах Горкі адлюстраваў нашу рэволюцыйную эпоху, эпоху перамогшага соцыялізма.

Ён з любоўю аднёсся да новай соцыялістычнай краіны, да яе людзей і перш за ўсё да большэвіцкай партыі і яе правадыроў Леніна і Сталіна.

Вобраз В. І. Леніна Горкі з любоўю намаляваў у сваёй кнізе „В. І. Ленін“ (1924 год). У ёй Горкі расказаў аб сваіх сустрэчах, аб сваёй дружбе з В. І. Леніным, цёпла і сардэчна, і па-мастацку поўнацэнна, праўдзіва намаляваўшы вобраз правадыра народаў.

У задуманай, але не рэалізаванай кнізе аб Совецкім Саюзе А. М. Горкі меў намер намаляваць вобраз І. В. Сталіна.

А. М. Горкі быў верным і адданым другам І. В. Сталіна. Шматлікія водгукі Горкага аб Сталіне гавораць нам, як выключна высока цаніў Горкі Сталіна, як ён яго любіў.

У адным з сваіх апошніх артыкулаў, азаглаўленых „Праўда соцыялізма“ Горкі пісаў аб Сталіне: „Несупынна і ўсё хутчэй расце ў свеце значэнне Іосіфа Сталіна, чалавека, які найбольш глыбока засвоіўшы энергію і смеласць настаўніка і таварыша свайго, вось ужо дзесяць гадоў дастойна замяшчае яго на буйнейшай пасадзе правадыра партыі... Выдатна арганізаваная воля, пранікальны розум вялікага тэарэтыка, смеласць таленавітага гаспадара, інтуіцыя сапраўднага рэволюцыянера, які можа тонка разбірацца ў складаных якасцях людзей і выхоўваць лепшыя з гэтых якасцей... паставілі яго на месца Леніна“.

Любячы соцыялістычную радзіму, Горкі ў паслякастрычніцкі перыяд напісаў рад твораў—нарысаў аб нашай соцыялістычнай будоўлі, аб нашых дасягненнях, як, напрыклад, нарыс „Днепрабуд“, „Баку“ і інш. Аб вялікіх справах, якія рабіліся народамі СССР, ён заўсёды адгукаўся з вялікай сардэчнасцю і любоўю. У той-жа час гэта тэма аб нашых дасягненнях пераплятаецца з тэмай аб новых людзях нашай радзімы, выхаваных партыяй Леніна—Сталіна. Гэтыя вобразы новых людзей Горкім адлюстраваны ў яго нарысах: „Днепрабуд“, (1929 г.) „Баку“, (1929 г.) „Расказы аб героях“ (1927 г.).

У нарысе „Баку“ Горкі паказвае гераічную работу працоўных Азербайджана, ператварыўшых горад пакутаў і эксплаатацыі ў буйны, культурны, совецкі прамысловы цэнтр. Выключна напружана перажывае чытач сцэну, дзе апісваецца эпізод барацьбы рабочых з пажарам на нафтапромыслах.

„Я ніколі не бачыў,—пісаў М. Горкі,—каб агонь гасілі так ярасна, з такой бясстрашнай дзерзкасцю, з такой знявагай да болю апекаў. Рабочыя гасілі агонь так, быццам гэта была добра знаёмая звычайная работа“.

У нарысе „Днепрабуд“, як і ў нарысе „Баку“ Горкі славіць працоўны гераізм рабочых гэтай гіганцкай новабудоўлі.

У „Апавяданнях аб героях“ вылучаюцца вобразы двух партызанаў, герояў грамадзянскай вайны, Зайсаулава і яго таварыша Сашкі. Зайсаулаў у мінулым падпасак і палацёр, у часе грамадзянскай вайны становіцца героям-партызанам, а па сканчэнні грамадзянскай вайны працуе пчолаводам на вопытнай станцыі. Скромна і проста ён апавядае аб сваіх подвігах, разгледжваючы свой кожны подвіг, як звычайную справу.

У „Апавяданнях аб героях“ Горкі паказвае і савецкіх жанчын. Як жывыя стаяць перад намі дзве жанчыны—гераіні грамадзянскай вайны Анфіса і Сцепаніда. У мінулым—батрачкі—яны разам з чырвонаармейцамі ўдзельнічаюць у баях, выконваюць з чэсцю ўсе баявыя заданні.

Ва ўсіх героях Горкі вылучае рысы скромнасці.

Горкі піша, што яны „скромна робяць як быццам нязначную справу, але маючую велізарнае гістарычнае значэнне“.

Захоплена і горда гучаць словы Горкага пра гераізм савецкіх людзей. Калі трагічна загінуў самалёт яго імя, Горкі пісаў: „У саюзе ССР сотні тысяч герояў працы штодзённа дэманструюць перад усім светам цуды мужнасці і вынослівасці, цуды працоўнага гераізма, соцыялістычна арганізаванае безумства смелых“.

У паслякастрычніцкі перыяд побач з паказам новых людзей ленінска-сталінскай эпохі, Горкі прадаўжае выкрываць свет старога мінулага, мараль старога капіталістычнага грамадства, увесь побыт і ўклад, заснаваны на эксплаатацыі чалавека чалавекам. Да ліку такіх твораў трэба аднесці: „Справу Артамонавых“ (1925 г.), „Жыццё Кліма Самгіна“, п'есы „Егор Булычоў“ і інш.“ (1932 г.), „Дасцігаеў і інш.“ (1933 г.)

У гэтых сваіх творах Горкі паказаў асуджанасць рускай буржуазіі, ён гаварыў аб непазбежнасці яе соцыяльнай смерці.

„Мая справа і справа іншых літаратараў майго пакалення,— гаварыў Горкі на комсамольскім сходзе ў Маскве ў 1928 годзе,— спець паніхіду, дагаварыць, дакончыць гісторыю таго класа, які зараз адыходзіць і хутка сыйдзе зусім“.

У рамане „Жыццё Кліма Самгіна“, тэматычна ахопліваючым жыццё буржуазнай інтэлігенцыі за 40 год (пачынаючы з 70-х гадоў XIX стагоддзя і канчаючы перадкастрычніцкімі днямі) Горкі ўвасобіў усе адмоўныя рысы буржуазнай інтэлігенцыі ў вобразе Кліма Самгіна. Самгін—выражэнне бесхрыбетнасці, ідэйнай і маральнай спустошанасці класа буржуазіі. Самгін—гэта склератычны мозг паміраючай буржуазіі. У вобразе Самгіна Горкі выкрыў буржуазную абмежаванасць сярэдніх шэрых людзей, мяшчанскі індывідуалізм. Гэтаму Самгіну Горкі супроцьстаўляе вобраз большэвіка Кутузава, увасобіўшага сабою нарастанне сіл пролетарскай рэволюцыі. На працягу ўсёй кнігі Кутузаў выкрывае буржуазнага інтэлігента Кліма Самгіна,—Кутузаў падаўляе Самгіна сваёй інтэлектуальнай і маральнай перавагай, спакойнай іроніяй, упэўненасцю ў перамозе, воляй і энергіяй.

Кутузаў з'яўляецца пераканальным паслядоўнікам ленінскага вучэння, і нездарма азлоблены Клім Самгін пад уплывам сустрэч з Кутузавым усё больш і больш прыходзіць да выніка, што „Ленін—яго асабісты вораг".

Горкі вялікі гуманіст умеў ненавідзець ворагаў народных мас нянавісцю большэвіка.

Горкі быў верным патрыётам сваёй соцыялістычнай радзімы. Ён пісаў: „Калі вораг не здаецца, яго знішчаюць".

А калі подлыя шпіёны і дыверсанты—агенты фашысцкай разведкі зіноўеўцы, трацкісты зрабілі ў 1934 годзе гнуснае зладзейскае забойства С. М. Кірава, дык Горкі па адрасу гэтых здраднікаў радзімы абурана пісаў: „Чалавек—венец прыроды" і „гучыць горда",—гэта бясспрэчна, але таксама бясспрэчна, што ён бывае мярзаўцам, забойцам правадыроў пролетарыята, здраднікам радзімы, здзіўляючым ліцамерам, ворагам рабочага класа, шпіёнам капіталістаў,—у гэтых сваіх якасцях ён падлягае бязлітаснаму знішчэнню".

Горкі—друг чалавецтва—быў непрымірымым ворагам фашызма. Горкі мабілізаваў чытача на барацьбу з ім. Ненавідзячы фашызм, ён даваў бязлітасную характарыстыку заходне-еўрапейскай буржуазіі, падпальшчыцы вайны.

М. Горкі пісаў: „Калі ўспыхне вайна супроць таго класа, сіламі якога я жыву і працую, я таксама пайду перадавым байцом у яго армію. Пайду не таму, што ведаю—іменна яна пераможа, а таму што вялікая справядлівая справа рабочага класа Саюза Советаў—гэта мая законная справа, мой абавязак". (М. Горкі „Калі вораг не здаецца, дык яго знішчаюць". Зб. артыкулаў, 1928 г., стар. 44).

Вядучы барацьбу з фашызмам, Горкі ў той-жа час сам актыўнейшым чынам удзельнічаў у будаўніцтве нашага соцыялістычнага грамадства, як пісьменнік-мастак, як публіцыст, як крытык, як грамадскі дзеяч, як вялікі грамадзянін нашай совецкай радзімы. Горкі-мастак неаддзялім ад Горкага-публіцыста, крытыка, грамадскага дзеяча.

Адданы рэволюцыйнай справе народных мас, Горкі з'яўляўся ініцыятарам шматлікіх высокакаштоўных пачынанняў на фронце будаўніцтва соцыялістычнай культуры. Па яго ініцыятыве выдаецца рад журналаў, як-та: „Литературная учеба", „Наши достижения", „За рубежом" і інш. Па яго ініцыятыве выдаецца серыя „Библиотека поэта", „История фабрик и заводов", „История гражданской войны", „История молодого человека XIX века", „Жизнь замечательных людей".

Будучы рэдактарам шматлікіх зборнікаў і журналаў, Горкі ў той-жа час з'яўляўся і арганізатарам і кіраўніком масавага літаратурнага руху. Ён уважліва ўглядаўся ў творчыя магчымасці народных мас і працягваў дружаскую руку дапамогі многім пісьменнікам, якія выйшлі з народа. Дзесяткі імёнаў сучасных выдатных совецкіх пісьменнікаў, выступіўшых яшчэ да Кастрычніка, звязаны з імем Горкага. Горкі быў вялікім збіральнікам літаратур-

ных сіл народа. У нашы дні ён мужна прадоўжваў гэту пачэсную, выдатную работу, якую ён пачаў яшчэ да рэвалюцыі. Адказ на тысячы пісьмаў, што атрымліваліся Горкім ад пачынаючых пісьменнікаў, стараннае вывучэнне гэтых пісьмаў, сотні прагледжаных, выпраўленых, адрэдагаваных і прарэцэнзаваных рукапісаў пачынаючых пісьменнікаў, сотні парад пачынаючым і многім ужо вядомым савецкім пісьменнікам,—такая была штодзённая дзейнасць Горкага.

Як літаратурны крытык Горкі быў настаўнікам савецкіх пісьменнікаў. Значэнне Горкага крытыка выключна вялікае. Як крытык, Горкі можа быць пастаўлены ў адным радзе з лепшымі рускімі крытыкамі, як-та: Белінскім, Дабралюбавым і Чарнышэўскім.

У сваіх шматлікіх крытычных работах Горкі ставіў на прынцыповую вышыню пытанні аб асваенні культурнай спадчыны, аб соцыялістычным рэалізме, аб культурнасці і граматнасці пісьменніка. Шмат увагі ўдзяляў Горкі пытанням нацыянальнай культуры братніх народнасцей. Горкі настойліва падкрэсліваў сусветнае значэнне савецкай літаратуры, яе выключна вялікую ролю ў барацьбе за соцыялізм.

Падкрэсліваючы, што роля буржуазіі ў стварэнні культурных каштоўнасцей значна пераўвялічана, Горкі паслядоўна праводзіў ідэю аб народнасці мастацтва, выказваў думку, што сапраўдным стваральнікам культурных духоўных каштоўнасцей з'яўляецца сам народ.

Яшчэ ў 1908 годзе ў артыкуле „Разрушение личности" Горкі пісаў: „Народ не толькі—сіла, якая ставарае ўсе матэрыяльныя каштоўнасці, ён—адзіна невычарпальная крыніца каштоўнасцей духоўных, першы па часу прыгажосці і геніяльнасці, творчасці філосаф і паэт, стварыўшы ўсе вялікія паэмы, усе трагедыі зямлі і найвялікшую з іх—гісторыю сусветнай культуры" (М. Горкі. „Літаратурна-крытычныя артыкулы", М. 1937 г., стар. 26).

Змагар за народнасць літаратуры, Горкі ўдзяляў выключна вялікую ўвагу фальклору. Аб значэнні фальклора Горкі шмат гаварыў у сваім дакладзе аб савецкай літаратуры на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў у 1934 годзе.

У фальклоры ён бачыў адлюстраванне жыцця народа і яго лепшых імкненняў. У той-жа час ён падкрэсліваў выключна велізарны ўплыў фальклора на стварэнне буйнейшых твораў кніжнай літаратуры.

У сваім „Дакладзе на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў" Горкі гаварыў:

„Сапраўдную гісторыю працоўнага народа нельга ведаць, не ведаючы вуснай народнай творчасці, якая бесперапынна і пэўна мела ўплыў на стварэнне такіх буйных твораў кніжнай літаратуры, як, напр. „Фауст". (Горкі „Даклад на з'ездзе савецкіх пісьменнікаў". М. Горкі „Літаратурна-крытычныя артыкулы" М. 1937 год, стар. 643).

Горкі аж з дзіцячых год навучыўся глыбока любіць творы народнай творчасці.

У сваім артыкуле „Аб казках" Горкі расказаў, як з дзіцячых год знаёміла яго з казкамі яго бабка і нянька Еўгенія, як ён лю-

біў гэтыя казкі і як многа далі яны яму ўражанняў. „Чым дарослей станавіўся я, тым больш рэзка і ярка бачыў я розніцу паміж казкай і нудным, жаласліва охаючым, буднічным жыццём ненасытна прагнучых зайдросных людзей. У казках людзі лёталі ў паветры на „дывану-самалёце“, хадзілі ў „ботах-скараходах“, уваскрашалі забітых, спырскваючы іх мёртвай і жывой вадой, у адну ноч будавалі палацы, і наогул казкі адчынялі перад мною прасвет у другое жыццё, дзе існавала і, ма́рачы аб лепшым жыцці, дзейнічала якаясьці свабодная, бясстрашная сіла. І само сабою разумеецца, вусная паэзія працоўнага народа таго часу, калі паэт і рабочы спалучаліся ў адной асобе,—гэта няўміручая паэзія родапачынальніца кніжнай літаратуры, вельмі дапамагла мне азнаёміцца з абаяльнай прыгажосцю і багаццем нашай мовы“ (Горкі „Аб казках“, М. Горкі „Літаратурна-крытычныя артыкулы“, М. 1937 г., стар. 630).

Сам Горкі з скарбніцы народнай вуснай творчасці любіў чэрпаць рознастайныя вобразы, матывы, моўныя фарбы, уключаючы ўсё гэта ў мастацкую тканіну сваіх твораў. Горкі любіў карыстацца рознастайнымі жанравымі формамі народнай паэзіі і эпаса,—як: казкамі, легендамі, песнямі, пагаворкамі. Горкі выкарыстоўвае і казачную фантастыку, што асабліва характэрна для яго ранніх рамантычных твораў, напр. „Старуха Ізергіль“ і інш. Многія творы сам Горкі называе казкамі. Рытмічную пабудову асобных сваіх твораў ён таксама набліжае да рытмічнага ладу верша народных казак. Нарэшце, Горкі ў вялікую колькасць сваіх апавяданняў уключае народныя песні, прыказкі і пагаворкі.

Мова Горкага насычана вобразамі жывой гутаркавай народнай мовы.

Шмат увагі Горкі ўдзяляў пытанням літаратурнага майстэрства, літаратурнай тэхнікі. Шмат ён пісаў і аб мове совецкай літаратуры. Горкі быў змагаром за культуру мовы, за чыстату яе. У сваіх артыкулах аб мове Горкі вучыў совецкага пісьменніка паважаць слова, удумліва і беражліва адносіцца да мовы. У адкрытым пісьме А. С. Серафімовічу Горкі пісаў: „Неабходна бязлітасная барацьба за ачышчэнне літаратуры ад славеснага хлама, барацьба за прастату і яснасць нашай мовы, за чоткую тэхніку, без якой немагчыма чоткая ідэалогія“.

---

Значэнне Горкага і як пісьменніка, і публіцыста, і крытыка, і грамадскага дзеяча выключна вялікае.

Таварыш Молатаў у сваёй прамове на жалобным мітынгу гаварыў: „Па сіле свайго ўплыву на рускую літаратуру Горкі стаіць за такімі гігантамі, як Пушкін, Гогаль, Талстой, як лепшы прадаўжальнік іх вялікіх традыцый у наш час“. В. І. Ленін пісаў аб Горкім: „Сваім талентам мастака вы прынеслі рабочаму руху Расіі, ды і не адной Расіі такую велізарную карысць“ (В. І. Ленін, зб. тв. т. XIV, стар. 189). Шматлікія водгукі Леніна аб Горкім гавораць нам аб тым, як В. І. Ленін любіў Горкага і высока цаніў яго талент.

Іосіф Вісарыёнавіч Сталін таксама высока цаніў і любіў Горкага. Вядом яго водгук аб творы Горкага „Дзяўчына і смерць“. „Гэта штука—мацней, чым „Фауст“ Гетэ“ (Любоў перамагае смерць).

---

Прайшло два гады, як подлыя ворагі народа, здраднікі, трацкісты і бухарынцы гнусна забілі А. М. Горкага. Горкі чэсна памёр на сваім баявым пасту. Подлыя здраднікі забілі яго за тое, што ён быў першым другам Леніна і Сталіна, што ён быў выразіцелем народных настрояў, што ён быў барацьбітом за справу комунізма, ворагам фашызма і яго агентаў.

Ворагі ведалі, у каго мецілі. „Пасля Леніна смерць Горкага,—гаварыў тав. Молатаў, самая цяжкая ўтрата для нашай краіны і для чалавецтва“.

Але ворагі народа пралічыліся. Народны гнеў ім аддаў па заслугах. Сваімі подлымі гнуснымі злачынствамі яны выклікалі ў народа яшчэ большы гнеў, новы прыліў нянавісці да фашызма. У дзень другой гадавіны з дня смерці Горкага народныя масы дэманструюць сваю нянавісць да фашызма, нянавісць да забойц Горкага і сваю гатоўнасць па першаму закліку партыі аддаць свае сілы, і калі трэба жыццё на абарону нашай радзімы, нашага шчаслівага жыцця.

---

*В. Вольскі*

# ПРА П'ЕСУ „ПАРТЫЗАНЫ" К. КРАПІВЫ

У сучаснай беларускай совецкай драматургіі пачынае набываць усё большае значэнне тэматыка абароннага характара.

Наша рэспубліка з'яўляецца фарпостам Совецкага Саюза на рубяжы з капіталістычным Захадам, на граніцы з белапанскай Польшчай і фашысцкай Германіяй. Зразумела, што тэма абароны краіны з'яўляецца для беларускіх совецкіх пісьменнікаў, і асабліва для драматургаў, тэмай асабліва адказнай і важнай.

„Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякія „выпадковасці" і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку",—пісаў І. В. Сталін у сваім пісьме да тав. Іванова („Правда", № 44, 14 лютага 1938 г.) Адсюль вынікаюць задачы і для нашай драматургіі. Нам патрэбны такія п'есы, такія драматычныя творы, якія падрыхтоўвалі-б працоўныя масы краіны да абароны сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны. Нам патрэбны такія п'есы, якія адлюстроўвалі-б у мастацкай форме жыццё Чырвонай Арміі, уваскрашалі-б на сцэне гістарычныя эпізоды мінулага, гераічныя вобразы барацьбы нашага народа супроць сваіх прыгнятальнікаў, супроць усялякіх бандытаў, акупантаў і інтэрвентаў і, у першую чаргу, супроць адвечных ворагаў беларускага народу—польскіх паноў.

Адным з такіх твораў з'яўляецца п'еса Крапівы „Партызаны", прысвечаная барацьбе беларускіх народных мас у 1919 годзе супроць белапольскіх акупантаў.

Матэрыялам для гэтай п'есы паслужылі канкрэтныя факты і з'явы, узятыя непасрэдна з гістарычнай сапраўднасці. „Партызаны"— п'еса рэалістычная, жыццёвая.

У праўдзівых, яскравых эпізодах, паслядоўна паказан у п'есе рост партызанскага руху, рост самасвядомасці беларускіх народных мас, якія не маглі прымірыцца з панаваннем чужаземных акупантаў, аднаўленнем улады памешчыкаў і капіталістаў.

Змест п'есы разгортваецца па двух лініях, у двух планах—у народна-бытавым і гераічным.

У першым акце „Партызаны" мы маем выразную экспазіцыю асноўных вобразаў п'есы і тых гістарычных асаблівасцей, на фоне якіх разгортваюцца сцэнічныя падзеі. У яскравых, жыццёвых

малюнках паказаны сцэны прыхода польскіх войск у беларускую вёску. Мы бачым, як вяртаюцца разам з палякамі былыя памешчыкі, як аднаўляецца зноў стары ўціск і эксплаатацыя, як жорстка помсцяцца паны за пасечаны лес, за ўзараную зямлю, за школу ў памешчыцкім доме.

У захопленай польскімі акупантамі мясцовасці ўзнікае і развіваецца партызанскі рух. У пачатку другога акта (3-я карціна) у выразных і каларытных сцэнах (сваты ў хаце Бадыля), аўтар паказвае ў якіх умовах і як ствараліся ў беларускай вёсцы і паступова мацнелі партызанскія атрады. Перад гледачом раскрываюцца ў гэтай карціне асобныя вынаходлівыя прыёмы, цікавыя эпізоды падпольнай работы комуністаў. У жывой і выразнай карціне прыходу Бадыля ў штаб дывізіі (IV акт) і ў фінале п'есы паказана арганічная, непасрэдная сувязь беларускіх партызан з Чырвонай Арміяй.

Дзейныя асобы п'есы рэзка падзяляюцца на два супроцьлеглыя, варожыя, непрымірымыя лагеры. З аднаго боку мы бачым вобразы народнай масы—мужнай, гераічнай, сумленнай і самаадданай, якая змагаецца за сваё вызваленне, за лепшую будучыню. З другога боку—ворагі народа, паны Яндрыхоўскія з сваімі агіднымі паслугачамі накшталт кулака Маргуна і яго дачкі Кацярыны, шляхціча Шмігельскага і інш. Вобразы прадстаўнікоў народнай масы моцныя сваёй тыповасцю і напасрэднасцю, сваёй праўдзівасцю. Праз гэтыя вобразы раскрывае перад намі аўтар вялікі гістарычны сэнс падзей, звязаных з барацьбой народных мас за вызваленне Беларусі.

Гэта—Даніла Дрыль, яго маці, сястра Марылька, дзед Бадыль і яго ўнучка Настулька, бежанец Батура, партыец Скіба, партызаны Кастусь, Халімон, Міхаль і інш.

Гэта—вобразы непрыкметных герояў партызанскай вайны, верных сыноў сваёй радзімы, скромных, мужных і непасрэдных людзей, радавых змагароў супроць варожай навалы. У працэсе барацьбы некаторыя з іх вырастаюць у непахісных і выпрабаваных кіраўнікоў народнай масы.

З гэтай катэгорыі вобразаў асабліва вылучаецца дзед Бадыль. Другарадны па сутнасці, вобраз дзеда Бадыля набывае ў п'есе пераважнае, амаль пануючае значэнне. Гэта вобраз, найбольш жывы і каларытны, найбольш дакладна распрацаваны. Усімі сваімі карэннямі, усёй сваёй істотай звязан дзед Бадыль з народнымі масамі, з вуснай народнай творчасцю, з персанажамі беларускай казкі, мудрай і дасціпнай, прасякнутай нянавісцю да паноў-прыгнятальнікаў.

Дзед Бадыль з'яўляецца ў п'есе ўвасабленнем народнага розуму і народнага юмара, прадстаўніком таго жыццёсцвярджальнага аптымізма, які ніколі не пакідаў народныя масы нават у часы самых цяжкіх і жорсткіх гістарычных іспытаў. І адначасова ён найбольш выразна, найбольш поўна ўвасабляе ў сабе ўсю сілу магутнага стыхійнага пратэста народных мас супроць соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечання, іх волю да барацьбы супроць ворагаў.

Паўната драматургічнай характарыстыкі зрабіла гэты вобраз глыбока чалавечным, праўдзівым і моцным.

Гэта неабходна адзначыць тым больш, што вобраз самабытнага дзеда-жартаўніка пачынае набываць у нашай драматургіі традыцыйны характар. З некаторага часу ён зрабіўся абавязковай, неад'емнай фігурай амаль для ўсіх нашых драматычных твораў.

Дзед Бадыль у „Партызанах", дзед Мікола ў „Салаўі", дзед Ахрэм у „Кацярыне Жарнасек", дзед Талаш у „Пушчах Палесся" з'яўляюцца па сутнасці сцэнічнымі разнавіднасцямі аднаго агульнага тыпа. З ліку гэтых „дзядоў" толькі дзед Талаш існуе ў п'есе у якасці асноўнага героя, як цэнтральны вобраз твору, з самастойнымі сцэнічнымі функцыямі. Усе астатнія „дзяды" з сваімі жартамі, байкамі і прымоўкамі выкарыстоўваюцца пераважна для каларыту, не маючы ў п'есе самастойнага значэння.

Дзед Бадыль з прычыны сваёй жыццёвасці і сцэнічнай выразнасці далёка перарос значэнне той ролі і таго становішча, якое адведзена яму ў п'есе аўтарам.

„Трэба ў кожнай паказваемай адзінцы знайсці апрача агульнакласавага той індывідуальны стрыжань, які найбольш характэрны для яе і, у канчатковым выніку, вызначае яе соцыяльныя паводзіны", — пісаў адносна стварэння драматургічнага вобраза А. М. Горкі. У вобразе дзеда Бадыля Крапіве ўдалося знайсці гэты „індывідуальны стрыжань" і таму яго дзед Бадыль жыве ў п'есе поўнакроўным сцэнічным жыццём. Але гэта не ўдалося аўтару ў вобразе начальніка партызанскага атрада Давілы Дрыля.

У супроцьлегласць дзеду Бадылю, вобраз Давілы Дрыля, які па замыслу аўтара павінен быць у п'есе асноўным, вядучым, разгорнуты недастаткова. Характар яго, акрамя даверлівасці да Рыгора, амаль зусім не раскрываецца. У адным месцы ён, праўда, выяўляе свае адносіны да маці, але робіць гэта занадта скупа. Недастатковым для раскрыцця характару Дрыля здаецца нам і тое, што ён, паводле яго слоў, у пачатку 6 карціны, прыходзіць у вёску за сястрой Марылькай, тым больш, што аб гэтым упамінаецца толькі для таго, каб даць пэўную падставу для з'яўлення Дрыля ў хаце Рыгора. Якім ён з'явіўся ў першай дзеі, такім ён застаецца і ў апошняй. Яго соцыяльная сутнасць, яго ідэйная накіраванасць вядомы гледачу паводле яго слоў і ўчынкаў. Але яго індывідуальныя якасці, асаблівасці яго характару, яго чалавечая сутнасць не раскрыты ў п'есе як след. Яму не хапае паўнаты зместа, паўнаты характарыстыкі, без якой не можа жыць на сцэне мастацкі вобраз.

У асобе падпольнага працаўніка Скібы аўтар удала паказаў кіруючую арганізацыйную ролю партыі ў беларускім партызанскім руху ў часы белапольскай акупацыі.

Вобраз партыйнага працаўніка Скібы досыць выразна і ўсебакова раскрываецца ў 1 карціне (сцэна з вінтоўкай), у сцэне сватаўства, у сцэне прыхода дзеда Бадыля ў штаб дывізіі. У сцэне сватаўства вобраз Скібы набывае асаблівую пераканальнасць. Гледач бачыць адначасова наколькі арганічна звязаны гэты вобраз з далейшым развіццём падзей і з ростам партызанскага руху.

Звяртае на сябе ўвагу цікавы і жыццёвы вобраз бежанца-паляка Батуры, вясковага жартаўніка і гарманіста. Ён нібыта ўвасабляе ў п'есе міжнацыянальнае адзінства працоўных.

Досыць дакладна выпісаны аўтарам такія эпізадычныя ролі як Настулька, партызан Халімон і інш.

Вобразы партызанаў рознастайны, індывідуальны, каларытны. Усе яны згуртаваны адзінствам мэты, адзінствам думак і імкненняў: аб'яднаны адным агульным кіраўніцтвам. Усе яны з'яўляюцца нібыта часткай аднаго вялікага цэлага. З асобных, характэрных і самастойных вобразаў прадстаўнікоў народнай масы складаецца ў п'есе і паўстае перад намі ва ўвесь свой рост адзін вялікі, сапраўдны і многатвары герой—народ.

На адным баку народ, на другім—яго подлыя ворагі.

Вось асноўны сэнс усёй п'есы, лейт-матыў яе зместу. Барацьба двух супроцьлеглых соцыяльных лагераў—народа і яго ворагаў напаўняе гэтую п'есу вялікім унутраным сэнсам.

Лінія гэтай барацьбы праходзіць праз усе сцэны і эпізоды п'есы, з'яўляючыся той рухаючай сілай, якая надае ёй унутранае адзінства і нават замяняе часткова адсутнасць пэўнага сюжэта.

Лепшыя маральныя якасці працоўнага люда—яго непахісны аптымізм, вера ў свае сілы, самаадданасць, пачуццё міжнацыянальнай братэрскай салідарнасці, благародства—супроцьстаўляюцца ў п'есе унутранай спустошанасці, агідным і нізкім пачуццям ворагаў—себялюбству, жорсткасці, прагнасці да грошай, да ўласнага, асабістага ўзбагачэння.

Маці Данілы гіне за свайго сына, сваёю смерцю ратуючы яму жыццё; сялянка Тадора Куксёнак просіць пані Яндрыхоўскую прыбавіць ёй бізуноў абы толькі не раскідалі хату, каб дзеці мелі на зіму прытулак; Даніла Дрыль, рызыкуючы жыццём, прыходзіць у вёску за сястрой і давераецца Рыгору, як другу свайго дзяцінства; дзед Бадыль не згінаецца перад пагрозамі паноў і смела кажа праўду ў вочы. Можна прывесці шмат такіх прыкладаў маральнай перавагі працоўных. Іх у п'есе багата.

Гэта ўнутраная лінія маральнага супроцьстаўлення абодвух варожых лагераў асабліва моцна выяўляецца ў шостай карціне, у хаце бедняка Рыгора.

Вобраз Рыгора мае ў п'есе крыху абасобленае мейсца. Рыгор стаіць на раздарожжы, паміж двух варожых лагераў. Ён сябруе з кіраўніком партызанскага атрада Данілам, але не хоча далучыцца да партызан. Ён любіць дачку кулака, старасцянку Кацярыну і не траціць надзеі набыць уласную гаспадарку. У барацьбе з белапалякамі ён спрабуе трымацца нейтралітэта, хоць і спачувае партызанам. Усё гэта нам робіцца вядома яшчэ ў першай карціне (I акт).

На дакоры з боку Данілы Рыгор адказвае: „Што-ж я дрэннае раблю? Люблю дзяўчыну, хачу з ёю ажаніцца, хачу зямлі кусочак, каб было на чым з ёю жыць спакойна і шчасліва—хіба гэта грэх вялікі? Крыўды-ж я нічыёй не хачу".

Рыгор не разумее спачатку неабходнасці актыўнай барацьбы за шчасце ўсяго народа. Ён думае толькі пра сваё ўласнае, асабі-

стае шчасце. Ён думае, што кожны сам паасобку, павінен здабываць сабе лепшую долю. Яго мары, яго імкненні абмежаваны кавалкам уласнай зямлі і ўласнай індывідуальнай гаспадаркай. На Рыгора адмоўна ўплывае яго каханка Кацярына. Яна патрабуе, каб ён разбагацеў, зрабіўся такім, як пан Шмігельскі, інакш яна за яго не пойдзе. Тымчасам польскія ўлады прызначаюць вялікую грашовую ўзнагароду за галаву Даніла.

5 карціна (III акт) канчаецца тым, як Рыгор стаіць пасля размовы з Кацярынай, распалены рэўнасцю да Шмігельскага, адзін на вуліцы і чытае аб'яву. „15 тысяч"... (Стаіць у роздуме). Тады-б Кацярына і не глянула-б на пана Шмігельскага"...

Гэта прымушае гледача настаражыцца.

Наступная шостая карціна, пачынаецца з маналога Рыгора, які сядзіць адзін у сваёй хаце, пачыняе стары лапаць і скардзіцца на свой бядняцкі лёс. Раптам да яго прыходзіць употай стомлены Даніла, які хаваецца ў лесе, і застаецца ў яго начаваць. Калі Даніла заснуў, у хату прыходзіць Кацярына. Заўважыўшы Данілу яна патрабуе ад Рыгора, каб ён звязаў Данілу і перадаў яго польскім уладам, альбо забіў яго тут-жа на месцы ў ложку. Кацярына абяцае Рыгору выйсці за яго замуж, калі ён здолее выкарыстаць такую зручную сітуацыю і праз гэта разбагацее. Яна спрабуе ўздзейнічаць на Рыгора ўсімі сродкамі сваёй жаночай прывабнасці. Яна малюе перад ім ідылічныя вобразы іх будучага сумеснага багатага жыцця. Рыгор хістаецца. Сумненні і ваганні Рыгора, барацьба ў яго душы паміж спакусай лёгкага ўзбагачэння, любоўю да Кацярыны і пачуццём абавязка, сяброўскай прывязанасці да Данілы, які даверыўся яму, адлюстраваны ў гэтым эпізодзе па мастацку моцна.

Дыялаг паміж Рыгорам і Кацярынай поўны драматычнага напружання. Слоўная тканка гэтай сцэны распрацавана аўтарам з максімальнай дакладнасцю. Мова дзейных асоб, і асабліва Рыгора, досыць выразная, напружаная, прасякнутая сілай пачуцця.

Рыгор не паддаецца на ўгаворы Кацярыны, ён адмаўляецца ад яе, адмаўляецца ад свайго кахання, ад сваіх надзей. Калі Кацярына спрабуе ўзняць трывогу, каб захапіць Данілу, Рыгор забівае яе і будзіць Данілу.

Сцэна ў хаце Рыгора з'яўляецца з драматургічнага боку адным з найбольш моцных момантаў у п'есе.

Сіла гэтай сцэны ў тым, што ў ёй з асаблівай выразнасцю і глыбінёй да канца раскрываюцца характары, раскрываецца сапраўдная сутнасць дзейных асоб, што ўся яна пабудавана на канфлікце пачуццяў і поглядаў, што ў драматычным дыялоге, у псіхалагічнай барацьбе паміж канкрэтнымі індывідуальнымі асобамі, бедняком Рыгорам і кулацкай дачкой Кацярынай, увасабляецца барацьба паміж двума супроцьлеглымі сацыяльнымі лагерамі, паміж двума варожымі светамі. Рыгор разумее, што прадаўшы Данілу палякам, ён зробіць не толькі ганебны амаральны ўчынак, не толькі здрадзіць свайму другу, ашукаўшы яго даверлівасць, але і вялікае цяжкое злачынства супроць народа, супроць кроўнай

справы ўсіх такіх беднякоў, як ён сам. Схіліўшыся над Данілам, Рыгор гаворыць у смутку:

„Заўтра пан Яндрыхоўскі возьме тваю галаву двума пальцамі за русую чупрыну... Залатую галаву. Гэта галава думала і за сябе, і за такіх дурняў, як я... Усе паны ўздыхнуць з палёгкаю, што я ім долю бядняцкую прадаў".

У вобразе Рыгора глядач бачыць выразнае ўвасабленне „двух душ" селяніна і гучнымі воплескамі вітае перамогу ў ім пачуцця класавай салідарнасці.

Гэта сцэна робіць уражанне на гледача таксама і таму, што Крапіва карыстаецца тут выключна драматургічнымі сродкамі. Ён праяўляе сябе ў гэтай карціне таксама як і ў некаторых іншых, не як празаік, які пераносіць у драматургію апавядальныя асаблівасці свайго жанра, як гэта у нас часта робіцца, а як драматург па пераважнасці.

У нашых п'есах усё часам можна прадбачыць загадзя. Дзея разгортваецца прамалінейна, расстаноўка сіл даецца адразу з самога пачатку, лёс герояў вядомы наперад. Гледачу не трэба думаць, не трэба здагадвацца, не трэба хвалявацца. Крапіва парушае гэту традыцыю.

Рыгор раскрываецца не адразу і, „загадка вобраза" хвалюе гледача. Глядач не ведае да канца, што зробіць Рыгор, з кім пойдзе ён нарэшце, ці прадасць ён Данілу ворагам, ці адмовіцца ад Кацярыны і далучыцца да партызанаў.

Гэта і стварае драматычную напружанасць, без чаго ніводная п'еса не можа добра гучаць на сцэне.

Драматург павінен кампанаваць матэрыял такім чынам, каб даць уяўленне аб цэлым па адной з яго частак, па адной з дэталей, адлюстраваўшы праз гэту дэталь усё цэлае.

Сапраўдны драматычны твор паказвае нам жыццё і раскрывае нам сутнасць рэчаіснасці на любым абмежаваным кавалку яе, у любым кутку.

У даным выпадку гэта робіцца ў хаце Рыгора. Рэчаіснасць раскрываецца перад намі ў драматычным паядынку паміж Рыгорам і Кацярынай. У хаце Рыгора глядач бачыць перад сабою кавалак тагочаснага жыцця, ён адчувае ўсю сілу той вялікай барацьбы, якая адбываецца па-за сценамі гэтай хаты, па адной з жыццёвых дэталяй ён мае ўяўленне аб усім цэлым.

Значна менш удаліся аўтару вобразы адмоўнага плана. Вобраз капітана Яндрыхоўскага занадта спрошчаны. Гэта вобраз абстрактны, не канкрэтызаваны. Ён пабудаваны аўтарам выключна на адных толькі знадворных „класавых прызнаках" і таму амаль цалкам пазбаўлены жывых, чалавечых рысаў.

Прыблізна тое самае можна сказаць і пра маці яго, пані Яндрыхоўскую, вобраз таксама досыць бледны, невыразны, схематычны. Тут варта ўспомніць ізноў словы Горкага аб тым, што адзін толькі „класавы прызнак" не дае жывога, цэльнага чалавека, па-мастацку аформлены характар.

Выключэннем з'яўляецца Кацярына. Гэты вобраз яскравы і сакавіты. Добра тое, што Кацярына дана аўтарам у простых,

звычайных і жыццёвых тонах (так яна трактуецца і тэатрам). Іменна праз гэту прастату і звычайнасць яшчэ больш выразна і пераканаўча раскрываецца перад гледачом яе кулацкая, уласніцкая, драпежная сутнасць. Звонкі смех і здаровая фізічная прыгажосць Кацярыны (у выкананні актрысы Поло) робяць гэты вобраз яшчэ больш жывым і праўдзівым. Гэта праўдзівасць, вядома, была-б парушана, калі-б Кацяры не былі наданы рысы нейкай змрочнай, меладраматычнай зладзейкі.

Між іншым, дарэмна ўваскрашае Крапіва Кацярыну ў апошнім акце. Пасля сцэны ў хаце Рыгора, пасля таго, як Рыгор ударыў яе нажом і пайшоў да партызанаў, драматургічныя функцыі Кацярыны скончаны. У п'есе яна больш не патрэбна.

Досыць пераканальным здаецца нам бацька Кацярыны, кулак Маргун.

Нам ужо не аднойчы даводзілася гаварыць аб тым, якое значэнне мае для драматурга ўменне арганізаваць матэрыял, уменне скампанаваць п'есу.

З вялікай колькасці асобных жыццёвых з'яў, звязаных з тэмай свайго твора, драматург павінен адбіраць толькі тое, што яму неабходна для непасрэднага развіцця сюжэтнай лініі, толькі тое, што дапамагае яму найбольш выразна і глыбока раскрыць унутраны сэнс сцэнічных падзей. Нажаль, не заўсёды бывае так. Нашы драматургі, імкнучыся даць у сваім творы як мага больш шырокую па ахопу рэчаіснасці карціну, стараюцца звычайна не абмінуць ніводнай з'явы, ніводнага факта, характэрнага для данай тэмы. Яны часта перагружаюць свае п'есы вялікай колькасцю залішніх дадатковых персанажаў, падзей і эпізодаў, не маючых непасрэдных адносін да развіцця сюжэтнай лініі і таму фактычна непатрэбных. Між тым, драматургічны твор патрабуе максімальнай канцэнтрацыі дзеяння, жорсткага адбора фактаў. Гэта-ж не проза, якая дае аўтару магчымасць шырока і свабодна карыстацца ўсякага рода адступленнямі, апісаннямі і тлумачэннямі, з багатага арсенала апавядальных сродкаў, нічым не звязаных умовамі сцэны.

Адбор і арганізацыя сцэнічнага матэрыяла, канцэнтрацыя драматычнага дзеяння вакол пэўнага сюжэта застаецца па-ранейшаму найбольш слабым мейсцам у нашай драматургіі. У п'есе Крапівы адчуваецца імкненне аўтара авалодаць спецыфікай драматургіі.

Амаль усе эпізоды, узятыя паасобку, сведчаць аб бясспрэчным росце Крапівы як драматурга. Аўтар адчувае і разумее сілу ўздзейнічання на гледача сцэнічных сродкаў і свядома карыстаецца імі.

Асобныя сітуацыі, нават цэлыя карціны, распрацаваны дасканала, закончана з драматургічнага боку. Асобныя карціны вельмі сцэнічны, але ўсе яны разам не складаюць аднаго кампазіцыйнага цэлага. Кожная з карцін мае самастойнае значэнне. Для п'есы ў цэлым не хапае адзінага сюжэта, не гледзячы на тое, што ў асобных карцінах маюцца даволі выразныя элементы сюжэтнай драмы.

З прычыны адсутнасці агульнага сюжэта „Партызаны", як дарэчы і амаль усе нашы п'есы, прысвечаныя паказу грамадзянскай вайны, маюць пераважна ілюстратыйна-хранікальны характар.

Штучна ўстаўленай у п'есу, не звязанай з развіццём дзеі, здаецца нам сцэна з захопам партызанамі маці Яндрыхоўскага. Гэты момант, таксама як і забойства Антося, уведзены аўтарам мабыць, толькі для таго, каб стварыць некалькі сцэнічных эфектаў для паказа партызан у лесе. Між тым асобныя сітуацыі павінны лагічна і паслядоўна выцякаць адна з адной, ствараючы адну суцэльную сюжэтную лінію.

Нам здаецца, што лінія ўзаемаадносін паміж Рыгорам і Кацярынай з аднаго боку, Данілам і Рыгорам—з другога смела магла быць выкарыстана ў якасці самастойнай сюжэтнай асновы для п'есы.

Бадай тое самае можна сказаць і пра дзеда Бадыля з унучкай Настуляй. У хаце Бадыля, у сцэне сватаўства і ў далейшым лёсе дзеда Бадыля, Настулькі і партызана Антося мы бачым па сутнасці таксама пачаткі нейкай самастойнай сюжэтнай лініі, вартай асобнай п'есы.

Тут мы ізноў маем справу з прадмернай шчодрасцю нашых драматургаў да матэрыялу сваёй п'есы, якога хапае звычайна для некалькіх самастойных твораў.

Агульны тонус п'есы Крапівы ўздымны, жыццярадасны, аптымістычны, не гледзячы на асобныя меладраматычныя моманты. Гэтаму не мала спрыяе ўдалае выкарыстоўванне фальклора і жывая каларытнасць мовы, багата насычанай народным юмарам.

Элементы фальклора амаль усюды арганічна звязаны з тэкстам. Удала выкарыстоўваюцца элементы народна-бытавой абраднасці у сцэне замаскаванага сватаўства, пад выглядам якога вядуць сваю падпольную работу, заклікаючы сялян у партызанскі атрад, партыец Скіба і партызан Антось. Добра гучаць народныя спевы ў партызанскіх сцэнах у лесе. (IV карціна, II акт). Вельмі дарэчы прыпеўкі Батуры, Кастуся і Настулі на вуліцы ў вёсцы (5 карціна, III акт). Яны ўвесь час ажыўляюць гутарку, нібыта ілюструюць яе, ствараючы адпаведны настрой.

Значэнне гэтай п'есы ў яе народнасці, у тым моцным струмені патрыятызма, якім прасякнуты амаль усе яе сцэны і эпізоды.

П'еса спрыяе выхаванню патрыятычных пачуццяў, гатоўнасці да абароны радзімы. Яна сугучна думкам і пачуццям народных мас савецкай Беларусі.

Рэакцыя публікі ў часе спектакля яскрава аб гэтым сведчыць. Глядач жыве нібыта адным жыццём з сваімі героямі на сцэне. Як бурна, з якім уздымам ухваляе ён мужнасць, адвагу, знаходлівасць і патрыятызм Данілы Дрыля, Скібы, Батуры, партызанаў. Як хвалюецца ён за іх лёс. З якім напружаннем перажывае ён драматычныя падзеі ў хаце Рыгора. З якой цяплынёй і любоўю сочыць глядач за кожным учынкам свайго любімца дзеда Бадыля. Якімі моцнымі, дружнымі гучнымі воплескамі вітае ён кожнае мудрае слова, кожны дасціпны жарт старога. З якой сілай выяўляе глядач сваю нянавісць да ворагаў і прыгнятальнікаў народа.

Партызанская тэматыка наогул карыстаецца ў масах шырокай папулярнасцю. Эпізоды грамадзянскай вайны і партызанскага руху

доўга яшчэ будуць натхняць нашых пісьменнікаў, доўга яшчэ будуць з'яўляцца невычэрпнай крыніцай для шматлікіх і разнастайных твораў. Усё часцей і часцей звяртаюцца нашы пісьменнікі да партызанскай тэматыкі, усё часцей распрацоўваецца яна ў розных жанрах.

Гісторыя партызанскага руху на Беларусі дае нам досыць вялікі, досыць багаты матэрыял для стварэння рознастайных, жыццёвых і каларытных вобразаў, для напружаных драматычных сюжэтаў і цікавых сцэнічных сітуацый.

Тыя дружныя безупынныя воплескі, якімі так часта перапыняе спектакль глядач, з'яўляюцца найлепшым доказам таго, наколькі актуальны, патрэбны і карысны такія п'есы, як „Партызаны" Кандрата Крапівы.

*І. Стэбун*

# МІХАІЛ КАЦЮБІНСКІ[1])

**(Біяграфічны нарыс)**

„Пра ўсё падумаўшы, ён неяк асабліва блізкі харошаму і ў ім кіпіць арганічная пагарда да благога. У яго тонка развіта эстэтычнае адчуванне добрага, ён любіць дабро любоўю мастака, верыць у яго пераможную сілу і ў ім жыве пачуццё грамадзяніна, якому глыбока і ўсебакова зразумела культурнае значэнне, гістарычная вартасць дабра... Ён вельмі часта гаварыў пра дэмакратыю, пра народ і заўсёды гэта было неяк асабліва прыемна слухаць, прыемна і павучальна".

У гэтых цудоўных радках, якія прысвяціў Кацюбінскаму вялікі мастак пролетарыята А. М. Горкі, выразна і глыбока вызначаны асноўныя рысы вобраза М. М. Кацюбінскага—чалавека і пісьменніка. Іменна такім ён быў і ў жыцці і ў творчасці—блізкім народу, адданым і верным яго сынам.

Міхаіл Міхайлавіч Кацюбінскі нарадзіўся 17 верасня 1864 года ў Вінніцы, у сям'і дробнага чыноўніка. Бацька пісьменніка—Міхаіл Мацвеявіч—быў няўдачнікам у жыцці. Не ўтрымаўшыся доўга на пэўнай пасадзе праз канфлікт з начальствам, вандраваў ён з сям'ёй па мястэчках і сёлах Падолля.

Маці пісьменніка—Глікерыя Максімаўна—культурная і разумная жанчына, была, як успамінаў пазней у сваёй аўтабіяграфіі М. Кацюбінскі, чалавекам „са складанай, тонкай і глыбокай душэўнай арганізацыяй", якая мела „добры густ, благародныя погляды", любіла літаратуру і мастацтва.

Дзіцячыя гады пісьменніка хоць і праходзілі, як ён пісаў „у атмасферы цёплых сардэчных адносін", былі, аднак, цяжкімі гадамі для сям'і.

Жывучы ў мясцовасцях вясковага тыпу, у ваколіцы Вінніцы і на вёсцы, стыкаючыся непасрэдна з сялянскімі дзецьмі, хлопчык захапіўся украінскімі народнымі песнямі і казкамі, у якіх выліваліся боль і пакуты сялянства.

Цяжкае сялянскае жыццё, галеча і нястача, адлюстраваныя ў фальклоры, пакінулі ў дзіцячым уяўленні моцнае ўражанне. Ужо 9—10 гадоў М. Кацюбінскі пачаў і сам складаць песні па ўзору народных.

---

[1]) Скарочаны раздзел з манаграфіі І. Стэбуна „Міхайло Кацюбінскі", выпушчанай Дзяржаўным выдавецтвам Украіны.

Закончыўшы двухкласную школу ў м. Бары, Кацюбінскі ў 1875 г. паступае ў Шаргародскую бурсу. „Кволы, тоненькі хлопчык, бледны, з матавым аблiччам,“ ён быў, аднак, здольным і настойлівым у вучобе. Асабліва захапляўся чытаннем.

Ён чытаў усё, што трапляла пад руку. З украінскіх твораў асаблівае ўражанне, як адзначае ён, зрабілі на яго творы Марка Ваўчка і „Кабзар“ Тараса Шэўчэнка. У радках вялікага украінскага паэта-дэмакрата хлапец адчуў блізкі яму матыў тугі і гневу супроць прыгнятальнікаў, цароў-недалюдкаў і „паноў“ паганых.“

Прагнасць да кніжак усё ўзрастала.

„У адным сяле,—апавядае пісьменнік,—я пазнаёміўся з п'яніцаю свяшчэннікам, дужа разумным чалавекам, і ён дазволіў мне браць кніжкі з яго незвычайна багатай бібліятэкі, дзе я натрапіў, між іншым, на творы Л. Фейербаха (замежнае выданне), і яго „Homo homini deus“ зрабіла на мяне вялікі ўплыў і пахіснула мае рэлігійныя погляды, разбітыя да рэшты гутаркамі і бясконцымі спрэчкамі са старэйшымі таварышамі, якіх я заўсёды меў нямала, бо любіў таварыства і шукаў яго. Творы Фур'е (з тае-ж бібліятэкі) нарадзілі ва мне зноў сімпатыі да соцыялізма“.

Так фармаваўся светапогляд 12—14-гадовага юнака. Тады-ж, на 12 годзе жыцця, як расказвае сам пісьменнік, ён піша на рускай мове аповесць з фінскага жыцця, слядоў якой так і не захавалася.

Скончыўшы ў 1881 годзе Шаргародскую бурсу і прагнучы далейшай асветы, 17-гадовы юнак Кацюбінскі, разам са сваімі вінніцкімі таварышамі, ідзе ўвосені 1881 года ў Камянец-Падольскую духоўную семінарыю. Аднак, цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і не дазволіла Кацюбінскаму прадоўжваць асвету.

Але і за той нядоўгі час, які Кацюбінскі пабыў у Каменцы, ён паспеў зблізіцца з мясцовай семінарскай моладдзю. Як расказвае А. Саліхоўскі, які быў у той час слухачом Камянец-Падольскай семінарыі, семінарысты ў гуртках захапляліся ідэямі Чэрнышэўскага і Дабралюбава, арганізоўвалі сходы, спявалі рэволюцыйныя песні, марылі аб знішчэнні самаўладства і ўстанаўленні дэмакратычнага ладу ў Расіі.

Вясною 1883 года праз год пасля звароту яго ў Вінніцу, жандары робяць у памяшканні Кацюбінскага вобыск. У асабістай справе М. Кацюбінскага з архіва дэпартамента паліцыі—„О сыне чиновника Михаиле Михайловиче Коцюбинском“ № 436, якая захоўваецца ў Чарнігаўскім гістарычным архіве, ёсць пратакол Вінніцкага павятовага ісправніка пра вобыск 18 красавіка 1883 года, у якім адзначана, што „ў час вобыску нічога не выяўлена, знойдзена толькі 15 пісем яго таварышоў па выхаванню...“

Аднак, з сакавіка 1886 года за Кацюбінскім „быў устаноўлены нягласны нагляд“ і з гэтага часу жандары ўжо не пазбаўляюць пісьменніка сваёй „увагі“.

У 1884 годзе Кацюбінскі піша свой першы твор на украінскай мове „Андрэй Салавейка“, альбо „Вучэнне свет, а невучэнне цьма“, а пазней апавяданне „21 снежня на Уводзіны“ (1885 г.) і „Дзядзька і цётка“ (1886 г.).

У 1881 годзе М. Кацюбінскі трымае іспыты на народнага на-

стаўніка, у той-ж год ідзе настаўнічаць у вёску Лапацінцы, каля Ямпольскага павету на Падольшчыне, дзе працуе да 1892 года.

Іменна тут, у Лапацінцах, М. Кацюбінскі з вялікай цікавасцю вывучае фальклор, запісвае украінскія соцыяльна-бытавыя песні, песні пра Кармалюка, народныя легенды. Тут-жа піша ён сваю вершаваную „Казку з народнага поля“, „Завідушчы брат“, апавяданні „Харыта“, „Ялінка“, „На віру“ і інш.

У чэрвені 1892 года М. Кацюбінскі дастае пасаду ў Одэскай філаксернай камісіі. Філаксерныя камісіі ўтвараліся для барацьбы з вінаградным шкоднікам—філаксераю, што як-раз тады з'явілася ў багатых краінах—Францыі, Італіі, а ў Расіі—у Бесарабіі і ў Крыму.

Філаксерныя камісіі, утвораныя царскім урадам, змагаліся з філаксерай шляхам знішчэння заражоных вінаграднікаў. Гэты „радыкальны“ метад асуджаў на галодную смерць тысячы малдаўскіх і татарскіх сялянскіх сем'яў, для якіх вінаграднік быў амаль адзіным сродкам існавання. І хаця быў іншы метад барацьбы з філаксерыяй, па якім вінаградныя кусты аставаліся не пашкоджанымі, лячэнне заражоных вінаграднікаў, але таму, што такое лячэнне вымагала больш страт, было складаней і цяжэй, царскі урад, вядомая рэч, яго не ўхваліў. Зразумела таксама, якой ненавісцю сустракалі агентаў філаксернай камісіі сяляне ўласнікі-вінаграднікі.

У такіх умовах працаваў Кацюбінскі ў філаксернай камісіі спачатку на пасадзе даследчыка, а пазней—на пасадзе памочніка эксперта, гады 1892-1895 у Бесарабіі, а потым 1895—1897 гады ў Крыму.

У 1896 годзе ў часе зімовага прабывання ў Чарнігаве, куды ён прыехаў пагасціць да аднаго свайго знаёмага, Кацюбінскі ажаніўся на Веры Іусцінаўне Дэйш.

І тут, у Чарнігаве, дзе жыла сям'я жонкі, Кацюбінскі, вярнуўшыся з філаксерных работ, робіць спробу знайсці працу і канчаткова пасяліцца. Аднак, чарнігаўскі губернатар, на аснове матэрыялаў дэпартамента паліцыі аб неблаганадзейнасці Кацюбінскага, не дазволіў яму займаць пасаду ў Чарнігаве і пісьменнік вымушан быў шукаць іншага месца.

Восенню 1897 года Кацюбінскі едзе ў Жытомір, дзе да лютага 1898 года працуе загадчыкам канторы мясцовай газеты „Валынь“, кіруючы ў ёй аддзелам „Свет и тени русской жизни“.

Што ўяўляла сабою газета „Валынь“, якімі былі ўмовы працы Кацюбінскага—яскрава апісана ў пісьмах пісьменніка да жонкі:

„У друкарні тысячны доўг,—пісаў ён у адным з пісем,—першаму уласніку Валыні—чатыры тысячы, усім службоўцам, усім магазінам—словам, усюды... У нас на заўтра 46 кап., а каб чысло выйшла, трэба 43 рублі не менш“...

У рэдакцыі запраўлялі людзі, якія баяліся малейшага вострага слова ў газеце. І Кацюбінскі, які толькі пачынае сваю публіцыстычную дзейнасць, не мог мірыцца з такім становішчам.

„З гэтымі „Свет и тени“ чыстая бяда,—пісаў ён у пісьме да жонкі ад 15/XII 1897 года,—даводзіцца быць надзвычай асцярож-

ным, не выяўляць сябе, хоць так падчас хочацца асвятліць як след факты".

Але ўсё-ж і праз рэдактарскія і цэнзурныя ўціскі на старонкі газеты трапляюць мужныя радкі пісьменніка-гуманіста.

„Пачнем з ценяў (іх больш) і закончым святлом—яго менш альбо зусім няма,"—так распачынае адзін з сваіх аглядаў „Свет и тени русской жизни" Кацюбінскі. І яго артыкулы пад такім загалоўкам малявалі цені тагочаснай рэчаіснасці, на старонках правінцыяльнай газеты пісьменнік смела пратэстуе супроць прыгнёту, капіталістычнай эксплаатацыі, нацыянальнага ўціску і бяспраўя.

„Часы рабства прайшлі, прыгонніцтва адыйшло ў мінулае, але, аднак, рабы ёсць і многа—піша Кацюбінскі ў адным са сваіх аглядаў, закранаючы жыццё рабочых.—Прыглядзецца да жыцця бяздомнага рабочага пролетарыята, які вечна жыве ў атмасферы „ўрэзак", „вылікаў", „недаплат", „штрафаў", „трыццацігадзінных рабочых днёў" і т. п. „роскашаў"—і вам цяжка стане за чалавека.

У 1897-98 гг. журналісцкая дзейнасць амаль зусім выцясняе мастацка-творчую працу пісьменніка. Праўда, Кацюбінскі меў намер напісаць аповесць з жыцця журналістаў, але гэты намер так і застаўся нерэалізаваным.

Жывучы ў Жытоміры, Кацюбінскі не пакідаў надзеі атрымаць пасаду ў Чарнігаве. У першых ліках лютага 1898 года Кацюбінскі нарэшце дастае пасаду „справавога стала ацэнкі нерухомай маёмасці і народнай асветы" ў Чарнігаўскім губернскім земстве.

У канцы лютага 1898 года Кацюбінскі прыязджае ў Чарнігаў і прыступае да выканання службовых абавязкаў.

Службовыя абавязкі адымалі амаль увесь час пісьменніка. Для творчай работы заставаліся выпадковыя гадзіны і адпускныя—месяц—паўтары на год.

„Вы не ведаеце, як мне цяжка пісаць,—скардзіўся ён у пісьмах,—умовы ў мяне такія, што я вымушан увесь вольны час аддаваць службовай працы"...

Абцяжараны надмернай працай усё часцей скардзіўся пісьменнік на пагоршанне здароўя.

Трагізм становішча павялічаўся тым, што тыя гады былі гадамі найбольшага творчага росквіту пісьменніка: прагнасць тварыць пылала ў ім, але для гэтага не выставала ні часу, ні сіл.

„Часта бывае так,—пісаў ён,—што мне мала 24 гадзіны часу. Накідваюся на работу, гару, а здароўе трашчыць, сілы вычэрпваюцца. Не шкада было-б, калі-б траціў сілы на работу, патрэбную для нас, а то марнуюся толькі на тое, каб было што есці сям'і".

А колькі часу і энергіі траціў пісьменнік таксама штогод рыхтуючы „Сельско-хозяйственный обзор по Черниговской губернии" (1903—1910 г.), у якім напісана тэксту больш, чым поўны збор яго мастацкіх твораў.

Як марыў Кацюбінскі цалкам аддацца творчай працы! Ды марна было думаць пра гэта ва ўмовах памешчыцка-капіталістычнага ладу пісьменніку-дэмакрату.

Аднак, Кацюбінскі і ў такіх цяжкіх умовах жыцця не спыняў сваёй творчай работы, упарта працуючы.

„Ведзьму“, „У путах шайтана“, „Па людскаму“, „Паядынак“, „На камені“, „Дарагою цаной“, „Цвет яблыні“, „Лялечку“, першую частку „Fata morgana“ і іншыя творы піша Кацюбінскі на працягу першых пяці год свайго прабывання ў Чарнігаве.

У гэтыя-ж гады выходзіць тры асобныя зборнікі яго твораў. Пісьменнік становіцца агульна прызнаным майстрам украінскага мастацкага слова. Ён знаходзіць высокую ацэнку лепшых крытыкаў таго часу, асабліва І. Франко, які не завагаўся паставіць Кацюбінскага „паміж празаікамі дзеявяностых гадоў на першым месцы“.

Пісьменнік жыва цікавіцца ўсімі новымі плынямі ў сусветнай і рускай літаратуры. З захапленнем знаёміцца ён з творчасцю Гамсуна, Мапасана, Мэтэрлінка, Стрындберга, Гарборга, Чэхава, Горкага, узбагачае свае веды лепшымі здабыткамі сусветнай літаратуры і мастацтва.

У красавіку 1905 года пісьменнік, улічваючы значнае пагоршанне свайго здароўя, асабліва расстройства нервовай сістэмы, выязджае параіцца з дактарамі за мяжу.

Вярнуўся на Украіну Кацюбінскі тады, калі рэвалюцыйныя выступленні, аграрны сялянскі рух ужо былі у самым разгары. У гарадах і вёсках падымаўся народ на барацьбу супроць царызма і памешчыкаў.

---

На фоне рэвалюцыйных падзей 1905—1906 гадоў і чорных дзён рэакцыі яскрава акрэсліваецца грамадскае аблічча Кацюбінскага, як чалавека, шчыра адданага народным дэмакратычным імкненням і ідэям.

Ашуканчы царскі маніфест 17 кастрычніка 1905 года украінская нацыяналістычная буржуазія, поўзаючы перад царызмам, сустрэла як „вялікдзень“.

„У гэты дзень (17/Х 1905 г.), гадзіне аб адзінаццатай раніцой— піша ў сваіх успамінах памешчык нацыяналіст Е. Чыкаленка,— прышло да мяне некалькі душ: Грынчэнка, Ефрэмаў, М. Лявіцкі і інш., з усклікам: „хрыстос уваскрос“ і пачалі цалавацца, як на вялікдзень“.

Зусім інакш сустрэў гэты маніфест Кацюбінскі. Калі для украінскіх нацыяналістаў маніфест быў „вялікаднем“, для Кацюбінскага-дэмакрата—гэта была „паперка ды і толькі, словы адны, а ўчынкі другія“.

„Нас па-просту ашукваюць і бязглуздна гуляюць з агнём, які ахапіў усю Расію,—піша Кацюбінскі ў пісьме да В. Гнацюка 20/ХІ 1905 года, маючы на ўвазе абяцанні „свабоды“.—Сітуацыя страшэнна няясная, не ведаеш чым усё скончыцца, прынамсі ў блізэйшым часе. Барацьба ідзе ўпартая, заўзятая, кожны дзень высоўвае ўсё новых дзеячоў на гістарычную арэну, рэвалюцыя ахапіла войска, у Севастопалі зараз ідзе сапраўдная вайна паміж войскам і войскам. У нас усюды пануе такая думка, што пакуль здабудзем спакойнае і культурнае жыццё будзе агульнае паўстанне, якое зм яце увесь стары палітычны лад“.

І ў гэтых апошніх радках выказаны спадзяванні і надзеі пісьменніка-дэмакрата.

Чорныя дні рэакцыі не зламілі духу Кацюбінскага грамадзяніна. Сціснуты свавольствам рэакцыі, ён не адмаўляецца ад сваіх рэвалюцыйных ідэалаў.

„Нам не даюць цяпер нічога будаваць... калі гэта не турма,— піша пісьменнік В. Гнацюку 18/II 1906 года.—Цёмныя сілы будуюць новыя турмы, бо старыя перапоўнены. Мы пэўна яшчэ мала зруйнавалі, каб можна было што тварыць...“

Такі рэвалюцыйны настрой М. Кацюбінскага хутка стаў вядомы як жандармскаму упраўленню, так і губернатару. У 1906 годзе губернатар распачаў спецыяльную справу „аб супроцьурадавай дзейнасці службоўцаў у Чарнігаўскім статыстычным бюро губернскага земства“.

Пад суровым палітычным наглядам М. Кацюбінскі ўсё-ж не кідае грамадскай работы. У 1906 годзе ён бярэ ўдзел у рэдагаванні чарнігаўскай газеты „Десна“, якую аднак хутка закрываюць. Таго-ж года Кацюбінскі горача бярэцца за арганізацыю ў Чарнігаве таварыства „Просвіта“.

Арганізоўваючы таварыства, Кацюбінскі спадзяваўся знайсці там падтрымку аднадумцаў прыхільнікаў сваім дэмакратычным ідэалам. Гэта была наіўная і нерэальная думка. Пісьменнік хутка ў гэтым пераканаўся.

Пісьменнік імкнуўся выкарыстаць легальную „Просвіту“ як трыбуну для пашырэння дэмакратычных поглядаў. Ён, як старшыня рады прапанаваў арганізаваць для шырокай грамадскасці лекцыі на рознастайныя праблемы. Але рада „Просвіты“ яго не падтрымала; чутка пра думку Кацюбінскага дайшла да чарнігаўскага паліцмейстара і той афіцыяльна забараніў наладжваць якія-б там ні было лекцыі.

„Мірным“ членам „Просвіты“ не спадабаліся, вядомая рэч, паводзіны Кацюбінскага і ён вымушан быў не толькі скласці з сябе абавязкі старшыні, але і выйсці са складу рады таварыства.

Супярэчнасці паміж Кацюбінскім і членам „Просвіты“ ўсё больш абвастраліся. У канцы 1907 г. на пасяджэнні чарнігаўскай „Просвіты“ Кацюбінскі чытае свой рэферат пра творчасць І. Франко.

Тэзісы рэферата прагучэлі не толькі, як дысананс „просвітніцкім“ ідэям і поглядам „таварыства“, у іх была выстаўлена цэлая праграма пісьменніка-дэмакрата. У рэфераце М. Кацюбінскі ўсебакова выклаў сбае погляды на ролю і заданне пісьменніка, як „пісьменніка-барацьбіта“, які „не можа аставацца халодным обсерватарам сярод прыгнёту, пакут і ўсякай крыўды“.

Свой рэферат ён заканчвае заклікам „разбіць цвёрдую скалу няпраўды, прабіцца да святла, хоць-бы давялося ўкрыць касцьмі шлях да новага жыцця“.

5 жніўня 1908 года па ініцыятыве „Саюза рускага народа“ у Чарнігаве склікаецца XIV археалагічны з‘езд, прысвечаны тысячагоддзю існавання Чарнігава. З‘езд адкрыла вядомая чорнасоценніца графіня Уварава. „Пачэсным госцем“ быў таксама адзін з чорнасоценных правадыроў і арганізатараў „Саюза рускага народа“

Анатолій Савенка. З'езд меў цалкам адкрыты пагромніцка-чорнасоценны напрамак. Сярод прывітальных адрасаў гэтаму з'езду апавясціла сваё прывітанне і чарнігаўская „Просвіта", а дакладчыкамі па асобных пытаннях на з'ездзе выступалі таксама і „вучоныя" украінцы.

Абураны да краёў усёй гэтай „бруднай гісторыяй", М. Кацюбінскі, як расказвае ён у пісьме да В. Гнацюка, публічна выступіў супроць „усяго таго свінства", „бруднага патрыятычнага шуму, які замест навукі выкінуў з сябе той напалову хуліганскі з'езд", выкрывае пагромніцкі яго характар і здрадніцкую палітыку украінскага нацыяналізма—„слаўна вядомых" „вучоных украінцаў"—чым і „выклікаў на сябе вялікі гнеў і громы".

Гэтае выступленне М. Кацюбінскага, які ў спісах тайнай паліцыі быў занесен ў лік „асоб шкоднага напрамку", „у палітычных адносінах надта неблаганадзейных", „рэволюцыйна настроены", выклікаў абурэнне чарнігаўскага губернатара і няменшае абурэнне ў колах украінскіх нацыяналістаў таварыства „Просвіта". Пісьменнік быў для іх небяспечным.

Праз месяц пасля з'езда —17/XI 1908 года—Кацюбінскі атрымоўвае ад рады таварыства „Просвіта" пісьмовае паведамленне аб выключэнні яго, па ўказу губернатара, з членаў таварыства.

Пісьменнік-дэмакрат унікае ад супрацоўніцтва ў нацыяналістычных органах.

„Проста не маеш ахвоты што-небудзь пісаць для „Новай грамады" (яе рэдагавалі Ефрэмаў і Грынчэнка.—*І. С.*),—піша М. Кацюбінскі,—так адтуль нясе чымсьці заплесненым, магільным, так патыхае ліхам адтуль".

Нацыяналістычная прэса з яе квасным патрыятызмам была чужой і далёкай Кацюбінскаму.

„... Наколькі Вас ведаю,—пісаў ён В. Гнацюку,—спецыфічна-галіцкі патрыятызм настолькі-ж вам чужы, наколькі і мне спецыфічна-украінскі".

Асуджаючы містыку, нацыяналізм, пашыраныя ў тагачаснай буржуазна-нацыяналістычнай літаратуры, прапагандуючы адначасова рэалізм І. Франко, М. Кацюбінскі рэзка супроцьпастаўляў сваю творчасць пісаніне украінскага буржуазнага нацыяналізма.

Сваімі творамі гэтых гадоў „Ён ідзе", „Смех" (1906), Persona grata „Intermezzo" (1907), „У дарозе" (1908), і пазней—другой часткай „Fata morgana", „Коні не вінны", у якіх пісьменнік выкрываў мярзотную сістэму царызма, зрываў маску з лібералаў і заклікаў да новага жыцця, „засвяціць другое сонца на небе". Пераклікаючыся з творчасцю лепшых прадстаўнікоў рэволюцыйнай літаратуры, і асабліва з творчасцю вялікага рускага пролетарскага пісьменніка М. Горкага, М. Кацюбінскі паказаў сябе, як пісьменнік-дэмакрат, варожы украінскаму нацыяналізму.

* * *

Таму украінскія нацыяналісты, адчуваючы значны грамадскі аўтарытэт М. Кацюбінскага, усімі сіламі намагаюцца павярнуць яго на свой шлях.

Але, не зважаючы на ўсе намаганні, ім не ўдалося наблізіць Кацюбінскага да сябе.

Адзінокі ў тагочасным украінскім літаратурным жыцці, у акружэнні буржуазна-нацыяналістычных колаў, поўны найлепшых гуманістычных і дэмакратычных ідэалаў, М. Кацюбінскі невыпадкова прагнуў усёй сваёй істотай да знаёмства з выдатнейшым рускім рэволюцыйным мастаком—Аляксеем Максімавічам Горкім.

Хворы на сэрца, стомлены, абцяжараны службовай працаю і знервованы чорнымі днямі рэакцыі, пісьменнік невыпадкова абірае іменна востраў Капры, дзе жыў у той час А. М. Горкі.

9 красавіка 1909 года Кацюбінскі звяртаецца да свайго „любімага пісьменніка", В. Г. Караленка (з якім быў знаёмы яшчэ з 1903 года з часу адкрыцця ў Палтаве, дзе жыў Караленка, помніка І. П. Катлярэўскаму) з просьбай напісаць „некалькі рэкамендацыйных радкоў Горкаму".

Атрымаўшы ад Караленка рэкамендацыйнае пісьмо, М. Кацюбінскі 16 мая 1909 года выязджае на востраў Капры. Прыехаўшы туды 2 чэрвеня, ён у той-жа дзень спяшаецца пазнаёміцца з А. М. Горкім.

Захоплены сваёй першай сустрэчай з вялікім пісьменнікам, Кацюбінскі піша 4 чэрвеня Аплаксінай:

> „Няма чаго і казаць, што я быў прыняты з распрасцёртымі абдымкамі. Ён мяне ведае па літаратуры і аказваецца, цэніць. Сам ён жывы, цікавы чалавек, гаворыць нервова, часам слёзы блішчаць на вачах, калі хвалюецца".

А праз дзесяць дзён пасля сваей першай сустрэчы М. Кацюбінскі піша ўжо пра А. М. Горкага, як пра свайго блізкага друга.

> „Мы,—піша ён у пісьме да Аплаксінай, ад 13 чэрвеня 1909 г. пра сябе і Горкага,—зжыліся, здружыліся, шмат маем агульных інтарэсаў, шмат гутарым на блізкія нам літаратурныя тэмы".

Дружба Кацюбінскага з А. М. Горкім надала украінскаму пісьменніку сапраўднай творчай зарадкі, ён адшукаў, магчыма, упершыню, сапраўды шчырае, блізкае і роднае яму літаратурнае асяроддзе.

> „Прымаюць мяне тут больш чым добра, усе гавораць мне кампліменты, захапляюцца маімі працамі, чым не мала бянтэжаць мяне,—пісаў Кацюбінскі пра Горкага і яго сяброў Аплаксінай,—я не прывык адыгрываць такой ролі, мае зямлякі не песцяць мяне такой увагай".

Гэтае супроцьпастаўленне Горкага сваім „землякам"—невыпадковае; у гэтых радках была шчырая праўда. „Зямлякі" М. Кацюбінскага—яўныя ў той час украінскія нацыяналістычныя літаратурныя колы—былі далёкімі ад яго імкненняў і сімпатый; сярод

іх ён адчуваў сябе адзінокім. І нездарма, калі даводзілася ад'язджаць з Капры М. Кацюбінскі пісаў:

„Два астатнія вечары я заседжваўся доўга ў гасцях і позна лажыўся... Не крыўдуй. Можа гэта апошнія дні, хочацца пабыць больш з цікавымі людзьмі, бо не часта сустракаецца падобнае сяброўства, а хутка я зноў буду адзінокім“.

На Капры напісаў Кацюбінскі рад сваіх лепшых твораў— „Падарунак на імяніны“, „Цені забытых продкаў“, „Коні не вінны“ і інш.

Па ініцыятыве Горкага было арганізавана выданне твораў Кацюбінскага ў выдавецтве таварыства „Знание“ ў перакладах на рускую мову. Кацюбінскага прыцягвае Горкі да супрацоўніцтва ў тагочасных рускіх часопісах.

Пасля выхаду з друку першага тома „Апавяданняў“ Кацюбінскага, Горкі з захапленнем піша яму:

„Кніжку Вашу прачытаў з вялікай асалодай, з душэўнай радасцю“.

Такая ацэнка падбадзёрыла Кацюбінскага і ён адказаў:
„Калі Вам падабаецца—значыцца варта пісаць“.

Кацюбінскі з вялікай увагаю вывучае творчасць М. Горкага, чытае яго творы „Лета“, „Мацвей Кажамякін“, „Васса Жэлезнова“. Творчасць вялікага пісьменніка адкрывала яму ўсё новыя і новыя свае якасці і Кацюбінскі ўвесь праняўся творчым агнём горкаўскага рэалізма.

У сваіх грамадска-літаратурных і эстэтычных поглядах М. Кацюбінскі цалкам успрыймаў установкі і прынцыпы М. Горкага.

Дружба з вялікім пролетарскім пісьменнікам—найсвятлейшыя старонкі з біяграфіі М. Кацюбінскага. Ён раіўся з М. Горкім у пытаннях асабістага жыцця і творчасці, пасылаў яму свае творы, кансультаваўся ў яго. Горкі па-сяброўску, з вялікай увагай адносіўся да творчасці Кацюбінскага, даваў яму свае парады, і, у сваю чаргу, дзяліўся з М. Кацюбінскім сваімі творчымі планамі.

Апошнія гады жыцця Кацюбінскага былі асабліва трагічнымі. Перад ім толькі што адкрывалася перспектыва творчага жыцця. Падтрыманы вялікім рэволюцыйным мастаком А. М. Горкім, Кацюбінскі з запалам браўся за пяро, у ім, здавалася, палаў незгасальны творчы агонь, але... надарванае дарэшты здароўе штогод, штомесяц усё больш і больш напамінала пра сябе. Цяжкія сацыяльныя ўмовы жыцця далі сябе адчуць. Да таго становішча здароўя пісьменніка нязменна пагоршвалася яшчэ і трагедыяй асабістага жыцця.

У 1902 годзе Кацюбінскі пазнаёміўся з Александрай Іванаўнай Аплаксінай—супрацоўніцай статыстычнага бюро. Пасля некалькіх сустрэч пісьменнік адчуў у ёй блізкага і любімага чалавека. Ён, здавалася, знайшоў тое, чаго так шукаў у сваім асабістым жыцці— чалавека, які мог-бы зразумець яго, жыць яго жыццём, яго імкненнямі.

Ужо з першых гадоў знаёмства Кацюбінскі падкрэсліваў у пісьмах да Аплаксінай тое, што ў іх ёсць шмат агульнага. Але пісьменнік меў сям'ю—няхай далёкую, і чужую, але сям'ю. І ён вымушан быў жыць раздвоеным жыццём, якое так цяжка адбівалася на яго самаадчуванні і здароўі.

Але хаця цяжкім і трагічным было жыццё пісьменніка ў апошнія гады, ён, хворы і знясілены фізічна, але дужы духам, працаваў з выключнай творчай энергіяй, натхнёны дружбай з вялікім Горкім.

Ён нібы спяшаўся, хапаўся зрабіць як мага больш, лепш і карысней. Як-раз за апошнія тры гады жыцця напісаў Кацюбінскі лепшыя творы: другую частку „Фата Маргана“, „Сон“, „Коні не вінны“, „Цені здабытых продкаў“.

Кацюбінскі, аднак, не абмяжоўваўся толькі творчай работай.

Пасля свайго першага гасцявання на Капры, Кацюбінскі, як і Горкі, згуртоўвае вакол сябе таленавітую творчую моладзь. Ён арганізоўвае ў сабе на кватэры вядомыя спярша „суботы“, потым „панядзелкі“, у якія да яго збіраліся студэнты, мясцовыя семінарысты, рэалісты, гімназісты, якія любілі мастацкую літаратуру. Сярод гэтай моладзі быў васемнаццацігадовы Паўло Тычына. На гэтых „суботах“ і „панядзелках“ Кацюбінскі расказваў пра літаратурныя навіны, пра свае сустрэчы і з асаблівым захапленнем расказваў пра Горкага і яго творчасць. Тут-жа чыталіся творы маладых пісьменнікаў.

Асаблівую ўвагу звярнуў Кацюбінскі на паэзію Паўло Тычыны, ужо тады ўбачыўшы ў ім „не абы якога паэта“, сказаўшы гэта публічна на адной з „субот“. Ён спрыяў друкаванню твораў маладога паэта ў тагочасных часопісах, багата і цёпла расказваў пра яго творчасць А. М. Горкаму. Аб гэтым пазней пісаў Горкі ў пісьме да Паўла Грыгоравіча Тычыны.

> „Ведаю я Вас даўно, мне багата і цёпла, як ён цудоўна ўмеў гаварыць пра людзей, расказваў пра Вас М. М. Кацюбінскі, чытаў некаторыя вашы вершы“. (Пісьмо ад 10 жніўня 1928 г.).

Але прыгожую плённую дзейнасць Кацюбінскага прыпыніла цяжкая хвароба сэрца. У канцы кастрычніка 1912 года Кацюбінскі вымушаны быў легчы ў кіеўскую клініку прафесара Образцова. Але і там, у цяжкіх пакутах, ён спрабуе пісаць, перапісваецца з лепшымі сваімі сябрамі, перш за ўсё з А. М. Горкім, спадзяецца папраўіцца, марыць пра творчую працу.

У канцы студзеня 1913 года вяртаецца Кацюбінскі ў Чарнігаў ужо ў безнадзейным становішчы. Але і ў гэты час, у апошнія дні жыцця ён цікавіцца літаратурнымі справамі, астаючыся верным сваім грамадска-эстэтычным поглядам пісьменніка-дэмакрата, друга Горкага.

За паўтары тыдні да смерці, лежачы ў ложку, Кацюбінскі, калі зайшоў да яго М. Жук, запытаў:

> „Ці чыталі вы „Звон“? (зборнік, які рэдагаваў Вінніченка—*І. С.*)

... А я вось прачытаў Віннічэнкавага „Олафа“... Няўдала напісана... не ўдалося“...

І далей, у гутарцы пра Віннічэнка сказаў: „Яно мне не да густу“.

Як-раз тады, незадоўга перад гэтым выказаўся пра „творчасць“ украінскага нацыяналіста ў сваім пісьме да невядомага адрасата і А. М. Горкі.

„Я не ведаю літаратуры гэтага напрамку і яна мяне не цікавіць“.

Як і Горкаму, Кацюбінскаму была чужой пісаніна украінскага буржуазнага нацыяналізма і сваю пагарду да яе яшчэ раз выказаў пісьменнік ужо на смяротным ложку.

25 красавіка 1913 года М. М. Кацюбінскага перамагла няўмольная смерць.

Крывадушным двурушніцтвам сустрэлі смерць пісьменніка украінскія нацыяналісты. Аддаўшы даніну афіцыяльным некралогам, яны ўпотай радаваліся яго смерці, намагаючыся аддаць забыццю яго памяць. З непрыкрытым цынізмам пісаў нацыяналіст Еўшан:

„Вялікага ўражання смерць Кацюбінскага не зрабіла... Трэба прымаць адносіны украінскага грамадзянства за нармальныя...“

Калі расшыфраваць „украінскае грамадзянства“, як кучку нацыяналістаў, украінскіх памешчыкаў і капіталістаў, дык такая заява Еўшана цалкам слушная. Але не тое меў на ўвазе Еўшан, ён хацеў абнеславіць памяць вялікага пісьменніка-дэмакрата. Але гэта было не ў сілах і не ў мажлівасцях украінскіх нацыяналістаў. Украінскі народ, шырокія масы працоўных уславілі свайго пісьменніка. І нібы ў адказ украінскім нацыяналістам па-прароцку прагучэлі тады-ж хвалюючыя словы Горкага на смерць Кацюбінскага:

„Вялікага чалавека страціла Украіна, доўга і прыгожа будзе памятаць яна яго прыгожую работу“.

---

# ВЕРШЫ АБ РАДЗІМЕ

*Пятрусь Броўка „Вясна радзімы“, ДВБ, 1937 г. цана 5 руб.*

Адзін з папярэдніх паэтычных зборнікаў Пятруся Броўкі мае назву „Прыход героя“. Гэта невыпадковая назва. У ёй сфармулявана адна з істотнейшых адзнак маладой совецкай паэзіі, якая з першых крокаў свайго развіцця абвясціла аб прыходзе новага соцыяльнага героя. Герой гэты масавы чалавек сталінскай эпохі, усебаковае ўвасабленне яе актыўнай творчай волі.

Пятрусь Броўка належыць да ліку тых паэтаў, якія самым натуральным і арганічным шляхам дасягнулі кроўнага сваяцтва з соцыялістычнай рэчаіснасцю, калі наогул можна гаварыць аб нейкіх „сваяцкіх“ сувязях паміж нашымі маладымі паэтамі і ўзрасціўшай іх совецкай рэчаіснасцю, акрамя самай шчыльнай і неразрыўнай злітнасці.

Лірычны герой вершаў П. Броўкі—новы соцыялістычны чалавек, непасрэдны стваральнік новай рэчаіснасці. Яго соцыяльная біяграфія самым неразрыўным чынам звязана з лёсам совецкай зямлі, якую некалі рэзалі „на шматкі, на кавалкі, ды бырлялі смыкамі яе чорствы стан“.

У адным з сваіх лепшых вершаў, у вершы пад назвай „Зямля“ Броўка паэтызуе той шлях, які прайшло яго пакаленне, „Сымоны, Рыгоры, ды Янкі“.

А з мякіны акраец
Быў калючы і спорны
Яго толькі
Каменным нутром і глытаць.
І выходзіў з нас кожны,
Як зямля тая чорны,
Ці хваробу,
Ці смерць
У маі спатыкаць.
Гэта толькі кавалак
Нашай доўгай дарогі...

Далей у вершы паэт разгортвае ўвесь жыццёвы шлях, які давялося прайсці „Сымонам, Рыгорам, ды Янкам“, шлях ад галоднай тугі, „што стаяла ўдзень на бядацкім двары“, да новага жыцця „ад усіх прыгажэй“. Цікава адзначыць, як характэрную рысу верша „Зямля“ тое, што ў ім паэт гаворыць ад імя цэлага чалавечага калектыва. У гэтым вершы мы бачым праяўленне аднаго з самых

распаўсюджаных розвавіднасцей соцыялістычнай лірыкі—лірыку, у якой паэт з'яўляецца ўвасабленнем не асабістай, „прыватнай“ лірычнай біяграфіі, а толькі носьбітам лірычнага голасу, які ідзе ад імя ўсяго соцыялістычнага калектыва. Відавочна, што вершам гэтага тыпу ў вельмі вялікай меры пагражае небяспека схематызма і рацыяналізма, небяспека застыгнуць у форме адцягнена-сэнсавай канструкцыі, якая не сагрэта асабістым паэтычным перажываннем. Адзначым, што П. Броўка не заўсёды ўдала абыходзіць гэтую небяспеку. У кнізе „Вясна радзімы“ маецца рад вершаў, якія не выклікаюць адказных пачуццяў чытача, па крайняй меры ў той ступені, як гэта маглі выклікаць сапраўды эмацыянальныя і дзейсныя вершы, напісаныя на тую-ж баявую палітычную тэму. Сярод гэтых вершаў Броўкі можна было-б назваць такія, як „Мы спаткаем“, „Чырвонаармейцам“, „З новым годам“, але не гэтыя вершы вызначаюць сабой паэтычны твар П. Броўкі, не яны ствараюць дамініруючую большасць вершаў, змешчаных у апошняй кнізе паэта.

Калі мы гаворым аб лепшых паэтычных творах П. Броўкі, то мы ў першую чаргу маем на ўвазе тыя вершы, у якіх уласцівая паэту аратарска-рытарычная інтанацыя праяўляецца як інтанацыя лірычная і сагрэта сапраўдным гарачым хваляваннем паэта. Добра, што ў пошуках эмацыянальнай выразнасці верша Броўка не звяртаецца да агульна прынятых у паэтычнай традыцыі спосабаў выказваць „задушэўнасць“ альбо „эмацыянальнасць“, а вельмі чула прыслухоўваецца да патрабаванняў жывой паэтычнай тэмы, да голасу свайго ўласнага чалавечага пачуцця.

Прыгадаем такія вершы Броўкі, як „Праз горы і стэп“, якія напісаны паводле гістарычных матэрыялаў Самарскай кавдывізіі. Безумоўна, што ў сэнсе сваёй вузка паэтычнай накіраванасці гэтыя вершы належаць да таго віду паэзіі, які мы вызначылі як від „над'індывідуальнай“, здавалася-б „па-за лірычнай“ паэзіі. І сапраўды, у вершах „Праз горы і стэп“ паэт расказвае ад імя цэлага чырвонаармейскага калектыва аб тым шляху, які яму прышлося прайсці ва ўмовах самай лютай і крывавай барацьбы з белагвардзейскімі полчышчамі, ва ўмовах голаду, бурану і тыфусу. Паэт расказвае ад імя чырвонаармейца—непасрэднага ўдзельніка грамадзянскай вайны на Каўказе аб тым, як цяжка прышлася перамога нашай Чырвонай Арміі, якімі намаганнямі савецкія людзі адстаялі сваю савецкую радзіму. У гэтым сэнсе цыкл „Праз горы і стэп“ адлюстроўвае адзін з самых драматычных этапаў у жыццёвай біяграфіі першага пакалення соцыялізма, і таксама як у вершы „Зямля“, як у вершы „Радзіме“, як у цэлым радзе іншых аратарска-патэтычных вершаў Броўкі, таксама тут у нізке вершаў „Праз горы і стэп“, лірычны герой паэта паглынаецца збіральным вобразам калектыва, і толькі сродкамі паэтычнага маналога паэт дасягае маляўнічага эфекту. Напісаныя ў такім „пазалірычным“ жанры, вершы „Праз горы і стэп“ усё-ж гучаць сапраўднай эмацыянальнай паэзіяй. Справа ў тым, што расказ героя-чырвонаармейца, паданы ў падкрэслена эмацыянальнай афарбоўцы, у плане гарачага чалавечага хвалявання. Таму і сам па сабе верш, якім напісаны „Праз горы і стэп“, мае ў сабе тую жыццёвую перака-

научасць, якая атрымоўваецца толькі тады, калі ў вершы ўваходзіць жывы чалавек. Лепшыя аратарскія вершы Броўкі па сапраўднаму лірычны і эмацыянальны, бо за імі заўсёды адчуваецца жывы чалавечы характар.

Асноўныя рысы гэтага характару мы ўжо адзначалі: беззаветная адданасць сваёй радзіме, упэўненая мэтанакіраванасць, аптымістычнае сцвярджэнне новай соцыялістычнай рэчаіснасці. Тэматыка вершаў Броўкі вельмі рознастайная: грамадзянская вайна, падзеі ў Іспаніі, новая калгасная вёска, жыццё братніх рэспублік, мінулае Беларусі. Але ўсе гэтыя тэмы падпарадкаваны адной цэнтральнай тэме паэта—тэме радзімы. Дамінуючым паэтычным матывам кнігі „Вясна радзімы“ з'яўляецца матыў соцыялістычнага патрыятызма і братняга супрацоўніцтва народаў СССР. Прыгадаем такія вершы Броўкі, як верш, прысвечаны Арменіі, у якім паэт гаворыць, звяртаючыся да сваёй беларускай ракі:

Будзеш слухаць Дзвіна—
Я не раз праспяваю пра Зангу,—
Я на радасць народу цяпер
На прасторы, што сокал нясе.

Варта адзначыць, што цэлы рад вершаў, у якіх паэт распрацоўвае тую-ж інтэрнацыянальную тэму, гучаць значна слабей, да прыкладу верш „Браты“, у якім вялікая і шматбаковая тэма зводзіцца да агульнага тэзісу, паэтычна не раскрытага і нераспрацаванага. Цікавымі вершамі Броўкі з'яўляюцца „Палессе“, „Дзед Тарас“ і іншыя вершы паэта, у якіх адлюстравана новая соцыялістычная Беларусь. Вершы гэтыя цікавыя і ў тым сэнсе, што яны дэманструюць „незвычайную“ для Броўкі новую паэтычную якасць паэта-эпіка, паэта з пэўнай цягай да апісання. У паэме „1914“ гэта тэндэнцыя атрымала сваё лепшае творчае ўвасабленне. Гэты паэтычны твор Броўкі, у якім адлюстраваны асобныя яркія старонкі жудаснай імперыялістычнай вайны, трэба лічыць адным з лепшых твораў паэта.

Асобна трэба вылучыць вузка-лірычныя і пейзажныя вершы Броўкі. У іх ёсць сапраўднае паэтычнае пачуццё і добрае ўмельства паэта карыстацца прыватнай жыццёвай дэталлю. Вось канец лета і адчуванне надыходзячай восені:

Хай сабе,
Што птушак будзе меней,
Мы і самі добра запяем!
І дзяўчаты песнямі заменяць
Самых галасістых салаўёў.

Вылучаюцца такія вершы Броўкі, як „Раніца“, „Мышасты“, „Вечар“ і інш. Нажаль, шмат у якіх сваіх лірычных вершах Броўка ужывае тую непатрэбную іранічную інтанацыю, якая ў апошні час знайшла сваё залішняе распаўсюджванне ў нашай паэзіі. Калі скажам у вершах Пракоф'ева яна ў большасці выпадкаў апраўдваецца, дык у творчасці многіх нашых іншых паэтаў тая-ж іранічная інтанацыя ператварылася ў хадавую паэтычную манету і толькі.

Агульная выразнасць кнігі „Вясна радзімы“ ў вялікай меры выйграла; калі-б Броўка не змясціў у ёй цэлы рад недапрацаваных і слабых вершаў („Смерць таварыша Хахлова“, „Янка коннік“, „Лагерная“, „Год дваццаты“), вершы, у якіх яшчэ не знойдзена скупое і важкае паэтычнае слова, у якіх у вельмі моцнай ступені сказалася празаізацыя вершу. Да прыкладу:

У калгасе гэтым раннем
Загудзелі каля свірна—
Тут брыгаднікі, даяркі.
Брыгадзіры, канюхі.
і г. д.

Увогуле трэба лічыць кнігу „Вясна радзімы“, якая падагуліла паэтычную работу П. Броўкі за апошнія гады, цікавай паэтычнай кнігай.

**Г. Бяровкін.**

---







АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 76, Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792**

**Заўважаныя памылкі друку**

| Стар. | Радок Зверху | Радок Знізу | Надрукавана | Чытаць |
|---|---|---|---|---|
| 17 | 9 (2 слуп) | | Папалохаў | Напалохаў |
| 29 | 4 (2 слуп) | | сабе | сябе |
| 57 | 5 | | макранічнай | макаранічнай |
| 57 | 10 | | чынука | чыгунка |
| 90 | | 22 | там | сам |
| 121 | | 20 | прызямліліся | прызямляліся |
| 151 | 6 | | Роніць | Гоніць |
| 185 | 15 | | трыццацігадзінных | трынаццацігадзінных |
| 191 | 12 | | здабытых | забытых |

Зак. 3564.

